Сяргей Ёрш

# ДЭСАНТ У НЯПЭЎНАСЦЬ

***Беларускі парашутны батальён «Дальвіц». 1944-1945 гг.***

Мінск, 2012

*З М Е С Т:*

# *Ад аўтара*

Апошняя вайна, якая самым непасрэдным чынам закранула Беларусь, дагэтуль крывавіць. Нягледзячы на тое, што пасля яе заканчэння ўжо прайшлі больш за 60 гадоў. Не ўсе раны загоеныя, не ўся праўда сказаная. Няма адзінай ацэнкі тых жахлівых падзеяў на нашай зямлі: для кагосьці вайна Вялікая Айчынная, для кагосьці Другая сусветная, іншыя кажуць пра малую грамадзянскую, якая разгарнулася на фоне супрацьстаяння дзвюх імперый — бальшавіцкага СССР і нацысцкай Нямеччыны...

Удзел як мінімум дзесяткаў тысяч беларусаў у вайсковых і паліцыйных фармаваннях, грамадзянскай адміністрацыі, легальных арганізацыях, створаных з дазволу нямецкіх акупантаў, тлумачыцца па-рознаму. Афіцыйная пазіцыя, якая існуе яшчэ з савецкіх часоў — усе яны здраднікі, калабаранты, якім няма даравання. З іншага боку робяцца спробы паказаць усю складанасць і неадназначнасць гэтай з’явы. Праўда, часам яны даходзяць да абсурду, калі некаторыя аўтары прапануюць рэабілітаваць усіх калабарантаў і называюць іх агулам «беларускімі адраджэнцамі».

На наш погляд, рэабілітацыі нямецкіх калабарантаў (як і савецкіх) не будзе ніколі! Жудасныя злачынствы, здзейсненыя нацыстамі над беларускім народам, ніколі не будуць забытыя. Адказнасць за іх кладзецца і на тых калабарантаў, якія альбо самі ўдзельнічалі ў карных акцыях, альбо бяздзейнічалі ў той час, калі трэба было абараняць ад акупанцкага тэрору народ.

Аднак неабходна памятаць, што падчас нямецкай акупацыі існавала беларуская нацыянальная канспірацыя. Значна слабейшая за савецкае альбо польскае падполле, яна збірала сілы для барацьбы за незалежнасць Беларусі. Яе дзеячы, якія служылі ў вайсковых, паліцыйных фармацыях, у адміністрацыі, рызыкуючы жыццём, баранілі мірнае жыхарства ад рэпрэсій. Вось гэтыя ўдзельнікі супраціўлення, многія з якіх загінулі ад рук нацыстаў ці бальшавікоў, на наш погляд, шанец на рэабілітацыю маюць.

Наагул, апынуўшыся падчас вайны «паміж молатам і кавадлам», Нямеччынай і Савецкім Саюзам, беларускі вызвольны рух, аслаблены передваеннымі рэпрэсіямі, рабіў няпросты выбар. Выбар шмат у чым трагічны. Не ўсе пачулі голас слабога, паміраючага ў Празе старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Васіля Захаркі:

*«Няма ў нас выбару: альбо-альбо. Калі выйграюць немцы, дык вынішчаць усіх нас, калі выйграюць саветы, дык вынішчаць інтэлігенцыю й асымілююць народ, але гэта лепей, чымсьці сьмерць усяго народу... Трэцяга выхаду няма»*[1].

І ўсё ж гэты «трэці выхад» шукалі. Хтосьці ішоў у лес і засноўваў беларускія нацыянальныя партызанскія атрады, альбо далучаўся да савецкіх і польскіх партызанаў. Іншыя, якія працягвалі супрацоўнічаць з акупантамі, спрабавалі «перахітрыць» немцаў і «вырваць» у іх як найбольш, найперш атрымаць зброю і прайсці вайсковую падрыхтоўку. Як піша варшаўскі гісторык Юрый Туронак, яны «рваліся да безнадзейнай барацьбы».[2]

Гэтая кніга прысвечана адной з беларускіх вайсковых фармацый, створаных з дазволу немцаў — «Беларускаму спецыяльнаму батальёну «Дальвіц». У 1944-1945 гг. праз яго прайшлі сотні маладых людзей, хлопцаў і дзяўчат. Што прымусіла іх адступіць з Беларусі? Чаму яны вырашылі стаць парашутыстамі? Чаго было больш у гэтым іх выбары: збегу абставін ці свядомага выбару, зробленага пад уздзеяннем прапаганды Беларускай Незалежніцкай Партыі? На гэтыя і іншыя пытанні мы паспрабуем даць адказы.

Падчас напісання гэтай працы намі былі выкарыстаныя архіўныя матэрыялы (як дзяржаўныя, так і прыватныя зборы), публікацыі айчынных і замежных даследчыкаў, успаміны непасрэдных удзельнікаў тых падзеяў. Аўтару ўдалося сустрэцца і ўзяць інтэрв'ю ў некалькіх дэсантнікаў «Дальвіца», іншыя адказвалі на пытанні праз ліставанне. На сённяшні дзень амаль усе гэтыя людзі ўжо памерлі.

*Гэтая кніга з'явілася дзякуючы дапамозе З. Ю.,*
*за што яму шчырая падзяка.*

[1] Геніюш Л. Споведзь. — Мінск: «Мастацкая літаратура», 1993. С. 53.
[2] Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Мінск: «Беларусь», 1993. С. 196.

# *Прадмова*

Гісторыя «Беларускага спецыяльнага батальёна «Дальвіц» неаднойчы прыцягвала ўвагу айчынных і замежных даследчыкаў. Аднак яны выявілі цалкам супрацьлеглыя погляды на яго дзейнасць. Мусім адзначыць, што ідэалагічная заангажаванасць аўтараў значна змяншала значэнне іх публікацыяў. Хтосьці спрабаваў даказаць, што «Дальвіц» камплектаваўся «здраднікамі радзімы», якія цалкам былі падкантрольныя нямецкім спецслужбам і мусілі арганізаваць у тыле Чырвонай Арміі выключна дыверсійна-падрыўную дзейнасць на карысць Нямеччыны. Іншыя пісалі пра тое, што ў «Дальвіц» пайшлі «беларускія патрыёты», каб прайсці падрыхтоўку і арганізаваць на Бацькаўшчыне антысавецкі партызанскі рух з мэтай змагання за незалежнасць Беларусі. Аднак насамрэч усё было не так адназначна. Для разумення гэтага вельмі дапамаглі б дакументальныя крыніцы па тэме, але яны (за адзіным выключэннем) пачалі друкавацца толькі ў 1990-я гады і да гэтага часу ўведзена ў навуковы ўжытак мінімальная колькасць дакументаў. Гэта стварае значныя праблемы пры стварэнні агульнай карціны, бо пакуль асветленыя, часам няпоўна, толькі асобныя эпізоды дзейнасці «Дальвіца».

Калі звярнуцца да агляду публікацый, прысвечаных тэме нашага даследавання, дык варта пачаць з эміграцыйных крыніцаў. У той час, калі ў БССР вывучэнне дзейнасці ў гады вайны беларускіх нацыяналістаў не заахвочвалася, дык эмігранты мелі ўсе магчымасці для гэтага. Аднак у перыядычным друку, мемуарнай літаратуры беларускіх эмігрантаў на працягу пасляваенных дзесяцігоддзяў можна сустрэць хіба толькі асобныя згадкі пра «Дальвіц» і некаторых яго ўдзельнікаў.[3] Ніякіх адмысловых даследаванняў не рабілася, успаміны ніхто не друкаваў. Адзіным выданнем, дзе былі адлюстраваныя асобныя эпізоды дзейнасці «Дальвіца» і яго камандзіраў, з'яўляецца зборнік даку-

---

[3] Каладзей С. Прэзыдэнцкі сьцяг БНР // Бацькаўшчына, 1949, 25 сакавіка, № 8; Галяк Л. Успаміны. Кн. II. — ЗША: Выдавецтва «Летапіс», 1983. С. 16; Kasiak I. Byelorussia. Historical outline. London: United Kingdom, 1989. S. 288; Мерляк К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. — Нью-Ёрк, 1992. С. 33; Пазьняк З. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. — Варшава-Вільня: «Беларускія ведамасьці», Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, 2003. С. 59.

ментаў «За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі».[4] Складальнік Іван Касяк уключыў у кнігу адкрыты ліст камандзіраў і жаўнераў «Беларускага Спецыяльнага Батальёну «Дальвіц» да прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага і адказ апошняга.[5] Гэта не была першая публікацыя гэтых дакументаў. Яны перадрукоўваліся з берлінскай газеты «Раніца» (1945, № 1). Але самае каштоўнае — у зборніку дакументы праілюстраваныя двума фотаздымкамі, зробленымі падчас наведвання прэзідэнтам БЦР «Дальвіца» 28 жніўня 1944 года.[6]

Таксама ў зборніку дакументаў «За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі» ёсць згадкі пра вайскоўцаў «Дальвіца» ў некаторых надрукаваных дакументах Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР (прызначэнне рангаў, пераводу з адной часткі ў іншую, звальненне з войска і г. д.), у пратаколах паседжанняў кіраўніцтва БЦР. Некаторыя гэтыя дакументы друкаваліся ў скароце, з іх прыбіраліся дзесяткі прозвішчаў беларускіх вайскоўцаў, каб не нашкодзіць тым, хто апынуўся за «жалезнай заслонай». Аднак копіі альбо арыгіналы гэтых і іншых дакументаў захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе «Галоўнае кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР». У 2001 годзе быў апублікаваны ліст афіцэраў «Дальвіца» да начальніка Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР К. Езавітава і адказ апошняга, якія якраз захаваліся ў гэтых зборах.[7]

У Беларусі ўпершыню даволі грунтоўна пра «Дальвіц», як і пра Беларускую Незалежніцкую Партыю, напісаў Васіль Рамаnоўскі ў сваёй тэндэнцыйнай працы «Саўдзельнікі ў злачынствах».[8] Ён акрэсліў мэты «разведвальна-дыверсійнай школы» («падрыхтоўка дыверсантаў і шпіёнаў... для шпіёнска-падрыўной работы» ў Беларусі), паведаміў, адкуль набіраліся людзі («з членаў арганізацый «БНП», «СБМ», «БКА» і з іншых фашысцкіх прыслужнікаў»), даў некаторым з іх характарыстыкі (пра Ул. Рыжага: «кулацкі сынок», «здраднік», «фашысцкі прыхвасцень»), апісаў праг-

[4] За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі. Дакуманты і матар'ялы сабраныя і падрыхтаваныя для публікацыі І. Касяком, прагледжаныя і апрабаваныя для друку камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад кіраўніцтвам праф. Р. Астроўскага. — Лёндан: Выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1960.
[5] За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі. С. 167-168.
[6] Тамсама. С. 168.
[7] Ёрш С. Усевалад Родзька — правадыр беларускіх нацыяналістаў. — Мінск: «Голас Краю», 2001. С. 26-32.
[8] Рамаnоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. — Мінск: «Беларусь», 1964. С. 186-202.

раму падрыхтоўкі дэсантнікаў (кожны з іх «павінен быў дасканала засвоіць гестапаўскія прыёмы знішчэння людзей»), згадаў пра іх ідэалагічную апрацоўку «ў духу фашысцкай ідэалогіі». Таксама Раманоўскі коратка падаў інфармацыю пра дэсанты «Дальвіца» ды больш падрабязна спыніўся на перамовах Усевалада Родзькі і Радаслава Астроўскага з Ота Скарцэні вясной 1945 года. Пра лёс «Дальвіца» інфармацыі ён не падаваў.

Юрый Туронак у сваёй грунтоўнай манаграфіі, прысвечанай Беларусі пад нямецкай акупацыяй, мінімальна асвятляе дзейнасць «Дальвіца» і дзеячоў БНП. Ён піша: *«Пад заклікам БНП: «Здабудзем беларускую дзяржаву — альбо згінем у барацьбе за яе!» — шмат беларусаў накіраваліся ў Дальвіц, а адтуль — на Беларусь у зманлівай надзеі на англа-амерыканскі паход на СССР».*[9] Гэты тэзіс Туронка падтрымлівае і Захар Шыбека ў сваім «Нарысе гісторыі Беларусі».[10]

На працягу 1990-х афіцыйнымі даследчыкамі і публіцыстамі «Дальвіц» згадваўся хіба толькі на старонках перыядычнага друку. У 1990 годзе з'явілася тэндэнцыйная публікацыя Аляксандра Міхальчанкі, намесніка начальніка Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР, прысвечаная беларускай нацыянальнай сімволіцы. *«А сумна вядомы «беларускі спецыяльны батальён — «Дальвіц»?* — піша А. Міхальчанка. — *Гэта з яго кадраў фармаваліся Ота Скарцэні групы для дыверсій, тэрарыстычных актаў у савецкім тыле».*[11]

Варта адзначыць артыкул Яўгена Сямашкі[12], у якім была ўпершыню падрабязна апісаная гісторыя стварэння разведвальна-дыверсійнай школы, яе кіраўніцтва, структура, камплектацыя, падрыхтоўка курсантаў, дэсанты ў БССР і, нарэшце, лёс «Дальвіца». Гэтая публікацыя была здзейсненая на падставе дакументаў з архіву КДБ Беларусі. Я. Сямашка ацаніў дзейнасць «Дальвіца» адмоўна, называе яго камандзіраў і байцоў «здраднікамі» і «фашысцкімі прыслужнікамі», хаця і прызнае, што сярод іх былі людзі, якія туды патрапілі ў выніку збегу абставінаў.

---

[9] Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 197.
[10] Шыбека З. Нарыс гісторыі Беларусі (1795 — 2002). — Мінск: «Энцыклапедыкс», 2003. С. 336.
[11] Михальченко А. Белорусская символика: традиции и современность // Советская Белоруссия, 1990, № 272, 25 лістапада.
[12] Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Мінск), 1994, № 28, 9 ліпеня.

У сваёй працы, прысвечанай польскай Арміі Краёвай[13], Сямашка звяртае ўвагу на спробу паразумення беларускіх і польскіх нацыяналістаў на апошнім этапе Другой сусветнай вайны і змяшчае ў пацверджанне гэтага вытрымку з пратаколу допыту афіцэра «Дальвіца» Глеба Багдановіча.[14] Да тэмы «Дальвіца» і яго дэсантаў Я. Сямашка вяртаецца і ў шэрагу іншых сваіх публікацый.[15] Асноўныя тэзісы публікацый Я. Сямашкі паўтарае і артыкул Я. Росцікава.[16] А вось Уладзімір Сяўрук у сваім пашквілі, надрукаваным на старонках дзяржаўнай газеты «Рэспубліка», звязвае дэсанты «Дальвіца» з дзейнасцю савецкага разведчыка Аляксандра Дзям'янава («Макс», «Гейнэ»). Паводле Сеўрука, Дальвіцкая школа *«на тры чвэрці складалася з адборнай паліцэйскай і эсбээмаўскай сволачы з беларускімі прозвішчамі».*[17]

Яшчэ адной працай, у якой была закранутая і дзейнасць «Дальвіца», стала кніга Аляксея Салаўёва пра Беларускую Цэнтральную Раду.[18] Аўтар, на падставе дакументаў з архіву КДБ Беларусі, спыняецца на спробах дзеячоў БЦР і БНП арганізаваць у БССР антысавецкі паўстанцкі рух і робіць выснову, што яны завяршыліся поўным правалам. *«Варожыя парашутысты адразу ж пасля прызямлення былі затрыманыя органамі дзяржбяспекі Беларусі, бо мясцовыя жыхары адмовіліся садзейнічаць выкананню задумаў абвера. Народ рэспублікі не падтрымаў і намер БЦР стварыць падпольныя арганізацыі для паўстання супраць Савецкай улады ў заходніх раёнах Беларусі, якое рыхтавалася з Берліну».*[19] Каштоўнасць працы Салаўёва ў тым, што ён апублікаваў шэраг вытрымак з пратаколаў допытаў камандзіраў і байцоў «Дальвіца»: Ўс. Родзькі, І. Гелды, В. Конюха, В. Краскоўскай, а таксама біяграмы дзесятка дэсантнікаў (праўда, не заўсёды пазначае іх прыналежнасць да «Дальвіца»).

---

[13] Сямашка Я. Армія Краёва на Беларусі. — Мінск: Беларускае выдавецкае таварыства «Хата», 1994.
[14] Тамсама. С. 217-218.
[15] Семашко Е. Ёрш подцепил Блинца // Белорусская нива, 2003, 26 сакавіка; Семашко Е. С неба — в капкан // Белорусская нива, 2007, 20 снежня.
[16] Ростиков Е. «Кот» прыгает в «пущу» (Были ли в Беларуси «лесные братья»?) // Завтра (Масква), 2003, 16 снежня, № 51.
[17] Севрук В. Гейне по имени Макс // Рэспубліка, 2002, 16 студзеня, № 10.
[18] Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995.
[19] Тамсама. С. 84-85.

Таксама вартая ўвагі і яшчэ адна публікацыя А. Салаўёва на гэтую тэму, якая з’явілася ў 1997 годзе ў часопісе «Беларуская думка».[20]

Гісторыкі Аляксандр Хацкевіч, Уладзімір Міхнюк і Якаў Паўлаў апублікавалі «ўласнаручныя паказанні» і пратакол допыту ў турме НКГБ генерал-маёра Канстанціна Езавітава, у якіх згадваецца «Дальвіц» і некаторыя праекты, звязаныя з ім.[21]

У некалькіх публікацыях Ігара Іваноўскага, прысвечаных выкрыццю «карніка» Міхаіла Вітушкі, нямала ўвагі надаецца і «Дальвіцу». Найцікавейшая з іх з’явілася ў газеце *«Знамя Юности»*[22] — яна была праілюстраваная фотакопіямі пратаколу допыту дэсантніка Івана Гінько, які распавядаў пра задачы, атрыманыя ад абвера і кіраўніцтва БНП, пра склад дэсанту, экіпіроўку ды іншае.

Наш першы грунтоўны матэрыял, прысвечаны «Беларускаму спецыяльнаму батальёну «Дальвіц», быў надрукаваны ў 1995 годзе. У рамках нарыса, прысвечанага пасляваеннаму антысавецкаму супраціўленню, намі была паказаная роля «Дальвіца» ў яго арганізацыі.[23] У 1998 годзе выйшла з друку нашая праца, прысвечаная БНП, у якой была асветленая і дзейнасць «Дальвіца».[24] Заслугоўваюць увагі змешчаныя ў кнізе інтэрв’ю з Барысам Рагулям, Міколам Рулінскім, Кастусём Шышэям, успаміны Міхася Зуя. У даведніках «Антысавецкія рухі ў Беларусі» і «Беларускі нацыяналізм»[25] намі былі змешчаныя біяграмы некаторых афіцэраў і жаўнераў «Дальвіца». Таксама намі было надрукавана нямала артыкулаў у пе-

---

[20] Соловьев А. Еще раз о послевоенном бандитизме // Беларуская думка (Мінск), 1997, № 1. С. 145-151.

[21] Езовитов К. Воспоминания // Нёман (Мінск), 1993, № 3. Сакавік. С. 135-137, 146, 147, 154; Протокол допроса арестованного ЕЗОВИТОВА Константина Борисовича от 29-30 января 1946 года // Міхнюк Ул., Паўлаў Я. Канстанцін Езавітаў: матэрыялы да біяграфіі // Маладосць, 1995, № 1. С. 230-231.

[22] Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня.

[23] Ёрш С. Пасьляваенны супраціў бальшавіцкім акупантам на Беларусі // Пагоня, 1995, № 23, 16-22 чэрвеня.

[24] Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск – Слонім: БГАКЦ, 1998.

[25] Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944 — 1956 / Даведнік. — Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999; Беларускі нацыяналізм. [Менск]: «Голас Краю», [2001].

рыядычным друку, прысвечаных асобным дэсантнікам і іх лёсам.[26]

Усім гэтым публікацыям бракавала дакументальных крыніц па дзейнасці «Дальвіца». Упершыню яны былі намі выкарыстаныя ў нарысе, прысвечаным Усеваладу Родзьку.[27] Часам у нашых публікацыях перабольшвалася роля «Дальвіца» і яго выхаванцаў у арганізацыі беларускага антысавецкага партызанскага руху. У даведніку «Беларускі нацыяналізм» намі быў змешчаны артыкул, прысвечаны батальёну «Дальвіц». У ім, між іншым, адзначалася: *«Батальён «Дальвіц» адыграў выключную ролю ў падрыхтоўцы каманднага складу для беларускага партызанскага руху. Ягоныя дэсантнікі здолелі часткова аб'яднаць стыхійную партызанку й аформіць яе ў арганізацыйныя рамкі».*[28] Сапраўды, у пасляваенным беларускім антысавецкім партызанскім руху ўдзельнічалі былыя дэсантнікі, часам яны камандавалі атрадамі (напрыклад, Яўген Жыхар). Аднак арганізацыйную працу напрыканцы Другой сусветнай вайны і ў першыя паваенныя гады праводзіў не «Дальвіц», а канспірацыйная арганізацыя, якую ачольваў маёр Міхал Вітушка. Яна выкарыстоўвала байцоў «Дальвіца» для папаўнення сваіх шэрагаў яшчэ ў канцы 1944-га — ў пачатку 1945 гг. Аднак і арганізацыя Вітушкі не аб'яднала нават лакальна стыхійны партызанскі рух, хаця і намагалася ўплываць на яго.[29]

Цікавым блокам крыніц па тэме з'яўляюцца мемуары. Самі вайскоўцы «Дальвіца» пра гэтую вайсковую фармацыю ўспамі-

[26] Ёрш С. Лісты прэзыдэнта // Пагоня (Гродна), 1995, № 46, 8-14 сьнежня; Ёрш С. Загінуў на шыбеніцы // Ніва (Беласток), 1996, № 15, 14 красавіка; Ёрш С. Арыштаваны ў Беластоку // Ніва, 1996, № 27, 7 ліпеня; Ёрш С. Зноў пра маёра Гелду / / Ніва, 1997, № 2, 12 студзеня; Ёрш С. Дэсант у няпэўнасьць // Наша ніва, 1997, № 11-12 (82), 24 сакавіка; Ёрш С. Усевалад Родзька // Наша ніва, 1998, № 9, 11 траўня; Ёрш С. Успамін пра Віленскую сустрэчу // Голас камбатанта (Слонім), 2000, № 1, студзень; Ёрш С. Рыгор Зыбайла не загінуў у Францыі, а прайшоў савецкія канцлягеры // Голас камбатанта, 2000, № 3, жнівень; Ёрш С. Парашутысткі // Беларус, 2002, № 473, чэрвень; Ёрш С. Тайна генэрала Вітушкі // Беларус, 2002, № 474, ліпень; Ёрш С. Пра лёс Рыгора Зыбайлы // Беларус, 2002, № 477, кастрычнік; Ёрш С. Пра Міхася Ганька і Ўсевалада Родзьку // Беларус, 2003, № 485, чэрвень; Ёрш С. Забыты паэт з Браслаўшчыны // Павет. Выданне краязнаўцаў Браслаўшчыны, 2005, № 2 (39), сакавік. С. 6-7 ды іншыя.

[27] Усевалад Родзька — правадыр беларускіх нацыяналістаў. С. 26-32.

[28] Беларускі нацыяналізм. С. 13.

[29] Ёрш С., Горбік С. Беларускі Супраціў. — Львоў, 2006. С. 110, 180-181.

наў амаль не пісалі, а калі і друкавалі мемуары, дык ёй надавалася няшмат увагі. У прыватнасці, гэта адносіцца да адзінага вядомага нам артыкула Кастуся Шышэі.[30] Кастусь Мярляк пакінуў цікавыя ўспаміны пра сваё кароткае знаходжанне ў Дальвіцы ў жніўні 1944-га.[31] Міхась Зуй у сваёй аўтабіяграфіі, напісанай у кастрычніку 1994 года на нашую просьбу[32], пакінуў важныя ўспаміны пра раззбраенне «Дальвіца» ў Чэхіі і пра сваё знаходжанне на нелегальным становішчы ў Польшчы ў 1945-1948 гг. Дзмітрый Касмовіч у сваіх мемуарах[33] згадвае пра «Беларускі Дальвіцкі батальён», падае прозвішчы, дэталі, даты, якія, аднак, патрабуюць спраўджвання.

Не сталі пісаць у сваіх надрукаваных успамінах пра кароткае знаходжанне ў Дальвіцы Барыс Рагуля і Язэп Сажыч.[34] І калі Рагуля ў сваім расповедзе проста «не дайшоў» да падзеяў свайго жыцця пасля эвакуацыі з Беларусі летам 1944 года,[35] дык Сажыч проста праігнараваў гэты эпізод. А вось у інтэрв'ю, запісаных рознымі асобамі, і Б. Рагуля, і Я. Сажыч пра сваё знаходжанне ў Дальвіцы распавядалі.

Каштоўнымі крыніцамі з'яўляюцца інтэрв'ю. Частка іх падаецца як уласна інтэрв'ю, іншыя друкуюцца як успаміны саміх былых дэсантнікаў. Адзначым інтэрв'ю з Сяргеям Кажаном, надрукаванае ў газеце «Наша ніва»,[36] інтэрв'ю Рамана Кляўца з Кастусём Казаком.[37] Некалькі інтэрв'ю (з Б. Рагулям, Я. Сажычам) апублікаваў Аляксандр Адзінец, спачатку ў перыядычным

---

[30] Шышэя К. Простая праўда // Наша ніва, 1998, 23 лістапада, № 22.
[31] Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 33.
[32] Зуй М. Мая аўтабіяграфія // Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. С. 71-82.
[33] Касмовіч Дз. За вольную і сувэрэнную Беларусь. — Вільня: Gudas, 2006. С. 207-208.
[34] [Барыс Рагуля]. Згадкі // Юрэвіч Л. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. — Менск: Спэцвыпуск часопіса ARCHE, 1999. С. 9-155; Сажыч Я. Мілітарызацыя Наваградчыны ў часе нямецкае акупацыі 1941-1944 // Жыцьцё пад агнём... С. 233-250.
[35] А ў іншай кнізе ўспамінаў ён «пераскокнуў» праз перыяд 1944-1945 гг. Гл.: Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. — Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996 (перавыданне выйшла ў мінскім выдавецтве «Беларускі кнігазбор» ў 2006 г. у «Бібліятэцы Бацькаўшчыны»).
[36] Кажан С. «У БНП я з жніўня 1944-га...» // Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18. Інтэрв'ю запісаў Алесь Козік.
[37] Кастусь Казак: «Тады мы верылі, што будзем самастойныя» // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1 (4). С. 92-95.

друку, а пасля ў сваёй кнізе.[38] Цікавае інтэрв'ю з Б. Рагулем запісаў Віктар Нагнібяда.[39]

Аўтар гэтых радкоў запісаў і надрукаваў інтэрв'ю з Міколам Рулінскім,[40] з Кастусём Шышэям,[41] з Барысам Рагулям.[42] Успаміны Андрэя Вайтовіча былі намі апублікаваныя ўжо пасля яго смерці паводле дыктафонных запісаў 1996 года.[43] Сямён Шарэцкі падае даволі аб'ёмныя ўспаміны К. Шышэі ў сваім пераказе.[44] Тым не менш, іх можна лічыць аўтэнтычнымі, паколькі тэкст быў вычытаны Шышэям.[45] Аўтарам была выяўленая і адна публікацыя ў савецкім друку былога дэсантніка «Дальвіца», у якой ён прызнае свае памылкі, называе здраднікамі былых калегаў, але падае нямала каштоўнай інфармацыі пра арганізацыю разведвальна-дыверсійнай школы.[46]

Каштоўнымі маглі б быць успаміны ветэранаў савецкай контразведкі, органаў дзяржбяспекі, якія вялі барацьбу з дэсантамі «Дальвіца», шукалі яго байцоў у паваенны час. На жаль, іх апублікавана ў адкрытых крыніцах не так шмат. Згадаем успаміны чэкіста Дзмітрыя Смірнова[47], у якіх ён згадвае Родзьку, Гелду, ліквідацыю Жыхара (апошняга па нейкай прычыне называе «Ігнатам Жыхарэвічам») ды «спецыяльны батальён «Дальвіц». Пра былога афіцэра «Дальвіца» Алега Стахоўскага, які стаў працаваць

[38] Адзінец А. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. — Мінск: *Медисонт*, 2007; да яе выхаду з'явілася вартая ўвагі наступная публікацыя: Беларускі леў // Наша ніва, 2005, 25 сакавіка, № 11.
[39] Сем капеек за кулю // Наша ніва, 1997, № 23-24 (88), 30 чэрвеня.
[40] Ён быў намесьнікам Вітушкі // Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. С. 46-49; поўны варыянт інтэрв'ю: Мікола Рулінскі: «Мы павінны былі падрыхтаваць народ» // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 37-47; частка інтэрв'ю друкавалася аўтарам і ў выглядзе ўспамінаў Рулінскага: Рулінскі М. Я ратаваў архіў генерала Езавітава... // Пагоня, 1998, 10 сакавіка, № 18.
[41] «Мы — беларускія салдаты...» // Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. С. 63-69.
[42] «Тады мы пачалі дзейнічаць...» // Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. С. 49-54.
[43] Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 100-136.
[44] Арол і Чайка // Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 81-285.
[45] Кулікоўскі В. Ад'ютант Барыса Рагулі // Наша свабода (Мінск), 2002, 21 чэрвеня.
[46] Грыгор'еў Ц. Успамінаючы мінулае... // Голас Радзімы, 1964, красавік, № 27-28.
[47] Смирнов Д. Записки чекиста. — Минск: «Беларусь», 1972.

на савецкую дзяржбяспеку, быў надрукаваны вялікі нарыс.[48] Аўтар гэтай публікацыі спасылаецца на ўспаміны Стахоўскага і прыводзіць нямала цікавых фактаў пра арганізацыю і дзейнасць «Дальвіца».

Падобныя нарысы пра дэсантнікаў з'яўляліся вельмі рэдка. Пра Юрку Сяньkoўскага пісаў часопіс «Куфэрак Віленшчыны», друкавалася яго ліставанне.[49] Намі былі надрукаваныя некалькі лістоў Б. Рагулі і Ю. Луцкевіча да А. Вайтовіча.[50] Лісты Б. Рагулі, Я. Сажыча, М. Рулінскага, М. Зуя, Ю. Найдзюк (Брэчкі), В. Краскоўскай выкарыстоўваліся намі падчас напісання гэтай працы.

Важнай крыніцай для складання біяграмаў удзельнікаў «Дальвіца» з'яўляюцца некралогі ў эміграцыйнай прэсе і ў друку ў Беларусі. Не заўсёды ў іх адзначаецца прыналежнасць памерлых людзей да згаданай разведвальна-дыверсійнай школы.

Напрыклад, вось як асцярожна напісаў пра Юзэфу Найдзюк (Брэчку) Янка Запруднік: *«Апынуўшыся ў Нямеччыне, яшчэ да заканчэньня вайны, брала ўдзел у беларускай дзейнасьці, была ў цяжкіх сытуацыях у савецкай зоне Нямеччыны, але дала рады захаваць жыцьцё й трапіць на Захад».*[51]

У некралогах, напісаных на смерць Алега Махнюка, няма ні слова пра яго знаходжанне ў канцы вайны ў «Дальвіцы».[52]

Намі друкаваліся некралогі па памерлых дэсантніках у перыядычных выданнях у Беларусі і іх дачыненне да «Дальвіца» не замоўчвалася.[53]

---

48 Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 21 траўня, № 99; 27 траўня, № 103; 2 чэрвеня, № 107.

49 Валянец Я. Голас беларускай душы // Куфэрак Віленшчыны (Маладэчна), 2002, № 2 (7). С. 59-67.

50 Ліставаньне // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 139-141.

51 Запруднік Я. Юзэфа Найдзюк [некралог] // Беларус, 2005, № 504, студзень.

52 АГ. Памёр мастак Алег Махнюк // 2009, 27 лютага, http://www.nn.by/index.php?c=ar&i=24167; Сенька М. Сьв. пам. а. пратадыякан Алег МАХНЮК // Беларус (Нью-Ёрк), 2009, № 555, красавік.

53 Вежан Я. [Сяргей Ёрш]. Памёр Міхась Зуй // Пагоня (Гродна), 1995, № 23, 16-22 чэрвеня; [Сяргей Ёрш]. Сьв. Пам. Сяргей Кажан // Голас камбатанта (Слонім), 2000, № 4, верасень-кастрычнік; С.Ё. In memoriam [пра смерць Міколы Рулінскага] // Наша ніва, 2003, 10 студзеня, № 1; С.Ё. Памёр Мікола Рулінскі // Veritas (Мінск), 2003, № 1; Ёрш С. Ён мог стаць беларускім Адамкусам // Наша ніва, 2005, 29 красавіка, № 16; Ёрш С. Барыс Рагуля //Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1 (3). С. 168-169; СЁ. У Слоніме памёр Андрэй Вайтовіч // nn.by, 2008, 2 красавіка; [Сяргей Ёрш]. Андрэй Вайтовіч // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 163; [Сяргей Ёрш]. Кастусь Мярляк // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 164-165; [Сяргей Ёрш]. Язэп Сажыч // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 165-166.

Толькі ў апошнія гады стала заўважная тэндэнцыя да больш аб'ектыўнага даследавання дзейнасці ў 1944-1945 гадах «Беларускага спецыяльнага батальёна «Дальвіц». Грунтоўныя публікацыі Ігара Валахановіча[54] каштоўныя найперш выкарыстанымі ім багатымі архіўнымі зборамі КДБ РБ. Таксама Валахановічам былі апублікаваныя некалькі дакументаў па гісторыі «Дальвіца»,[55] падрыхтаваны сцэнар дакументальнага фільма «Супрацьстаянне».[56] На наш погляд, за пералікам датаў, падзеяў, прозвішчаў, дэталяў у публікацыях Валахановіча недастаткова ўдзяляецца ўвага прычынам, якія падштурхнулі сотні людзей да ўступлення ў нямецкую разведвальна-дыверсійную школу ў Дальвіцы. За сухімі фактамі практычна не відаць асобаў. А якраз «чалавечы фактар» варта было б больш дэталёва даследаваць, маючы магчымасці працы з крымінальнымі справамі асуджаных камандасаў.

Сярод публікацый апошніх гадоў адзначым яшчэ некалькі. Невядомы факт пра лёсы байцоў «Дальвіца» апублікаваў у сваім даследаванні Валерый Надтачаеў.[57] Юрый Грыбоўскі ў манаграфіі, прысвечанай удзелу беларусаў у польскіх вайсковых фармацыях, згадвае і «беларускі батальён камандасаў «Дальвіц» і дзейнасць яго групы камандасаў восенню 1944-га на італьянскім фронце.[58] У іншай публікацыі Грыбоўскі на дакументальнай аснове распавядае пра «распрацоўку» ў першыя паваенныя гады савецкімі і польскімі спецслужбамі былых вайскоўцаў «Дальвіца», якія жылі ў Польшчы.[59]

Спроба падагульніць матэрыял па арганізацыі і дзейнасці «Дальвіца» была зробленая ў кнізе «Беларускі Супраціў».[60] У пры-

---

[54] Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 107-117.

[55] Щит и меч Отечества. — Минск, 2006. С. 175-177.

[56] Супрацьстаянне. Дакументальны фільм АТН. Аўтары — Ксенія Бахарава і Ігар Валахановіч. Прэм'ера — БТ, 28 чэрвеня 2004 года.

[57] Надтачаев В. Военная контрразведка Беларуси: судьбы, трагедии, победы... — Минск: Кавалер, 2008. С. 206.

[58] Grzybowski J. Bialorusini w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918-1945. — Warszawa: Instytut studiow politycznych PAN, Oficyna wydawnicza Rytm, 2006. S. 112, 280-281.

[59] Грыбоўскі Ю. Службы бяспекі ПНР і «беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх палітычныя цэнтры на Захадзе» (1945-1974) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 171, 187-188.

[60] Ёрш С., Горбік С. Беларускі Супраціў. — Львоў, 2006.

ватнасці, аўтары паспрабавалі разабрацца з «таямніцай дэсанту Вітушкі» і прапанавалі версію «аперацыі прыкрыцця», якую маглі праводзіць нямецкія спецслужбы, аднак не падмацавалі яе дакументамі.

У замежжы за апошняе дзесяцігоддзе выйшла некалькі навуковых і навукова-папулярных кніг, у якіх ёсць згадкі пра «Дальвіц». У зборніку дакументаў «NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie» змешчаныя вытрымкі з паведамленняў МВД БССР пра затрыманне парашутыстаў з групы лейтэнанта Давідчыка, пададзеныя біяграфічныя звесткі пра гэтых людзей.[61] Таксама надрукаваны пераказ паказанняў у турме савецкай дзяржбяспекі дэсантніка А. Вайтовіча ў справе яго задання звязацца з польскім антысавецкім падполлем.[62]

У Расіі на працягу апошняга дзесяцігоддзя выйшла шмат кніг, прысвечаных калабарацыі, антысавецкім фармацыям, дзейнасці органаў савецкай контрразведкі, у якіх прысутнічае і «беларускі след». На жаль, у некаторых з іх хапае памылак. Шэраг аўтараў, як А. Раманько,[63] некрытычна выкарыстоўваюць асобныя публікацыі беларускіх даследчыкаў, якія знаходзяць пераважна ў інтэрнэце, робяць памылкі пры перакладзе беларускамоўных тэкстаў, не абцяжарваюць сябе пошукам архіўных дакументаў у Расіі. Адпаведна, каштоўнасць іх працаў невялікая. Гэта датычыць і вялікага тэксту Раманька, прысвечанага «Дальвіцу».[64]

Сярод расійскіх даследчыкаў варта адзначыць Сяргея Чуева, які не абмяжоўвае сябе толькі выкарыстаннем публікацый, якія з'явіліся ў Беларусі, але і намагаецца ўзбагаціць іх новымі фактамі, дакументамі. На наш погляд, самая яго значная праца з «беларускім следам» — гэта двухтомнік, прысвечаны спецслужбам гітлераўскай Нямеччыны.[65]

Чуеў даволі падрабязна апісвае «баявы шлях» разведвальнадыверсійнай школы ў Дальвіцы, падае шэраг раней невядомых

---

[61]NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 165-166.
[62] NKWD o polskim podziemiu... S. 26-27.
[63] Романько О. Советский легион Гитлера. Граждане СССР в рядах вермахта и СС. — Москва: «Издатель Быстров», 2006; Романько О. Коричневые тени в Полесье. Белоруссия 1941 — 1945. — Москва: Вече, 2008.
[64] Коричневые тени в Полесье... С. 255-262.
[65] Чуев С. Спецслужбы Третьего Рейха. Книги I и II. — Санкт-Петербург: Издательский Дом «Нева», 2003.

дэталяў. Але ў той жа час ён дапусціў і прыкрыя памылкі. Напрыклад, «прыдумаў» «выратаванне архіву беларускай эміграцыі ў Латвіі ў траўні 1945 г.» дэсантнікамі «Дальвіца».[66] Насамрэч, беларускія камандасы вывезлі з Рыгі частку архіву і бібліятэкі палкоўніка К. Езавітава ў кастрычніку 1944 года. Альбо г. Інстэрбург, паводле Чуева, цяпер называецца Савецк, але насамрэч гэта г. Чарняхоўск Калінінградскай вобл. На гэтыя і іншыя памылкі была звернутая ўвага ў рэцэнзіі на двухтомнік С. Чуева.[67] Кароткія згадкі пра «Дальвіц» прысутнічаюць у некалькіх наступных працах расійскага даследчыка.[68]

Яшчэ адзін даследчык з Расіі Вадзім Цяліцын упершыню апублікаваў дакументы пра радыёгульню «Вогнішчы» («*Костры*»), якую праводзіла савецкая контрразведка ў 1944-1945 гадах.[69] Аказалася, што да яе меў дачыненне лейтэнант Іван Барысік, удзельнік дэсанту «Дальвіца». Аднак Цяліцын памылкова «пахаваў» Барысіка: *«Праз некалькі дзён пасля дэсантавання Барысік і некалькі іншых дыверсантаў загінулі ў баю».*[70] Было б рызыкоўна «ўключаць» у радыёгульню загінулага агента.

Вадзім Абрамаў у сваёй кнізе, прысвечанай СМЕРШу, таксама піша пра радыёгульню «Вогнішчы», але адзначае, што *«Барысік быў захоплены ў лістападзе 1944 года, адразу пасля прызямлення».*[71] Гэтая ж інфармацыя была змешчаная і ў працы Сяргей Чартапруда.[72]

У снежні 1944 года група беларускіх дэсантнікаў «Дальвіца», дэсантаваная ў Беларусі, патрапіла ў пастку 4-га ўпраўлення НКГБ СССР, якое праводзіла знакамітую аперацыю «Беразіно». Гэты факт згадваецца ў шматлікіх публікацыях, прысвечаных ёй. Найбольш поўна асвятліў затрыманне беларусаў у сваёй працы В. Сцечкін. Ён нават прыводзіць іх біяграфічныя дадзеныя, псеўда-

---

[66] Спецслужбы Третьего Рейха. Книга I. С. 201.

[67] Крук А. «Беларускі сьлед» у расейскіх кнігах // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 95-96.

[68] Чуев С. Диверсионные службы третьего рейха против СССР // Диверсанты третьего рейха. — Москва: Эксмо, Яуза, 2003; Чуев С. Проклятые солдаты. — Москва: Яуза, Эксмо, 2004.

[69] Телицын В. «СМЕРШ»: операции и исполнители. — Смоленск: Русич, 2000.

[70] Тамсама. С. 218.

[71] Абрамов В. Смерш. Советская военная контрразведка против разведки Третьего рейха. — Москва: Яуза, Эксмо, 2005. С. 184.

[72] Чертопруд С. НКВД — НКГБ в годы Великой Отечественной войны. — Москва: Яуза, Эксмо, 2005. С. 247.

німы, згадвае пра разведвальна-дыверсійную школу, якую яны скончылі.[73]

На працягу 2009 года ў часопісе «Беларускі Рэзыстанс» друкаваліся раздзелы з нашай кнігі, прысвечанай батальёну «Дальвіц».[74]

Такім чынам на тэму нашага даследавання былі здзейсненыя дзесяткі публікацыяў айчынных і замежных даследчыкаў. Аднак многія з іх даволі павярхоўныя, часам ідэалагічна заангажаваныя. Толькі адзінкі рабілі спробы стварэння «агульнай карціны», глыбокага даследавання прычынаў, якія падштурхнулі сотні маладых беларусаў на супрацоўніцтва з нямецкімі спецслужбамі.

З'яўленне ж «поўнай карціны» стане магчымым толькі пасля публікацыі значнага аб'ёму архіўных крыніц, якія дагэтуль застаюцца недаступнымі для большасці даследчыкаў.

---

[73] Стечкин В. Павел Судоплатов — терминатор Сталина. — Москва: Яуза, Эксмо, 2005. С. 253-254.

[74] Ёрш С. Выкарыстаньне групы байцоў «Спэцыяльнага батальёну «Дальвіц» нямецкай франтавой выведкай у пачатку 1945 году // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6). С. 25-29; Ёрш С. Беларускі спэцыяльны батальён «Дальвіц» і радыёгульні савецкай контрразьведкі 1944-45 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2 (7). С. 13-20.

*Глава 1.*

# *Арганізацыя і падрыхтоўка «Беларускага спецыяльнага батальёна «Дальвіц»*

## *Беларускія камандас падчас Другой сусветнай вайны*

Гісторыя стварэння і дзейнасці беларускіх камандас на баку Нямеччыны падчас Другой сусветнай вайны дагэтуль малавывучаная. Ці не самай значнай публікацыяй, якая, аднак, абмяжоўваецца перыядам 1939-1941 гг., з'яўляецца даследаванне Юрыя Грыбоўскага.[75] На жаль, дагэтуль большасць архіўных крыніц на гэтую тэму застаюцца не ўведзенымі ў навуковы зварот. Немагчыма ацаніць больш-менш дакладна колькасць беларускіх камандасаў, якія ваявалі на баку Нямеччыны ў 1939-1945 гг. Але можна меркаваць, што іх было, як мінімум, некалькі тысяч чалавек.[*]

Беларусы пачалі праходзіць спецыяльную падрыхтоўку ў школах абвера ўжо ў першай палове 1939 года. У верасні 1939-га, на пачатку нямецка-польскай вайны, яны ўдзельнічалі ў аперацыях на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Толькі на Палессе былі закінутыя немцамі як мінімум 14 беларусаў-камандасаў.[76]

Наступнае зацікаўленне абвера «беларускай праблематыкай» было адзначана польскай выведкай у лютым 1940 года.[77] Летам-восенню 1940 г. быў створаны так званы «беларускі аддзел» абвера (верагодна, такую неафіцыйную назву мела група супрацоўнікаў, якія адказвалі за «беларускі кірунак»). Адным з яго службоўцаў быў былы афіцэр арміі генерала Булак-Балаховіча Фелікс

---

[*] Некалькі дзесяткаў удзельнікаў дэсантаў у Заходнюю Беларусь верасня 1939 г., каля 350 камандасаў чэрвеня 1941 г., некалькі тысяч чалавек, якія прайшлі праз разнастайныя школы Абвера ў 1941-1944 гг., ад 1,5 да 3 тысяч чалавек, якія ў 1944-1945 гг. былі падрыхтаваныя для дзейнасьці ў падпольнай сетцы «Чорнага Ката», каля 500 байцоў «Дальвіца» ды інш.

[75] Першы беларускі штурмовы зьвяз. Да гісторыі стварэньня й дзейнасьці беларускіх камандас у гады Другой сусьветнай вайны // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1 (2). С. 3-23.

[76] Беларускі Супраціў. С. 17; Больш падрабязныя звесткі гл. у наступнай публікацыі: Самсонаў К. Падрыхтоўка беларускага нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1939 году і нямецкія спэцслужбы // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8). С. 3-7.

[77] Грыбоўскі Ю. Беларускі рух і Нямеччына напярэдадні і ў пачатку Другой сусьветнай вайны // Архэ, 2009, № 5. С. 156.

Вежан. Ён займаўся вярбоўкай добраахвотнікаў, выкарыстоўваў псеўданім «капітан Казлоўскі» (меў пасведчанне, выпісанае на гэтае прозвішча).[78]

У чэрвені 1941 года ў БССР закідваліся групы «Першага беларускага штурмовага зьвязу». Пра гэтую фармацыю ўжо маецца нямала публікацыяў.[79] Аднак зусім магчыма, што ў той час падобных аддзелаў («звязаў») беларускіх камандасаў было тры. Як сцвярджае ўдзельнік аднаго з іх, на пачатак нямецка-савецкай вайны існавалі Першы і Другі беларускія штурмовыя звязы, а таксама «асобная дэсантная група пры вермахце». Агульную колькасць іх байцоў ён ацэньвае ў 350 чалавек.[80]

Вось і ў спецпаведамленні Разведаддзела штаба Заходняй асобай вайсковай акругі П. Панамарэнку ад 4 чэрвеня 1941 г. згадваецца падрыхтоўка дэсантнікаў у Празе: *«У чэшскай Празе функцыянуюць курсы парашутыстаў, на якія мабілізаваныя сябры беларускага камітэта з Варшавы. У пачатку вайсковых дзеянняў*

---

[78] Паведамленне аўтару былога афіцэра батальёна «Дальвіц» ад 29 траўня 2008 г. Псеўданім «капітан Казлоўскі» расшыфроўваецца ўпершыню. Некаторыя аўтары памылкова прыпісваюць яго дзейнасць Уладзіславу Казлоўскаму, аднаму з лідэраў беларускіх нацыянал-сацыялістаў. Пра «капітана, доктара Казлоўскага» згадваюць у сваёй працы і Найдзюк з Касяком. Гл.: Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня. — Менск: «Навука і тэхніка», 1993. С. 255. А. Бадулін называе яго *«капитан В. Козловский — помощник Герулиса... резидент-вербовщик в среде белорусских националистов».* У размове з Ус. Родзькам у пачатку 1941 г. гэты «Казлоўскі» тлумачыў, што «Нямеччына можа аказаць дапамогу беларускім нацыяналістам у тым выпадку, калі яны сябе праявяць на практычнай працы на карысць нямецкай дзяржавы». *Гл.: Бадулин А. Националист — это человек, сделавший уверенный шаг к фашизму // Советская Белоруссия*, 1996, 20 чэрвеня, № 115.

[79] Акрамя згаданай публікацыі Ю. Грыбоўскага адзначым яшчэ некалькі: Вежан Я. [Ёрш С.] Першы Штурмовы Зьвяз // Пагоня (Гродна), 1995, № 8, 3-9 лютага; Ёрш С. Першы Штурмовы Зьвяз // Ніва (Беласток), 1996, № 42, 20 кастрычніка; Казак П. Першы беларускі штурмовы зьвяз // Голас Краю (Менск), 2001, № 3 (14); Шукелойць А. Служыў беларускай справе. Браніслаў Даніловіч // Беларус (Нью-Ёрк), 2003, № 489, кастрычнік. Перадрук — Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 97-98; *Такая служба: контрразведка // Советская Белоруссия*, 2005, 4 жніўня, № 148; Адзінец А. Альбэрт Асоўскі (нэкралёг) // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1 (3), б. 171-173; *Надтачаев В. Военная контрразведка Беларуси: судьбы, трагедии, победы... — Минск: Кавалер, 2008. С. 156;* Ёрш С., Клявец Р. Новыя факты пра дзейнасьць і лёсы беларускіх камандас // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5), б. 143-148; Пратакол допыту беларускага камандаса пасьля затрыманьня ў чэрвені 1941 году // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2 (7). С. 53-58.

[80] Паведамленне былога афіцэра батальёна «Дальвіц» аўтару ад 29 траўня 2008 г.

*парашутысты будуць закідвацца ў тылы Савецкай Беларусі для выканання дыверсійных задач. Мабілізаваныя прынялі прысягу аб ахове таямніцы».*[81]

За ўплыў на дэсантнікаў, якіх у 1940-41 гг. вербавалі альбо з ліку польскіх ваеннапалонных беларускай нацыянальнасці, альбо беларускіх эмігрантаў ці ўцекачоў з Заходняй Беларусі, змагаліся дзве палітычныя групы — Фабіяна Акінчыца (нацыянал-сацыялісты) і ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага (незалежнікі). Апошнія бачылі ў гэтых аддзелах пачатак беларускага войска, як важнага апірышча ў будучым змаганні за незалежнасць Беларусі.

Некаторыя групы ў чэрвені 1941-га паспяхова выканалі нямецкія заданні правядзення дыверсіяў на камунікацыях (група Юрыя Вежана каля Ліды, група Ўладзіміра Качана каля Мінску).

*«Страты ад сумесных дзеянняў нямецкіх дыверсантаў, украінскіх, беларускіх, прыбалтыйскіх нацыяналістаў на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Прыбалтыкі ў чэрвені-ліпені 1941 г. былі значнымі»,* — пішуць даследчыкі расійскіх спецслужбаў.[82]

Летам-восенню 1941 г. многіх беларускіх камандасаў уключылі ў склад паліцыі ў Мінску ды іншых гарадах. Некаторыя з іх у жніўні 1941 г. былі пасланыя «беларускім актывам» са згоды абвера на беларускае Палессе для ўзяцця пад кантроль «дзікіх» паўстанцкіх атрадаў. Камандасы фармавалі з іх вайсковыя аддзелы, якія разам з атрадамі ўкраінскага атамана Тараса Бульбы-Бараўца бралі ўдзел у маштабнай аперацыі супраць частак Чырвонай Арміі і НКВД, што патрапілі ў акружэнне на Палессі.

З беларускага боку адным з кіраўніком «Палескай аперацыі» быў 21-гадовы Ўсевалад Родзька, агент абвера і адначасова дзеяч беларускага нацыянальнага Супраціву, толькі прызначаны бурмістрам Віцебска. На нарадзе пад Калінкавічамі ён паведаміў камандзірам аднаго з батальёнаў Беларускай самаабароны: *«Будзем дамагацца ад немцаў сваёй, беларускай дзяржавы, спачатку пад нямецкім пратэктаратам. Але надзеі мала, бо ўкраінцам нічога не далі, а яны былі лепш за нас арганізаваныя. Таму пакуль будзем ваяваць, а пасьля захаваем свае атрады і арганізацыю».* Ад-

---

[81] Платонов Р. Белоруссия, 1941-й: известное и неизвестное. По документам Национального архива Республики Беларусь. — Минск, 2000. С. 19.
[82] Линдер И., Чуркин С., Абин Н. Диверсанты. Легенда Лубянки — Павел Судоплатов. — Москва: РИПОЛклассик, 2008. С. 589.

нак у верасні 1941 г. камандасы былі адкліканыя абверам, а створаныя на Палессі атрады часткова расфармаваныя.[83]

Падчас нямецкай акупацыі беларускія палітычныя групы таксама спрабавалі ўплываць як на вайсковыя фармацыі, складзеныя з камандасаў, так і асобных іх удзельнікаў. Іх далучалі да дзейнасці беларускага антынацысцкага Супраціву, які рыхтаваў на вясну 1943 года разгортванне нацыянальнага партызанскага руху і меў патрэбу ў падрыхтаваных вайскоўцах. Аднак пасля ліквідацыі нацыстамі ў снежні 1942 года лідэра і ідэолага беларускага нацыянальнага Супраціву кс. Вінцэнта Гадлеўскага, нямецкія спецслужбы ўзялі пад шчыльны кантроль найбольш актыўных беларускіх дзеячоў, каб спыніць антынямецкія акцыі і прапаганду, ды скарыстаць іх у антысавецкай барацьбе.

Не бачачы альтэрнатывы (толькі адзінкі далучыліся да нешматлікіх беларускіх нацыянальных партызанскіх атрадаў, польскай канспірацыі альбо савецкага партызанскага руху), многія беларускія камандасы далей служылі ў абверы, закідваліся ў савецкі тыл, знаходзіліся ў франтавой разведцы, былі выкладчыкамі ў школах абверу, удзельнічалі ў барацьбе з партызанскім рухам.[*] «Пакуль будзем ваяваць», — казаў Ус. Родзька ў 1941-м. На справе выявілася, што ваявалі ўжо некалькі гадоў і за чужыя інтарэсы.

Хтосьці, як старшыня ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі Ўсевалад Родзька, спрабаваў змяніць сітуацыю. Ён меркаваў з нямецкай дапамогай разгарнуць спецыяльную падрыхтоўку беларускіх нацыяналістаў да антысавецкай барацьбы (існуе версія, што Родзька да лета 1944 г. не адмаўляўся ад плана ўзняцця антынямецкага паўстання з мэтай абвяшчэння незалежнасці Беларусі, а таму намагаўся «збіраць сілы» — як падпольныя, так і легальныя). У канцы 1943 года немцы ўжо былі да гэтага гатовыя — падганялі перамогі Чырвонай Арміі на ўсходнім фронце. Частка дэсантнікаў мусіла быць скарыстаная за лініяй фронту для правядзення дыверсій, выведкі і арганізацыі антысавецкага паў-

[*] Паводле матэрыялаў Цэнтральнага архіву ФСБ Расіі, у канцы 1942 году існаваў створаны немцамі «Спецыяльны беларускі батальён». Гл.: *Органы государственной безопасности СССР в Великой Отечественной войне. Сборник документов. — Т. 3. Кн. 2. «От обороны к наступлению» (1 июля — 31 декабря 1942 г.). — Москва: «Русь»*, 2003. С. 527. Аднак дагэтуль беларускія навукоўцы такой фармацыі не згадвалі.

[83] Паведамленне былога афіцэра батальёна «Дальвіц» аўтару ад 21 траўня 2008 г.

станцкага руху. З іншых, «эліты» беларускіх камандас, нямецкія спецслужбы рыхтавалі законспіраваную разведвальна-дыверсійную сетку для доўгатэрміновых аперацый.

*«У той момант інтарэсы дзеячоў беларускага нацыянальнага актыву і нямецкага камандаваньня супалі: першыя атрымалі выдатную магчымасьць цалкам легальна падрыхтаваць і ўзброіць беларускія атрады для далейшай барацьбы за незалежнасьць Беларусі; другія — нібыта рэальную дапамогу ў мясцовых кадрах, што выдатна ведалі будучы тэатар баявых дзеяў і мелі ідэалягічныя перакананьні для барацьбы з СССР,* — піша даследчык Лявон Мазур. — *Зразумела, што абодва бакі «трымалі дулю ў кішэні»: беларусы абсалютна не зьбіраліся паміраць за нямецкія інтарэсы, а немцы не зьбіраліся даваць беларусам сапраўдную незалежнасьць. Разам з тым, па зразумелых прычынах, абодва бакі старанна прыхоўвалі свае сапраўдныя думкі і намеры».* [84]

Значная частка падрыхтаваных беларускіх камандасаў у 1944-1945 гг. апынулася ў атрадах «Чорнага Ката», у «Дальвіцы» і іншых падобных фармацыях.

### *«Ударныя групы» Родзькі і атрады «каліноўшчыкаў»*

Ва ўмовах імклівага наступлення савецкіх войскаў падчас аперацыі «Багратыён» у чэрвені 1944 года абвер меў лічаныя дні на рэалізацыю сваіх планаў. У канцы чэрвеня Родзька атрымаў ад маёра Геруліса заданне стварыць узброеныя групы, якія мусілі быць законспіраваныя на тэрыторыі Беларусі для правядзення дыверсіяў і разведкі ў савецкім тыле. Паводле В. Раманоўскага, абвер загадаў ствараць групы з удзельнікаў БНП.[85] Аднак успаміны гэтых людзей паказваюць, што ў групы траплялі маладыя людзі, якія раней пры ўдзеле Родзькі вербаваліся ў Вільні нямецкай вайсковай разведкай. Не ўсе яны былі сябрамі БНП.

Сяргей Кажан, які быў кіраўніком Беларускай Самапомачы ў Браславе і ў БНП уступіў толькі ў жніўні 1944-га ў Дальвіцы, успамінае: *«У 1944 годзе я атрымаў запрашэньне прыехаць у Вільню на пэўны адрас і ўзяць з сабой надзейных хлапцоў. У Вільні я й сустрэў упершыню Родзьку. Гэта быў сакавік-красавік*

---

[84] Мазур Л. Арганізацыя беларускага антысавецкага падпольля ў 1943-1944 гг. у дакумэнтах нямецкіх архіваў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2 (7). С. 61.
[85] Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 188-189.

*44-га. Прыехалі хлопцы зь іншых мясьцінаў — Шаркоўшчыны, Глыбоччыны. Перад намі выступіў сам Родзька. Ён сказаў, што лепшых беларускіх людзей мэтанакіравана забіваюць. Праз актыўны ўдзел палякаў... Родзька казаў, калі мы не арганізуемся і ня створым вайсковыя адзінкі, нас усіх пазабіваюць. Ён прапанаваў стварыць сваю армію неадкладна, фармаваць вайсковыя адзінкі і йсьці ў лес, ладзіць сваю партызанку... Такім чынам, я быў залічаны ў збройную групу Родзькі».*[86]

Усевалад Родзька адбіраў хлопцаў і на курсах вышэйшых кіраўнікоў Саюзу Беларускай Моладзі, якія на пачатку 1944 г. праходзілі ў Менску. Ён прымаў іх у БНП і гаварыў, што для працягу барацьбы за незалежнасць Беларусі трэба здабыць зброю, у немцаў. У пачатку вясны 1944-га каля васьмі чалавек з гэтых курсаў Родзька павёз у Вільню, у абвер. Як успамінае Віктар Сікора, разам з ім былі Алег Лапіцкі, Янка Жамойцін (у сваіх успамінах ён нічога не піша пра ўдзел у курсах вышэйшых кіраўнікоў СБМ), Уладыслаў Рыжы. Іх там сустрэлі немцы з адзнакамі падафіцэраў (але Сікора перакананы, што рангі іх былі вышэйшымі) Эрфленг і Вульф (фельдфебель Вульфан). Усе запоўнілі бланкі аб згодзе супрацоўнічаць з вермахтам. Ім паведамілі, што гэтым абвераўскім аддзелам кіруе маёр Геруліс. Усім выдалі дакументы (у іх паведамлялася, што іх уладальнік з’яўляецца кіраўніком узброенай групы абверу і ўсе нямецкія органы мусяць аказваць яму дапамогу), пісталеты.[87]

Віктар Сікора на наступны дзень сустрэў Родзьку: *«Што вы зрабілі са мной?». Родзька кажа: «Пачакай. Зброя нам трэба. А дзе мы возьмем? Пойдзем у лес, нас савецкія партызаны паб’юць. Ці Армія Краёва... Дык нам жа трэба аднекуль гэтую зброю браць, а як? Я ніколі цябе здраднікам не лічыў і лічыць не буду. Ты павінен стварыць баявую групу. І будзь добры, уступіў і падпарадкоўвайся загаду».*

Пазней Сікору з Паставаў выклікаў у Мінск Родзька і пацікавіўся, ці знайшоў людзей, каб стварыць баявы атрад? Сікора супраціўляўся: *«Мала таго, што вы мяне ўпіхнулі, дык яшчэ хочаце, каб я людзей упіхаў?! Штосьці мне гэта не па душы».*

Але Родзька і прысутны на сустрэчы Барыс Рагуля пераканалі яго. І загадалі весьці падабраных людзей у Вільню.[88] Сікора пры-

---

[86] Кажан С. «У БНП я з жніўня 1944-га...» // Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.
[87] Вяртаньне БНП. С. 27-28; Успаміны Віктара Сікоры. Запіс 1999 г.
[88] Успаміны Віктара Сікоры. Запіс 1999 г.

вёз туды 10 чалавек з Паставаў, а сярод іх і Яўгена Жыхара, будучага вядомага партызанскага камандзіра. Пасля ўсе яны трапілі ў «Дальвіц».[89] Але яшчэ да таго, у канцы чэрвеня 1944-га, Сікора разам з баявой групай з 12-15 чалавек узброеных пісталетамі, вінтоўкамі, аўтаматамі і кулямётам ехаў у Мінск на кангрэс. Каля Лынтупаў польскія акоўцы спынілі цягнік, але група Сікоры адбіла напад ды вымушаная была вярнуцца ў Паставы.[90]

Перад адыходам з Мінску ў канцы чэрвеня 1944 года Родзька паспеў правесці на сваёй кватэры нараду кіраўнікоў БНП. Вядома, што сярод прысутных былі Іван Гінько і Міхась Зуй. На нарадзе было агучанае рашэнне пра стварэнне 5 партызанскіх атрадаў БНП, якія пакідаліся ў Беларусі.[91] Іх удзельнікі называліся «каліноўшчыкамі», што падкрэсьлівала пераемнасць вызваленчай барацьбы беларускага народу. Планавалася стварэнне наступных партызанскіх атрадаў:

раён Вільні — кіраўнік Станіслаў Марцінкевіч,

Лідчына (па іншых звестках — раён Вілейкі — Маладзечна) — Алег Лапіцкі,

Пастаўшчына — Віктар Сікора,

раён Баранавічаў — Станіслаў Мануйла,

Глыбоччына — Сяргей Кажан.[92]

Ігар Валахановіч, Яўген Сямашка пішуць, што гэтыя атрады былі ліквідаваныя савецкай дзяржбяспекай, а іх кіраўнікі арыштаваныя. Аднак некаторыя атрады немагчыма было ліквідаваць па той прычыне, што яны не паспелі арганізавацца.

Магчыма, Ус. Родзька і здолеў бы паспяхова выканаць заданне абвера, аднак на гэта адклала адбітак падрыхтоўка антынямецкага паўстання ў Мінску. Як вядома, гэты план Родзькі, з розных прычынаў, так і не быў рэалізаваны. Аднак у Мінск для ўдзелу ў паўстанні былі сцягнутыя з акругаў «баёўкі БНП», у тым ліку «баявыя групы», якія фармаваліся Родзькам пры ўдзеле абвера. Вярнуцца ў свае гарады і вёскі паспелі не ўсе. Той жа С. Кажан у Беларусі не застаўся і патрапіў у «Дальвіц», ці ствараў

[89] Вяртаньне БНП. С. 28.

[90] Вяртаньне БНП. С. 29; Успаміны Віктара Сікоры. Запіс 1999 г.

[91] Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 188-189.

[92] Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня; Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 21.

яго атрад хто іншы, невядома. Па адной версіі, сыйшоў на Захад і Станіслаў Мануйла,* па іншай — ён нейкі час партызаніў у раёне Баранавіч і Ляхавіч.** Віктар Сікора позна даведаўся пра заданне стварыць атрад «каліноўшчыкаў» — уся яго «баявая група» выехала ў Вільню, а пасля апынулася ў Дальвіцы. Да яго прыйшоў сувязны з загадам ад Родзькі: *«Не адступай. Заставайся для арганізацыі падпольнай барацьбы. Чакай сувязных».*[93] Свой атрад «каліноўшчыкаў» В. Сікора пачаў ствараць толькі вясной 1945 года. У лясах на Пастаўшчыне ён сабраў 50 надзейных людзей. Сярод іх аказаўся толькі адзін з яго «баявой групы» — Мікола Адамовіч з Паставаў. Атрад быў добра ўзброены вінтоўкамі, аўтаматамі і кулямётамі. Сярод балот стварылі замаскаваную базу, сваю гаспадарку. Баявых акцый не праводзілі, чакалі развіцця міжнародных падзеяў.

Летам 1945 г. пасля абвяшчэння амністыі людзі пачалі выходзіць з лясоў і здавацца. З Сікорам засталося толькі 10-15 чалавек. Збіраліся сыходзіць у Польшчу. Яны пайшлі, а Сікора застаўся, пасля здаўся. Яго спачатку адпусцілі, уладкавалі на працу (і, напэўна, увесь гэты час кантралявалі). Арыштавалі ў снежні 1945 г., а яшчэ да таго прыходзіў сувязны «Каліноўшчык», а насамрэч — правакатар.[94]

Складаная сітуацыя была і ў Алега Лапіцкага. Стварыць атрад «каліноўшчыкаў» на Лідчыне яму было няпроста — ён хоць і быў некалькі месяцаў акруговым кіраўніком СБМ, але наўрад ці адчуваў там сябе ўпэўнена. Дый шмат беларускіх актывістаў летам 1944-га выехалі з Лідчыны ў Нямеччыну. Больш верагодна, што Лапіцкі мусіў стварыць атрад на Мядзельшчыне, у сваіх родных мясцінах. Аднак, паводле некаторых звестак, гэты загад Родзькі супярэчыў планам нямецкіх спецслужбаў, якія, нібыта, прызначылі Алега Лапіцкага камандзірам атрада канспірацыйнай арганізацыі Міхала Вітушкі.[95]

* Паводле паведамлення Вячаслава Анушкевіча, запісанага летам 2002 г. у Ляхавічах Міхасём Чарняўскім, С. Мануйла памёр на Захадзе (верагодна, у Англіі), прынамсі, пра гэта казала яго стрыечная сястра.

** Невядома, на падставе якіх крыніц, Ю. Туронак сцвярджае, што С. Мануйла быў арыштаваны пасля вайны. Гл.: Туронак Ю. Людзі СБМ. — Вільня: Gudas, 2006. С. 77.

93 Беларускі Супрацiў. С. 128.

94 Вяртаньне БНП. С. 30-31; Успаміны Віктара Сікоры. Запіс 1999 г.

95 Беларускі Супраціў. С. 106.

Вядома, што Лапіцкі восеннprofessional 1944 года навучаўся ў Віленскай настаўніцкай семінарыі. У канцы 1944-га ён ужо быў арыштаваны. Да гэтага спрычыніўся правал групы дэсантнікаў «Дальвіца», ад якіх А. Лапіцкі атрымаў прапанову ачоліць БНП у Вілейскай вобласці.[96]

Быў арыштаваны і выкладчык Віленскай беларускай гімназіі, кіраўнік Віленскага камітэту БНП Станіслаў Марцінкевіч.[97]

Паводле плану абвера, групы батальёна «Дальвіц» пасля дэсантавання ў Беларусі павінны былі выйсці на сувязь з «каліноўшчыкамі». Сумесна яны заняліся б разгортваннем антысавецкай партызанскай барацьбы.[98] Як бачым, насуперак сцверджанням Сямашкі, што такой сувязі наладжана не было, дэсантнікі ўсё ж выходзілі на асобных «каліноўшчыкаў» яшчэ восеннію 1944-га. А ў атрад В. Сікоры летам 1945 года прыйшлі былыя байцы «Дальвіца» Аляксандр Латышонак і Ўладзімір Бахер.[99] Але ўсе яны пасля патрапілі ў рукі савецкай дзяржбяспекі.

Такім чынам, вынікі дзейнасці «каліноўшчыкаў» былі нязначнымі. Паводле некаторых звестак, яны не толькі мусілі чакаць сувязных, але і мелі загад Родзькі не весці ўзброеную барацьбу супраць савецкіх уладаў[100], а значыць — не выконваць нямецкіх загадаў па правядзенні дыверсій і тэрактаў у савецкім тыле.

### *Разведвальна-дыверсійная школа ў Дальвіцы*

Разведвальна-дыверсійная школа месцілася ў мястэчку Дальвіц у раёне г. Істэрбурга ва Ўсходняй Прусіі.* Як успамінае Кастусь Мярляк, *«Дальвіц... знаходзіўся на палове шляху, між Інстэрбургам і Гумбіненам. Па адным баку чыгункі мястэчка Дальвіц, а па другім разьлёгся вайсковы лягер, абкружаны лесам, добра дагледжаны й абсталяваны».*[101]

---

* Цяпер гэта пасёлак Ліставы Чарняхоўскага раёна Калінінградскай вобласці Расіі. Гл.:http://www.verwaltungsgeschichte.de/insterburg.html

[96] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 111.

[97] Вяртаньне БНП. С. 32, 97.

[98] Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.

[99] Беларускі Супраціў. С. 130.

[100] Тамсама. С. 131.

[101] Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 33.

*«Дальвіц — гэта звычайная вёска Ўсходняй Прусіі, у якую ўваходзіла некалькі дзесяткаў хутароў. Вось тут і знаходзіўся лагер па падрыхтоўцы дэсантнікаў. У Дальвіцы стаяла некалькі баракаў, у якіх і размясціліся прыехаўшыя беларусы»,* — дадае Кастусь Шышэя.[102]

У мэтах канспірацыі школа называлася «Спецыяльным батальёнам «Дальвіц» (іншая назва — «Зондэркаманда 2 маёра Герулiса»).[103] Пазней, ужо пасля пераезду ў Вальбуж, школа мела кодавае найменне «Мельдекопф Вальбуж» і «3 Коле-2».[104] Яна была арганізаваная на базе Віленскай школы разведчыкаў,[105] якая перадыслакавалася ва Ўсходнюю Прусію,[106] і падначальвалася Абверкамандзе-203.[107]

Паводле сведчання А. Вайтовіча з групы Б. Рагулі, якая прыбыла ў пачатку жніўня 1944-га з Варшавы, у Дальвіцы дыслакавалася нейкая нямецкая вайсковая часць, якую кудысьці перакінулі перад іх прыездам. Застаўся толькі склад зброі. Вайтовіч называе школу «перавалачнай базай».[108]

### *Ці рыхтавалі беларускіх дэсантнікаў у Дальвіцы ў красавіку-ліпені 1944-га?*

Існуе версія, што яшчэ ў канцы траўня — ў пачатку чэрвеня 1944 года пачаўся адбор і адпраўка кандыдатаў у разведвальна-дыверсійную школу ў Дальвіцы.[109] Аднак дакументальна гэта не пацверджана. Адзіная згадка пра падрыхтоўку ў Дальвіцы ўжо вясной 1944-га беларусаў прысутнічае ў рамане Ўладзіміра Багамолава.[110]

---

[102] Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільнюс: Выдавецтва «Jusida», 2001. С. 128.
[103] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 21.
[104] Спецслужбы Третьего Рейха. Книга I. С. 198.
[105] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 107.
[106] Соловьев А. Еще раз о послевоенном бандитизме в Беларуси // Беларуская думка, 1997, № 1. С. 145.
[107] Спецслужбы Третьего Рейха. Книга I. С. 198.
[108] Інтэрв'ю аўтара з Андрэем Вайтовічам. Слонім, 12 жніўня 2004 года. Цалкам змешчана ў «Дадатку».
[109] Беларускі Супрацiў. С. 134.
[110] Богомолов В. Момент истины (В августе сорок четвёртого...). — Москва, 1994. С. 133-134.

Раман Ўл. Багамолава — мастацкі твор, аднак амаль усе дакументы, працытаваныя ў ім, *«тэкстуальна ідэнтычныя адпаведным сапраўдным дакументам»*. Аўтарам былі зменены толькі «*некалькі прозвішчаў, назвы пяці населеных пунктаў і сапраўдныя найменні вайсковых частак і злучэнняў»*.[111]

Паводле Багамолава, Упраўленнем контрразведкі 2-га Беларускага фронта 11 і 14 жніўня 1944 года былі затрыманыя парашутысты Васіль Пужэвіч, Аляксандр Камінскі, Андрэй Алешка, Іван Мацук і Пётр Арцішэўскі, якія закончылі *«разведвальна-дыверсійную школу ў мястэчку Дальвіц каля Інстэрбурга»*. Яны былі закінутыя ў савецкі тыл у ноч на 1 жніўня у складзе дзвюх групаў *«з заданнем аператыўнай разведкі»*.

Паводле паказанняў затрыманых, якія пацвярджаліся *«замежнай крыніцай»*, вясной 1944 г. у Дальвіцкай разведшколе абвера было створана «беларускае аддзяленне», дзе праходзілі навучанне *«асобы беларускай нацыянальнасці, настроеныя па-антысавецку, якія маюць вайсковы досвед і добрае фізічнае развіццё»*. У красавіку-ліпені 1944-га там прайшлі *«інтэнсіўную агентурную падрыхтоўку»* 48 чалавек, былых байцоў Навагрудскага, Слонімскага і Баранавіцкага батальёнаў БКА. Пасля заканчэння навучання 27 чалавек былі накіраваныя пад Кёнігзберг, дзе іх разбілі на групы па 3-4 чалавекі, экіпіравалі ў форму чырвонаармейцаў і перакідвалі ў савецкі тыл. У пачатку жніўня 1944 г. чакалася перакідка групаў, якія ачольвалі Барыс Рагуля, «Сцяпан Радзько» і «Алесь Вітушка».[112]

Паколькі дакумент быў надрукаваны ў мастацкім творы, мы ўсё ж не можам адносіцца да яго як да дакументальнай крыніцы. Нельга выключыць, што Багамолаў, які сапраўды працаваў з архіўнымі дакументамі СМЕРШа, «падганяў» некаторыя з іх пад сюжэт сваёй кнігі, які развіваецца ў жніўні 1944-га, а не пазней, калі адбываліся вядомыя нам дэсанты «Дальвіца». Ва ўсялякім разе, да таго часу, як будзе выяўлены і надрукаваны дакумент, ідэнтычны змешчанаму ў кнізе Багамолава, мы не можам лічыць даказаным існаванне «беларускага аддзялення» ў Дальвіцы з вясны 1944 года.

---

[111] Абрамов В. Абакумов — начальник СМЕРШа. Взлет и гибель любимца Сталина. — Москва: Яуза, Эксмо, 2005. С. 83.
[112] Момент истины (В августе сорок четвёртого...). С. 133-134.

### *Вярбоўка людзей*

Усевалад Родзька адыходзіў з Беларусі праз Вільню, дзе знаходзілася яго абвераўскае кіраўніцтва. Там жа ён пачаў вярбоўку добраахотнікаў. «Каліноўшчык» Сяргей Кажан, які вяртаючыся з Другога Ўсебеларускага кангрэсу, не дабраўся да Браслава і паехаў у Вільню, 30 чэрвеня сустрэў на вакзале Родзьку і далучыўся да яго групы.[113] Там жа на віленскім вакзале ўцекачы з Паставаў Цімафей Грыгор'еў і Арсень Іваноў *«напаткалі людзей, якія гаварылі па-беларуску»*. Ім распавялі, што *«скалачваецца група для засылкі ў савецкі тыл»,* і яны да яе далучыліся.[114]

Цягнік, на якім група Родзькі меркавала ехаць на захад, уначы быў пашкоджаны падчас савецкага авіяналёту. На наступны дзень на іншым цягніку яны дабраліся праз Коўну (Каўнас) да Вялікавішкаў (Вілкавішкіс) у паўднёва-заходняй Літве. Паводле сведчання С. Кажана, у гэтым горадзе група затрымалася, для яе было знойдзена памяшканне. Колькі Родзька са сваімі добраахвотнікамі знаходзіўся ў Вялікавішках, невядома. Аднак яго група хутка павялічвалася, бо ў яе ўліваліся новыя ўцекачы. У Дальвіц паехала ўжо каля 100 чалавек.[115]

Барыс Рагуля вёў рэшткі свайго батальёна, распушчанага ў Навагрудку пасля вяртання з Віцебшчыны, праз Ліду ў Гродна. Інструкцыі ён атрымаў ад Родзькі. Вось што ўспамінае Б. Рагуля: *«У Наваградак мне Родзька празь нямецкую тайную пошту даслаў тэлеграму. У ёй ён намякаў, што будзе створаны беларускі батальён («Дальвіц»). Паведаміў, што будзе чакаць мяне ў Горадні».*[116]

У Гродне Б. Рагуля сустрэўся з Ус. Родзькам (які, верагодна, прыехаў з Вялікавішкаў). Родзька прапанаваў яму ўступіць у батальён «Дальвіц» і займацца там вайсковай падрыхтоўкай. Рагуля пагадзіўся, але на пэўных умовах — *«калі ўзьніклы батальён будзе выкарыстаны толькі тады, калі фронт (немцы) ізноў пойдзе на ўсход або калі пачнецца амэрыканска-савецкі канфлікт».* Родзька паабяцаў, што так і будзе, хаця, зразумела, такіх гарантыяў Рагулю даць не мог.[117]

---

[113] Сяргей Кажан: «У БНП я з жніўня 1944-га...» // Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.
[114] Грыгор'еў Ц. Успамінаючы мінулае... // Голас Радзімы. 1964, № 27-28, красавік.
[115] Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.
[116] Вяртаньне БНП. С. 53.
[117] Тамсама. С. 53-54.

З Гродна група Б. Рагулі была накіраваная ў Варшаву, а напрыканцы ліпеня, перад пачаткам Варшаўскага паўстання, выехала ва Ўсходнюю Прусію.[118] Група Рагулі прыбыла ў Дальвіц «пасля двух дзён падарожжа». Немцы адразу ж забралі ў Рагулі два аўтамабілі, у тым ліку адзін грузавік, «заявіўшы, што ўсё гэтае ім больш ня будзе патрэбным».[119]

Паводле А. Вайтовіча, у Дальвіц прыехалі не больш за дзесятак рагулёўцаў.[120] Але К. Шышэя мяркуе, што іх было каля дваццаці чалавек.[121]

Родзька тым часам працягваў збіраць у Польшчы людзей у Дальвіц. Напрыклад, у Граеве (поўнач Падляскага ваяводства) ён сустрэў сябра ЦК БНП Міхася Зуя, які з сям'ёй выехаў з Беларусі, і прапанаваў уступіць у «Дальвіц». Зуй пагадзіўся. Вось што ён успамінае: *«Капітан Родзька забясьпечыў мяне дакумэнтам, які даваў мне права вэрбаваць беларусаў у батальён. На трэці дзень з групай 26 беларусаў выехаў цягніком ва Ўсходнія Прусы ў лягер Дальвіц».*[122]

Падобнай дзейнасцю падчас знаходжання ў Варшаве займаўся і Б. Рагуля. У ліпені 1944 г. ён разам з супрацоўнікам абвера Вульфанам завербаваў у «Дальвіц» афіцэра БКА Глеба Багдановіча (сына знішчанага бальшавікамі сенатара Вячаслава Багдановіча).[123]

Паводле сведчання А. Вайтовіча, Барыс Рагуля займаўся вярбоўкай і ў пазнейшы час, выязджаючы з Дальвіца *«дзесьці пад Кракаў».*[124]

Адным з вярбоўшчыкаў быў Юрый Луцкевіч (сын прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча). У жніўні 1944 года Ю. Луцкевіч вербаваў дабраахвотнікаў у «Дальвіц» у Кёнігзбергу. У працоўным лагеры Мінгенэн, які месціўся на ўскране Кёнігзбергу, на яго прапанову адгукнуліся 9 чалавек. У самім горадзе Юрый Луцкевіч завербаваў рускага Мікіту Шпакава, які працаваў грузчыкам на таварнай станцыі, і былога паліцыянта з Мінскай вобласці І. Белякова.[125]

---

[118] Тамсама. С. 46.
[119] Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 33.
[120] Гл. інтэрв'ю А. Вайтовіча ў «Дадатку».
[121] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 128.
[122] Вяртаньне БНП. С. 77.
[123] Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.
[124] Гл. інтэрв'ю А. Вайтовіча ў «Дадатку».
[125] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 114-115.

Дарэчы, вось як апісвае становішча беларусаў-уцекачоў у Кёнігзбергу ў ліпені 1944 года Вітаўт Кіпель: *«Беларусаў у горадзе поўна. Нядаўна прыбыў эшалон БЦР. Перад гэтым прыехалі колькі вагонаў юнакоў Саюзу Беларускай Моладзі. Натоўпы сялянаў-уцекачоў зь Беларусі. Асноўны клопат кожнага — дастаць прадуктаў, зарабіць пару марак, аформіць нейкія паперы».*[126]

Некаторыя з уцекачоў, а сярод іх афіцэры БКА разам з сем'ямі, накіраваліся з Кёнігзбергу ў Берлін. Там іх залічылі ў пажарнікі, аднак яны адмовіліся і запатрабавалі, каб іх *«адаслалі ў беларускія аддзелы»*. У выніку, Аляксандр Стагановіч, Філарэт Родзька (акруговы начальнік БКА ў Навагрудку), Мадэст Норык (асветны афіцэр БКА ў Навагрудку), Уладзімір Русак вярнуліся ў Кёнігзберг, адкуль мясцовы Беларускі нацыянальны камітэт накіраваў іх «у лягер Дальвіц у беларускі парашутны аддзел». *«Мы былі вельмі ўзрадаваныя гэтым і адразу ж ад'ехалі цягніком у Дальвіц»,* — успамінае А. Стагановіч.[127]

Дакладна невядома, колькі ж было чалавек у Дальвіцы ў пачатку жніўня 1944 года. Ц. Грыгор'еў (а ён, нагадаем, быў у «віленскай групе», якая мусіла прыехаць у Дальвіц першай) сцвярджае, што спачатку там было 30 чалавек, пасля, за кошт «беглых паліцэйскіх», «батальён разросся да 150 чалавек».[128] Паводле С. Чуева, праз месяц у батальёне ўжо налічвалася больш за 200 чалавек.[129] Магчыма, больш дакладны А. Салаўёў, які, на падставе архіўных крыніц, піша, што «навучаліся адначасова да 160 дыверсантаў і радыстаў».[130]

Ёсць звесткі, што падчас вярбоўкі кожны добраахвотнік даваў падпіску прыблізна наступнага зместу:

*«Я /імя і прозвішча/, дабраахвотна ўступаючы ў беларускую армію, абавязуюся бязлітасна весці барацьбу з бальшавізмам, да таго часу, пакуль Беларусь не стане самастойнай і незалежнай дзяржавай».*[131]

---

[126] Кіпель В. Сьв. Пам. Уладзімер Русак // Беларус, 2009, № 555, красавік.
[127] Стагановіч А. Успаміны пасла // Запісы БІНІМ (Нью-Ёрк — Менск), 2009, № 32. С. 315-316.
[128] Голас Радзімы, 1964, № 27-28, красавік.
[129] Спецслужбы Третьего Рейха. Книга I. С. 198.
[130] Беларуская думка (Мінск), 1997, № 1. С. 145.
[131] НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 179. Машынапіс, арыгінал.

## *Беластоцкі беларускі батальён Гелды*

Аснову навучэнцаў разведвальна-дыверсійнай школы маглі скласці жаўнеры Беластоцкага беларускага батальёна, якім з 1943 года камандаваў капітан Іван Гелда. Аднак гэтаму перашкодзілі падзеі вясны 1944-га. Гелда, як сябра БНП, быў заангажаваны Родзькам у падрыхтоўку запланаванага антынямецкага паўстання.* Для БНП гэтая акцыя мусіла стаць разрывам усіх дачыненняў з немцамі і сігналам да пераводу падкантрольных партыі беларускіх вайсковых і паліцыйных аддзелаў на нелегальнае становішча. Паводле звестак, не пацверджаных дакументальна, батальён І. Гелды мусіў перайсці на нелегальнае становішча напрыканцы траўня 1944 года. Падрыхтоўка да гэтага пачалася ў сакавіку праз сетку сяброў БНП у аддзеле. Аднак ужо ў сакавіку-красавіку 1944 г. беластоцкае гестапа атрымала ад свайго агента паведамленні пра запланаваны сыход у лес беларускага батальёна, пра нараду падпольнай групы БНП. Гестапа адказала арыштам 3 траўня камандзіра батальёна і кіраўніка падполля БНП у Беластоцкай акрузе Івана Гелды і 21 яго вайскоўца.[132] У некаторых публікацыях М. Белямук памылкова падае як дату арышту сакавік.[133]

М. Белямук называе сярод арыштаваных Гелду, Міколу Грыцука, Алеся Асяцімскага, Смактуновіча, Матуса, Нігерэвіча. І толькі Міколу Смактуновічу неўзабаве ўдалося выйсці на волю праз дапамогу дзяўчыны, знаёмай з афіцэрам гестапа.[134] Ён паведаміў новым камандзірам батальёна, што гестапа не мае доказаў існавання БНП у аддзеле, а з ліку арыштаваных ніхто не прызнаўся ў сяброўстве ў гэтай партыі.[135]

---

* Паводле планаў Родзькі, у час правядзення Ўсебеларускага кангрэсу ў Мінск мусілі сцягнуць беларускія вайсковыя і паліцыйныя аддзелы, групы БНП. Пасля абвяшчэння Кангрэсам аднаўлення дзяржаўнай незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і звароту праз захопленую радыёстанцыю да народаў свету, беларускія аддзелы сыйшлі б з баямі ў лес. Родзька спадзяваўся на дапамогу савецкага падполля, і ў гэтай справе, нібыта, вяліся перамовы. Аднак план Родзькі не знайшоў поўнай падтрымкі нават у кіраўніцтве БНП, і ён не быў рэалізаваны.

[132] Беларускі Супраціў. С. 132.

[133] Белямук М. Свайго лёсу не мінеш. — Вільня, 2006. С. 39; Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. С. 169.

[134] Ліст М. Белямука да аўтара ад 9 верасня 1996 г.

[135] Свайго лёсу не мінеш. С. 40.

Як сведчыць М. Белямук, Гелда са сваімі людзьмі быў выпушчаны на волю ў пачатку ліпеня (альбо 22-25 чэрвеня). Гэта адбылося падчас эвакуацыі вязняў беластоцкай турмы.[136] Паводле адной з версій, вызваленне стала магчымым пасля таго, як у Беласток прыйшоў адпаведны загад з Берліну. Нямецкія спецслужбы планавалі выкарыстаць Гелду і яго людзей для арганізацыі антысавецкага супраціўлення.[137]

Можна меркаваць, што па выхадзе з турмы Гелда не паспеў атрымаць новыя інструкцыі ад Родзькі і кіраваўся ранейшымі. Паводле ўспамінаў Міхася Белямука, адпачыўшы некалькі дзён у сваёй сям'і, Гелда з'явіўся ў батальёне, якім камандаваў былы афіцэр польскага войска, выпускнік Варшаўскай палітэхнікі Сяргей Матысік, і «загадаў усім перабірацца ў Белавескую пушчу, каб пераўтварыцца ў партызанаў». Зразумела, загад гэты ён аддаў не ўсяму аддзелу, а Матысіку. Аднак той яго не выканаў.[138] С. Матысік пашыхтаваў батальён, у якім засталося каля 150 чалавек (некалькі дзясяткаў чалавек уцяклі пасля травеньскага арышту групы Гелды), і выступіў з прамовай: *«Хто хоча застацца ў Беласточчыне і, мабыць, партызаніць, дык забірайце ўсю зброю й шукайце коняй, каб пагрузіць амуніцыю, і заставайцеся пад камандай Матуса. А хто ня хоча партызаніць — будзем адступаць праз Ломжу ў Прусію».*[139] Праўдападобна, перад жаўнерамі выступіў і афіцэр батальёна, бліжэйшы паплечнік Гелды Матус. Ён жа пасля асобна размаўляў з некаторымі вайскоўцамі. Белямук успамінае, што «Матус настойліва прапаноўваў ісьці ў Белавежскую пушчу, партызаніць».[140]

Да Матуса далучылася толькі каля 30 чалавек і яны пайшлі ў Белавежскую пушчу.[141] Іван Гелда пры гэтых падзеях не прысутнічаў, бо ён «паехаў у Берлін». Праўда, М. Белямук у адной з публікацый піша, што апошні раз у поўным складзе батальён быў сабраны Матысікам «незадоўга да ад'езду Гелды».[142] Аднак паўплываць на сітуацыю Гелда ўжо не мог, бо не камандаваў батальёнам. Верагодна, сярод тых 30 добраахвотнікаў, якія згад-

[136] Вяртаньне БНП. С. 56.
[137] Беларускі Супраціў. С. 132.
[138] Вяртаньне БНП. С. 57.
[139] Свайго лёсу не мінеш. С. 40.
[140] Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. С. 170.
[141] Свайго лёсу не мінеш. С. 41.
[142] Тамсама. С. 40.

зіліся застацца для партызанскай барацьбы, большасць складалі сябры БНП.

Невядома, з якой мэтай Гелда дзесьці ў пачатку ліпеня 1944 года выехаў у Берлін (калі Белямук мае рацыю, што менавіта туды накіраваўся Гелда). А. Адзінец памылкова тлумачыць гэтую паездку Гелды тым, што ён *«быў уведзены ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады, што ў той час знаходзілася ў Бэрліне».*[143] Насамрэч, сябрам БЦР І. Гелда стаў толькі ў 1945 г. Не было ў пачатку ліпеня 1944-га ў Берліне і БЦР, сябры якой пасля адступлення з Беларусі ў той час знаходзіліся ва Ўсходняй Прусіі і Польшчы. Найхутчэй, Гелда атрымаў выклік па лініі нямецкіх спецслужбаў і быў прызначаны ў разведвальна-дыверсійную школу ў Дальвіцы.

Не ўсе людзі Гелды пайшлі ў лес з Матусам. Высвятляецца, што калі С. Матысік з рэшткамі батальёна на цягніку прыехаў у Ломжу, там іх ужо чакалі афіцэры батальёна Алесь Асяцімскі і Мікола Грыцук. Вось што ўспамінае Белямук: *«Яны, як і Матус, пачалі агітаваць хлопцаў ісьці ў лес і партызаніць. Каля 20-ці асобаў пагадзіліся з прапановай Асяцімскага й Грыцука, і засталіся ў Беласточчыне. У часе нямецкай акупацыі Асяцімскі й Грыцук марылі пра арганізацыю беларускай партызанкі, але арышт перашкодзіў зрэалізаваць гэтую задуму. Цяпер надышоў зручны момант для зьдзяйсьненьня іхняй мары».*[144] Наўрад ці Асяцімскі і Грыцук павялі гэтых 20 чалавек у лес. Праўдападобна, на даручэнне Гелды, яны прывезлі іх у Дальвіц. Прынамсі, вядома, што самі вярбоўшчыкі прайшлі навучанне ў гэтай разведвальна-дыверсійнай школе.

Апошняй спробай І. Гелды далучыць рэшткі свайго батальёна да ўдзелу ў антысавецкай барацьбе ў Беларусі, было яго спатканне з Матысікам у Берліне дзесьці ў лістападзе 1944 года. Якраз тады немцы пагадзіліся перавесці аддзел у Нарвегію. М. Белямук сведчыць, што перад адпраўкай сваіх былых падначаленых наведаў Гелда, які крытыкаваў Матысіка за тое, што ён *«уцякае ад змагання за Беларусь».* Аднак Матысік свайго рашэння не змяніў: *«Загубіць моладзь мне не дазваляе сумленьне, яе трэба зьберагчы, яна можа быць вельмі патрэбная ў будучыні».*[145]

[143] Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. С. 170.
[144] Свайго лёсу не мінеш. С. 41.
[145] Вяртаньне БНП... С. 58.

Ёсць звесткі, што групы, пасланыя Гелдам у Белавежскую пушчу, утварылі вясной-летам 1945-га атрад «Беласток», які ўваходзіў у склад арганізацыі Міхала Вітушкі.[146] У такім выпадку І. Гелда быў утаямнічаны ў план стварэння «Чорнага Ката».

***Кіраўніцтва разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы***

Агульнае кіраўніцтва разведвальна-дыверсійнай школай у Дальвіцы было ў руках прадстаўнікоў абвера — маёра Георга Геруліса (начальніка школы), лейтэнанта Шынклера і фельдфебеля Вульфана. Намеснікам кіраўніка школы па вучэбнай частцы быў капітан Ус. Родзька, начальнікам вучэбнай часткі — Б. Рагуля.[147]

Родзька таксама лічыўся «палітычным кіраўніком спецыяльнага беларускага батальёна «Дальвіц», а камандзірам батальёна быў Іван Гелда.[148] У руках Ус. Родзькі была як афіцыйная, так і нелегальная прапаганда. Сяброўства многіх курсантаў у БНП, асабістая папулярнасць сярод дэсантнікаў дазваляла Родзьку кантраляваць аддзел. Таму камандзірства Гелды было хутчэй фармальным, але, як далей пабачым, некаторыя важныя рашэнні, у адсутнасць Родзькі, прымаліся якраз ім.

Былы дэсантнік «Дальвіца» Кастусь Казак успамінае:

*«Родзька быў вялікі аўтарытэт. Мы яго, праўда, мала бачылі. Але дух ягоны быў абсалютны. Пра яго нават самыя хлопцы міфы розныя складалі... Быў яшчэ іншы камандзір, старэйшы, высокі такі — [Гелда]. Дык вось у яго была клічка «Каліноўскі». Гаварылі: «Які ён там Каліноўскі». Нічога ён не значыў у батальёне. А Родзька — наадварот. Ён такі рухавы быў...».*[149]

*«Гелда быў камандзёрам вайсковым. Агульнае вайсковае кіраўніцтва. У выведцы і дывэрсіях ён аніякай навукі ня меў»,* — успамінае былы афіцэр «Дальвіца».[150] «Камандзірам батальёну быў маёр Усевалад Родзька», — адназначна піша ў сваіх успамінах Дзмітрый Касмовіч.[151]

---

146 Беларускі Супраціў. С. 106-107.

147 Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 108.

148 НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 3, арк. 28.

149 Цытуецца паводле інтэрв'ю, запісанага С. Яршом 28 жніўня 2004 г. Цалкам змешчана ў «Дадатку».

150 Паведамленне аўтару ад 2 кастрычніка 2008 г.

151 За вольную і сувэрэнную Беларусь. С. 207.

Вельмі паказальным тут з’яўляецца фота наведвання прэзідэнтам БЦР Радаславам Астроўскім Дальвіца ў жніўні 1944-га. Каля Астроўскага перад пашыхтаваным батальёнам стаяць Родзька, Рагуля і, праўдападобна, маёр Геруліс — сапраўдныя кіраўнікі. Гелда ж стаіць збоку.

У дакументах савецкай контрразведкі намеснікамі Геруліса называюцца Родзька і Рагуля. Яны ж, нібыта, былі «прадстаўнікамі «БКА» ў школе».[152] А Іван Гінько на допыце ў турме савецкай дзяржбяспекі сцвярджаў, што Б. Рагуля знаходзіўся ў разведвальна-дыверсійнай школе «ў якасці ўпаўнаважанага «БНП».[153] Сам Рагуля ў паваенных інтэрв’ю выказваўся, што ў Дальвіцы адказваў за «вайсковую»,[154] альбо «партызанскую» падрыхтоўку.[155]

Пра кіраўніка школы Георга Геруліса вядома мала. Савецкая контрразведка лічыла яго немцам.[156] К. Мярляк удакладняе, што *«камэндантам лягеру быў немец латышскага паходжаньня, які валодаў расейскай мовай».*[157] Аднак быў Геруліс ураджэнцам Летувы,[158] вядомым мовазнаўцам, аўтарам шэрагу навуковых працаў.

Да Другой сусветнай вайны Геруліс працаваў рэктарам універсітэту ў Кёнігзбергу, а пасля прафесарам Берлінскага універсітэту. Пра зацікаўленне Геруліса «беларускімі справамі» вядома ад 1939 года, калі ён ужо быў супрацоўнікам абвера. Маёр Г. Геруліс вербаваў беларусаў у разведвальна-дыверсійныя школы.[159] Падчас нямецкай акупацыі Беларусі ён працаваў начальнікам 2-га аддзела АСТ «Остланд» (з кастрычніка 1942 г.), ачольваў разведшколы ў Вяцаці, Балдоне, Дальвіцы.[160]

Ёсць згадка, што маёр Геруліс быў захоплены ў палон «Смершам» 17 верасня 1945 года.[161] Верагодна, гэта адбылося ў Мемелі

---

[152] НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 179.

[153] Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня.

[154] Вяртаньне БНП... С. 54.

[155] Інтэрв’ю аўтара з Б. Рагулям па тэлефоне. Запіс 23 жніўня 2004 г. Цалкам змешчана ў «Дадатку».

[156] НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 179.

[157] Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 33.

[158] Спецслужбы Третьего Рейха. Книга II. С. 365.

[159] Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. С. 255.

[160] Спецслужбы Третьего Рейха. Книга II. С. 365.

[161] «Кот» прыгает в «пущу» (Были ли в Беларуси «лесные братья»?) // Завтра (Москва), 2003, 16 снежня, № 51.

(Клайпедзе). Геруліс быў расстраляны.[162] Аднак дагэтуль у энцыклапедычных артыкулах пра яго часам пішуць, што лёс Г. Геруліса пасля арышту застаецца невядомы.

Фельдфебель Вульфан (Вульфен, Вульф) быў дасведчаным агентам абвера. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі ён быў арганізатарам і ўдзельнікам разведвальных супрацьпартызанскіх аперацый на Глыбоччыне.[163]

Чамусьці ні І. Валахановіч, ні іншыя даследчыкі, пішучы пра кіраўніцтва разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы, не згадваюць барона Яўгена фон Энгельгардта (1899 — 1948), аўтара кнігі, прысвечанай гісторыі Беларусі.[*] Ён нарадзіўся ў Латвіі. Падчас Першай сусветнай вайны служыў пры аддзеле культуры штабу 10-й нямецкай арміі ў Мінску і Оршы, быў дарадцам па беларускіх пытаннях. У 1930-х вучыўся ў Вене, вывучаў лесаводства. З канца 1930-х быў дараднікам і «экспертам па беларускіх справах» пры прафесары Гергарды фон Мэндэ, супрацоўніку Міністэрства ўсходніх акупаваных тэрыторый.[164] Ужо ў 1939-1941 гадах Мэндэ, Энгельгардт, маёры Геруліс і Дзерынг былі супрацоўнікамі абвера і цікавіліся беларускімі справамі, удзельнічалі ў вярбоўцы беларусаў у «парашутныя дыверсійныя аддзелы».[165]

Паводле Б. Рагулі, барона Энгельгардта, нібыта, за яго нязгоду з нямецкай палітыкай на акупаваных тэрыторыях, адправілі працаваць у Беларусь. На Навагрудчыне з 1942 г. ён быў начальнікам лесаўпраўлення, арганізоўваў лясную ахову.[166]

Дз. Касмовіч у сваіх успамінах піша, што «Дальвіцкі батальён» быў створаны, дзякуючы таму, што Родзька атрымаў дапамогу «прыхільнага беларусам нямецкага афіцэра Эўгеня фон Энгельгарда».[167] Паводле Касмовіча, «Энгельгард быў адначасна луч-

---

[*] Engelhardt von E. Weissruthenien. Volk und Land. Berlin-Amsterdam-Prag-Wien, 1943.
[162] http://sig-tyr.livejournal.com/32719.html
[163] Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.
[164] Яшчар Я. Абарванае жыцьцё (З прычыны сьмерці Аўгена фон Энгельгардта) / / Наперад (Лёндан), 1949, № 17, люты. С. 6-8; За вольную і сувэрэнную Беларусь. С. 207; Беларусь учора і сяньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. С. 255; Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 27, 33.
[165] Беларусь учора і сяньня. С. 255.
[166] Юрэвіч Л. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военначальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. — Менск: Спецвыпуск часопіса ARCHE, 1999. С. 148-149; Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагруд. р-на. — Мінск: «Беларусь», 1996. С. 311.
[167] За вольную і сувэрэнную Беларусь. С. 207.

ніковым афіцэрам батальёну з нямецкім вайсковым штабам».[168] К. Шышэя сцвярджае, што «галоўным выкладчыкам пры падрыхтоўцы дэсанту быў маёр Энгельгард».[169]

Пра дачыненні нямецкага кіраўніцтва і беларускіх камандзіраў вядома няшмат. Той жа Б. Рагуля адносіўся да немцаў з недаверам:

*«Група немцаў [кіраўнікоў Дальвіцкай школы — Геруліс ды інш.] была нейкая падазроная для мяне. Я не ведаў, якія ў іх былі планы, што яны хацелі рабіць».*[170]

Родзька ж, паводле Рагулі, дэманстраваў сваю лаяльнасць немцам:

*«Я заўсёды «лез на ражон», у адкрытую змагаўся зь немцамі, казаў праўду. А Родзька быў больш лагодны, паказваў «лаяльнасьць». Ён хацеў усіх перахітрыць...».*[171]

## *Структура*

Курсанты Дальвіцкай разведвальна-дыверсійнай школы былі падзеленыя на дзве вучэбныя роты — «Паўночную» (альбо «Поўнач») і «Паўднёвую» (альбо «Поўдзень»). Тыя ў сваю чаргу дзяліліся на звязы (узводы), якія складаліся з дружынаў (аддзяленняў). У кожную з ротаў адбіраліся курсанты з улікам іх ранейшага месца жыхарства. Адпаведна, у роту «Поўдзень» уваходзілі ўраджэнцы паўднёвых абласцей і раёнаў БССР, у роту «Поўнач» — паўночных. На прынцыпе зямляцтва фармаваліся звязы і дружыны.[172] Напрыклад, вядомыя «Клецкі» і «Слуцкі» звязы.[173] Камандзірам аднаго са звязаў «Паўночнай» роты быў Міхась Зуй. Даследчык А. Салаўёў, праўдападобна, памыляецца, калі піша, што Зуй быў камандзірам звязу «Паўднёвай» роты,[174] бо ён паходзіў з паўночнай Беларусі, з Шаркаўшчынскага раёна. Камандзірам «Паўночнай» роты быў старшы лейтэнант (пазней — кап-

---

[168] Тамсама. С. 207.
[169] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 128.
[170] Інтэрв'ю аўтара з Б. Рагулям па тэлефоне. Запіс 23 жніўня 2004 г. Цалкам змешчана ў «Дадатку».
[171] Вяртаньне БНП... С. 54.
[172] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 108.
[173] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 21.
[174] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 157.

ітан) Аляксей Рудак, яго намеснікам — лейтэнант Алег Стахоўскі.[175] «Паўднёвай» ротай, верагодна, камандаваў лейтэнант Ігар Будахоўскі. Меркавалася, што курсанты будуць дэсантаваныя ў раёнах, дзе яны раней жылі і таму маглі добра арыентавацца на мясцовасці.[176]

Радыстка «Дальвіца» Юзэфа Брэчка (Найдзюк), якая з'явілася ў школе ў кастрычніку 1944 г., так апісвае яе тагачасную структуру:

*«Хлопцы былі падзелены на 3 групы: паўночная — апякун Рудак, швадронаўцы ці рагуляўцы — Барыс Рагуля, і паўдзённая (не ведаю, хто [за яе] адказваў)».*[177]

К. Шышэя пацвярджае, што ў Дальвіцы «Рагуля камандаваў толькі сваімі былымі эскадронаўцамі».[178] Верагодна, у тым жа кастрычніку, пасля сыходу з «Дальвіца» Б. Рагулі і залічэння ў дэсанты амаль усіх «швадронаўцаў», група рагулёўцаў перастала існаваць.

Існаванне ў складзе «Дальвіца» групы рагулёўцаў, як асобнай адзінкі, ускосна пацвярджае І. Валахановіч. У адной з публікацый, пішучы пра структуру школы, ён згадаў «Паўночную», «Паўднёвую» і «іншыя групы».[179]

У школе таксама былі падафіцэрская група і група вылету, якая складалася з тых, хто прайшоў курс навучання і рыхтаваўся да закідкі ў Беларусь.[180]

### *Людзі*

Тых, хто патрапіў у «Дальвіц», можна падзяліць на некалькі катэгорыяў. Першая — перакананыя беларускія нацыяналісты, прыхільнікі ўзброенай барацьбы за незалежнасць Беларусі.

Другая — пакрыўджаныя савецкай уладай, людзі, у якіх былі сваякі, рэпрэсаваныя савецкімі ўладамі альбо забітыя савецкімі партызанамі.

Трэцяя — выпадковыя людзі, якія патрапілі ў разведвальна-дыверсійную школу ў выніку збегу абставінаў (напрыклад, выбі-

---

[175] Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 27 траўня, № 103.
[176] Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.
[177] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 года.
[178] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 128.
[179] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 21.
[180] Тамсама.

ралі паміж прымусовай працай на нямецкіх заводах і навучаннем на камандаса).

Чацвёртая — «калабаранты» (былыя паліцыянты, самаахоўцы, жаўнеры БКА), якія адступілі з Беларусі, бо баяліся савецкіх рэпрэсій, і спадзяваліся «адсядзецца» ў «Дальвіцы» (у тыле, а не на фронце) да канца вайны.

Пятая — патрыятычная моладзь, якая кепска арыентавалася ў сітуацыі на франтах вайны, але адгукнулася на заклік прадстаўнікоў БНП, БЦР, БКА працягваць барацьбу за незалежнасць Беларусі.

1) ***Ахвотнікі ўзброенай барацьбы супраць бальшавікоў***

Нават сярод кіраўнічага складу «Дальвіца» былі вельмі розныя людзі, і, як не дзіўна, толькі частка іх падыходзіць да катэгорыі ахвотнікаў узброенай барацьбы супраць бальшавікоў. Перадусім гэта Ўсевалад Родзька і Іван Гелда. Вясной 1945 года на прапанову грамадоўцаў прабірацца на Захад, Гелда адказаў: *«Я хачу прысьвяціць усё сваё жыцьцё узброенай барацьбе за вызваленьне Беларусі».*[181]

На такой жа пазіцыі, што і Гелда, стаяў удзельнік аднаго з дэсантаў лейтэнант Іван Барысік. Ён быў «гарачым ахвотнікам змагання супраць саветаў» яшчэ з часоў стварэння ў 1942 годзе Беларускай самааховы. Магчыма, тут быў і фактар помсты, бо яго сям'я пацярпела ад савецкай улады (альбо была «раскулачаная», альбо вывезеная ў Расію).[182]

2) ***Пакрыўджаныя савецкай уладай***

Людзей, якія хацелі б адпомсціць савецкай уладзе за крыўды, нанесеныя ім ці іх сем'ям савецкай уладай, у «Дальвіцы» было нямала. Адныя сядзелі ў савецкіх турмах, іншыя пацярпелі ад «раскулачвання» альбо ад савецкіх партызанаў.

Рагулёвец Уладзімір Нагулевіч не мог дараваць зверскага забойства савецкімі партызанамі яго маці. Сведчыць Кастусь Шышэя: *«Быў пад маім провадам вельмі нэрвовы хлопец, Валодзя Нагулевіч. Яго маці партызаны жудасна катавалі: вылупілі вочы, адрэзалі грудзі. А ён усё гэта бачыў... Пэражыў такі страшэнны шок. Ніякай зброі не прызнаваў, акрамя кулямёту Дзегцярова».*[183]

---

[181] Вяртаньне БНП... С. 58.
[182] Ліст Барыса Данілюка (ЗША) да аўтара ад 1 красавіка 2003 г.
[183]Вяртаньне БНП... С. 65.

У радысткі Ганны Еўсы сям'я таксама пацярпела ад савецкіх партызанаў. Вось што яна ўспамінае: *«У 1944 годзе ўся наша сям'я жыла каля Любчы. І ў лютым 1944 года ўсю маю сям'ю* [забілі] *партызаны ці лясныя бандыты: расстралялі бацьку, а маці і брата Ваню замучылі і спалілі... Брат Міця служыў у эскадроне, а Косцік і я вучыліся ў семінарыі».*[184]

Падобныя гісторыі былі ў Міхася Шунько, Веры Краскоўскай ды іншых.

3) ***Выпадковыя людзі***

Выпадковых людзей у «Дальвіцы» было нямала. Найперш, людзей маладых, якія з розных прычынаў у чэрвені-ліпені 1944 года вырашылі самастойна альбо с сябрамі пакінуць Бацькаўшчыну. Некаторыя з іх праз пэўны час ужо былі гатовыя вярнуцца назад, нават на парашуце...

Цімафей Грыгор'еў ужо ў паваенны час так апісваў абставіны свайго і Арсеня Іванова патраплення ў «Дальвіц»:

*«Блукаючы па вакзале* [ў Вільні]*, мы напаткалі людзей, якія гаварылі па-беларуску. Разгаварыліся. Аказалася, скалачваецца група для засылкі ў савецкі тыл. Групу арганізаваў Усевалад Роцька (так у тэксце — **СЁ**). Арсеній, я і яшчэ некалькі чалавек рашылі далучыцца да іх. Дзейнічаць супраць Савецкай Арміі мы не збіраліся, проста хацелі дабрацца бліжэй да Пастаў, а там махнуць дадому».*[185]

Зразумела, трэба ўлічваць абставіны, у якіх пісаліся ўспаміны — Ц. Грыгор'еў відавочна не сам праявіў ініцыятыву, яму «прапанавалі» гэта зрабіць «з адпаведных органаў» (у той час газета «Голас Радзімы» была досыць спецыфічным выданнем). Таму пра сапраўдныя матывы ён мог і змаўчаць. Бо той жа А. Іваноў так хацеў «махнуць дадому», што дaслужыўся ў «Дальвіцы» да рангі лейтэнанта...

Характэрна, што некаторыя «выпадковыя» ў батальёне сталі сапраўднымі беларускімі нацыяналістамі. Яскравы прыклад — Кастусь Казак. У «Дальвіц» ён патрапіў так: *«Вярбоўшчыкі мне сказалі: «Будзеш дома праз 10-20 дзён, мы скінем на парашуце». А я абрадаваўся. А чаму ж не вярнуцца дамоў?».*[186]

---

[184] Ліст Г. Еўсы да А. Вайтовіча ад 16 ліпеня 2001 г. Копія — ў архіве аўтара.
[185] Голас Радзімы. 1964, № 27-28, красавік.
[186] Інтэрв'ю з К. Казаком гл. у «Дадатку».

Рагулёўцы Філіп Давідчык і Андрэй Вайтовіч, адступіўшы з Беларусі, вырашылі разам са сваімі дзяўчатамі ехаць вучыцца (!) ў Прагу. І толькі пасля таго, як там не змаглі ўладкавацца, вярнуліся ў Варшаву і далучыліся да невялікай групы на чале з Б. Рагулем, якая ехала ў Дальвіц. Пра тагачасныя настроі рагулёўцаў сведчыць Вайтовіч: *«Нашыя хлопцы, у адрозненне ад хлопцаў з іншых раёнаў, неяк несур'ёзна адносіліся да сітуацыі. Было такое ўражанне, што яны на нейкай экскурсіі».*[187]

Як вынік гэтай «несур'ёзнасці», «яўка з павіннай» у НКГБ некаторых дэсантнікаў. У шэрагу выпадкаў яны прыходзілі дахаты і на «сямейным савеце» прымалася рашэнне: здавацца ў спадзяванні на тое, што даруюць.

У гэтай сувязі дзіўным выглядае сцвярджэнне С. Чуева, што *«рагулёўцы складалі эліту Дальвіцкага батальёна — групу асаблівага прызначэння».*[188]

Я. Сямашка лічыць, што маёр медыцынскай службы Глеб Багдановіч патрапіў у «Дальвіц» «у выніку ракавога збегу абставінаў». І што «такіх як Багдановіч у Дальвіцы аказаліся адзінкі», бо астатнія былі «злачынцамі, якім не было чаго губляць».[189] Пра тое, што гэта было не так, можна пераканацца пасля азнаямлення з біяграфіямі камандасаў.

СБМавец Вячаслаў Прыстаўка ўспамінае: *«Многія з... уцекачоў ад чырвонай навалы знаходзілі прыстанак і прытулак адпачынку ў мястэчку Дальвіц... Сямейныя шукалі свой шлях, бадзёрыя хлопцы згаджаліся прадоўжыць барацьбу ў новаабразаваным батальёне. А я пасля кароткага адпачынку паехаў у Берлін у цэнтр СБМ...».* [190]

Выпадковыя людзі альбо сыходзілі па ўласнай ініцыятыве, альбо ад іх пазбаўлялася кіраўніцтва школы. Вядома, што напрыканцы жніўня 1944 г. у «Дальвіцы» *«ачышчалі рады ад нязДольных і ненадзейных выконваць даручэньні ў тыле варожых войскаў».*[191]

4) ***Тыя, хто спадзяваўся адсядзецца да канца вайны***

У Дальвіц патрапілі найперш жаўнеры БКА, сябры БНП, СБМ ды простыя ўцекачы ад бальшавікоў. Толькі частка іх сведама

---

[187] Паведамленне А. Вайтовіча С. Яршу ад 12 жніўня 2004 г.
[188] Проклятые солдаты. С. 278.
[189] Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.
[190] Ліст В. Прыстаўкі да аўтара ад 21 лістапада 2000 г.
[191] Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 33.

імкнулася да ўзброенага змагання супраць савецкай улады, іншыя трапілі ў школу ў выніку збегу абставінаў. Нават сябра ЦК БНП Б. Рагуля вагаўся: уступаць ці не ўступаць у батальён? *«Я паставіў умову* [Родзьку]*, што дам згоду адно ў тым выпадку, калі ўзьніклы батальён будзе выкарыстаны толькі тады, калі фронт (немцы) ізноў пойдзе на ўсход або калі пачнецца амэрыканска-савецкі канфлікт. Але толькі не скарыстоўваць яго ў існуючай сытуацыі. Родзька пагадзіўся з гэтым. Магчыма, ён ужо тады думаў зрабіць інакш — Родзька вельмі хацеў арганізаваць партызанку і падпольле пад саветамі. Але ён ня ведаў гэтых саветаў. Ён хацеў, каб калі б пачаліся нейкія падзеі, на Беларусі ўжо былі б гатовыя людзі, структуры».*[192]

Капітан Рудак не надта гарэў жаданнем вяртацца ў Беларусь з дэсантам. І калі ў пачатку 1945 г. ён на чале групы дэсантнікаў быў перададзены нямецкай франтавой разведцы для закіду ў Польшчу, у апошні момант Рудак «захварэў», адпаведна не паляцела і яго жонка.[193] Мэты сваёй у рэшце рэшт ён дасягнуў — дачакаўся канца вайны ў нямецкім тыле і пасля жыў на Захадзе.

Верагодна, меркавалі «адсядзецца» ў Дальвіцы, як раней у БКА ў Наваградку, такія афіцэры, як Філарэт Родзька, Аляксандр Стагановіч, Мадэст Норык (у Берліне ў ліпені 1944 г. ім прапаноўвалі працаваць пажарнікамі, але яны не захацелі). На той час ім было 52-54 гады. Таму не дзіўна, што пабылі яны там толькі некалькі дзён, бо іх «немцы адмовіліся прыняць у аддзел», найперш з-за ўзросту.[194]

5) ***Моладзь, якая кепска арыентавалася ў сітуацыі на франтах вайны***

Нямала патрапіла ў Дальвіц патрыятычнай моладзі, якая летам 1944 года эвакуявалася з Беларусі. Гэта былі не толькі ўдзельнікі беларускіх вайсковых ці паліцыйных фармацый, але і сябры БНП, СБМ. Многія з іх у свае 16-20 гадоў былі ідэалагічна загартаваныя, верылі ў перспектыву здабыцця незалежнасці Беларусі. Яны верылі сваім камандзірам, большасць з якіх самыя былі іх узросту, альбо крыху старэйшыя векам.

*«Барыс, якую моладзь мы загубілі!»*, — з горыччу сказаў падчас сустрэчы ў Вільні летам 1997-га з Барысам Рагулям былы лейтэнант «Дальвіца» Мікола Рулінскі.

---

[192] Вяртаньне БНП... С. 53-54.
[193] Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 27 траўня, № 103.
[194] Стагановіч А. Успаміны пасла // Запісы БІНІМ, 2009, № 32. С. 316-317.

## *Уніформа*

Вайскоўцы «Дальвіца» былі пераважна абмундзіраваныя ў стандартныя шэра-зялёныя мундзіры вермахта са знакамі адрознення, прынятымі ў Беларускай Краёвай Абароне.[195] Пра гэта сведчаць нямногія вядомыя нам здымкі дэсантнікаў і звесткі савецкіх спецслужбаў. У лістападзе 1944 года аддзел контрразведкі «Смерш» Беларускай вайсковай акругі паведамляў: *«Усе навучэнцы школы насілі нямецкую вайсковую форму».*[196]

Паводле Ю. Грыбоўскага, 3 сакавіка 1945 г. кіраўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР генерал-маёр К. Езавітаў выдаў загад № 43, у якім *«змяшчалася дакладная інфармацыя наконт абавязковага ўжывання... знакаў адрознення* [БКА] *і абмундзіравання для дэсантнікаў «Дальвіц».*[197]

Аднак камандасам даводзілася вырабляць іх «уласнымі сродкамі».[*] Таму не дзіўна, што некаторыя дэсантнікі карысталіся нямецкімі знакамі адрознення.[198] Як прыклад, здымак дэсантніка Васіля Конюха, апублікаваны ў кнізе *«Щит и меч Отечества».*[199]

Падчас дэсантаў камандасамі звычайна выкарыстоўваліся савецкія трохколерныя маскіровачныя камбінезоны і палявыя пяхотныя мундзіры Чырвонай Арміі.[200]

## *Праграма навучання камандасаў*

Паводле І. Валахановіча, курсантаў «Дальвіца» рыхтавалі да разведвальна-дыверсійнай дзейнасці ў савецкім тыле, здзяйснення тэрактаў і правядзення антысавецкай прапаганды ды агітацыі.[201] Кожны дэсантнік мусіў авалодаць падрыўной і сапёрнай справай, тапаграфіяй, тактыкай вядзення партызанскага бою ў лясной мясцовасці, дасканала ведаць усе тыпы агнястрэльнай зброі, здзейсніць скачок з парашутам.[202] Аднак, як сведчаць многія дэ-

---

[*] Самаробныя чырвоныя пятліцы з белымі крыжамі Ярылы былі знойдзеныя ў арыштаванага дэсантніка Сяргея Буцкевіча. Гл.: *Щит и меч Отечества.* С. 176.

[195] Грыбоўскі Ю. Абмундзіраванне беларускіх вайсковых фармаванняў на нямецкай службе падчас Другой сусветнай вайны // Arche, 2010, № 5. С. 482.

[196] НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 179. Машынапіс, арыгінал.

[197] Arche, 2010, № 5. С. 482.

[198] Тамсама, 2010, № 5. С. 482-483.

[199] Щит и меч Отечества. С. 176.

[200] Arche, 2010, № 5. С. 483.

[201] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 21.

[202] Спецслужбы Третьего Рейха. Кніга І. С. 198-199.

сантнікі, ніякай парашутнай падрыхтоўкі не было. К. Шышэя ўспамінае: *«Перад пасадкай у самалёт кожнаму адзелі парашут, якога да таго часу ніхто не бачыў у вочы, што сведчыла аб недастатковай падрыхтоўцы адлятаўшых».*[203] А. Сямашка распавядаў на допыце: *«Спецыяльнай падрыхтоўкі і навучання па парашутна-дэсантнай справе ў нас у лагеры не было... лётчыкі з намі правялі кароткі інструктаж па абыходжанню з парашутам і правіламі выскоквання з самалёта».*[204]

Таксама ў праграму навучання курсантаў уваходзіла шыхтавая падрыхтоўка.[205] Паводле звестак аддзела контрразведкі «Смерш» Беларускай вайсковай акругі, дэсантнікі «Дальвіца» шмат увагі надавалі практычным заняткам стральбой і маскаванню на мясцовасці.[206]

Вядома, што заняткі па тактыцы ў жніўні-кастрычніку 1944 г. вёў Барыс Рагуля. Галоўным жа выкладчыкам быў маёр Энгельгард.[207] Паводле ўспамінаў Кастуся Шышэі, *«шмат увагі ўдзялялася на курсах вывучэнню гісторыі і культуры Беларусі».*[208]

Культурна-асветную працу сярод навучэнцаў школы праводзіў Антон Шантыр, лекцыі па гісторыі Беларусі чытаў Юрый Луцкевіч.[209]

Безумоўна, праводзіліся і палітзаняткі (як адзначалася ў адным з дакументаў «Смерш», «палітпадрыхтоўка ў нацыяналістычным духу»). Як можна меркаваць, галоўным прамоўцам на іх быў капітан/маёр Усевалад Родзька.

Праводзіліся вечары «мастацкай самадзейнасці», на якіх жаўнеры спявалі вайсковыя і народныя песні, чыталі вершы, апавяданні, паказвалі «сцэнкі з жаўнерскага жыцьця».[210]

*«Усім тым, хто падрыхтоўваўся, былі выдадзеныя адмысловыя пасьведчаньні, у якіх было сказана, што пры легітымацыі асобы не пытаць, хто ён і што робіць,* — піша ў сваіх успамінах

---

[203] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 132.
[204] Беларуская думка (Мінск), 1997, № 1. С. 147.
[205] Чуев С. Диверсионные службы третьего рейха против СССР // Диверсанты третьего рейха. — Москва: «ЭКСМО», 2003. С. 288.
[206] НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 180.
[207] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 128.
[208] Тамсама. С.128.
[209] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 108.
[210] К-н. Там, дзе куецца воля... // Раніца (Берлін), 1944, 10 снежня, № 53.

Кастусь Мярляк. — *Гэты дакумэнт быў вельмі карысны, бо ён гарантаваў недатыкальнасьць паліцыі й усіх іншых органаў бясьпекі Нямеччыны».*[211]

Паводле ўспамінаў А. Вайтовіча, у жніўні 1944-га склад Дальвіцкай школы прыцягваўся да сельскагаспадарчых працаў, працаваў на жніве.[212]

### *Падрыхтоўка радыстаў*

Паводле ўспамінаў Дз. Касмовіча, ці не галоўнай задачай «Дальвіца» была падрыхтоўка радыстаў.[213] На наш погляд, гэта не зусім адпавядае рэчаіснасці. Безумоўна, беларускае кіраўніцтва было зацікаўленае ў «спешнай падрыхтоўцы» радыстаў, якія былі неабходныя для наладжвання сувязі паміж антысавецкімі партызанскімі атрадамі ў Беларусі і штабам. Аднак колькасць людзей, якія праходзілі навучанне радыёсправе, была невялікай.

Спачатку радыстаў навучалі ў самой школе ў Дальвіцы. У пачатку жніўня 1944 г. на курс былі залічаныя Тамара Чэрамшагіна, Вера Краскоўская, Людміла Рагуля (жонка Барыса Рагулі), Ніна Рагуля (жонка Міхася Рагулі), Люся Рудак (жонка Аляксея Рудака), Ніна Лабовіч, Ганна Еўса, Валянціна Васючонак (жонка дэсантніка Васючонка). У кастрычніку на курсы радыстак залічылі сяброўку СБМ Юзэфу Брэчку.[214] Падчас следства ў турме НКГБ В. Краскоўская скажа, што «ў выпадку адмовы навучацца ў гэтай школе ёй і яе сяброўкам нібыта пагражала б адпраўка на прымусовыя працы ў Нямеччыну».[215]

Некаторыя дзяўчаты пачалі сыходзіць з курсу ўжо на самым пачатку. Як сведчыць Кастусь Мерляк, «у канцы жнівеня прыехаў у лягер старшы лейтэнант Ю. Мазура, каб забраць зь лягеру сваіх сёстраў Вару й Таню».[216] Сыходзячы з «Дальвіца», восеннію 1944-га сваіх жонак забралі з сабой Барыс і Міхась Рагулі.

Дакладная колькасць дзяўчат і жанчын, якія праходзілі падрыхтоўку з лета 1944 г. да вясны 1945-га, невядомая. Я. Росцікаў і Я. Сямашка пішуць, што ў Данцыгу (там пазней праходзіла

---

[211] Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 33.
[212] Інтэрв'ю з Андрэем Вайтовічам, запісанае 12 жніўня 2004 года ў Слоніме. Цалкам змешчана ў «Дадатку».
[213] За вольную і сувэрэнную Беларусь. С. 207.
[214] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 17 траўня 2003 г.
[215] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 86.
[216] Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. С. 33.

падрыхтоўка радыстаў) навучаліся на радыстак «з дзесятак дзяўчат і жанчын». [217] Г. Сенюкоў удакладняе, што «спецыяльная школа разведчыкаў-радыстаў» знаходзілася ў раёне Данцыга.[218] Паводле І. Валахановіча, у спецыяльную школу разведчыкаў-радыстаў у раён Данцыга накіроўваліся для навучання радыёсправе толькі асобныя курсанты.[219]

Існуюць звесткі пра дзейнасць ва Ўсходняй Прусіі школы, у якой восенню 1944 г. праходзілі навучанне радыёсправе больш за 100 маладых беларусак, многія з іх былі сяброўкамі СБМ.[220] Аднак дакументальнага пацверджання гэтага факту пакуль няма.

Курс тых, хто навучаўся ад жніўня, быў закончаны 6 кастрычніка 1944 г. Пасля гэтага адбывалася персанальная падрыхтоўка радыстаў у адным з дамоў у вёсцы Кляйн-Габель у 10 кіламетрах ад г. Штаргарда ў заходняй Памераніі (цяпер г. Старгард-Шчэціньскі на тэрыторыі Польшчы). У прыватнасці, Вера Краскоўская-Давідчык была накіраваная ў лагер у Вальбуш (Вальдбуш, Вальбуж), дзе знаходзіўся ў той час «Дальвіц», 27 кастрычніка і там даведалася, што паляціць у Беларусь.[221]

З дэсантам 17/18 лістапада 1944 г. у Беларусь паляцелі дзве радысткі — Вера Краскоўская-Давідчык і Тамара Чэрамшагіна. З дэсантам 21 снежня 1944 г. былі адпраўленыя два немцы-радысты, што, праўдападобна, было абумоўлена спецыфікай задання групы Шпакава. Чэрамшагіна здолела пазбегнуць арышту і легалізавацца. Пошук яе савецкай дзяржбяспекай не спыняўся. У 1956 годзе прозвішча Чэрамшагінай было ў спісах былых камандасаў «Дальвіца», якіх расшуквалі на тэрыторыі Польшчы і СССР.[222]

Сярод радыстак таямнічай ды трагічнай з’яўляецца і постаць Ніны Лабовіч. У «Дальвіц» яна, як і большасць іншых дзяўчат,

---

[217] «Кот» прыгает в «пущу» (Были ли в Беларуси «лесные братья»?) //Завтра, 2003, 16 снежня, № 51; Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.
[218] Сенюков Г. Гейне против Абвера // 7 дней, 2006, № 17.\
[219] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 108.
[220] Ганна Лямко: Камандзіры казалі, што мы вучымся для далейшага змаганьня за вольную Беларусь // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2 (9). С. 129.
[221] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 86.
[222] Рашэтнік П. Сустрэчы на жыцьцёвым шляху // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1 (3). С. 146-147; Грыбоўскі Ю. Службы бяспекі ПНР і «беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх палітычныя цэнтры на Захадзе» (1945-1974) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 171.

трапіла выпадкова. Паводле адных звестак, яна была скінутая з дэсантам у Беларусь, паводле іншых — да канца вайны была ў «Дальвіцы». Сведчанні пра яе часам супярэчлівыя. Аднак пэўна, што яе пакуты са сканчэннем вайны не закончыліся.

Вось што ўспамінае Барыс Данілюк (ЗША): *«Мне было дзівам пачуць ад Зыбайла ў канцы 1944-га ці ў пачатку 1945-га года, што яна апынулася ў Дальвіцы і радысткай была пасланая на Беларусь, бо падчас нямецкае акупацыі яна ад беларускага руху трымалася здалёк... Тлумачыць ейную долю, відаць, трэба каханнем».*[223]

Паводле Данілюка, які спасылаецца на паведамленне Рыгора Зыбайлы, перад адлётам з дэсантам Ніна Лабовіч выйшла замуж за падафіцэра Булыгу, якога ведала яшчэ па працы ў Слоніме. *«Шкада, што дарэмна згінула з мужам вельмі прыгожая жанчына і прыкра, што з Дальвіца паўцякалі афіцэры, што іх выпраўлялі ў згубную дарогу...»,* — піша Барыс Данілюк.

Аднак, калі Булыга і, сапраўды, мог загінуць, дык Лабовіч па вайне апынулася на Захадзе (ёсць верагоднасць, што пасля дэсанту яна магла вярнуцца ў Нямеччыну праз лінію фронту). Як сведчыць Ю. Брэчка (Найдзюк), Лабовіч у траўні 1945-га разам з ёй прабівалася на Захад з Судэтаў: *«У Судэтах... дзяўчаты былі: Я, Ніна Лабовіч-Занкавіч (яна ўжо выйшла замуж за Аўгена Занкавіча, швагра Рудака), Анна Еўса... Я прыстала да групы Занкавіча, Ніны — на захад... Недалёка граніцы савецка-амерыканскай нас Саветы затрымалі і падзялілі: хлопцаў асобна і дзяўчат таксама па адной... Хлопцам таксама ўдалося ўцячы».*[224]

Як бачым, Ніну Лабовіч яна не называе ў ліку тых, хто здолеў уцячы на Захад. Але пазней яна туды патрапіць, магчыма, з дапамогай савецкіх спецслужбаў. Юзэфа Брэчка ўспамінае: *«Чула я, што працавала яна савецкай шпіёнкай і была злоўлена на амэрыканскай зоне ды засуджана».*[225]

Сярод тых, хто праходзіў навучанне радыёсправе, быў, як мінімум, адзін хлопец — Лявон Луцкевіч. Вось што ўспамінае пра гэта Кастусь Шышэя: *«Падрыхтоўкай да дэсантавання былі ахоплены ўсе, у тым ліку і дзяўчаты, якія вывучалі азбуку Морзе і рыхтаваліся стаць радысткамі. З імі азбуку Морзе вывучаў і Ля-*

[223] Ліст Б. Данілюка да аўтара ад 25 чэрвеня 2003 г.
[224] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.
[225] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 17 траўня 2003 г.

*вон Луцкевіч, бо іншыя функцыі, акрамя радыста, ён па стану здароўя (меў дрэнны зрок) выконваць не мог».*[226]

***Канспірацыя***

«У «Дальвіцы» ўсё павінна было трымацца ў сакрэце», — успамінае Юзэфа Брэчка (Найдзюк).[227] Былы дэсантнік Кастусь Казак сцвярджае, што ў «Дальвіцы» «былі групы сакрэтныя».[228] Але пры ўсім гэтым відавочна, што канспірацыя «Дальвіца» аказалася ненадзейнай. Тут і непрадуманая ды хаатычная вярбоўка людзей, цякучка кадраў. Многія дэсантнікі і праз паўтара месяца навучання ў разведвальна-дыверсійнай школе не разумелі, што мусяць трымацца канспірацыі ў кантактах са знешнім светам, а камандзіры ім гэтага не патлумачылі. Няйнакш як падарункам для савецкіх спецслужбаў можна назваць абвестку ў берлінскай газеце, якую далі падначаленыя Родзькі, Рагулі і Гелды:

«*Шукаюць*

***Сястру і брата** з вёскі Шкяліх, Глыбоцкае акругі, **шукае брат Іваноў Арсень**, 2. RAD. Lager Dallwitz, (5b) Post Bokellen bei Insterburg.*

***Родных і знаёмых** з Глыбоцкае акругі, шукаюць **Занковіч Аўгень, Станюш Кастусь, Латышонак Аляксандар, Савіцкі Юры, Рамза Янка, Умпіровіч Паўла, Хаткевіч Пётра, Нікіпіровіч Паўла, Шарабайка Хведар, Трубач Уладзімер, Машнюк Алег, Грыгор'еў Цімафей**. Пісаць па адрысу: — 2. RAD — Lager Dallwitz, (5b) Post Bokellen bei Insterburg».*[229]

Іншым «правалам» была пасылка лістоў сваякам з курсантамі, якія ляцелі ў Беларусь. Нам вядома, што ролю «паштальёна» ў Любчанскім раёне выконваў Андрэй Вайтовіч. Можна меркаваць, што і ў іншых дэсантнікаў, якія высадзіліся ў Беларусі ў верасні 1944-га былі лісты. Паводле Вайтовіча, Б. Рагуля, а значыць і іншыя камандзіры «Дальвіца», пра «пошту» не ведалі.[230]

Паводле некаторых звестак, нямецкае кіраўніцтва «Дальвіца» ўтрымлівала ў таямніцы канкрэтнае месца закіду дэсанту і шыфртабліцу. Беларускія камандзіры гэтага не ведалі. У сваю чаргу,

---

[226] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 129.
[227] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 года.
[228] Гл. інтэрв'ю К. Казака ў «Дадатку».
[229] Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня.
[230] Паведамленне А. Вайтовіча аўтару ад 13 жніўня 2005 г.

Родзька і Рагуля, незалежна ад немцаў, давалі перад адпраўкай заданні дэсантнікам па арганізацыі падпольных структур БНП і наладжванні сувязяў з асобнымі людзьмі, якія летам 1944-га не адступілі і засталіся ў Беларусі. *«Гэта не супярэчыла заданням абвера, але парушала правілы строгай канспірацыі і прыводзіла да правалаў»,* — піша Аляксей Салаўёў.[231]

### *Стратэгія Родзькі: ідэалагічна-палітычная падрыхтоўка дэсантнікаў*

Аналіз сведчанняў былых дэсантнікаў «Дальвіца» дазваляе зрабіць выснову, што беларускія камандзіры настройвалі людзей не на выконванне нямецкіх загадаў і барацьбу на баку Нямеччыны, а на змаганне за незалежную беларускую дзяржаву ў паваенных рэаліях. Нібыта, пасля капітуляцыі Нямеччыны мусіла пачацца вайна паміж заходнімі саюзнікамі і Савецкім Саюзам. І падчас яе вырашыцца лёс Беларусі... Спадзяванне (а ў многіх і вера) на такое развіццё падзеяў у Еўропе надавала сэнс падрыхтоўцы вайскоўцаў «Дальвіца» ў той час, калі ў паразе гітлераўскай Нямеччыны ніхто ўжо не сумняваўся. Тым большым было расчараванне, калі выявілася, што гэта былі толькі мроі.

Былая радыстка «Дальвіца» Юзэфа Брэчка (Найдзюк) праз дзесяцігоддзі пасля вайны пісала: *«Многа нашае вартаснае моладзі загінула непатрэбна, бо была фальшывая польская (з Англіі) прапаганда. Яны ўвялі і нашых правадыроў у блуд. Палякі (з Англіі) казалі: «Пакончаць з Нямеччынай і альянты пойдуць вайной на Саветы». Бо палякам так хацелася і свае мары прапаведвалі».*[232]

Але тады, у канцы вайны, беларускія камандасы верылі ў «стратэгію Родзькі». Вось што ўспамінае былы старшыня роты «Дальвіца» Сяргей Кажан, які вясной 1945-га ў працоўных лагерах вербаваў добраахвотнікаў:

*«У прыватных гутарках тлумачыў: наша задача — ваяваць за Беларусь. Мне пярэчаць, ды як жа ж, вайна ўжо вось-вось скончыцца. Тады я казаў, што, маўляў, даўно было вядома, што немцы вайну прайграюць. Саветы пруцца на захад. Тут іх сустрэнуць амэрыканцы й пагоняць назад. Пачнецца другая вайна. Вось у ёй*

[231] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 85.
[232] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 17 траўня 2003 г.

*мы й павінны ваяваць за Беларусь. У гэтай вайне Саветы сканаюць. Эўропай завалодаюць Амэрыка й Англія. І яны будуць вырашаць лёсы народаў. Прыводзіў прыклад Першай сусьветнай вайны, пасьля якой усе палітычныя ўмовы дыктавала Англія, менавіта зь яе дазволу Польшча захапіла Заходнюю Беларусь. Той, хто актыўна ваяваў, хутка вымотваўся й прайграваў, як тады Расея й Нямеччына. А іншыя пажыналі плады. Таму наша задача — чакаць часу, калі Беларусь пакліча бараніць сябе. Гэта была стратэгія Родзькі. З-за гэтае пэрспэктывы нашае барацьбы я й пайшоў да яго».*[233]

Прапаганда была як легальная, так і нелегальная. Вось што ўспамінае Ганна Лямко: *«Нам наш падкамандзір нават пераказвала зьмест нейкай падпольнай газэты ў кастрычніку 1944 году... Нам казалі, што трэба спыніць бальшавікоў, тады пасьля пачнецца вайна паміж Амэрыкай і СССР. Наша ўлада выявіцца як законны прадстаўнік беларускага народу і мы будзем яе (беларускай улады) войскам».*[234]

У кастрычніку-лістападзе 1944 года дэсантнікам, якія мусілі ляцець у Беларусь, палітычныя кіраўнікі гаварылі пра перспектыву правядзення ў пасляваенны час рэферэндума, на якім вырашыцца лёс Бацькаўшчыны. І іх нацэльвалі на прапагандысцкую працу сярод насельніцтва, каб забяспечыць «патрэбныя вынікі» галасавання.

*«Мы адгукнуліся на заклік Беларускай Незалежніцкай Партыі ляцець у акупаваную бальшавікамі Беларусь, каб падняць у насельніцтва дух хуткай свабоды,* — піша былы дэсантнік Кастусь Шышэя. — *Мы былі ўпэўненыя, што пасьля вайны ў Беларусі пройдзе рэфэрэндум пад міжнародным наглядам. А праз тое, што адна частка насельніцтва запалоханая расейска-бальшавіцкімі партызанамі, а другая — польскай АК — дык людзі ня змогуць зарыентавацца, за каго аддаць голас. Мы, прысутныя тут як незалежная збройная сіла, павінны былі падрыхтаваць насельніцтва і даказаць міжнародным прадстаўнікам, што Беларусь змагаецца за сваю незалежнасць. Беларускі дэсант прызямліўся ня з мэтай узрываць цягнікі ці разбураць дарогі, як пішуць цанаўскія кручкатворы, а менавіта будзіць народ да змаганьня за вольную Радзіму».*[235]

---

[233] Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.
[234] Ганна Лямко: Камандзіры казалі, што мы вучымся для далейшага змаганьня за вольную Беларусь // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9). С. 130.
[235] Шышэя К. Простая праўда // Наша ніва, 1998, 23 лістапада, № 22.

У іншай публікацыі К. Шышэя згадвае пра размову Барыса Рагулі з групай рагулёўцаў у Дальвіцы: *«У час размовы ён падкрэсліў, што мы паляцім у Беларусь для таго, каб весці агітацыю за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. І калі на міжнародных форумах будзе пастаўлена пытанне аб лёсе Беларусі, наш народ павінен выказацца за незалежнасць. А для таго, каб гэта здарылася, патрэбна народ падрыхтаваць. На Беларусь, мабыць, будзе прэтэндаваць не толькі Расія, але і Польшча».*[236]

Словы Шышэі пацвярджае і былы дэсантнік Мікола Рулінскі: *«Тлумачылі, якое мы маем заданьне на Беларусі. І ўсё было арыентавана на тое, што вайна сьпярша скончыцца, а тады распачнецца зноў. І мы павінны былі падрыхтаваць народ, каб пасьля было на што абапірацца...».*[237]

Вясной 1945 года Ўс. Родзька сярод сваіх паплечнікаў пачынае актыўна прапагандаваць БНР, як пэўны палітычны арыентыр. Як вядома, ніякіх рэальных структураў БНР на той час не існавала, а «прэзідэнт БНР» (паводле тэстаменту Васіля Захаркі ад сакавіка 1943 г.) Мікола Абрамчык знаходзіўся ў Парыжы. У прапагандзе сярод шэраговых дэсантнікаў выкарыстоўваўся пасыл пра незалежнасць іх фармацыі ад немцаў. Вось што ўспамінае Кастусь Казак: *«Родзька выступаў так: «Нас ніякія немцы больш не цікавяць. Мы больш з імі справы не маем. Мы з'яўляемся адзінкай самастойнай». Тады мы думалі, што будзем самастойныя, верылі».*[238]

***Гульня кіраўнікоў БНП з абверам***

З паказанняў арыштаваных у БССР дэсантнікаў «Дальвіца» Андрэя Вайтовіча і Івана Гінько вынікае, што Б. Рагуля і Ўс. Родзька спрабавалі весці гульню з абверам, паведамляючы яму дэзынфармацыю пра стан антысавецкага супраціўлення ў Беларусі і ролю ў ім БНП.

Вайтовіч, які дэсантаваўся ў верасні 1944-га, атрымаў ад Б. Рагулі загад перадаваць нямецкай разведцы ў радыёграмах альбо паведаміць пасля вяртання ў Дальвіц, што ў Беларусі актыўна дзейнічае супраць савецкіх уладаў Беларуская Незалежніцкая Партыя. На думку Рагулі, атрыманне такой інфармацыі мусіла

---

[236] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 131.
[237] Вяртаньне БНП... С. 47.
[238] Гл. інтэрв'ю з К. Казаком у «Дадатку».

прымусіць нямецкі бок прызнаць БНП як важкі фактар у антысавецкай барацьбе і аказаць партыі дзейную вайсковую і фінансавую дапамогу.[239]

Іван Гінько, які дэсантаваўся ў лістападзе 1944 г., атрымаў ад Усевалада Родзькі і Барыса Рагулі падобнае заданне. Больш таго, Гінько нават меў з сабой часткова зашыфраваныя запісы на беларускай мове — тэксты радыёграмаў, што ён мусіў перадаваць немцам пра «вынікі працы» ў савецкім тыле.

*«Паводле задумкі капітана РОДЗЬКІ, мы пасля перакідкі на тэрыторыю Беларусі, мусілі аб'явіць сябе «Беларускай Вайсковай Арганізацыяй» і паведаміць пра гэта немцам, каб стварыць у іх упэўненасць у тым, што мы дзейнічаем і ўжо паспелі ўстанавіць на месцы неабходныя сувязі,* — распавядаў падчас допыту ў турме савецкай дзяржбяспекі Гінько. — *Такім чынам, дзевяць тэмаў для тэкстаў чарговых радыёграмаў, якія былі ў адабраных у мяне запісах, прадугледжвалі інфармацыю немцаў аб няспынным росце нашых прыхільнікаў і развіцці дзейнасці «Беларускай Незалежніцкай Партыі», нават у тым выпадку, калі б гэта не адпавядала сапраўднасці... РОДЗЬКА і РАГУЛЯ абаснавалі гэтае ўказанне неабходнасцю пераканаць немцаў у тым, што «БНП» мае шырокія сувязі і падтрымку сярод насельніцтва Беларусі і такім шляхам прымусіць немцаў лічыцца з намі і фінансаваць арганізацыі беларускіх нацыяналістаў, якія знаходзіліся ў Нямеччыне».*[240]

Нават следчыя дзяржбяспекі былі азадачаныя такім прызнаннем Гінька: *«Непонятно, с какой целью вы намеревались обманывать немецкую разведку... Не путаете ли вы? Говорите правду»*. Але Гінько пацвердзіў, што гаворыць праўду.[241]

Ні Вайтовіч, ні Гінько не паспелі перадаць свае радыёграмы ў цэнтр. Таму праз іх запланаваная кіраўнікамі БНП гульня не прайшла.

### *Савецкая разведка і «Дальвіц»*

Разведвальна-дыверсійная школа ў Дальвіцы амаль адразу ж патрапіла ў поле зроку савецкай контрразведкі. Інфармацыя пра

---

[239] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 109.
[240] Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня.
[241] Тамсама.

яе ішла па некалькіх каналах: праз затрыманых у БССР парашутыстаў і праз савецкіх разведчыкаў. Паводле Д. Лофтуса, летам 1944 года «падчас эвакуацыі беларусаў-паслугачоў немцы вывезлі разам з імі рускіх шпіёнаў». *«Савецкая разведка ведала практычна пра кожны крок калабарантаў,* — працягвае Лофтус. — *Як сцвярджаюць, некалькі інфарматараў НКВД патрапілі ў падраздзяленне Ота Скарцэні і прайшлі навучанне і падрыхтоўку ў самім Дальвіцы. Яшчэ да таго, як Радаслаў Астроўскі пабываў на ўрачыстым выпуску тэрарыстаў і дыверсантаў з Дальвіцкай разведшколы СС, савецкая разведка ўжо распрацоўвала серыю аперацый па іх абясшкоджванні. Маючы данясенні сваёй агентуры, рускія схапілі практычна ўсіх».*[242]

Паўстае пытанне, якім чынам савецкія разведчыкі, якія патрапілі ў Дальвіц, перадавалі звесткі свайму кіраўніцтву? Былы афіцэр «Дальвіца» мяркуе, што для гэтага магла выкарыстоўвацца савецкая агентура, якая знаходзілася ў Прусіі. Да снежня 1944 года нямецкія спецслужбы здолелі выкрыць 4-5 такіх агентаў. Высветлілася, што яны маскаваліся пад «уласаўцаў», рускіх, літоўскіх і латышскіх эмігрантаў. Вось што распавядае гэты афіцэр: *«Яны маглі лёгка законспіравацца. Гестапа ўжо не спраўлялася з працай па татальнай праверцы дакументаў... На апошнім этапе вайны савецкая разведка перайграла немцаў у гэтым».*[243]

З іншага боку, маглі быць выпадкі, калі савецкія агенты, укаранёныя ў «Дальвіц», з'яўляліся ў савецкія спецслужбы пасля дэсанту. На дадзены момант вядомы толькі адзін такі факт — з'яўленне ў «Смерш» пасля дэсанту ў Польшчы Алега Стахоўскага.[244]

Звесткі пра афіцыйных супрацоўнікаў нямецкай выведкі і навучэнцаў школаў, якіх рыхтавалі да перакідкі ў савецкі тыл, савецкія спецслужбы атрымлівалі і з дапамогай аналізу і сістэматызацыі інфармацыі, атрыманай падчас допытаў арыштаваных дэсантнікаў. Напрыклад, у лістападзе 1944 года «Смерш» такім чынам сабраў звесткі на 75 чалавек, пераважна жыхароў Баранавіцкай і Вілейскай абласцей.[245]

---

[242] Лофтус Д., Севрук В. Секрет бригады «Беларусь» // Беларуская думка (Мінск), 1996, № 4. С. 122.
[243] Паведамленне аўтару ад 4 кастрычніка 2008 г.
[244] Ёрш С. Агенты дзьвюх выведак // Наша ніва, 2003, 22 жніўня, № 30.
[245] НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 182.

Для арыентыроўкі супрацоўнікаў вышуковых аддзелаў «Смерша» складаліся алфавітныя спісы, фотаальбомы і зборнікі асобаў, якія былі ў вышуку. У асобных выпадках таксама выкарыстоўваліся агенты-апазнаваццелі, завербаваныя з ліку арыштаваных (пажадана тых, хто здаўся сам). Яны дапамагалі апазнаваць «шпіёнаў, дыверсантаў і актыўных нацыяналістаў у савецкім тыле».[246]

Вядома, што ў лістападзе 1944 года ўпраўленне контрразведкі «Смерш» 2-га Беларускага фронту правяло маштабную аперацыю па пошуку нямецкіх агентаў. У ёй удзельнічалі 56 рухома-пошуковых груп, 61 рухомы патруль і 279 *«заградительных постов».*[247]

[246] Абрамов В. Смерш. Советская военная контрразведка против разведки Третьего рейха. — Москва: Яуза, Эксмо, 2005. С. 117-118.
[247] Тамсама. С. 84-85.

*Глава 2.*

# *Дыверсійна-выведчая дзейнасць*

## *АПЕРАЦЫІ «ДАЛЬВІЦА» Ў ПРЫБАЛТЫЦЫ І ВА ЎСХОДНЯЙ ПРУСІІ*

### *Вываз з Рыгі дэсантнікамі «Дальвіца» архіву і бібліятэкі Кастуся Езавітава*

Адной з нешматлікіх паспяховых акцый «Дальвіца» было ратаванне з акружанай Чырвонай Арміяй Рыгі архіву і бібліятэкі начальніка Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР палкоўніка/генерал-маёра Кастуся Езавітава. У аперацыі, якая была праведзеная ў пачатку кастрычніка 1944 года, удзельнічалі два дэсантнікі — Мікола Рулінскі і Філіп Давідчык. Абодва яны раней служылі ў Навагрудскім конным эскадроне, а пасля і ў батальёне Барыса Рагулі. Таму можна меркаваць, што якраз Рагуля і прапанаваў БЦР іх кандыдатуры.

Пра «Рыжскую аперацыю» вядома толькі з успамінаў Міколы Рулінскага.[248] Сам К. Езавітаў у паказаннях у турме савецкай дзяржбяспекі гэты эпізод апусціў (прынамсі, у апублікаваных паказаннях згадкі пра яго няма).

Дату паездкі Рулінскага і Давідчыка ў Рыгу мы вызначаем наступным чынам. М. Рулінскі сведчыць, што ў Берлін іх выклікалі ўжо з Вальбужа (Вальбуша), куды быў пераведзены батальён з Дальвіца.[249] Ёсць звесткі, што перавод адбыўся 29 верасня 1944 г.[250*] Значыць, паездка адбылася не ў верасні, а ў кастрычніку. Апошні штурм Рыгі савецкімі войскамі пачаўся ў ноч з 5 на 6 кастрычніка 1944 года, 10 кастрычніка яны ўшчыльную падышлі да латвійскай сталіцы, а з 12-га чысла пачаліся баі за горад, і да

---

[*] Аднак, верагодна, ён усё ж адбыўся ў кастрычніку, бо 15-17 кастрычніка навучэнцы школы яшчэ лавілі савецкіх дэсантнікаў у ваколіцах Дальвіца.

[248] Рулінскі М. Я ратаваў архіў генерала Езавітава...[урывак з інтэрв'ю, публікацыя С. Ярша] // Пагоня, 1998, 10 сакавіка, № 18; Рулінскі М.: «Мы павінны былі падрыхтаваць народ» [інтэрв'ю, публікацыя С. Ярша] // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 37-47; Ёрш С. Пра лёс архіву генэрала Езавітава // Беларус (Нью-Ёрк), 2003, № 480. Студзень, ды інш.

[249] Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 42.

[250] НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 180.

15-га кастрычніка Рыга была цалкам занятая Чырвонай Арміяй. Паводле Рулінскага, беларускія камандасы з’ехалі з Рыгі яшчэ да пачатку баёў у самім горадзе г. зн. да 12 кастрычніка. Прыехалі ж яны туды ў той час, калі *«Чырвоная Армія абкружала Рыгу, ужо пад горад бальшавікі падыйшлі, але немцы іх адбілі»*.[251] Можна меркаваць, што гэта адбылося каля 10 кастрычніка. Паколькі ў Рызе Рулінскі і Давідчык знаходзіліся два дні, атрымліваецца, што гэтымі датамі могуць быць якраз 10-11 кастрычніка 1944 года.

Паводле М. Рулінскага, пытанне з архівам К. Езавітава вырашалася на ўзроўні Беларускай Цэнтральнай Рады:

*«Мяне выклікае Родзька і кажа: «Ёсьць загад табе зьявіцца ў Бэрлін, у Беларускую Цэнтральную Раду». Загад мне і Філіпу Давідчыку. Мы паехалі туды. Там нас сустрэлі Астроўскі, Рагуля, Езавітаў і яшчэ нейкія афіцэры. І яны кажуць: «Ёсьць такое вялікае вам заданьне. Трэба паехаць у Рыгу і забраць архіў Езавітава. Што вы там знойдзеце каштоўнага, тое бярыце»*.[252]

У Берліне М. Рулінскі і Ф. Давідчык атрымалі адмысловыя нямецкія дакументы, паводле якіх усе ўлады мусілі спрыяць ім у іх падарожжы. Рулінскі перакананы, што якраз яны і адыгралі важную ролю ў тым, што паездка аказалася паспяховай.[253]

Праз Літву камандасы дабраліся да Лібавы (Ліепаі), дзе селі на карабель, які ішоў у Рыгу. У латвійскай сталіцы Рулінскі і Давідчык адшукалі настаўніцу-сяброўку К. Езавітава, паказалі ёй свае дакументы і распавялі пра мэту прыезду. Яна адвезла іх на ўскраіну Рыгі, дзе знаходзіўся дом, у якім Езавітаў меў пакой.

*«З гаспадыняй дому размаўляла гэтая настаўніца, яна зь ёй ужо была знаёмая — раней наведвала Езавітава,* — успамінае Мікола Рулінскі. — *І тая гаспадыня кажа: «Калі ласка, вось яго пакой, рабіце, што вам трэба». Мы як зайшлі ў пакой, убачылі, што там усе сьцены, шафы ўсе закладзеныя кнігамі. А час у нас быў абмежаваны — Чырвоная Армія абкружала Рыгу, ужо пад горад бальшавікі падыйшлі, але немцы іх адбілі. Вось мы там два дні і дзьве ночы выбіралі кнігі... І дакумэнты, перапіску ягоную, трошкі асабістых рэчаў узялі. І нам ужо трэба было ехаць назад. Гаспадыня нам пасадзейнічала і мы зрабілі, зьбілі тры скрыні (паўтары мэтры на мэтар кожная)»*.[254]

---

[251] Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 43.
[252] Тамсама. С. 42-43.
[253] Тамсама. С. 43.
[254] Тамсама. С. 43.

Скрыні камандасы загрузілі на нямецкі вайсковы цягнік, які ішоў у Лібаву, а там яны пагрузіліся на карабель і ўдала дабраліся да Данцыга (Гданьска). Адтуль на цягніку яны прыехалі ў Берлін у Беларускую Цэнтральную Раду. Як сведчыць Рулінскі, там у іх вяртанне ніхто не верыў: «[Езавітаў] *нас абняў. Мы ж яго рэчы асабістыя прывезьлі: кашулі, патэфон з пласьцінкамі, сярод якіх была і пласьцінка «Мы выйдзем шчыльнымі радамі!». Ён вельмі задаволены быў, кажа: «Хлопцы, вы з таго сьвету зьявіліся!». А я гавару: «Вось бачыце, а як вы так нас з лёгкай рукі камандзіравалі туды?!».*[255]

Праз месяц, напярэдадні адлёту з дэсантам у Беларусь, Мікола Рулінскі (праўдападобна, як і Філіп Давідчык) атрымаў «беларускі медаль «За воінскую доблесць» з мячамі».[256]

Насамрэч, гэта мог быць нямецкі знак, якім узнагароджвалі прадстаўнікоў «усходніх народаў». Ён быў выраблены ў выглядзе зоркі з васьмю прамянямі з раслінным арнаментам у цэнтральным медальёне. За «храбрасць» узнагароджвалі зоркай з выявай двух скрыжаваных «рымскіх» мячоў, за «заслугі» — без мячоў. Права ўзнагароджвання меў міністр усходніх тэрыторый і генерал-інспектар усходніх войскаў Вермахту.[257]

Што да лёсу вывезенай з Рыгі часткі архіву і бібліятэкі К. Езавітава, дык яна патрапіла на Захад і была падзеленая групай беларускіх эмігрантаў. [258]

### *Акцыі супраць савецкіх дэсантаў*

Курсанты школы ўдзельнічалі ў некалькіх акцыях па пошуку ў навакольных лясах савецкіх парашутыстаў. Іх было, як мінімум, дзве. Адна адбывалася ў «Дальвіцкіх лясах» ў жніўні, а другая — у сярэдзіне кастрычніка.[259] Больш вядома пра апошнюю акцыю, якая папярэднічала перадыслакацыі разведвальна-дыверсійнай школы ў Вальбуж (Вальбуш).

*«У час прабывання ў Дальвіцы стала вядома, што недалёка выкінуты дэсант савецкіх войскаў,* — успамінае Кастусь Шышэя.

---

[255] Тамсама. С. 44.
[256] Тамсама.
[257] Окороков А. Награды Третьего Рейха для восточных народов // Антиквариат, предметы искусства и коллекционирования, 2004, № 12 (23). Цытуецца паводле перадруку на сайце text.uuu.ru.
[258] Ёрш С. У пошуках архіву Кастуся Езавітава // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 9-15.
[259] Коршуны из Дальвитца // Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.

*— Паступіла каманда аб неабходнасці прачэсвання лесу».*[260] Да акцыі быў прыцягнуты ўвесь асабісты склад школы.[261] Шышэя сведчыць, што «аперацыя па вылоўліванню савецкага дэсанта працягвалася каля трох сутак, але злавіць дэсантнікаў жывымі не ўдалося».[262] Праўда, ён сцвярджае, што была адшуканая і ўзятая ў палон «радыстка Валя». Яна і распавяла, што камандзір групы-маёр застрэліўся, а астатнія парашутысты загінулі ў лесе падчас прачэсвання. «Усё гаварыла за тое, што Валя не хлусіла», — успамінае Шышэя.[263]

Факт гібелі «ўсіх 6 дэсантнікаў» у кастрычніку, якія адмовіліся здавацца і загінулі ў баю з курсантамі школы, пацвярджае Я. Сямашка. Пра злоўленую радыстку ён не згадвае.[264]

Каб спраўдзіць інфармацыю пра радыстку, звернемся да нарыса палкоўніка Юрыя Ржэўцава «Спецыяльныя дыверсійна-разведвальныя групы аператыўнай разведкі Чырвонай Арміі, якія дзейнічалі ў тыле Ўсходне-Прускай групоўкі нямецка-фашысцкіх войскаў у наваколлі горада Інстэрбурга».[265] Па часе дэсанту і гібелі можна было б вызначыць, якая з спецыяльных дыверсійна-разведвальных групаў магла загінуць у баях з дэсантнікамі «Дальвіца».

Ва Ўсходнюю Прусію летам-восенню 1944 года былі закінутыя дзясяткі савецкіх дыверсійна-разведвальных груп, якія былі пасланыя альбо вайсковай разведкай, альбо органамі дзяржбяспекі. Большая частка з іх часткова ці ў поўным складзе загінула ў баях. Адной з галоўных іх мэтаў быў сакрэтны нямецкі ўмацаваны раён «Ільменхорст», цэнтрам якога быў горад Інстэрбург (цяпер — Чарняхоўск).

13 кастрычніка (недакладна, у некаторых крыніцах называецца пад пытаннем і 24 кастрычніка) 1944 г. у 20 кіламетрах на захад ад г. Інстэрбурга была дэсантаваная група «Док» 3-га (дыверсійнага) аддзела Разведупраўлення штаба 3-га Беларускага фронту. Яна складалася з 8 чалавек на чале з лейтэнантам Міхаі-

---

260 Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 129.
261 Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.
262 Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 130.
263 Тамсама.
264 Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.
265 Ржевцев Ю. Специальные диверсионно-разведывательные группы оперативной разведки Красной Армии, действовавшие в тылу Восточно-Прусской группировки немецко-фашистских войск в окрестностях города Инстербурга // http://www.angrapa.ru/index.php?option=com_content&task=view&id=194&Itemid=82

лам Прохаравым. Праўда, радыстку звалі не Валянціна, а Тамара Іванаўна Васільева. Юрый Ржэўцаў спасылаецца на архіўныя матэрыялы Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі, калі піша, што 24 кастрычніка 1944 года група «знікла без вестак падчас выканання баявога задання ў поўным складзе». Ёсць звесткі, што Васільева паспела перадаць адкрытым тэкстам развітальнае паведамленне: група акружаная і вымушаная прыняць апошні бой. Адзначым, што ў складзе групы «Док» былі, як мінімум, двое беларусаў-ураджэнцаў Докшыцкага раёна.[266]

У кастрычніку курсанты Дальвіцкай школы маглі ўдзельнічаць у пошуку і ліквідацыі спецыяльнай дыверсійнай групы «Сокал» 3-га аддзела Разведупраўлення штаба 3-га Беларускага фронту. У баях каля Інстэрбурга 16 кастрычніка 1944 года «зніклі без вестак» пяць дэсантнікаў, а сярод іх радыстка Анастасія Раманаўна Нагорскіх.[267]

У складзе дэсантных груп, закінутых ва Ўсходнюю Прусію, нам вядомая толькі адна «радыстка Валянціна» — Валянціна Іванаўна Алегіна. Яна была радысткай спецыяльнай дыверсійна-разведвальнай групы «Дзяцел» Разведупраўлення 3-га Беларускага фронту, якая дэсантавалася ў лясах каля Інстэрбурга ў ноч з 4 на 5 жніўня 1944 г. У тым жа жніўні 11 удзельнікаў групы, у тым ліку і В. Алегіна, зніклі без вестак.[268] Таму наўрад ці гэтая група пратрымалася да кастрычніка.

Існуе вялікая верагоднасць, што К. Шышэя «аб'яднаў» у адну дзве акцыі — жнівеньскую і кастрычніцкую. Да гэтай высновы падштурхоўваюць нядаўна апублікаваныя ўспаміны Аляксандра Стагановіча, які кароткі час знаходзіўся ў Дальвіцы ў жніўні 1944-га. Адразу па прыездзе знаёмыя яму распавялі, *«як учора недалёка ад лягеру апынуліся бальшавіцкія парашутысты, 13 жаўнераў і адна дзяўчына-радыст. З гэтай групы ўсяго адзін капітан уцёк, некалькіх злавілі жыўцом і некалькіх забілі. Дзяўчына вельмі плакала, яна баялася, каб немцы не расстралялі. Яна расказвала,*

266 Ржевцев Ю. Специальные диверсионно-разведывательные группы оперативной разведки Красно Армии, действовавшие в тылу Восточно-Прусской группировки немецко-фашистских войск в окрестностях города Инстербурга // http://www.angrapa.ru/index.php?option=com_content&task=view&id=194&Itemid=82
267 http://may1945-pobeda.narod.ru/nkvd-spiski0-r52.htm
268 Ржевцев Ю. Разведгруппы ГБ и ГРУ на территории Восточной Пруссии (Калининградская область) // http://may1945-pobeda.narod.ru/nkvd-spiski0-r44.htm

*што іх прывезьлі на лётнішча ў Маладэчна й не сказалі, куды палятуць. Ува ўсіх былі амэрыканскія кансэрвы з надпісам па-руску «Амэрыканская сьвіная тушонка».*[269]

Падчас другой акцыі, якая, праўдападобна, адбывалася 15-17 кастрычніка, панёс страты і «Дальвіц». Вось што ўспамінае Кастусь Шышэя: *«У час аперацыі смяротна паранілі і аднаго дальвіцкага навучэнца. Гэта быў зусім малады хлопец, таму яго смерць сябры ўспрынялі яшчэ з большым болем».*[270]

Паводле архіўных матэрыялаў, 16 кастрычніка загінуў стралец Ігнат Карсюк. Галоўным кіраўніцтвам Вайсковых спраў БЦР былі падрыхтаваныя зацемка і кароткі некралог на гэтую тэму. 29 кастрычніка 1944 года яны былі надрукаваныя ў берлінскай «Раніцы» з невялікімі зменамі. Прыводзім тут тэксты гэтых дакументаў, паводле арыгіналаў, якія захоўваюцца ў архіве Галоўнага кіраўніцтва Вайсковых спраў БЦР.

Хроніка беларускага жыцьця.

*Загінуў сьмерцю героя.*

*З аднаго з дзеючых беларускіх вайсковых аддзелаў прыйшла вестка аб геройскім змаганьні і сьмерці старшага стральца Ігната Карсюка, узнагароджанага бронзавым мэдалём за адвагу. Стралец Карсюк удзельнічаў 16-га кастрычніка ў бойцы з савецкімі парашутыстамі ў вадным з лясоў Усходняй Прусіі. У абставінах бою ён быў цяжка паранены ў грудзі і ў руку, але ня кінуў аружжа і, змагаючыся да апошняга, застрэліў яшчэ двох парашутыстых. Вынесены сябрамі з месца бою, ён памёр ад ран па дарозе ў шпіталь.*[271]

Старшы стралец

ІГНАТ КАРСЮК

загінуў сьмерцю героя ў бойцы з

парашутыстамі

16-га Кастрычніка г. г.

Аб месцы пахаваньня сваякі і знаёмыя могуць даведацца ў Канцылярыі Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў пры Беларускай Цэнтральнай Радзе.

---

[269] Стагановіч А. Успаміны пасла // Запісы БІНІМ, 2009, № 32. С. 317.

[270] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 130.

[271] НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 9, арк. 21, машынапіс.

*Кіраўнік Вайсковых Спраў БЦР.*[272]

Гібель Ігната Карсюка ў некаторай ступені справакавала канфлікт старшыны К. Шышэі з кіраўніцтвам школы. Пасля пахавання курсанта да Шышэі *«падыйшлі некалькі курсантаў і з абурэннем паведамілі, што, маўляў, нас забіваюць, мы амаль галодныя, а немцы ў той самы час сядзяць у сталовай, пякуць яйкі ды аб'ядаюцца, а з імі разам і рускія, якія перайшлі на бок немцаў і сталі з апошнімі супрацоўнічаць».*[273]

Шышэя, як «эмацыйны чалавек», узяў з сабой чатырох чалавек, пайшоў на кухню, забраў там напечаныя яйкі і аднёс у свой барак. «Загадчык складу Вульф» (насамрэч, фельдфебель Вульфан) паскардзіўся на Шышэю маёру Герулісу, а той абвінаваціў старшыну ў «мецяжы». Геруліс загадаў пасадзіць К. Шышэю пад варту, «на што іншыя курсанты адказалі абурэннем». Нямецкае кіраўніцтва школы загадала Б. Рагулю супакоіць сваіх падначаленых. Рагуля сустрэўся з Шышэям. Вось што згадвае апошні: *«Кастусь патлумачыў і Рагулі, што ён не дазволіць крыўдзіць сваіх сяброў. Мы, маўляў, ідзём амаль на смерць, а нехта нас яшчэ і аб'ядае. Рагуля, безумоўна, быў на баку сваіх беларусаў, але гаспадаром з'яўляўся там не ён».*[274]

Паводле ўспамінаў К. Шышэі, праз дзень уначы яго прывялі да Геруліса, у якога знаходзіўся Б. Рагуля. Шышэя па-ранейшаму не лічыў сябе вінаватым. І тут Геруліс, нібыта, сказаў такія словы: *«Ты нічога не разумееш: Вульф партыйны, а я — не. Таму, хаця я і начальнік, але ён мае большы ўплыў на вышэйшае камандаванне, чым я. І калі ў дадзеным выпадку Вульф разгневаўся, я абавязаны быў рэагаваць».* Шышэю пакармілі і зноў адвялі ў памяшканне, дзе ён адбыў трое сутак арышту. Сутычкі ў Шышэі з Вульфанам працягваліся і надалей.[275]

---

[272] Тамсама, машынапіс, тэкст абведзены ў рамку. У публікацыі ў берлінскай «Раніцы» тэкст быў крыху зменены:
«16-га кастрычніка г. г. загінуў сьмерцю героя у бойцы з савецкімі парашутыстымі старшы стралец ІГНАТ КАРСЮК.
Аб месцы і часе пахаваньня сваякі і знаёмыя могуць даведацца у Канцыляры Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Справаў пры Беларускай Цэнтральнай Радзе.» (Раніца, 1944, № 44, 29 кастрычніка).
[273] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 130.
[274] Тамсама.
[275] Тамсама. С. 130-131.

Як адзначае Яўген Сямашка, удзел курсантаў Дальвіцкай школы ў аблавах на савецкіх парашутыстаў стаў для іх «выкарыстаннем на практыцы атрыманых ведаў».[276]

## *АПЕРАЦЫІ «ДАЛЬВІЦА» Ў БССР*

### *Задачы першай дэсантнай групы, верасень 1944 года*

Першая група дэсантнікаў «Дальвіца» была закінутая ў БССР ужо ў верасні. У ноч з 16 на 17 верасня 1944 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі дэсантаваныя з нямецкага самалёта чатыры чалавекі: Андрэй Вайтовіч (паводле І. Валахановіча — камандзір групы) — на Дзятлаўшчыне (памылкова, бо планаваўся Любчанскі раён), Бяневіч — на Віленшчыне, І. Кароль і Б. Груздзеў — каля Смаргоні.[277]

Коратка прадставім удзельнікаў дэсанту. А. Вайтовіч, 1920 г. н., быў сябрам БНП з 1942 г. (паводле іншых звестак — з красавіка 1943-га), у 1943-1944 гг. служыў у Навагрудскім беларускім эскадроне, пасля — батальёне Б. Рагулі, меў рангу падафіцэра. У «Дальвіцы» ўзяў мянушку «Андрук».* І. Кароль, 1923 г. н., сябра БНП з верасня 1944 г., настаўнік. Бяневіч, жыхар Вільні, іншых звестак пра яго няма.

Радыст групы Груздзеў быў рускім па нацыянальнасці, ураджэнцам Сталінграда (недакладна). Яго закінулі ва Ўсходнюю Прусію ў складзе савецкага дэсанту, але ён трапіў у нямецкі палон. А. Вайтовіч сведчыць, што з нямецкага канцлагеру Груздзева вызваліў, на сваю адказнасць, Барыс Рагуля: *«Не было ў яго іншага выйсьця, бо радыстаў з беларусаў яшчэ не пасьпелі падрыхтаваць, а ў іх тады ўжо была патрэба».*[278]

---

* З паведамленьня А. Вайтовіча аўтару ад 13 жніўня 2005 г.: «У Дальвіцы, калі маёй дзяўчыне спадабаўся іншы, я неяк згубіў цікавасць да жыцця. Вырашыў застрэліцца. Але пасля перадумаў: «Гэта ж я падвяду нашых беларусаў». Пайшоў да Рагулі на кватэру, дзе ён жыў з жонкай. Люда гаворыць: «Шкада мне гэтага хлопчыка». Барыс кажа: «Слухай, нам патрэбна разведка ў Беларусі...».

[276] Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.

[277] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 108.

[278] Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 117.

Падобная вярбоўка савецкага радыста была досыць рызыкоўнай справай, бо пасля перакідкі ў савецкі тыл ён мог здацца. Значыць, немцы, даючы санкцыю на вярбоўку і дэсантаванне Б. Груздзева, мелі гарантыю, што гэтага не здарыцца. Вось якое меркаванне выказаў былы афіцэр «Дальвіца»: *«Немцы гэтым кiравалі. Магчыма, «хрысьцілі» яго. Мелі вялікі кампрамат».*[279]

Андрэй Вайтовіч перад адпраўкай у савецкі тыл атрымаў ад супрацоўніка разведвальна-дыверсійнай школы Вульфана заданне ўстанавіць размяшчэнне аэрадромаў на тэрыторыі Баранавіцкай вобласці, колькасць і тыпы самалётаў, найменні авіячастак, прозвішчы іх камандзіраў. Таксама ён мусіў збіраць звесткі пра дыслакацыю частак Чырвонай Арміі, пра групы нямецкіх акружэнцаў, якія хаваліся ў беларускіх лясах, праводзіць дыверсіі на чыгунцы (нібыта, для гэтага Вайтовіч мусіў выкарыстаць вугальныя міны). Для выканання гэтых заданняў А. Вайтовічу рэкамендавалася задзейнічаць сакрэтных супрацоўнікаў СД, пакінутых у Любчанскім, Смаргонскім і Навагрудскім раёнах.[280] Ён атрымаў ад абвера адпаведныя яўкі і паролі.[281] Ці спрабаваў іх выкарыстаць Вайтовіч, невядома.

Пра тое, якія заданні ад немцаў атрымалі іншыя ўдзельнікі дэсанту, інфармацыі няма. Але, відаць, ім, як і Вайтовічу, Барыс Рагуля загадаў не выконваць нямецкіх заданняў.[282]

Падчас допытаў 30 і 31 кастрычніка 1944 года Андрэй Вайтовіч паведаміў, што напярэдадні дэсанту задачы ад імя БНП яму паставіў Барыс Рагуля. Яны былі наступныя: распаўсюд «антысавецкай літаратуры», якую выдавала БНП (ён меў 12 асобнікаў трэцяга нумару «Бюлетэню БНП»), вывучэнне магчымасцяў дзейнасці ў Баранавіцкай вобласці па стварэнні ўзброенага антысавецкага падполля. Таксама ад Вайтовіча патрабавалася ўсталяваць сувязь ад імя БНП з камандаваннем аддзелаў АК, якія мусілі дзейнічаць у Баранавіцкай вобласці — «Гура» і «Вольскім».[283]

---

[279]Паведамленне аўтару ад 2 кастрычніка 2008 г.

[280] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 108-109.

[281] Еще раз о послевоенном бандитизме // Беларуская думка (Мінск), 1997, № 1. С. 148.

[282] Вяртаньне БНП... С. 35; Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 116.

[283] Беларуская думка (Мінск), 1997, № 1. С. 148; Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 109.

Рагуля і Родзька не ведалі, што гэтых аддзелаў АК у Налібоцкай пушчы ўжо не было — летам 1944-га яны накіраваліся ў Польшчу для ўдзелу ў Варшаўскім паўстанні.

Магчыма, меркавалася, што ў наладжванні кантактаў Вайтовіча з польскімі партызанамі дапаможа тое, што падчас нямецкай акупацыі ён дапамагаў зброяй і боепрыпасамі свайму сябру Янку Глускаму, дарэчы, беларускаму патрыёту, які сышоў з Навагрудскага эскадрона Рагулі ў лес да польскай АК.[284]

Вядома, што ў аддзелах АК у раёне Налібоцкай пушчы было нямала беларусаў, а некаторых з іх можна нават назваць беларускімі нацыяналістамі. Ужо пасля вайны спецслужбы ПНР характарызавалі былога жаўнера Стаўпецкага згрупавання АК, якім камандаваў паручнік Адольф Пільх («Гура»), Антона А. наступным чынам: *«У выніку допыту (...) высветлілася, што ён з'яўляецца беларускім нацыяналістам, варожа ставіцца да Польшчы і СССР, на сходах выступае супраць разнастайных дзяржаўных мерапрыемстваў».*[285]

Важны момант інструктажу Андрэя Вайтовіча з боку дзеячоў БНП — прызначэнне яго кіраўніком падполля БНП у Баранавіцкай вобласці. Вайтовіч атрымаў мандат наступнага зместу:

«ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ
БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЙ ПАРТЫІ

10 верасьня 1944.

Сябры БНП
Андруку.

Гэтым даручаю Вам аж да адкліканьня кіраўніцтва існуючымі адзінкамі БНП у Акрузе № 1, якроўна і далейшую разбудову БНП, а перад усім тварэньне і камандаваньне Штурмовымі Аддз[еламі] на прасторы Акругі. Бліжэйшыя інструкцыі і чародныя заданьні атрымаеце ад Упаўнаважанага БНП на Край.

Дакумэнт гэты зьяўляецца адначасова загадам для усіх існую-

---

[284] Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 112.

[285] Грыбоўскі Ю. Службы бяспекі ПНР і «беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх палітычныя цэнтры на Захадзе» (1945-1974) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 159.

чых і створаных у будучыні адзінак БНП на прасторы Акругі № 1. Даручэньні Сябры ***Андрука*** партыйнага характару на абшары гэтай Акругі маюць быць безоглядна выкананыя.

КІРАЎНІК ЦК БНП:
*Воўк*».[286]

Падобны мандат, толькі на арганізацыю і кіраўніцтва падполлем БНП у Вілейскай вобласці, атрымаў і І. Кароль. Праўда, у кастрычніку 1944-га ён перадаў гэтыя паўнамоцтвы Алегу Лапіцкаму.[287]

Адзначым, што Вайтовіч быў шэраговым сябрам БНП, які не меў досведу арганізацыйнай працы. Праўда, яго «партыйны стаж» быў значна большы, чым у Караля. Апошняга Родзька прыняў у БНП у пачатку верасня 1944-га, напярэдадні закіду ў БССР.[288]

Прызначэнне на пасады абласных партыйных кіраўнікоў Вайтовіча і Караля шмат пра што гаворыць. Наўрад ці ён спрабаваў ствараць паралельныя партыйныя структуры. Атрымліваецца, што, прынамсі, у Вілейскай і Баранавіцкай абласцях летам 1944 года не было пакінута абласнога партыйнага кіраўніцтва. Родзька нічога не ведаў пра сітуацыю ў гэтым важным для разгортвання антысавецкага партызанскага руху рэгіёне і пайшоў на такі авантурны крок.

Адпраўляючы першую групу дэсантнікаў, Барыс Рагуля гаварыў: *«Вось гэта нашыя першыя ластаўкі, каторыя нам дадуць знаць, першыя весткі, што там у нас, на Бацькаўшчыне робіцца»*.[289]

### *«Сакрэтнае зняццё» дэсантніка Андрэя Вайтовіча*

Канспірацыйная дзейнасць Андрэя Вайтовіча працягвалася менш за два тыдні. 28 верасня 1944 г. ён быў арыштаваны супрацоўнікамі НКГБ каля вёскі Баярскія Любчанскага раёна. Вось што паведамляецца пра гэта ў дакладной запісцы пра вынікі ма-

---

286 Щит и меч Отечества. С. 175.

287 Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 110-111.

288 Тамсама. С. 110.

289 Інтэрв’ю А. Вайтовіча, запісанае аўтарам у Слоніме 12 жніўня 2004 года. Цалкам змешчана ў «Дадатку».

савай вайсковай аперацыі, праведзенай часткамі ўнутраных войскаў НКВД Беларускай акругі с 2 да 6 кастрычніка 1944 года:

*«28.9.44 г. у выніку агентурнай распрацоўкі сакрэтна зняты нямецкі разведчык-дыверсант Вайтовіч Андрэй Філіпавіч, выкінуты нямецкім самалётам у ноч з 15 на 16.IX.44 г.[*] у раёне Беліца Дзятлаўскага раёна. Скінуты для збору і перадачы шпіёнскіх вестак і здзяйснення дыверсіяў на чыгунцы. Вайтовіч актыўны ўдзельнік «Беларускай незалежніцкай партыі», праводзіў вярбоўку сяброў БНП і распаўсюджваў прывезеную з Нямеччыны контррэвалюцыйную літаратуру».*[290]

У Вайтовіча былі знойдзеныя дакументы на імя сяржанта 44-га запаснога стралковага палка С. А. Сяргеева.[291]

Арышт А. Вайтовіча альбо «сакрэтнае зняццё» (як у дакуменце) сапраўды адбылося ў выніку «агентурнай распрацоўкі». Сам Вайтовіч праз гады гаварыў, што яго правал звязаны з упэўненасцю Барыса Рагулі ў надзейнасці ўсіх хлопцаў, якіх ён прымаў у БНП. *«Толькі каго спаткаеш з нашых сяброў БНП, сьмела можаш кантактаваць. Гэта надзейныя хлопцы!»*, — казаў Рагуля Вайтовічу.[292]

Пасля таго, як Вайтовіч прыйшоў з Дзятлаўскага ў Любчанскі раён, ён наведаўся ў вёску Рэвяцічы да сваякоў дальвіцкага курсанта Філіпа Давідчыка. Ён прывёз лісты да сваякоў ад некалькіх дальвіцкіх курсантаў, і стрыечная сястра Давідчыка Анфіса іх хутка паразносіла па адрасатах. Вось што ўспамінае Вайтовіч: *«Калі я ляцеў у Беларусь, вёз з сабой лісты да сваякоў ці не ад усіх нашых хлопцаў... Ці ведаў пра лісты Барыс? Не, не ведаў».*[293]

Ад Анфісы Вайтовіч даведаўся, што ў Чырвоную Армію не забралі братоў Паўла і Міхала Турайкевічаў, яны «забраніраваныя» і працуюць настаўнікамі. Паколькі час у яго быў абмежаваны, Вайтовіч вырашыў пайсці на кантакт з Паўлам Турайкевічам, з якім яго Б. Рагуля ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі

---

[*] Большасць іншых крыніцаў называюць часам дэсанту ноч з 16 на 17 верасня.

[290] Хацкевич А. Узлы развязывает время. Формирования польской Армии Крайовой на территории западных областей Белоруссии (1943 - 1944 гг.) // Нёман (Мінск), 1994, № 1. С. 148. У арыгінале — на рускай мове.

[291] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 109.

[292] Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 118.

[293] Паведамленне А. Вайтовіча аўтару ад 13 жніўня 2005 г.

прымаў у БНП. Вайтовіч паведаміў Турайкевічу, што прыйшоў час актывізацыі падполля БНП, распавёў яму пра «Дальвіц», даў даручэнні (найперш, пошук іншых сяброў БНП). Сустрэча адбылася ў вёсцы Голынь, дзе ў сваякоў хаваўся Вайтовіч. Там яго наведалі бацькі, якія прыехалі з Залозак. А. Вайтовіч сказаў бацьку, што трэба ў лесе знайсці пляцоўку пад аэрадром, і ён з дапамогай знаёмага лесніка гэта хутка зрабіў.

Праз некалькі дзён Вайтовіч перайшоў на хутар свайго хроснага бацькі Міхася Кавэліча каля вёскі Загор'е, дзе прабыў тры дні. Там яго наведваў Міхал Турайкевіч, якому таксама даваліся даручэнні.

*«А я верыў ім* [Турайкевічам], — успамінае А. Вайтовіч. — *Нават быў узрадаваны, што яны так актыўна мне дапамагаюць... Я сабраў патрэбныя весткі й мне трэба было паведаміць у Дальвіц, дзе чакалі паведамленьняў з Бацькаўшчыны».*[294]

Апошнім месцам, дзе хаваўся Вайтовіч, было гумно сваякоў у яго роднай вёсцы Залозкі. Напярэдадні ад'езду ў Смаргонь Андрэй Вайтовіч радзіўся з Паўлам Турайкевічам, як лепш туды дабірацца. Турайкевіч параіў, каб ехаў не ў вайсковай форме, а ў цывільным, даў яму даведку, выпісаную на Міхала Турайкевіча (аднафамільца брата Паўла), што яе ўладальнік едзе ў Смаргонь, каб убачыць брата-франтавіка. Разам з вайсковай формай Вайтовіч пакінуў зашытую ампулу з атрутай, не ўзяў, паводле парады П. Турайкевіча, і свой пісталет.

Праводзіць Вайтовіча да цягніка выклікаўся Павел Турайкевіч. Ён і завёў яго ў падрыхтаваную засаду каля вёскі Баярскія (Баярка) Любчанскага раёна. Першы допыт Вайтовіча адбыўся ў НКГБ у Любчы, на наступны дзень яго прывезлі ў Баранавічы, дзе ён прабыў 17 дзён. За гэты час дэсантніка вазілі ў Дзятлаўскі раён, дзе ён знайшоў схаваныя пасля прызямлення парашут і аўтамат. Далей Вайтовіча дапытвалі ў мінскай «амерыканцы», дзе яго пратрымалі да пачатку 1945-га. Быў арыштаваны і яго бацька, Філіп Вайтовіч, які пасля катаванняў у студзені 1945 года памёр у вагоне цягніка ў Мінску, калі яго везлі ў Расію.[295]

### *Агентурная справа «Кантакт»*

Вышэй была выкладзеная версія, якая пераважна грунтавалася на ўспамінах Андрэя Вайтовіча. А цяпер пазнаёмімся з версі-

---

[294] Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 119.
[295] Тамсама. С. 127-128.

яй КГБ СССР. Высвятляецца, што з распрацоўкі Вайтовіча распачыналася агентурная справа «Кантакт», у рамках якой быў затрыманы ў 1945 годзе Ўсевалад Родзька.[296]

Дэсантаванне А. Вайтовіча на Дзятлаўшчыне было заўважанае і на месца была высланая аператыўная група. Яна здолела адшукаць парашут, выбуховыя рэчывы, запас харчавання і аўтамат з трыма дыскамі набояў.[297] Далей версія дзяржбяспекі выклікае пытанні: *«У працэсе вышуку парашутыста ў раёне яго выкідкі сярод мясцовых жыхароў аператыўныя работнікі завербавалі некалькіх агентаў».* І неўзабаве агент «Альфрэд» паведаміў пра дзіўнае выказванне сваёй знаёмай — нібыта, неўзабаве пачнецца нямецкі наступ, у выніку чаго Чырвоная Армія будзе разбітая. Далей удалося высветліць, што гэтыя звесткі яна атрымала ад Вайтовіча, які, нібыта, прыбыў у кароткачасовы адпачынак з Чырвонай Арміі.[298] Аднак, нагадаем, Вайтовіч быў дэсантаваны памылкова ў Дзятлаўскім раёне. І калі аператыўнікі і праўда знайшлі яго парашут, дык яны не ведалі прозвішча дэсантніка, не ведалі, што агентаў трэба вербаваць у Любчанскім раёне.

Адсюль можна меркаваць, што версія КГБ СССР падаецца ў «падпраўленым» выглядзе. І «кваліфікаванага агента» «Грыгор'ева» (Паўла Турайкевіча) не «падвялі» да Вайтовіча для «агентурнай распрацоўкі». Насамрэч, гэта Вайтовіч выйшаў на П. Турайкевіча, які аказаўся сакрэтным супрацоўнікам савецкай дзяржбяспекі, і паведаміў сваім куратарам пра сустрэчу. І толькі пасля гэтага пачалася аператыўная распрацоўка.

Далей версія таксама даволі сумніўная. А. Вайтовіч распавёў «Грыгор'еву», што з'яўляецца прадстаўніком *«партыі, якая змагаецца за стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы»*, але яе не назваў, толькі паабяцаў пазней азнаёміць з яе праграмай.[299] А, як вядома, А. Вайтовіч і П. Турайкевіч прымаліся ў БНП разам. І затрыманне Вайтовіча «камендацкім патрулём» праходзіла не падчас пасадкі ў цягнік *«з-за нібыта няправільна афармленых вайсковых дакументаў»*, а яшчэ па шляху на станцыю. Пра гэта сведчыць і Вайтовіч, і прыведзены вышэй дакумент аб яго «сакрэтным зняцці».

[296] Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. — Москва: Высшая школа КГБ СССР, 1957. С. 21.
[297] Тамсама.
[298] Тамсама. С. 21-22.
[299] Тамсама. С. 22.

Пасля затрымання Вайтовіч распавёў, што разам з ім былі дэсантаваныя яшчэ трое чалавек — Кароль, Бяневіч і Груздзеў. Усе яны былі экіпіраваныя ў форму сяржантаў Чырвонай Арміі, мелі адпаведныя дакументы і самае галоўнае — рацыю. Таксама Вайтовіч сказаў, што дамовіўся з Каралём сустрэцца 30 верасня ў вёсцы Перавоз каля Смаргоні.[300]

### *Дзейнасць у Беларусі ў верасні-кастрычніку 1944 года Караля, Груздзева і Бяневіча*

Пасля дэсанту на Смаргоншчыне І. Кароль і Б. Груздзеў накіраваліся ў Браслаўскі раён у родную вёску першага — Пушчу. Паводле І. Валахановіча, з сабой яны ўзялі рацыю, свае рэчы і нават парашуты, якія схавалі ўжо на Браслаўшчыне.[301] Гэтыя іх дзеянні здзіўляюць, бо парашуты прасцей было б схаваць у раёне, дзе яны дэсантаваліся, а не браць з сабой у няблізкую дарогу. Дзіўна і тое, што Кароль і Груздзеў адразу пасля дэсантавання на Смаргоншчыне пайшлі ў Браслаўскі раён. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што Б. Рагуля мог забараніць ім выконваць нямецкія загады і сэнсу знаходзіцца пад Смаргонню да ўмоўленага часу сустрэчы з Вайтовічам не было.

Нагадаем, што Вайтовіч мусіў сустрэцца з Каралём і Груздзевым ў вёсцы Перавоз у хаце сваячкі дальвіцкага курсанта М. Кабака. Запасным варыянтам для сустрэчы была вёска Карпілаўка Смаргонскага раёна.[302]

У вёсцы Пушча Браслаўскага раёна дэсантнікі спыніліся ў сваяка Караля К. Пажарскага. Яны прабылі там некалькі дзён, спрабавалі звязацца па рацыі з абверам, але нічога не атрымалася.* Пасля гэтага І. Кароль вырашыў выконваць заданні, атрыманыя па лініі БНП. Нагадаем, загадам старшыні ЦК БНП «Ваўка» (Усевалада Родзькі) ён быў прызначаны кіраўніком партыйных структур у Вілейскай вобласці і мусіў іх разбудо-

---

* Варта заўважыць, што і дзве радысткі дэсанта лістапада 1944-га не змаглі па рацыі звязацца з цэнтрам. Выпадковасць?

300 Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. С. 23.

301 Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 110.

302 Тамсама. С. 109-110.

ўваць. Кароль меў пры сабе 10 асобнікаў «Бюлетэню БНП», партыйную праграму і інструкцыю па арганізацыі партыі.[303]

Сваю арганізацыйную працу І. Кароль праводзіў у двух накірунках: вярбоўка ў БНП людзей і пошук сувязі з атрадамі «лясных братоў». Па дарозе з Браслаўшчыны ў Смаргонскі раён Кароль і Груздзеў зайшлі ў вёску Вялікае Сяло Шаркаўшчынскага раёна да жонкі дальвіцкага курсанта Сяргея Кажана. Яна арганізавала сустрэчу са стрыечным братам мужа Лагуном. Апошні паабяцаў дэсантнікам, што дапаможа ім звязацца з узброенымі антысавецкімі атрадамі. Для перадачы камандзіру партызанаў Кароль пакінуў Лагуну праграму і некалькі нумароў «Бюлетэню БНП», але той сувязі з «ляснымі братамі» не ўстанавіў.

На Смаргоншчыне Кароль і Груздзеў не дачакаліся Вайтовіча і паехалі ў Вільню да Бяневіча.[304] Яны не ведалі, што па іх следзе ўжо ідуць аператыўнікі савецкай дзяржбяспекі. Паколькі Вайтовіч быў затрыманы 28 верасня, а сустрэча была прызначаная на 30 верасня,[305] дзяржбяспека паслала ў Перавоз свайго дасведчанага агента «Асінскага» са спазненнем. Ён быў у складзе агентурна-аператыўнай групы. «Асінскі» з’явіўся да сваячкі Кабака, у выпадку, калі там былі дэсантнікі, мусіў сябе выдаць за сувязнога Вайтовіча.* Жанчына распавяла, што двое сутак у яе хаце жыў сяржант, які чакаў свайго таварыша, сыходзячы ён пакінуў для яго адрас: Піўная, 2. [306]

Чэкісты не здолелі адразу высветліць, у якім горадзе знаходзіцца гэтая вуліца. Таму «Асінскага» адразу ж адправілі з адпаведнай легендай у Браслаў да лекара «Даўжэнкі» (запасны варыянт сувязі дэсантнікаў, пра які распавёў Вайтовіч). Аднак той нічога пра Караля не ведаў і параіў «Асінскаму» звярнуцца да Пажарскага ў вёску Пушча.[307]

---

* Паводле легенды, апошні пашкодзіў падчас прызямлення нагу і таму асабіста не мог прыехаць на сустрэчу.

[303] Тамсама. С. 110.

[304] Тамсама.

[305] Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. С. 23. Аднак у іншай крыніцы называецца 1 кастрычніка 1944 г. Гл.: Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 111.

[306] Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. С. 23; Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 111.

[307] Тамсама.

Пра дзейнасць Бяневіча вядома толькі тое, што ён спрабаваў устанавіць сувязь з літоўскімі партызанамі. Кароль прапанаваў Бяневічу заставацца ў Вільні і спрабаваць выйсці на літоўскіх «лясных братоў». Пасля гэтага Кароль і Груздзеў вярнуліся ў Браслаўскі раён, дзе каля в. Пушча зноў паспрабавалі звязацца па рацыі з кіраўніцтвам разведшколы, але зноў няўдала. Тады яны вырашылі вярнуцца ў Дальвіц праз лінію фронту.[308]

Перад сваім сыходам Кароль і Груздзеў завербавалі некалькі чалавек у БНП. Кароль прыняў у партыю настаўніка І. Баркоўскага, які жыў у вёсцы Зарэчча Браслаўскага раёна, а таксама свайго стрыечнага брата М. Петкуна з в. Лікута Браслаўскага раёна, які хаваўся ад прызыву ў Чырвоную Армію. І тут дэсантнікі зрабілі неардынарны крок. Паколькі Пяткун служыў у польскім войску радыстам, яны вырашылі яго выкарыстаць у далейшым. М. Петкуну пакінулі рацыю, код і шыфры, дамовіліся пра ўстанаўленне сувязі пасля пераходу імі лініі фронту. Пяткун і Пажарскі атрымалі ад Караля і Груздзева па пісталеце «Вальтэр». Пасля гэтага дэсантнікі зноў паехалі ў Вільню да Бяневіча.[309]

Чэкісты ішлі па слядах Караля і Груздзева, але пакуль не паспявалі за імі. У вёсцы Пушча «Асінскі» звярнуўся да Пажарскага, які пасля праверкі пазнаёміў яго з Баркоўскім і Петкуном. Апошнія распавялі, што з-за пашкоджання рацыі і адсутнасці сувязі з цэнтрам Кароль вырашыў перайсці лінію фронту і паехаў у Вільню.

Аператыўнікі ўстанавілі, што якраз у Вільні і знаходзіцца «Піўная, 2» — «явачная кватэра» І. Караля. Праверка паказала, што ў кватэры па гэтым адрасе жыве маці чацвёртага дэсантніка Бяневіча. Праз яе «Асінскі» пазнаёміўся з сябрам Бяневіча «Ларчанкам» (Алегам Лапіцкім?), ад якога даведаўся, што Бяневіч ужо сышоў за лінію фронту, а Кароль і Груздзеў паехалі ў Гродна, і таксама збіраюцца сыходзіць за лінію фронту.[310]

Па дарозе ў Вільню ў Смаргоні Кароль выпадкова сустрэў настаўніка з в. Залессе Смаргонскага раёна Віктара Казлоўскага*, з якім раней вучыўся ў Віленскай настаўніцкай семінарыі. Ён

---

* Пра жыццёвы шлях Віктара Казлоўскага гл. наступную публікацыю: Казлоўскі М. Настаўнік // Куфэрак Віленшчыны (Маладэчна), 2003, № 1(8). С. 128-134.

[308] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 110.

[309] Тамсама. С. 111.

[310] Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. С. 23-24.

прапанаваў Казлоўскаму ўступіць у БНП, і той пагадзіўся. У Вільні Кароль сустрэўся з Алегам Лапіцкім, навучэнцам Віленскай настаўніцкай семінарыі. І. Валахановіч піша, што Лапіцкага Кароль прыняў у БНП і прапанаваў яму ачоліць кіраўніцтва падпольнай партыйнай працай у Вілейскай вобласці. Той пагадзіўся і атрымаў адрасы Казлоўскага і Баркоўскага.[311]

Цікава, што Алег Лапіцкі ўжо быў сябрам БНП з вясны 1944 года, таксама ён быў далучаны да арганізацыі сеткі антысавецкага супраціву — «Чорнага Ката». Больш таго, паводле некаторых звестак, ён, пад псеўданімам «Алег Папковіч», летам 1944-га мусіў ачоліць партызанскі атрад «Сталіца».[312] Аднак Лапіцкі быў дэзарыентаваны загадам Родзькі далучыцца да арганізацыі партызанскіх атрадаў «каліноўшчыкаў», таму не з'явіўся на месца збору атрада «Сталіца».[313]

Ці праводзіў ён якую-небудзь арганізацыйную працу ў ліпенікастрычніку 1944 года, дакладна невядома. Аднак правал Караля і Груздзева прывёў і да арышту Алега Лапіцкага дзесьці ў лістападзе 1944 года.

Прыехаўшы ў Гродна, Кароль і Груздзеў завербавалі ў сябры БНП былых навучэнцаў Віленскай настаўніцкай семінарыі Л. Ліванчука і М. Філіповіча. На той час яны працавалі ў мясцовым Беларускім ансамблі песні і танцаў. У яшчэ аднаго працаўніка гэтага калектыву — Дзмітрыя Рулінскага (брата дальвіцкага курсанта Міколы Рулінскага) — Кароль даведаўся адрас Вайтовіча — вёска Залоскі Любчанскага раёна. Пасля гэтага дэсантнікі змянілі планы і, замест пераходу лініі фронту, вырашылі пашукаць Вайтовіча. Аднак 30 кастрычніка 1944 г. на чыгуначнай станцыі ў Лідзе яны патрапілі пад праверку дакументаў, якую праводзілі супрацоўнікі транспартнага аддзела НКГБ. Кароль аказаў узброенае супраціўленне і стрэламі з пісталета параніў супрацоўніка савецкай дзяржбяспекі. Б. Груздзеў і І. Кароль былі арыштаваныя. Былі арыштаваныя і выкрытыя чэкістамі «пасобнікі» дэсантнікаў. Пра арышт Бяневіча звестак няма. [314]

---

[311] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 111.
[312] Беларускі Супраціў. С. 106.
[313] Паведамленне былога афіцэра «Дальвіца» ад жніўня 2006 г.
[314] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 110-111.

### *Узбраенне «экспедыцыйных групаў»*

З прыведзенай вышэй інфармацыі вынікае, што дэсантнікі верасня 1944 года былі ўзброеныя аўтаматамі і пісталетамі. Тыя ж Кароль і Груздзеў перадалі сваім завербаваным у Беларусі памочнікам пісталеты «Вальтэр».[315] Група Шпакава, якая пасля дэсанту ў снежні 1944 года пратрымалася на тэрыторыі Мінскай вобласці тыдзень, мела на ўзбраенні 4 аўтаматы, 8 пісталетаў, 10 гранат, а таксама два грузы з гранатамі і боепрыпасамі.[316]

Сярод вядомых нам дэсантных групаў «Дальвіца» найлепш быў узброены і забяспечаны атрад, закінуты ў БССР у ноч з 17 на 18 лістапада 1944 г. Паводле В. Конюха, на ўзбраенні яго атрада былі: малакаліберны мінамёт, ручны кулямёт Дзегцярова, аўтаматы і па 100 патронаў да іх, пісталеты і па 50 патронаў да іх, вінтоўкі савецкай вытворчасці, а таксама выбухоўка, міны і ручныя гранаты.[317]

Я. Гінько сцвярджае, што ўзбраенне было больш сур’ёзным: *«Акрамя асабістай зброі, якую меў кожны з дыверсантаў, з самалёта было скінута на грузавых парашутах: 4 мінамёты, 2 кулямёты, 15 аўтаматаў «ППШ», 10 рускіх вінтовак, з іх 5 дзесяцізарадных, патроны».*[318]

Паводле вядомага нам дакумента «Смерш», група Мікалая Вітушкі *«была забяспечана вялікай колькасцю выбуховых рэчываў»* (талавыя і дынамітныя шашкі, магнітныя міны ды іншае), мела два лёгкіх мінамёты і чатыры кулямёты *«з вялікім запасам мінаў і патронаў да іх».* Кожны дэсантнік быў узброены аўтаматам альбо вінтоўкай, пісталетам, гранатамі, меў прадукты харчавання з разлікам на 10 дзён і па 5 тысяч рублёў савецкіх грошай. Таксама з самалёта скідаўся груз харчавання на ўвесь атрад і інструменты для абсталявання зямлянак.[319]

---

[315] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 111.
[316] Тамсама. С. 114.
[317] Еще раз о послевоенном бандитизме // Беларуская думка (Мінск), 1997, № 1. С. 146; Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 85-86.
[318] Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня.
[319] НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 181. Аднак атрад не змог сабрацца разам, скінуты груз быў страчаны.

### *Задачы, пастаўленыя дэсанту 17/18 лістапада па лініі БНП*

Успаміны былых афіцэраў «Дальвіца», сяброў БНП змяшчаюць нямала недакладнасцяў. І гэта не дзіўна, бо часам яны пішуць пра падзеі, пра якія чулі, але непасрэдна не мелі да іх дачынення. Да таго ж час сцірае ў памяці дэталі, даты... Паводле версіі Дз. Касмовіча, у верасні 1944 года ў БССР была закінутая група з трох разведчыкаў. Касмовіч працягвае: *«Хутка, пасьля атрыманьня ад іх першай адпаведнай інфармацыі аб згрупаваньнях, разьмяшчэньні асноўных партызанскіх групаў і добрым супрацоўніцтве зь мясцовым насельніцтвам і трагічнай сытуацыі тэрору НКВД над пазасталымі жыхарамі Беларусі, была высланая на Бацькаўшчыну другая лучніковая сяміасабовая група радыстаў сябраў БНП, а затым уначы з 30 лістапада на 1 сьнежня 1944 г., пасьля атрыманьня паўторнай весткі з краю, ЦК БНП выслала трэцюю, добра падрыхтаваную і забясьпечаную групу з 27 асобаў сяброў БНП, з адпаведнай зброяй, радыёапаратурай, лячэбнымі сродкамі і мэдычным пэрсаналам пад камандаю сябра ЦК БНП генэрала Міхася Вітушкі (ранг генэрала нададзены М. Вітушку прэзыдэнтам БЦР пасьля ягонай перакідкі на Беларусь)».*[320]

Міхась Зуй піша, што ў верасні 1944 г. *«з мэтай разведкі сытуацыі на Бацькаўшчыне, была спушчана з самалёту на Беларусь група з васьмёх чалавек».*[321]

***

Дэсант 17/18 лістапада 1944 г. можна разглядаць як перакідку ў Беларусь «аргядра» будучага антысавецкага паўстанцкага руху, што спрабавала арганізаваць БНП. Савецкая контрразведка чакала яго яшчэ ў кастрычніку 1944-га. Пра гэта сведчыць спецданясенне *«Аб мяркуемай перакідцы нямецкай разведкай на тэрыторыю Беларусі бандыцкіх узброеных груп»* начальніка памежных войскаў НКВД Беларускай акругі генерал-маёра Антонава, якое атрымаў першы сакратар ЦК КП(б)Б і старшыня СНК БССР П. Панамарэнка. Працытуем гэты дакумент:

«Паводле звестак УНКВД Брэсцкай вобласці вядома, што ў бліжэйшыя дні нямецкай разведкай рыхтуецца да перакідкі на тэрыторыю БССР вялікая колькасць бандыцкіх узброеных груп. Удзельнікамі бандгруп, якія фармуюцца, з’яўляюцца былыя слу-

[320] За вольную і сувэрэнную Беларусь. С. 208.
[321] Вяртаньне БНП... С. 78.

жачыя «Беларускай Самаабароны», якія прайшлі спецыяльную падрыхтоўку ў школах Усходняй Прусіі.

Групы, якія рыхтуюцца да перакідкі, маюць заданне ад нямецкай разведкі і нацыяналістычных арганізацый асесці ў лясах Беларусі і разгарнуць узброеную барацьбу супраць Савецкай улады шляхам прыцягнення на свой бок былых паліцыянтаў, нямецкіх стаўленікаў і ўдзельнікаў к[онтр] – р[эвалюцыйных] нацыяналістычных арганізацый.

Групы збіраюцца выкарыстаць у сваіх мэтах былыя партызанскія базы, аэрадромы і зямлянкі.

*Аб росшуку і затрыманні бандгруп, у выпадку з'яўлення іх у памежнай паласе, памежным атрадам дадзеныя адпаведныя ўказанні».*[322]

Арыштаваны 28 верасня 1944 г. дэсантнік Андрэй Вайтовіч паведаміў падчас допыту, што ў бліжэйшы час чакаецца выкідка *«кіроўнага штабу паўстанцаў на чале з Рагулям».*[323] Аднак Барыс Рагуля («Упаўнаважаны БНП на Край») «ў апошнюю хвіліну» адмовіўся ачоліць дэсантны атрад, складзены пераважна з яго былых байцоў (магчыма, што ён камплектаваўся якраз «пад Б. Рагулю»), і яго замяніў *«іншы афіцэр».*[324] Сам Б. Рагуля разам са сваёй жонкай Людмілай з'ехаў з «Дальвіца» ў Берлін.[*]

***

Пытанне, кім быў гэты «іншы афіцэр», дыскутуецца ад сярэдзіны 1990-х. Паводле афіцыйнай версіі, з атрадам дэсантаваўся маёр Міхал Вітушка і ўжо ў пачатку студзеня 1945 г. ён загінуў. Аднак апантаныя прыхільнікі гэтай версіі стварылі шэраг яе адгалінаванняў, канчаткова заблытаўшыся ў іх. На гэтыя «нестыкоўкі» намі была звернутая ўвага ў шэрагу публікацый.[325] У іх намі была прапанаваная версія «аперацыі прыкрыцця», якую маглі праводзіць нямецкія спецслужбы.

---

[*] Нечаканы ад'езд Барыса Рагулі нарадзіў сярод дэсантнікаў шэраг версій і нават легендаў. Адну з іх аўтару пераказаў Янка Жамойцін: «Мне нехта расказваў, што калі «Дальвіц» збіраўся ісці ў Беларусь, паўстала пытанне: хто яго павядзе? Галасы падзяліліся паміж Усеваладам Родзькам і Барысам Рагулем. Кінулі жэрабя і яно выпала на Рагулю, але той адмовіўся, і павёў Родзька» (Паведамленне Я. Жамойціна. Варшава, 27 кастрычніка 1997 г.).

[322] НАРБ, ф. 4п, воп. 29, спр. 61, арк. 180. У арыгінале — на рускай мове.

[323] Беларуская думка, 1997, № 1. С. 148.

[324] Kasiak I. Byelorussia. Historical outline. London: United Kingdom, 1989. S. 288.

[325] Ёрш С. Тайна генэрала Вітушкі // Беларус, 2002, № 474, ліпень; Беларускі Супраціў. С. 142-161; Ёрш С. Доўгі шлях да праўды // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(40. С. 10-32.

Як вядома, Міхаіл Вітушка быў прызначаны кіраўнікам канспірацыйнай арганізацыі «Чорны Кот», партызанскія атрады і падпольныя групы якой былі пакінутыя летам 1944-га ў Беларусі. Перакідка самога Вітушкі са штабам была здзейсненая ў канцы снежня 1944 года.[326] Верагодна, для ўвядзення ў зман савецкай дзяржбяспекі нямецкія спецслужбы выкарысталі дэсанты «Дальвіца». На час восені 1944-га дэсантнікі атрымалі мінімальную падрыхтоўку, што лічылася дастатковым для выканання ўскладзеных на іх задач (фактычна, немцы намагаліся выкарыстаць «Дальвіц» як «гарматнае мяса», чаму супраціўляліся беларускія камандзіры). Паводле задумкі, у Беларусь збіраліся перакінуць некалькі «Вітушкаў», прычым, як мінімум, адзін сапраўды меў такое прозвішча.

Версія пра гібель Міхала Вітушкі ў студзені 1945 года ў Рудніцкай пушчы на Віленшчыне з'явілася дзякуючы аператыўнікам савецкай дзяржбяспекі. Гэта яны не разабраліся ў складанай гульні, якую вялі нямецкія спецслужбы і кіраўнікі беларускай падпольнай арганізацыі «Чорны Кот». Некалькі гадоў МГБ СССР верыла, што Вітушкі няма ў жывых, таму нават спрабавала наладзіць радыёгульню, нібыта, ад яго імя.[327] Пасля высветлілася, што яны памыліліся. Аднак афіцыйна гэта не было прызнана, таму міф дажыў аж да нашых часоў.

Захаваліся сведчанні маёра МГБ Віктара Іванова. У студзені 1955 года яго арыштавалі *«за измену родине»*, а насамрэч — за ўдзел у фальсіфікацыях крымінальных спраў у часы Берыі. Падчас следства ён распавёў шмат дзіўных рэчаў. Паводле яго словаў, яшчэ ў час вайны на загад Л. Берыі было выраблена больш за 4600 савецкіх пашпартоў узору 1939-1940 гг. на імёны *«наиболее активных предателей»*. Адной з задачаў гэтай акцыі было даказаць савецкае грамадзянства асобаў, якія да 1939 года жылі на тэрыторыі Польшчы, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Іваноў сведчыць, што гэтыя пашпарты падкладваліся арыштаваным, а таксама забітым *«противникам советской власти»*.[328]

З верасня 1944 г. да чэрвеня 1945 года В. Іваноў быў прыкамандзіраваны да асобай групы МГБ на тэрыторыі БССР. Дзей-

---

[326] Мазур Л. Выданьні МГБ і КГБ СССР сьведчаць пра беларускі паваенны антысавецкі Супраціў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6). С. 20.

[327] Зоров Н. Агент Муха — источник заразы // Советская Белоруссия, 2006, 11 лютага, № 28.

[328] Ёрш С. Стагодзьдзе Міхала Вітушкі // Наша ніва, 2007, 8 лістапада, № 41.

нічала яна і ў сумежных раёнах Літвы. Іваноў быў удзельнікам ліквідацыі атраду АК каля возера Кернава ў студзені 1945 года. Ён сведчыць, што ўдзельнічаў у апазнанні цела *«известного пособника немецко-фашистских оккупантов М.О. Витушки».* Апазнанне базавалася выключна на сведчаннях затрыманых партызанаў АК, бо даставіць труп у Мінск ці Маскву для дэтальнай экспертызы не было магчымасці. Труп быў эксгумаваны, паводле паказанняў некалькіх акоўцаў. Аднак у тым раёне ў той час дзейнічалі буйныя аддзелы АК, і чэкісты не хацелі абцяжарваць сябе трупам і яго пакінулі на месцы. В. Іваноў сведчыць, што да матэрыялаў справы быў прыкладзены пашпарт М.А. Вітушкі, які камандзір асобай групы МГБ атрымаў у Маскве.

У красавіку 1945 года некалькі членаў асобай групы, у тым ліку і Іванова, выклікалі ў Маскву для дачы тлумачэнняў па факце выяўлення *«М.А. Вітушкі»* іншым аддзелам МГБ і яго пакарання смерцю ў канцы лютага — пачатку сакавіка 1945-га. Сцвярджалася, што пры *«задержанном оказались немецкие документы на имя М.О. Витушки»*. Камісія МГБ зверыла паказанні прадстаўнікоў асобых груп і зрабіла выснову, што дзе б ні скончыў жыццё *«враг народа»*, неістотна. Усе чэкісты-аператыўнікі атрымалі вымовы за *«служебную халатность».*[329]

Гэтыя факты шмат што тлумачаць. Яны пацвярджаюць наяўнасць двайнікоў Міхала Вітушкі і сам факт існавання «аперацыі прыкрыцця». Насамрэч, каля возера Кернава загінуў Мікалай Вітушка, былы афіцэр Чырвонай Арміі, агент абвера, які неаднаразова перакідваўся з заданнямі ў савецкі тыл. Гэта ён ачольваў дэсант 17/18 лістапада 1944 года.

***

Пра тое, што атрад быў «аргядром», у некаторай ступені сведчыць яго склад: Мікалай Вітушка — афіцэр нямецкага войска, супрацоўнік абвера, удзельнік шматлікіх паспяховых рэйдаў у савецкі тыл, Іван Гінько — сябра ЦК БНП, «палітрук»; Глеб Багдановіч — маёр медыцынскай службы, сябра БНП; лейтэнанты Янка Барысік, Філіп Давідчык і Мікола Рулінскі, падафіцэры Сяргейчык, Макарэвіч, Сямашка, Грос; двое радыстак — Тамара Чэрамшагіна і Вера Краскоўская-Давідчык. Аднак былі ў яго складзе і, як падаецца, выпадковыя людзі, знаходжанне якіх у «аргядры»

---

[329] Тамсама.

здзіўляе (14-гадовы хлопчык Бычак, шафёр Б. Рагулі Куімаў ды інш.), але яны былі звязаныя з рагулёўцамі, і гэта многае тлумачыць.

Такім чынам, кіраўніцтва БНП ставіла перад атрадам задачу арганізацыі беларускага паўстанцкага руху. Дзеля дасягнення гэтай мэты дэсантнікі мусілі пачаць з прапагандысцкай дзейнасці і вярбоўкі людзей. *«У кожным буйным населеным пункце гэтага раёна я разлічваў завербаваць у сябры «БНП» аднаго, двух чалавек, якія маглі б мне пасадзейнічаць у наступных мерапрыемствах па арганізацыі паўстанцкага руху»,* — казаў падчас допыту І. Гінько.[330]

Аднак заданні, атрыманыя дэсантнікамі па лініі БНП, у шэрагу выпадкаў прыводзілі да правалаў. Прыгадаем хаця б выдачу савецкай дзяржбяспецы сябрам БНП П. Турайкевічам упаўнаважанага партыі на Баранавіцкую вобласць Андрэя Вайтовіча.

Некаторыя з удзельнікаў дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. мелі асабістыя заданні, атрыманыя ад кіраўнікоў БНП. А. Салаўёў адзначае, што В. Конюх *«меў асабістае заданне У. Ф. Родзькі».* Аднак, якога характару яно было, не ўдакладняе.[331]

*«Выкарыстоўваючы іх датычнасць да Беларускай незалежніцкай партыі, Б. Д. Рагуля мог даваць ім даручэнні па арганізацыі антысавецкага ўзброенага падполля і патрабаваць аднаўлення сувязяў з актыўнымі пасобнікамі акупантаў, якія засталіся ў Беларусі. Гэта не супярэчыла заданням абвера, але парушала правілы строгай канспірацыі і прыводзіла да правалаў»,* — піша Аляксей Салаўёў.[332]

І. Валахановіч дадае, што атрад Вітушкі мусіў стварыць базу ў Налібоцкай пушчы, «наладзіць сувязь з беларускім антысавецкім падполлем», канспірацыяй польскай АК, нямецкімі дыверсійнымі атрадамі, фармаваннямі «ўласаўцаў», якія засталіся ў савецкім тыле. Відавочна, што гэта было нямецкае заданне. Нямецкая выведка таксама патрабавала ад атрада перадаваць звесткі пра дыслакацыю савецкіх вайсковых частак, праводзіць сярод насельніцтва антысавецкую прапаганду праз выпуск улётак.[333]

---

[330] Знамя юности, 1997, 14 жніўня.
[331] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 86.
[332] Тамсама. С. 85.
[333] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 112.

### *Фіяска на старце*

Дэсант «аргядра», як і дэсантнікаў у верасні 1944-га, калі шэрагоўцаў прызначалі партыйнымі кіраўнікамі абласцей, выклікае нямала пытанняў. Нагадаем, Андрэй Вайтовіч у Дальвіцы з-за няшчаснага кахання няўдала спрабаваў застрэліцца, а яго адправілі за лінію фронту камандзірам першай групы разведчыкаў. У Родзькі не склаліся адносіны са старшынём курсу К. Шышэем, і ён яго адпраўляе з дэсантам у Беларусь. Нібыта, пазбаўляўся ад «праблемных кадраў».

Атрад маёра Мікалая Вітушкі складаўся з 30 чалавек, з якіх дэсантаваліся толькі 27.* У лейтэнанта Міколы Рулінскага ў самалёце *«парашут выляцеў з упакоўкі»*, таму ён мусіў вярнуцца. Дакументы, грошы і пячаткі савецкіх установаў ён перадаў *«хлопцу, што скакаў».* Па вяртанні Рулінскі паведаміў Родзьку, што агулам не дэсантаваліся тры чалавекі.[334]

Хто ж мог вярнуцца з Рулінскім? У вядомых нам спісах затрыманых дэсантнікаў нідзе не пазначаны Ўладзімір Нагулевіч, якога згадаў на допыце І. Гінько, як удзельніка атрада, што ляцеў у Беларусь.[335] *«В. Негулевич»* праходзіць як удзельнік групы Ўс. Родзькі, якая ў чэрвені 1945 года прыбыла з Чэхіі праз Кракаў і Варшаву ў Беласток.[336] Верагодна, ён быў арыштаваны разам з Родзькам і іншымі дэсантнікамі. Пра яшчэ аднаго дэсантніка, які мог вярнуцца, нічога невядома.

Дэсантаванне групы Мікалая Вітушкі адбылося ў кепскіх метэаумовах, з вялікай вышыні і не ў той мясцовасці, што была запланаваная (Налібоцкая пушча). А падняўся самалёт на вялікую вышыню з-за таго, што быў абстраляны з савецкіх зянітак.[337]

---

* З-за таго, што дэсантаваліся не ўсе, у розных публікацыях называюцца розныя лічбы.

Напрыклад, паводле В. Сямашкі, дэсант складаўся з 28 чалавек. Гл.: Армія Краёва на Беларусі. С. 215. І. Валахановіч піша пра 27 чалавек і не згадвае, што некалькі чалавек вярнуліся. Гл.: Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 112.

[334] Вяртаньне БНП... С. 48. Як распавядаў сябра БНП Янка Жамойцін, некаторыя дэсантнікі пасля гаварылі, што «ці не сам Рулінскі сапсаваў сабе парашут?» (Паведамленне аўтару ад 27 кастрычніка 1997 г.).

[335] Знамя юности, 1997, 14 жніўня.

[336] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 34.

[337] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 132.

У выніку група не змагла сабрацца і разбілася на некалькі частак.

Камандзір групы маёр Мікалай Вітушка пасля прызямлення сустрэў толькі радыстку Тамару Чэрамшагіну, маёра Глеба Багдановіча, Міхася Шунько і Івана Грыгаровіча.* На працягу сутак яны спрабавалі адшукаць іншых дэсантнікаў, але нікога не спаткалі. Спробы звязацца з імі, а таксама з камандаваннем школы былі няўдалымі — ***рацыя была сапсаваная***.[338]

18 лістапада 1944 г., *«з дапамогай аднаго хутаранца»*, група М. Вітушкі вызначыла, што знаходзіцца каля чыгуначнай станцыі Салечнікі, у 120 кіламетрах ад таго месца, дзе іх мусілі скінуць.[339]

*«Адначасова з гэтым мы вызначылі, што мясцовасць, дзе мы прызямліліся, кантралявалася савецкімі войскамі, пасля чаго вырашылі перабрацца ў Рудніцкую пушчу»,* — гаварыў на допыце ў турме МГБ ў 1949 годзе Г. Багдановіч.[340]

Можна меркаваць, што такое рашэнне было абумоўлена жаданнем гэтай групы дэсантнікаў надзейна схавацца ад магчымых пошукавых аперацый «СМЕРШу» і войск НКВД. Але адыходзячы на поўнач ад месца дэсанту, Мікалай Вітушка фактычна пагадзіўся з тым, што сабраць усіх людзей ужо няўдасца.

Аднак толькі два тыдні яго група была «незалежнай», бо ўжо 3 снежня 1944 года ў Рудніцкай пушчы яна была ўзятая ў палон атрадам польскай Арміі Краёвай, які камандаваў «Комар». Пра затрыманне «беларускіх дыверсантаў» было паведамлена камандаванню Віленскай акругі АК. Яе камандзір «Корвель» у снежні 1944 года адмыслова наведаў атрад «Комара» для сустрэчы з Мікалаем Вітушкам. Паводле Г. Багдановіча, Вітушка падрабязна распавёў «Корвелю» пра мэты парашутыстаў. Пасля гэтай размовы камандзір Віленскай акругі АК загадаў залічыць беларусаў у атрад «Комара». Багдановіч прызнае, што «[мы] *вымушаны былі дзейнічаць па загаду кіраўнікоў АК і выконваць іх указанні».*[341]

Такім чынам, два афіцэры дэсанту (у тым ліку і яго камандзір) разам з адным з радыстаў не маглі выконваць пастаўленыя перад імі задачы і патрапілі пад польскае кіраўніцтва. 7 студзеня 1945 года падчас баявога сутыкнення з савецкімі войскамі ў раёне во-

* Я. Сямашка называе яго Грыгарцэвічам. Гл.: Семь дней (Мінск), 1994, 9 ліпеня, № 28; Армія Краёва на Беларусі. С. 217.

338 Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28; Белорусская нива, 2003, 26 сакавіка.

339 Армія Краёва на Беларусі. С. 217.

340 Тамсама.

341 Тамсама.

зера Кернава Вітушка быў забіты. Астатнія ўдзельнікі яго групы знаходзіліся ў атрадзе «Комара» да лютага 1945-га, калі іх перадалі ў іншы атрад АК пад камандаваннем «Мысьлівага».[342]

Як сведчыць Г. Багдановіч, удзельнікі атрада «Комара» праводзілі тэрарыстычныя акты супраць вясковага партыйна-савецкага актыву і савецкіх вайскоўцаў. Напрыклад, у снежні 1944-га у Тургельскім раёне былі забітыя старшыня сельсавета Васілеўскі, яго жонка і 14-гадовая дачка. Пра ўдзел у гэтых акцыях беларусаў Глеб Багдановіч нічога не паведаміў.[343] Аднак Ю. Грыбоўскі піша, што Глеб Багдановіч у складзе акоўскага аддзелу *«браў удзел у баявых аперацыях».*[344]

Да красавіка 1945-га Глеб Багдановіч знаходзіўся ў атрадзе «Мысьлівага», а пасьля захварэў і хаваўся ў мясцовых жыхароў. У траўні 1945 года ён наладзіў сувязь з групай АК пад камандаваннем «Лялюся» (сяржанта В. Янчэўскага) і разам з ёй у чэрвені (паводле І. Валахановіча, пераход адбыўся 29 ліпеня (паводле іншых звестак — 28 ліпеня) 1945 г.[345] нелегальна перайшоў у Польшчу. Падчас пераходу мяжы адбыўся бой з савецкімі памежнікамі. Пераход у Польшчу Багдановіч тлумачыў тым, што пасля знішчэння савецкімі войскамі шэрагу атрадаў АК, было атрыманае ўказанне *«з мэтай захавання кадраў перайсці на тэрыторыю Польшчы».*[346]

Глеб Багдановіч быў арыштаваны польскімі органамі бяспекі і перададзены савецкім уладам у 1949 годзе. У той час ён служыў старшым палкавым лекарам 62-га пяхотнага палка 18-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага. Яшчэ раней быў арыштаваны Міхась Шунько. На тэрыторыю Польшчы нелегальна перайшоў і Іван Грыгаровіч, які, нібыта, служыў у польскім войску ў ранзе паручыка. А вось сляды Тамары Чэрамшагінай «згубіліся».[347]

---

342 Тамсама.

343 Тамсама. С. 218.

344 Грыбоўскі Ю. Службы бяспекі ПНР і «беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх палітычныя цэнтры на Захадзе» (1945-1974) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 188.

345 Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 113; Грыбоўскі Ю. Службы бяспекі ПНР і «беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх палітычныя цэнтры на Захадзе» (1945-1974) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 188)

346 Армія Краёва на Беларусі. С. 218.

347 Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 113.

### *Затрыманне групы лейтэнанта Давідчыка*

У групе лейтэнанта Ф. Давідчыка, якая сабралася пасля дэсанту ў Воранаўскім раёне, налічвалася, паводле розных крыніцаў, 9-10 чалавек. Супярэчлівыя звесткі і наконт яе складу. Паводле К. Шышэі, акрамя яго былі ў групе Гінько, Мацук, Конюх, Бычак, Давідчык, Краскоўская, Федаровіч і Шляхтун — агулам 9 чалавек.[348] І. Валахановіч сцвярджае, што ў склад групы ўваходзіла 8 чалавек, але называе 10 асобаў: Давідчык, Конюх, Гінько, Сяргейчык, Мацукевіч, Краскоўская, Куімаў, Мацук, Шышэя, Шляхтун.[349] Гэтых жа асобаў назваў на допыце Павел Шляхтун,[350] які не згадаў ні Бычака, ні Федаровіча.

Верагодна, усё ж памыляецца Шышэя. Той жа С. Мацюкевіч распавядаў у турме А. Вайтовічу, што пасля дэсанту быў у адной групе разам з Мацуком, Шышэям і Шляхтуном.[351] У сваіх успамінах К. Шышэя распавядаў пра сустрэчу ў 1945 г. у камеры мінскай гарадской турмы з М. Бычком: *«Бычок... паведаміў, што выдаў яго Федаровіч»*.[352] Можна дапусціць, што пасля дэсанту Міхась Бычак і Эдуард Федаровіч апынуліся разам, але асобна ад групы Давідчыка. Да таго ж затрыманыя яны былі СМЕРШам яшчэ 18-21 лістапада ў раёне Яшуны — Вялікія Салечнікі.[353]

Падрабязныя ўспаміны пра знаходжанне на нелегальным становішчы пакінуў К. Шышэя. *«Крыху аглядзеўшыся, патрэбна было нешта хутка вырашаць, тым больш, што скінулі іх зусім не ў тым месцы, дзе планавалася»,* — успамінае ён.[354]

У в. Лаўрынкі Іўеўскага раёна (каля мяжы з Воранаўскім раёнам) яны здолелі наладзіць сувязь з партызанамі польскай АК. У лесе адбылася сустрэча з польскім капітанам, у якой удзельнічалі

---

348 Вяртаньне БНП... С. 66; Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 132-133.
349 Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 113-114.
350 NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. S. 165-166.
351 Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 122.
352 Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 155.
353 НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 178; Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 113.
354 Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 133.

І. Гінько і К. Шышэя. Гінько паведаміў, хто яны і з якой мэтай прыбылі, што чакаюцца новыя дэсанты. Папрасіў дапамогі, бо *«мясцовасць для беларускіх ваяроў зусім незнаёмая»*, а ім трэба перайсці ў Налібоцкую пушчу. Палякі дапамогу паабяцалі.[355]

Верагодна, і ў В. Краскоўскай-Давідчык не атрымалася звязацца па рацыі з цэнтрам, альбо рацыя была страчаная падчас дэсантавання. «Палітрук» Іван Гінько вырашыў падзяліць групу і частку людзей на чале з Давідчыкам адправіў у Налібоцкую пушчу ў спадзяванні адшукаць групу Вайтовіча. На месцы да часу вяртання разведчыкаў засталіся Гінько, Шышэя, Мацук і Конюх.[356]

Першым з групы Давідчыка быў затрыманы Павел Шляхтун. Як піша І. Валахановіч, здарылася гэта 24 лістапада *«па аператыўнай арыенціроўцы НКВД Літоўскай ССР у в. Агароднікі Лідскага раёна Гродзенскай вобласці».*[357] На допыце ён паведаміў: *«Пасля прызямлення нас сабралася 10 чалавек і пад камандаваннем Давідчыка Філіпа рушылі мы ў Баранавіцкую вобласць».*[358] Шляхтун пералічыў прозвішчы астатніх дэсантнікаў, назваў месцы ранейшага пражывання альбо нараджэння некаторых з іх. У дакументах МВД БССР адзначаецца, што дэсантнікі з групы Давідчыка былі затрыманыя 26-29 лістапада 1944 г., *«на падставе паказанняў Шляхтуна»*, і перададзеныя МГБ БССР.[359]

Аднак К. Шышэя найперш вінаваціць Ф. Давідчыка: *«У дадзенай сітуацыі Давідчык аказаўся не на ўзроўні пастаўленых перад ім задач. Замест таго, каб пайсці з групай у Налібоцкую пушчу, ён з жонкаю скіраваў дамоў. Там яго бацькі не прынялі Веры* [Краскоўскай]*, і яна вымушана была ісці да свайго дому — у вёску Краснае. Мабыць, там Веру і арыштавалі. А самога Давідчыка яго ж бацькі здалі органам НКВД. Больш таго, трапіўшы ў НКВД, Давідчык фактычна дапамог пералавіць учарашніх сваіх сяброў. Мала*

---

[355] Тамсама. С. 135.
[356] Тамсама. С. 136-137.
[357] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 113.
[358] NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz’nie i Grodzien’szczyz’nie. S. 165.
[359] Тамсама. S. 165-166; Невядома, хто з дэсантнікаў пасля прыдумаў версію пра «здраду» П. Шляхтуна. Яе ў сваіх успамінах пераказаў А. Вайтовіч: «У іх групе быў здраднік Шляхтун, які адразу пайшоў у міліцыю і ўсіх здаў». Гл.: Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 122. Як выглядае, уся «віна» Шляхтуна ў тым, што ён быў арыштаваны першым.

*лепшым у гэтым сэнсе аказаўся і Федаровіч. Следам за Давідчыкам па дамах разышліся і астатнія трое з яго групы».*[360]

Пра тое, што ўдзельнікі групы Давідчыка расцярушыліся пасля пераходу ў Навагрудскі раён, сцвярджае і І. Валахановіч.[361] З-за супярэчлівых звестак пра асабовы склад групы, пра што мы згадвалі вышэй, немагчыма дакладна сказаць, хто акрамя Шляхтуна «расцярушыўся». Вядома, што І. Сяргейчык і С. Мацюкевіч (Мацукевіч) 27 лістапада з'явіліся ў раённы аддзел НКВД у Дзятлаве і здаліся. А. Куімаў быў затрыманы 29 лістапада ў Іўеўскім раёне.[362]

29 лістапада 1944 г. у вёсцы Лаўрынкі праводзілася аблава, падчас якой быў затрыманы «палітрук» Іван Гінько. Шышэя, Конюх і Мацук тады здолелі ўцячы і былі ўпэўненыя, што Іван Гінько загінуў. Як сцвярджае К. Шышэя, неўзабаве ён выпадкова пачуў, што Конюх з Мацуком збіраюцца здацца: *«Прыслухаўся. Гавораць яны, што з партызанамі яны мелі сувязь, а «гэты ня здасца». Халера, думаю, засну, а яны мяне звяжуць і здадуць! Я пачакаў, а пасьля паціху ўстаў і выйшаў у кусты. Там і сядзеў да раніцы. Ранкам Конюх з Мацуком усталі, пасадзіў іх дзядзька на воз і павёз здавацца...».*[363]

Аднак доказаў сцвярджэння Шышэі пра дабраахвотную здачу Конюха і Мацука няма. Да таго ж існуюць і іншыя даты іх арышту (менавіта пра «арышт», а не «здачу» піша Аляксей Салаўёў). Паводле А. Салаўёва, гэта адбылося *«на пяты дзень пасля дэсантавання».*[364]

Аналізуючы гэтыя хуткія затрыманні дэсантнікаў і нават іх дабраахвотныя здачы, мімаволі адзначаеш недастатковую іх падрыхтоўку, слабыя маральна-валявыя якасці, адсутнасць дысцыпліны. А, між іншым, Конюх меў нейкае *«асабістае заданне У. Ф. Родзькі».*[365]

---

[360] Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 137.
[361] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 114.
[362] Тамсама. С. 114; Стрыечны брат С. Мацюкевіча Барыс засведчыў аўтару гэтых радкоў: «Ён здаўся сам пасля дэсанту, калі прыйшоў у сваю вёску Гернікі (Дзятлаўскі раён) да бацькоў. На сямейным савеце так вырашылі. І ў Дзятлава паехалі. Далі яму 10 гадоў». (Інтэрв'ю з Б. Мацюкевічам. Слонім, 2000 г.).
[363] Вяртаньне БНП... С. 69.
[364] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 86.
[365] Тамсама. С. 86.

Кастусь Шышэя быў затрыманы апошнім з групы Ф. Давідчыка. Намеснік начальніка 1-га аддзела УББ НКВД БССР капітан дзяржбяспекі Аксёнаў паведамляў 15 снежня 1944 г., верагодна з Ліды, у Мінск свайму начальніку Гранскаму:

*«Далейшым вышукам парашутыстаў 11 снежня* 1944 года Лідскім гараддзелам у Іўеўскім раёне затрыманы дзесяты парашутыст з групы ДАВІДЧЫК — ШЫШЭЯ Канстанцін Іванавіч, 1922 г. нараджэння, ураджэнец Віленскай вобласці, Трокскага раёна, мяст. Трокі, па нацыянальнасці паляк**, адукацыя 7 класаў, беспартыйны, з сялян, нежанаты, сяржант. У мястэчку Трокі жывуць яго маці ШЫШЭЯ Алена Аляксандраўна*** і сястра ШЫШЭЯ Вольга Іванаўна, 1915 года нараджэння.*

*Затрыманы змешчаны пад варту, вядзецца следства».*[366]

### *Радыёгульня савецкай контрразведкі «Вогнішчы»*

Найбольш дэсантнікаў з атрада Мікалая Вітушкі было затрымана ў раёне Яшуны — Вялікія Салечнікі на Віленшчыне — 10 чалавек. На працягу 18-21 лістапада 1944 г. у рукі супрацоўнікаў аддзела «Смерш» 50-й запасной Літоўскай дывізіі і аператыўнай групы аддзела контрразведкі «Смерш» Беларускай вайсковай акругі патрапілі наступныя асобы: лейтэнант БКА Іван Барысік, Іван Макарэвіч, Уладзімір Талако, Эдуард Федаровіч, Пётр Грос, былы малодшы лейтэнант Чырвонай Арміі Іван Мешыц, Аляксандр Сямашка, Міхась Бычак, Сяргей Буцкевіч****, Уладзімір Лапковіч. Звестак пра тое, што яны аказвалі супраціўленне, няма.[367]

---

* І. Валахановіч называе і іншую дату затрымання Шышэі — 9 снежня. Гл.: Щит и меч Отечества. С. 176.

** У сваіх успамінах К. Шышэя сцвярджае, што адмыслова маніў і з месцам жыхарства, і з нацыянальнасцю, спадзяючыся на лягчэйшае пакаранне.

*** Маці К. Шышэі шукала яго ў першыя паваенныя гады на Захадзе і змяшчала абвесткі ў беларускім эміграцыйным друку: «Пошукі.
...Шышэю Кастуся с[ына] Івана з в[ёскі] Краскоўская Гара шукае маці Шышэя Алена. Пісаць на адрыс рэдакцыі». (Божым шляхам (Парыж), 1947, № 3. Снежань. С. 16).

**** Стрыечны брат Буцкевіча Піліп Пісарук сцвярджае, што пасля дэсанту каля Бярозаўкі Сяргей і яшчэ двое чалавек, пабачыўшы, што ў лясах няма партызаншчыны, якая была пры немцах (ім перад дэсантам казалі пра адваротнае), здаліся. Гл.: Пісарук П. Нам сказалі, што будзем ваяваць за самастойную Беларусь, супраць бальшавікоў і немцаў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6). С. 97-98.

366 Щит и меч Отечества. С. 176.

367 НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 177-179.

Іван Барысік аказаўся ўцягнуты ў радыёгульню «Вогнішчы» («*Костры*»), якую праводзіла савецкая контрразведка. Яна пачалася ў кастрычніку 1944 года каля мястэчка Мір Баранавіцкай вобласці і праводзілася ад імя пяці нямецкіх агентаў, *«якія карысталіся ў немцаў вялікім даверам».*[368]

У снежні 1944 г., каб змяніць накірунак радыёгульні, савецкая контрразведка накіравала немцам радыёграму наступнага зместу:

*«Капітану. Сутыкнуліся з выведкай беларускіх партызанаў з атрада, які дзейнічае ў раёне Брэста, Кобрына, Пружанаў; вырашылі сустрэцца з камандзірам атрада. Цяпер знаходжуся на шляху да лагера партызан. Гельмут».*[369]

У адказ выведчы цэнтр абвера параіў агентам *«з вялікімі групамі не звязвацца і дзейнічаць самастойна»*. Аднак савецкая контрразведка ад сваіх намераў не адмовілася. Было вырашана паведаміць немцам пра злучэнне групы «Вогнішчы» з партызанскім атрадам Барысіка. Апісваючы гэты эпізод супрацьстаяння нямецкай і савецкай разведак, расійскі аўтар Вадзім Цяліцын характарызуе Івана Барысіка, як *«вядомага супрацоўніка нямецкай разведкі».*[370] Аднак гэта не адпавядае сапраўднасці. За плячыма 41-гадовага Барысіка была толькі кароткая служба ў слонімскай самаахове і трохмесячная падрыхтоўка ў дэсантным батальёне «Дальвіц».

Той жа Цяліцын дадае, што *«Барысік уваходзіў у склад групы дыверсантаў, ачольванай былым маёрам Чырвонай Арміі Арцёмам Вітушкам, закінутай у лістападзе 1944 года на тэрыторыю Беларусі. Праз некалькі дзён пасля дэсантавання Барысік і некалькі іншых дыверсантаў загінулі ў баю».*[371] Аднак інфармацыя пра гібель Івана Барысіка няпраўдзівая, насамрэч, ён быў арыштаваны «адразу пасля прызямлення».[372] Вядомыя ўрыўкі з яго паказанняў у турме савецкай дзяржбяспекі і турэмнае фота.[373] Ак-

---

[368] Телицын В. «СМЕРШ»: операции и исполнители. — Смоленск: Русич, 2000. С. 217.
[369] Тамсама. С. 218.
[370] Тамсама.
[371] Тамсама.
[372] Абрамов В. Смерш. Советская военная контрразведка против разведки Третьего рейха. — Москва: Яуза, Эксмо, 2005. С. 184; Чертопруд С. НКВД-НКГБ в годы Великой Отечественной войны. — Москва: Яуза, Эксмо, 2005. С. 248; Иоффе Э. Личное дело чекиста Селивановского // Советская Белоруссия, 2005, 22 ліпеня; Иоффе Э. Руководитель «СМЕРШ» // Вечерний Минск, 2007, 25 чэрвеня, № 134.
[373] Супрацьстаянне. Дакументальны фільм АТН. Аўтары — Ксенія Бахарава і Ігар Валахановіч. Прэм’ера — БТ, 28 чэрвеня 2004 г.

рамя таго, уводзіць у радыёгульню загінулага агента было рызыкоўна. У выпадку наладжанай немцамі праверкі савецкая контрразведка магла паставіць пад пагрозу правалу ўсе свае ранейшыя поспехі. В. Цяліцын, які ўдаступніў шэраг дакументаў радыёгульні, на гэтую важную дэталь не звярнуў увагі.

Праўдападобна, у снежні 1944 года праз радыёстанцыю «Вогнішчы» ў нямецкі разведвальны цэнтр была дасланая радыёграма ад імя Барысіка:

*«Капітану. Вельмі ўсцешаны, што з дапамогай новых сяброў магу ўстанавіць з вамі сувязь і паведаміць аб становішчы спраў. Скінулі нашую групу не ў тым месцы, дзе планавалася, людзей раскідала. Тры дні шукалі маёра Вітушку і астатніх, сабралі толькі пяць чалавек. З месца выкідкі рушылі на поўдзень. У Медскім* (праўдападобна, Лідзкім — ***СЁ***) *раёне да нас далучыліся сямнаццаць дэзерціраў, некалькі чалавек з разбітай групы «Завея»*, арганізавалі свой атрад і дзейнічаем самастойна. Барыс».*[374]

Таксама немцам было паведамлена пра вынікі «актыўных дзеянняў атрада». Група «Вогнішчы» запатрабавала для Барысіка радыста, радыёстанцыю, боепрыпасы і буйную суму грошай. Усё гэта, у тым ліку і радыст, было дастаўлена самалётам у раён «базы партызанскага атрада». Цяліцын адзначае, што радыёгульня «Вогнішчы» зімой-вясной 1945-га працягвалася з Беласточчыны, але пра далейшую ролю ў ёй «атрада Барысіка» нічога не паведамляе.[375] В. Абрамаў піша, што радыст быў арыштаваны.[376]

Магчыма, што «радыёграма ад Барысіка» была адзінай весткай ад атрада, дэсантаванага ў Беларусі ў ноч з 17 на 18 лістапада 1944 г., якую атрымаў абвер.

***

Такім чынам, з 27 чалавек-удзельнікаў атрада Мікалая Вітушкі савецкай дзяржбяспекай былі арыштаваныя 22 (апошні — Міхась Кайдак — толькі ў верасні 1951 года). Загінуў адзін — Мікалай Вітушка. Т. Чэрамшагіна («Асмалак») і І. Грыгаровіч («Яначка»)

---

* Праўдападобна, маецца на ўвазе група, якая ўваходзіла ў атрад польскай Арміі Краёвай «Рагнера» і дзейнічала на Лідчыне. Яе камандзір Паўлоўскі («Завея») быў арыштаваны 22 студзеня 1945 г. Гл.: Звязда, 1945, 20 чэрвеня.

[374] «СМЕРШ»: операции и исполнители. С. 218.

[375] Тамсама. С. 218-219.

[376] Смерш. Советская военная контрразведка против разведки Третьего рейха. С. 184.

не былі адшуканыя. Таксама застаўся невядомы лёс В. Макарэвіча («Поп»).[377] Атрымліваецца 26 чалавек. І. Валахановіч не згадвае, хто ж быў 27-м. Верагодна, устанавіць гэта яму няўдалося.

### *Аперацыя савецкай контрразведкі «Беразіно» і дэсант групы Мікіты Шпакава*

Трэці дэсант выхаванцаў «Дальвіца» адбыўся ў ноч на 21 снежня 1944 года каля вёскі Стрыева Бярэзінскага раёна. Група складалася з чатырох чалавек: 37-гадовы Мікіта Шпакаў (у некаторых крыніцах — Шмакаў, камандзір групы, рускі, падчас уступлення ў разведвальна-дыверсійную школу запісаўся беларусам), 18-гадовы Авенір Філіповіч, 20-гадовы Мікола Галенчык і 19-гадовы Макар Сальнікаў. Усе яны былі сябрамі Беларускай Незалежніцкай Партыі. Шпакаў меў выробленыя абверам дакументы сяржанта Чырвонай Арміі Мікіты Салаўёва, Філіповіч — чырвонаармейца Авеніра Іванова, Галенчык — чырвонаармейца Мікалая Арлова, Сальнікаў — чырвонаармейца Макара Жукава.[378] Паводле легенды, забяспечанай сфальшаванымі дакументамі, група «Мікіты Салаўёва» выконвала «спецыяльнае заданне» НКВД БССР і накіроўвалася ў «перасыльны пункт лагера ваеннапалонных».[379] Разам з імі былі дэсантаваныя два немцы-радысты — 24-гадовы Рудольф Войска і 20-гадовы Вілі Саўтэр.[380]

На ўзбраенні беларусаў былі 4 аўтаматы, 8 пісталетаў, 10 гранатаў. Група мела заданне адшукаць вялікі аддзел нямецкіх вайскоўцаў-акружэнцаў у колькасці каля 200 чалавек і вывесці іх на захад ад Мінска ў раён, дзе была пляцоўка для пасадкі транспартных самалётаў, з мэтай эвакуацыі за лінію фронту. Аднак ужо 28 снежня 1944 г. дэсантнікі былі арыштаваныя.[381] Я. Сямашка — адзіны, хто піша, што частка дэсантнікаў «загінула ў перастрэлцы».[382]

---

[377] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 114.
[378] Павел Судоплатов — терминатор Сталина. С. 253.
[379] Щит и меч Отечества. С. 177.
[380] Павел Судоплатов — терминатор Сталина. С. 253.
[381] Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 114-115.
[382] 7 дней, 1994, № 28, 9 ліпеня. Іншымі крыніцамі гэтая інфармацыя не пацвярджаецца.

Многія беларускія даследчыкі, якія ў сваіх публікацыях падаюць інфармацыю пра групу М. Шпакава, не згадваюць, што яна аказалася ўцягнутая ў аперацыю Чацвёртага ўпраўлення НКГБ СССР «Беразіно». Савецкая контрразведка з верасня 1944 г. праводзіла знакамітую радыёгульню з нямецкімі спецслужбамі. НКГБ легендзіравала вялікі аддзел «нямецкіх акружэнцаў» на чале з падпалкоўнікам Шэрхорнам, якія, «абцяжараныя шматлікімі параненымі», нібыта, знаходзіліся ў лясах Чэрвеньскага раёна. Пасля таго, як пра аддзел Шэрхорна было дакладзена Гітлеру, нямецкія спецслужбы атрымалі загад вывесці яго за лінію фронту. У раён знаходжання «нямецкіх акружэнцаў» было скінута некалькі групаў дэсантнікаў і радыстаў (агулам 25 чалавек), 13 радыёстанцыяў, з якіх 7 былі ўключаныя ў радыёгульню з немцамі, 615 камплектаў зімовай уніформы, 20 кулямётаў, 100 вінтовак і аўтаматаў, 2000 гранат, 142 000 патронаў, каля 7 тонаў прадуктаў харчавання, больш за два мільёны савецкіх рублёў ды іншае. Аперацыя «Беразіно» працягвалася да капітуляцыі Нямеччыны. Пра лёс беларусаў-дэсантнікаў Шпакава вядома толькі тое, што пасля допытаў іх адправілі для «падрабязных допытаў» і суда ў Маскву. А немцы-радысты былі пераверббаваныя і ўключаныя ў радыёгульню з нямецкімі спецслужбамі.[383] Яшчэ да арышту групы Шпакава радысты перадалі радыёграмы аб сваім удалым прыбыцці на месца.[384]

Дэсантнікі «Дальвіца» мусілі не толькі выконваць ролю праваднікоў, яны мелі таксама і дыверсійныя заданні. Дзеля гэтага падчас дэсанту з нямецкага самалёта былі выкінутыя два кантэйнеры з выбуховымі рэчывамі і боепрыпасамі.[385] Перад адпраўкай групу Шпакава інструктавалі фельдфебель Вульфан і Юрый Луцкевіч. Пасля выканання задачы правядзення нямецкай часткі да месца пасадкі транспартных самалётаў на паўднёвы-захад ад Мінска, дэсантнікі мусілі звязацца з групай, дэсантаванай у ноч з 17 на 18 лістапада, і паступіць у распараджэнне М. Вітушкі «ў якасці папаўнення».[386] Пры сустрэчы з Вітушкам Шпакаву было даручана Ю. Луцкевічам перадаць, што ў пачатку 1945 года ў

[383] Иващенко А. Западня // Гудок (Москва), 2002, 6 ліпеня; Судоплатов против Канариса. С. 107; Павел Судоплатов — терминатор Сталина. С. 237-259.
[384] Болтунов М. Скорцени в Бобруйске // Свободные новости, 1997, № 19, 15-22 жніўня.
[385] Сенюков Г. Гейне против Абвера // Семь дней (Мінск), 2006, № 17, 27 красавіка.
[386] Семь дней, 2006, № 17.

Слуцкім раёне мусіць адбыцца дэсант групы лейтэнанта А. Рудака ў колькасці 17 чалавек.[387]

У выпадку, калі сувязь з групай Вітушкі не будзе ўстаноўленая, Шпакаў са сваімі падначаленымі мусіў застацца на нелегальным становішчы, стварыць паўстанцкі атрад з мясцовага насельніцтва, праводзіць дыверсіі, тэракты і антысавецкую агітацыю.[388]

*«Пра тое, што Вітушка застаўся без рацыі і сваіх людзей, у абверы ў той момант не ведалі і працягвалі лічыць яго атрад яе базавы, на аснове якога планавалася разгарнуць разведвальна-дыверсійную працу ў глыбокім савецкім тыле»,* — піша Г. Сенюкоў.[389]

Чым займалася група Шпакава цэлы тыдзень пасля дэсанту і да свайго арышту, невядома.

### *Спроба стварэння савецкай контрразведкай правакацыйнага «Беларускага падпольнага цэнтру»*

Яшчэ пры падрыхтоўцы плана «Беразіно» наркам дзяржбяспекі Ўсевалад Мяркулаў зацвердзіў і шэраг дадатковых мерапрыемстваў:

«...2. Размясціць баявую групу Шэрхорна ў двух раёнах: адну ў раёне Вільні, другую — ў раёне Налібоцкай пушчы.

*3. Улічваючы, што немцы скідваюць значную колькасць парашутыстаў з заданнем арганізацыі паўстання ў Беларусі, развіцця антысавецкай дзейнасці, абапіраючыся на нацыяналістычныя элементы, выкарыстаць адну з легендзіраваных груп для легалізацыі перад праціўнікам, стварыць нібыта «Беларускі камітэт», дамагчыся атрымання для гэтага камітэта сродкаў, зброі, разведчыкаў і радыстаў з ліку тых, хто праходзіць навучанне ў нямецкіх разведвальных школах».*[390]

«Беларускі камітэт» не застаўся толькі на паперы, былі зробленыя захады па стварэнні гэтай ілжэпадпольнай структуры. Паводле «Нарысаў гісторыі расійскай знешняй выведкі», *«чэкісты перыядычна падкідвалі гітлераўцам інфармацыю, быццам маг-*

---

[387] Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 115.

[388] Щит и меч Отечества. С. 177.

[389] Семь дней, 2006, № 17.

[390] Судоплатов против Канариса. С. 97; Павел Судоплатов — терминатор Сталина. С. 247.

*чыма разгарнуць падрыўную працу і стварыць для гэтага «Беларускі падпольны цэнтр» з ліку нямецкіх пасобнікаў».*[391]

Начальнік «Абверкаманды-203» оберлейтэнант Рудольф фон Барэнфельд неаднаразова вылятаў на самалёце ў савецкі тыл, каб праверыць *«магчымасці арганізаваць супрацоўленне свайго беларускага падполля»*. Падчас аднаго з палётаў, на гэты раз у раён базы Шэрхорна, самалёт быў збіты, а афіцэр абвера загінуў.[392]

Відаць, невыпадкова нямецкім спецслужбам паведамлялася пра тое, што сярод 1500 байцоў Шэрхорна знаходзяцца 200 «рускіх» — былых паліцыянтаў, якія хаваліся ў лясах. [393]

Але для паспяховай рэалізацыі плану стварэння «Беларускага падпольнага цэнтру» савецкай дзяржбяспецы трэба было мець пад кантролем нейкіх вядомых беларускіх нацыяналістаў альбо выкрытыя структуры нелегальных беларускіх арганізацый. У адваротным выпадку ніякіх шанцаў на поспех не было — Родзька і Астроўскі выдатна ведалі нават правінцыйных актывістаў, таму «падстава» была б выкрытая. Аднак у Маскве не маглі рызыкаваць планам «Беразіно», падстаўляючы немцам дакладна неадпрацаваную версію. З іншага боку, тое, што пытанне «беларускага падполля» патрапіла з падачы НКГБ СССР у радыёгульню, сведчыць пра жаданне чэкістаў паспрабаваць атрымаць ад абвера выхады на законспіраваныя беларускія групы ў савецкім тыле. Аднак у выніках правядзення аперацыі Чацвёртага ўпраўлення НКГБ СССР «Беразіно» няма ніякіх згадак пра тое, што план стварэння «Беларускага падпольнага цэнтру» быў рэалізаваны.

## *ДЭСАНТЫ Ў ПОЛЬШЧУ*

### ***Выкарыстанне групы байцоў «Спецыяльнага батальёна «Дальвіц» нямецкай франтавой разведкай у пачатку 1945 года***

У пачатку 1945 года перад беларускім камандаваннем «Дальвіца» паўстала пагроза краху ўсіх планаў па выкарыстанні яго выхаванцаў для арганізацыі антысавецкага партызанскага і падпольнага руху на тэрыторыі Беларусі.

---

[391] Очерки истории российской внешней разведки. В шести томах. Т. 4. 1941-1945 гг. —Москва: «Международные отношения», 1999. С. 126.

[392] Гудок, 2002, 6 ліпеня.

[393] Павел Судоплатов — терминатор Сталина. С. 255; Михайлов В. Операция «Березино» // Советская Белоруссия, 2005, 18 чэрвеня.

Паводле І. Валахановіча, Дальвіцкая разведшкола ў гэты час перайшла пад камандаванне нямецкай франтавой разведкі. Апошняя планавала выкарыстаць курсантаў «для вядзення неглыбокай вайсковай разведкі ў савецкім тыле». Валахановіч сцвярджае, што прычынай такога кроку сталі няўдалыя дэсанты восені 1944-га. Ус. Родзька і І. Гелда не пагадзіліся з такім рашэннем нямецкага кіраўніцтва. [394]

Са студзеня альбо з пачатку лютага 1945 года Спецыяльны батальён «Дальвіц» знаходзіўся ў Памераніі (узбярэжжа Балтыйскага мора) каля ракі Одэр. У гэты час маёр Гелда быў выкліканы ў Берлін, а камандаванне батальёнам перададзена Родзьку. Аднак неўзабаве і ён, з раёна г. Свінемюндэ, быў выкліканы прэзідэнтам БЦР Р. Астроўскім у Берлін.[395] Прычына выкліку Гелды вядомая — ён быў кааптаваны ў склад БЦР.[396]

Ёсць звесткі, што ў раёне Шчэціна і Свінемюндэ батальён «Дальвіц» быў адрэзаны савецкімі войскамі ад нямецкіх частак і трапіў у акружэнне. Паводле ўспамінаў аднаго з дэсантнікаў, на нямецкі бок камандасы перабраліся на пантонных лодках.[397]

Пасля адмовы беларускага кіраўніцтва адправіць сваіх байцоў на фронт, у сакавіку 1945-га каля г. Новы Брандэнбург батальён быў раззброены немцамі. Канфлікт быў залагоджаны толькі ў канцы сакавіка пасля берлінскай нарады ў оберштурмбанфюрэра СС Ота Скарцэні.[398]

Ёсць звесткі, што на працягу студзеня-сакавіка 1945-га прадстаўнікі нямецкай франтавой разведкі неаднаразова наведвалі батальён і прапаноўвалі яго байцам удзел у акцыях за лініяй фронту. Яшчэ да раззбраення на камандас спрабавалі «паўздзейнічаць» пазбаўленнем іх харчовага забеспячэння. Вось што ўспамінае былы камандас Цімафей Грыгор'еў:

*«Да нас неаднаразова наведваліся нямецкія афіцэры і патрабавалі, каб мы адправіліся на фронт. Але большасць з нас адмаў-*

---

[394] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 22; Яго ж. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 115.
[395] Беларуская думка, 1997, № 1. С. 149.
[396] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 151.
[397] Пра Ўсевалада Родзьку // Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.
[398] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 115.

*лялася зрабіць гэта, за што наш батальён некалькі разоў пазбаўлялі пайка».*[399]

Былы афіцэр батальёна Алег Стахоўскі сцвярджае, што беларускае камандаванне «Дальвіца» свядома зацягвала навучанне курсантаў, каб не дапусціць іх выкарыстання на фронце:

*«Беларускія нацыяналісты відавочна не спяшаліся з выпускам. Іх некалі магутны гаспадар збанкруціўся, і яны не маглі хутка з’арыентавацца ў той сітуацыі, якая склалася. Шукалі новых гаспадароў. Чакалі».*[400]

І ўсё ж адна група пагадзілася выконваць заданні нямецкай франтавой разведкі. Даступныя нам крыніцы не даюць абгрунтаванага адказу на пытанне, што падштурхнула гэтых людзей на такі крок. Алег Стахоўскі пасля вайны казаў пра жаданне патрапіць на той бок фронту і звязацца з савецкай разведкай. Матывы іншых камандасаў нам невядомыя. Ц. Грыгор’еў пісаў у савецкай газеце:

*«Праўда, знайшліся сярод нас такія, хто згадзіўся выканаць загад [немцаў]. Гэта Рудак, былы камандант паліцыі ў Шаркоўшчыне, і яшчэ 13 чалавек, такіх жа, як і ён, карнікаў. Іх аддзялілі ад нас, далі лепшы паёк, пачалі абучаць па асобай праграме, а праз нейкі час адправілі ў бок фронту».*[401]

Сапраўды, гэтую групу ачоліў капітан Аляксей Рудак, камандзір «Паўночнай роты» батальёна. Ці рваўся ён да «безнадзейнай барацьбы»? Ці хацеў вярнуцца ў Беларусь? Наўрад ці. Яго, як былога начальніка паліцыі, у выпадку арышту бальшавікі пакаралі б смерцю. Да таго ж ён быў не адзін, а з жонкай Люсяй, якая навучалася на радыстку. Далейшыя паводзіны Рудака нагадваюць паводзіны Барыса Рагулі ў кастрычніку 1944-га. Былая радыстка «Дальвіца» Юзэфа Брэчка (Найдзюк) успамінае:

*«Пачалося адступленне ў Нямеччыну, бо фронт набліжаўся. Каля Берліна нам немцы сказалі, што ў Беларусь больш самалётам не будуць [скідаць], толькі калі згодны ў зах[однюю] Польшчу. Родзька не згадзіўся, а Рудак паслаў — 10 хлопцаў: ПаляГошку, Станюша, Латышонка, Юрку Сенькоўскага, Васючонка і другіх. Сенькоўскаму і Станюшу неяк удалося ўцячы на захад, а другіх лёс невядомы».*[402]

---

[399] Голас Радзімы, 1964, красавік. № 27-28.

[400] Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 27 траўня, № 103.

[401] Голас Радзімы, 1964, красавік, № 27-28.

[402] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 года.

Са сведчання Ю. Брэчкі на наш погляд важныя словы «Рудак паслаў». Усе згаданыя асобы ўваходзілі ў яго «Паўночную роту» і ён, з нейкіх меркаванняў, вырашыў пагадзіцца на нямецкую прапанову і забраць з сабой групу сваіх людзей. Такім чынам, яны маглі не быць добраахвотнікамі. З Рудаком пайшла яго жонка, а таксама намеснік, лейтэнант Алег Стахоўскі. Усе яны ў пачатку 1945 года прыехалі ў горад Лейц «у распараджэнне лейтэнанта Мая».[403]

У Лейцы з лютага 1945-га быў разгорнуты пераправачны пункт Абверкаманды-204 пад кіраўніцтвам лейтэнанта Маля, «адкуль праводзілася перакідка дыверсантаў-беларусаў, якія скончылі Дальвіцкую дыверсійную школу».[404] Паводле С. Чуева, кіраўніцтва батальёна «перадало 12 дэсантнікаў ў распараджэнне Абверкаманды-204 у г. Лейц».[405]

Такім чынам, нельга выключыць і кампраміснага рашэння, калі беларускія камандзіры пагадзіліся адпусціць гэтую групу байцоў. Дарэчы, у розных крыніцах падаюцца розныя лічбы групы Рудака – ад 11 да 14 чалавек. Былы афіцэр «Дальвіца» лічыць, што Родзька мусіў адпусціць групу дэсантнікаў: *«Немцы вырашылі, і Родзька нічога ня мог зрабіць з гэтым... Таму ніякай добраахвотнасьці не было. Якая добраахвотнасьць у арміі? Выбар малы быў: ісьці на заданьне або — у лягер».*[406]

У групу, відавочна, патрапілі не выпадковыя людзі. Як мы згадвалі вышэй, яшчэ ў снежні 1944 г. рыхтаваўся дэсант групы лейтэнанта А. Рудака ў колькасці 17 чалавек у раён Слуцка.[407]

На працягу двух тыдняў немцы праглядалі здольнасці беларусаў, праводзілі навучанне. Як сведчыць Стахоўскі, праграма была тая самая: тапаграфія, падрыўная справа, рукапашны бой. Але рыхтавалі сур’ёзна і ўсебакова.

«Залезці ў лес і пастрэльваць адтуль здолее і дурань. Вы ж мусіце свабодна перасоўвацца, каб усё бачыць і з’яўляцца там, дзе вас меней за ўсё чакаюць», — казалі ім нямецкія інструктары.[408]

---

[403] Гродненская правда, 1967, 27 траўня, № 103.
[404] Спецслужбы Третьего Рейха. Книга I. С. 128.
[405] Тамсама. С. 199.
[406] Паведамленне аўтару ад 2 кастрычніка 2008 г.
[407] Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 115.
[408] Гродненская правда, 1967, 27 траўня, № 103.

Перад самым дэсантам Рудак нечакана «захварэў» і адмовіўся ляцець.* Тады немцы прапанавалі стаць галоўным групы Стахоўскаму. Групу мусілі закінуць у Польшчу. Немцы абяцалі, што пасля выканання гэтага задання і вяртання, беларусаў адправяць у Беларусь.[409]

Удзельнікі групы Стахоўскага атрымалі зброю, выбухоўку, компасы, карты, харчаванне на тры дні. Іх апранулі ў паношаную сялянскую вопратку, далі бела-чырвоныя павязкі — яны мусілі выдаваць сябе за польскіх сялянаў, якія вяртаюцца з Нямеччыны, куды, нібыта, былі вывезеныя на працу. Пра гэта сведчылі і фальшывыя дакументы.

У апошні момант немцы вырашылі скідваць групу не разам, а падзяліць яе на групкі ў складзе 2-3 чалавек. Усе яны атрымалі розныя заданні. Групка Стахоўскага (разам з ім 3 чалавекі) атрымала заданне ўзарваць мост у раёне горада Казімежа, а таксама правесці яшчэ некалькі дыверсій. Пасля іх правядзення мусілі вярнуцца праз лінію фронту.

Група Алега Стахоўскага была выкінутая апошняй і прызямлілася ўдала каля лесу. Стахоўскі адразу ж сказаў сваім падначаленым («звычайным сялянскім хлопцам, збітым з панталыку нацыяналістамі»), што задання выконваць яны не будуць, трэба здавацца. Хлопцы вагаліся, але Стахоўскі арганізаваў іх здачу. Раніцай Стахоўскага прывезлі ў контрразведку 1-га Беларускага фронту. На працягу дзесяці дзён ён выкладваў інфармацыю пра тых, хто дэсантаваўся, і тых, хто застаўся ў школе, пра выкладчыкаў, рэжым школы і г. д. Стахоўскаму прапанавалі вярнуцца назад.[410]

Лінію фронту А. Стахоўскі перайшоў у Альдэнбургу, на Одэры. У нямецкай контрразведцы ён запатрабаваў даставіць яго да лейтэнанта Мая (альбо Маля). Але высветлілася, што лейтэнанта перакінулі на захад, таму прывезлі да маёра Рэнэка. Стахоўскі паведаміў яму, што ўсе дыверсіі былі здзейсненыя, за выключэннем падрыву маста, а яго напарнікі загінулі падчас пераходу фрон-

---

* Вось што кажа пра магчымасці адмовіцца ад дэсанту былы афіцэр «Дальвіца»: *«Меліся нейкія хады, стан здароўя, напрыклад, або сваякі ў зоне дэсанту і г. д. Для сыходу адзінак былі магчымасьці, але не для ўсіх».* (Паведамленне аўтару ад 2 кастрычніка 2008 г.).

409 Гродненская правда, 1967, 27 траўня, № 103.

410 Тамсама.

ту. Немцы праверылі інфармацыю пра дыверсіі, але «савецкія контрразведчыкі ўдала імітавалі падрывы вайсковых аб'ектаў». Таму Стахоўскаму паверылі і ўзнагародзілі Жалезным крыжом II ступені.

У «Дальвіц» Алег Стахоўскі ўжо не вярнуўся. Вясной 1945 г. група Рэнэка была перакінутая пад Кіль. Мужчын-агентаў адправілі ў канцлагер для ваеннапалонных, каб яны маглі там «схавацца». Стахоўскаму, нібыта, удалося захаваць частку архіву групы Рэнэка — уліковыя карткі агентаў — і перадаць яго саветам.[411] У першыя паваенныя гады Алег Стахоўскі ў якасці «прадстаўніка беларускага антысавецкага падполля» дапамагаў МГБ ліквідоўваць маладзёжнае патрыятычнае падполле.[412]

Цяжка сказаць, наколькі можна верыць успамінам А. Стахоўскага пра абставіны дэсанту на тэрыторыю Польшчы. Не выключана, што Стахоўскі быў захоплены «Смершам» і перавербаваны, а ўжо ў паваенны час ён прыдумаў «прыгожую» версію пра «подзвіг разведчыка».

Дэсант у Польшчу каля дзясятка чалавек — адзіны вядомы нам выпадак баявога выкарыстання байцоў «Дальвіца» на чужой тэрыторыі (калі не ўлічваць удзел у аблавах на савецкіх парашутыстаў ва Ўсходняй Прусіі).

---

411 Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 2 чэрвеня, № 107.

412 Ёрш С. Агенты дзьвюх выведак // Наша ніва, 2003, 22 жніўня, № 30.

*Глава 3.*

# *Удзел кіраўніцтва батальёна ў палітычных праектах па арганізацыі антысавецкага супраціўлення*

## *Праект «Балтыйскага блоку»*

Усевалад Родзька, як амбіцыйны, хаця і недасведчаны палітык, не жадаў абмежавацца выключна вайсковымі пытаннямі. Ён паранейшаму спрабаваў весці «сваю» палітычную гульню і тым самым працягваў ствараць праблемы для прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага. Калі ў Беларусі Родзька, дамагаючыся ад БЦР прыняцця пэўных рашэнняў, мог абаперціся на нелегальную сетку БНП, на вайсковыя і паліцыйныя фармацыі, якія ачольвалі сябры гэтай партыі, дык у Нямеччыне фактычна адзіным яго «козырам» быў батальён «Дальвіц». У пэўным сэнсе, гэтая фармацыя з'яўлялася ўдалым прапагандысцкім праектам, бо пацверджанняў высокіх яе баявых якасцяў няма.

Родзька і іншыя камандзіры батальёна так апраўдвалі свае спробы ўплыву на палітыку БЦР: *«Ход палітычных падзеяў прымушае нас, побач з выконваньнем нашых баявых абавязкаў, цікавіцца і беларускім палітычным жыцьцём».*[413]

Блізкі крах гітлераўскай Нямеччыны і няпэўныя перспектывы беларускага вызвольнага руху ў справе здабыцця незалежнасці Беларусі спрыялі з'яўленню ў 1944-45 гг. у Родзькі і іншых дзеячоў БЦР шматлікіх палітычных праектаў. Адныя з іх былі накіраваныя на супрацоўніцтва з вызвольнымі рухамі суседніх народаў, іншыя — на наладжванне кантактаў з заходнімі саюзнікамі.*

*«У пачатку 1945 года панятак «незалежнасць» стаў змяняцца планамі блокаў, федэрацый, уніяў,* — распавядаў пазней на следстве ў савецкай турме дзяржбяспекі Родзька. — *Так, напрыклад,*

---

* Пакуль на ўзроўні версіі існуе меркаванне пра спробу кантактаў Ус. Родзькі ў гэты час і з савецкімі прадстаўнікамі ў Нямеччыне альбо Чэхіі. Гл.: Беларускі Супраціў. С. 161.

[413] Раніца (Берлін), 1945, 3 студзеня, № 1.

*акрамя формы незалежнай дзяржавы пад патранажам Англіі ці Польшчы, узніклі планы прыбалтыйскага блоку*[*] *і саюзу з Украінай».*[414]

Паводле Ўс. Родзькі, ідэя «прыбалтыйскага блоку» ўзнікла ў «колах, набліжаных да генерала Езавітава».[415] Як вядома, Кастусь Езавітаў да ад'езду ў жніўні 1944-га ў Нямеччыну, каля 25 гадоў жыў у Рызе, верагодна, меў кантакты з дзеячамі латвійскага нацыянальнага руху. У «прыбалтыйскі блок» мусілі ўвайсці Беларусь, Літва, Латвія і Эстонія. Паводле першага варыянту, гэта мусіў быць «саюз чатырох дзяржаваў», паводле другога — адна *«аб'яднаная дзяржава»*, аднак *«ва ўнутраных стасунках гэтыя народы захавалі б свае дзяржаўныя формы».* Зразумела, у тагачасных вайскова-палітычных рэаліях гэта быў найперш прапагандыскі праект, створаны для заходніх саюзнікаў. Нездарма Ўсевалад Родзька сцвярджаў, што «унія» чатырох дзяржаваў *«мусіла выступаць як адна аб'яднаная дзяржава... у знешнепалітычных стасунках».*[416]

Аднак, як вынікае з паказанняў на следстве К. Езавітава, на перамовах з латышскімі дзеячамі гаворка ішла хутчэй пра далучэнне Беларусі да «Балтыйскага блоку», бо апошні ўжо існаваў у складзе Літвы, Латвіі і Эстоніі.[**]

---

[*] Іншыя варыянты назвы — «Балтыйскі блок», «Блок балтыйскіх дзяржаваў».

[**] Праблема ў выкарыстанні «ўласнаручных» паказанняў беларускіх дзеячоў у турмах НКГБ (МГБ) звязаная з спецыфічнымі абставінамі і мэтамі іх напісання. Зразумела, што следчых цікавіла не толькі інфармацыя, у дакументах яны спрабавалі зафіксаваць пэўную яе трактоўку, выкарыстоўваючы паняткі, вызначэнні, якія даволі дзіўна гучаць з вуснаў таго ж Езавітава ці Родзькі. Апошні на допыце кажа: *«...нам трэба было ратаваць сябе і свае надзеі на захоп улады, таму, хаця мы і з'яўляліся нямецкімі агентамі, вымушаныя былі пераарыентавацца на Англію».* Гл.: Белорусская нива, 1994, 20 студзеня. Альбо падчас іншага допыта ён называе сябе, В. Гадлеўскага і Яна Станкевіча *»нямецкімі агентамі-правакатарамі абвера і гестапа».* Гл.: Белорусская Центральная Рада..., С. 91. Прафесар Аляксандр Хацкевіч, які нямала пераглядзеў падобных архіўных спраў, піша наступнае: *«Пратаколы гэтыя* [«здраднікаў Радзімы»] *таксама вельмі супярэчлівыя і не ўнушаюць даверу».* Гл.: Хацкевич А. Пробивается правда полвека. Новая страница истории Минского антифашистского подполья // Нёман, 1992, № 4. З іншага боку, ёсць падставы сцвярджаць, што той жа Родзька на следстве паведаміў чэкістам далёка не ўсю інфармацыю, якой валодаў. Дзякуючы гэтаму шэраг груп і атрадаў БНП-БВА, якія ў розных раёнах Зах. Беларусі чакалі кур'ераў ад Родзькі, не былі ліквідаваныя.

[414] Белорусская нива, 1994, 20 студзеня.

[415] Тамсама.

[416] Белорусская нива, 1994, 20 студзеня.

Прычым, паводле К. Езавітава, у такім далучэнні больш былі зацікаўленыя прыбалты, і гаворкі пра гэта ішлі яшчэ з 1941 года. Аднак у той час Беларусі ў «Балтыйскім блоку» адводзілася роля «ўнутранай калоніі» — крыніцы працоўнай сілы, сыравіны, паліва і г. д. Таму падчас перамоваў пачатку 1945 года Езавітаў *«асабліва падкрэсліваў поўную неабходнасць раўнапраўя ўсіх 4-х краін»*. І яму, нібыта, ад імя трох краін гэта было паабяцана.[417]

К. Езавітаў у студзені-лютым 1945 г. сустракаўся ў Берліне з начальнікам Упраўлення інфармацыі Латвійскай дырэкторыі П. Брачом, камандзірам «Латышскага легіёна» генералам Бангерскім і былым міністрам фінансаў Мезісам. Латышскія дзеячы прапанавалі К. Езавітаву, каб БЦР уступіла ў «Балтыйскі блок». Адзначым, што ў далейшым з латышскімі вайсковымі дзеячамі ў Берліне мусіў кантактаваць маёр Дз. Касмовіч, а з Брачом замест Езавітава — сябра БЦР Уладзімір Тамашчык.[418]

Аднак БЦР відавочна цікавіла далучэнне прыбалтаў да «Блока народаў Усходу Еўропы», які быў створаны ў 1944 г. у супрацьвагу Камітэту вызвалення народаў Расіі генерала Ўласава. «Блок» складаўся з прадстаўнікоў беларусаў, украінцаў, крымскіх татараў, данскіх казакоў, грузінаў, армянаў, азербайджанцаў, кіргізаў, казахаў і народаў паўднёвага Ўралу. Таму Астроўскі і даручыў Езавітаву *«перагаварыць з латышамі, літоўцамі і эстонцамі пра тое, каб і яны ўвайшлі ў гэты блок»*. Аднак апошнія заявілі, што трымаюцца «Балтыйскага блоку» і ўступаць у іншы не бачаць сэнсу, але прапануюць беларусам далучыцца да іх, каб *«разам змагацца за незалежнасць»*. БЦР жа, паводле Езавітава, увайшоўшы ў «Блок народаў Усходу Еўропы», не магла адначасова ўвайсці і ў іншы блок. Таму перамовы былі безвыніковыя.[419]

Паводле Езавітава, найбольш важнай і рэальнай карысцю ад супрацы з прадстаўнікамі Літвы, Латвіі і Эстоніі было б выкарыстанне беларусамі іх дыпламатаў, якія знаходзіліся ў нейтральных краінах, альбо ў краінах антыгітлераўскай кааліцыі. Бо самастойна наладзіць кантакты з замежжам БЦР не магла, а ад пасланых кур'ераў не было вестак.[420]

---

[417] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 153.
[418] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 154; Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 31.
[419] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 151.
[420] Тамсама. С. 152.

Таксама Бангерскі і Мезіс прапанавалі Езавітаву ўжо падчас перамоваў перакінуць *«невялікую беларускую вайсковую частку, хаця б толькі адзін полк, ці нават толькі адзін батальён, на нямецкіх караблях у Курляндыю — ў Лібаву, каб ужо гэтым фактам паказаць, што беларусы ўваходзяць у «Балтыйскі блок» і прадстаўляюць яму свае ўзброеныя сілы».*[421]

І гэта, паводле Езавітава, быў бы не толькі прапагандысцкі акт, але і акцыя вайсковага значэння, бо латышы не выключалі, што *«пры спрыяльных абставінах»* гэтая вайсковая частка змагла б прасунуцца ў Беларусь.[422] Езавітаў сведчыць, што кіраўніцтвам БЦР разглядаўся варыянт пасылкі ў Курляндыю, дзе знаходзілася акружаная Чырвонай Арміяй нямецкая групоўка і латышскія фармацыі, аднаго батальёна з «Кёнігзбергскіх піянерскіх батальёнаў»* і батальёна «Дальвіц».[423]

Падчас іншага допыту К. Езавітаў распавёў, што ў Прыбалтыку планавалася пераправіць *«некалькі батальёнаў «Беларускага вызвольнага войска» і батальён «Дальвіц» для вядзення падрыўной працы супраць Савецкага Саюза на тэрыторыі Беларусі».*[424]

Варта адзначыць, што ў той час, калі падчас размоваў з украінскімі дзеячамі з розных груповак ўзнікалі пытанні па палескай праблеме ды іншыя непаразуменні, дык у размове Езавітава з генералам Бангерскім ні слова не было сказана пра жудасныя злачынствы, учыненыя латышамі на Віцебшчыне супраць мірнага насельніцтва. Нібыта, пра гэта беларускія дзеячы не ведалі... Магчыма, на гэтыя факты проста зачыняліся вочы.

Вясной 1945-га сярод вайскоўцаў брыгады «Беларусь» распаўсюджваліся ўлёткі БНП. *«У лістоўках быў заклік за саюз з прыбалтыйскімі народамі і прапаганда супраць маскалёў і палякаў»,* — успамінае лейтэнант Яўген Усюкевіч.[425]

---

* Верагодна, маюцца на ўвазе беларускія аддзелы СС, якія ў складзе нямецкага войска змагаліся з Чырвонай Арміяй у раёне Кёнігзбергу. Дагэтуль пра іх мала што вядома. Паводле ўспамінаў удзельніцы аднаго такога аддзела, беларускія групы не толькі ўдзельнічалі ў абарончых баях, але і рабілі рэйды ў бліжэйшы савецкі тыл. Удзельнікаў гэтых аддзелаў у канцы восенні 1944 г. вербавалі ў арганізацыю «Чорны Кот». Гл.: Лямко Г.: Камандзіры казалі, што мы вучымся для далейшага змаганьня за вольную Беларусь // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9). С. 132.

421 Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 153-154.

422 Тамсама. С. 154.

423 Тамсама.

424 Міхнюк Ул., Паўлаў Я. Канстанцін Езавітаў: матэрыялы да біяграфіі // Маладосць, 1995, № 1. С. 238.

425 Вяртаньне БНП..., С. 129.

Пра перамовы з літоўскімі дзеячамі нічога невядома. У кастрычніку 1944 года іх вёў Радаслаў Астроўскі.[426] В. Раманоўскі памыляецца, калі піша, што К. Езавітаў кантактаваў не толькі з латышамі, але і з літоўцамі.[427]

Дарэчы, паводле паказанняў Усевалада Родзькі, спробу перамоваў з беларускім нацыянальным рухам літоўцы зрабілі яшчэ ў першай палове 1944 года ў Мінску. Камандзіры літоўскага паліцыйнага батальёна, які дыслакаваўся на Міншчыне, хацелі *«заключыць з БЦР ці якой-небудзь беларускай палітычнай арганізацыяй дамову аб узаемнай дапамозе, разлічанай на паваенны час і накіраванай супраць Польшчы».* Змест размовы Родзька перадаў Р. Астроўскаму і Ю. Сабалеўскаму, больш з гэтымі літоўскімі вайскоўцамі ён не сустракаўся.[428]

Аднак усе гэтыя высілкі не прынеслі належнага эфекту, бо спадзяванні на «Балтыйскі блок» як БЦР, так і камандзіраў «Дальвіца» не спраўдзіліся.

### *Спроба стварэння «саюзу з Украінай»*

Спробы наладжвання трывалых сувязяў з рознымі плынямі ўкраінскага вызвольнага руху рабіліся беларускімі нацыяналістамі на працягу ўсёй Другой сусветнай вайны.* Аднак рэальнае супрацоўніцтва наладзілася толькі з Тарасам Бараўцом (Бульбам), кіраўніком партызанскіх аддзелаў (незалежных ад АУН-Бандэры), якія ў 1941-1943 гг. дзейнічалі на Палессі і Валыні. Праўда, сам атаман у лістападзе 1943 года даволі скептычна ацэньваў кантакты з беларусамі: *«Да прыходу вялікіх сілаў савецкіх партызанаў, беларусы ўтрымлівалі з намі цесны кантакт. Калі ж восенню 1942 г. большую частку Беларусі апанавала савецкая партызанка, бела-*

---

* Падрабязна пра іх гл.: Кук В. Я вёў перамовы з прадстаўнікамі беларускай нелегальнай арганізацыі // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3). С. 72-76; Беларускі Супраціў. С. 39-50, 181, 253-255; Горбік С. Знаходжаньне ўкраінскага батальёну Пабягушчага і Шухевіча ў Беларусі і іх кантакты з беларускім вызвольным рухам // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7). С. 21-52; Ёрш С. Рэйд праз Карпаты. Пра беларускія атрады, якія з Чэхіі ішлі партызаніць на Радзіму // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9). С. 70-78.

[426] Белорусская нива, 1994, 20 студзеня; Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 31.

[427] Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 201.

[428] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 30.

*русы цалкам паддаліся іх уплывам. А таму нашыя дачыненні з беларусамі пачынаюць развальвацца».*[429]

Безумоўна, тут Тарас Баравец мае на ўвазе беларускія партызанскія атрады і атрады самаабароны з Палесся, частка якіх добраахвотна альбо сілай была падначалена савецкаму кіраўніцтву. Што да палітычных кантактаў, дык з беларускага боку за іх адказваў кіраўнік Беларускай Незалежніцкай Партыі Ўсевалад Родзька, які асабіста ведаў атамана яшчэ з часу «палескай аперацыі» жніўня-верасня 1941 года. Тарас Баравец і яго паплечнікі *«прапаноўвалі БНП заняць антынямецкія пазіцыі»*.[430]

Кантакты з украінскімі дзеячамі ўсіх афарбовак актывізаваліся ў другой палове 1944 года ўжо ў Нямеччыне. Побач з Родзькам у іх актыўна ўключыліся прэзідэнт БЦР Астроўскі і кіраўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР Езавітаў. Ад самага пачатку Радаслаў Астроўскі зрабіў няслушную стаўку на гетмана Скарападскага, які рэальнай вагі ў той час ужо не меў. Сустрэчы праходзілі ў Берліне на працягу верасня-лістапада 1944 года. З беларускага боку ў іх удзельнічалі Р. Астроўскі, К. Езавітаў і Ст. Грынкевіч. Найперш адбываўся абмен інфармацыяй аб сітуацыі ў беларускім і ўкраінскім вызвольных рухах. З ініцыятывы Р. Астроўскага на перамовах паўстала «палескае пытанне». Ён адзначыў, што *«важным... з'яўляецца пытанне аб дакладным устанаўленні мяжы паміж Беларуссю і Ўкраінай ужо цяпер»*, каб зняць гэтую праблему на будучае. Ён нагадаў, што раней украінскія прэтэнзіі на Пінск, Брэст, Мазыр і Гомель прывялі да *«моцнага ахалоджвання беларуска-ўкраінскіх адносінаў»*. Аднак гетман аказаўся не гатовы да абмеркавання гэтага пытання. Таксама Астроўскі высветліў, што гетман Скарападскі не мае ніякага ўплыву на паўстанцкі рух ва Ўкраіне і ведае пра яго толькі агульныя звесткі, таму не мела сэнсу весці з ім размовы пра каардынацыю беларускіх і ўкраінскіх партызан.[431]

У гэтай сітуацыі прэзідэнт БЦР паспрабаваў выкарыстаць гетмана Скарападскага, папрасіўшы яго дапамогі ў справе *«ўстанаў-*

---

[429] Дзьобак В. Тарас Бульба-Боровець і його військові підрозділи в українському русі опору (1941-1944 рр.). — Київ, 2002. С. 232.
[430] Гуленка Ўл. Беларуская незалежніцкая партыя // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, Т. 1. — Мінск: «Беларуская Энцыклапедыя», 1993. С. 393.
[431] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 143.

*лення асабістых сувязяў з нямецкімі коламі ў Берліне, а таксама... ва ўстанаўленні сувязяў з замежжам».*[432]

У сваю чаргу гетман Скарападскі прапанаваў Астроўскаму выступіць пасярэднікам у справе паразумення розных украінскіх груп і стварэння з іх прадстаўнікоў Украінскага Нацыянальнага Камітэта. Астроўскі пагадзіўся і правёў шэраг сустрэч з іншымі ўкраінскімі дзеячамі, атрымаўшы дакладную інфармацыю пра расклад палітычных сілаў. У выніку, стаўка ім была зробленая на кантакты з «бандэраўцамі». Цікава, што сустрэцца з С. Бандэрам Р. Астроўскаму прапанаваў сам гетман Скарападскі.[433]

Паводле К. Езавітава, Р. Астроўскі неаднаразова сустракаўся са С. Бандэрам, лідэрам найбольш актыўнай АУН, які восенню 1944 года быў вызвалены з нямецкага канцлагера. Гутаркі датычылі пытанняў *«аб'яднання паўстанцкай дзейнасці ў Беларусі і на Валыні»*. К. Езавітаў не ведаў (альбо не пажадаў распавесці пра іх следчаму савецкай дзяржбяспекі) дэталяў гэтых перамоваў. Ён згадвае толькі, што Астроўскі падаваў, як свой козыр, батальён «Дальвіц».[434]

Паводле К. Езавітава, дэталі супольнай антысавецкай барацьбы з Бандэрам і з Бараўцом абмяркоўваў Родзька.[435] Сам Родзька сцвярджаў, што перамовы з украінцамі ў другой палове 1944-га ў Берліне вёў Барыс Рагуля.[436] В. Раманоўскі піша, што Родзька *«па даручэнню Астроўскага заключыў пагадненне з... Бандэрам і Каненкам («Тарас Бульба») аб практычным выкарыстанні ўзброеных нацыяналістычных фарміраванняў і разгортванні бандыцкіх дзеянняў на тэрыторыі Украіны і Беларусі».*[437]

Кастусь Езавітаў дадае: *«На тэрыторыі Беларусі і Ўкраіны меркавалася арганізаваць шырокае ваеннае паўстанне, для арганізацыі якога мусіў працаваць маёр Родзька са сваім батальёнам спецыяльна падрыхтаваных людзей».*[438]

Пытанне аб'яднання высілкаў беларусаў і ўкраінцаў у антыбальшавіцкай барацьбе разглядалася і на адмысловай канферэнцыі ў Берліне. Праўда, на ёй былі прадстаўленыя і прадстаўнікі

---

[432] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 145.
[433] Тамсама. С. 145-146.
[434] Тамсама. С. 146.
[435] Тамсама.
[436] Белорусская нива, 1994, 20 студзеня.
[437] Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 201.
[438] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 147.

іншых народаў. На жаль, апублікаваныя ўрыўкі з паказанняў Ус. Родзькі даюць пра яе мінімальную інфармацыю: *«Зімой 1944-45 года ў Берліне адбылася канферэнцыя прадстаўнікоў украінскіх, беларускіх і іншых нацыяналістаў, на якой абмяркоўвалася пытанне аб'яднанай барацьбы супраць Савецкага Саюза».*[439]

З далейшага развіцця падзеяў вынікае, што ў Родзькі атрымалася наладзіць у сакавіку-красавіку 1945-га цеснае супрацоўніцтва з спецыяльнай парашутнай фармацыяй — Групай «Б» Украінскай нацыянальнай арміі, якой камандаваў Тарас Бульба-Баравец («Каненка»). Што да «бандэраўскай» АУН, дык адзінае, да чаго ён мог дамовіцца — дапамогі беларускім групам, якія будуць прабівацца на Бацькаўшчыну праз Украіну. Ёсць звесткі, што ў канцы сакавіка — у пачатку красавіка 1945 года Родзька загадаў некальким групам беларускіх вайскоўцаў прабівацца ў Беларусь пешым парадкам па наступным маршруце: Чэхія — Львоў, а далей два шляхі: на Луцк — Брэст і на Броды — Здалбунаў — Пінск.[440]

Паводле паказанняў К. Езавітава, усё ж кантакты Р. Астроўскага з гетманам Скарападскім і іншымі ўкраінскімі дзеячамі далі плён. Было вырашана, што пытанне *«аб стварэнні беларуска-украінскага саюза»* будзе пакінутае на будучае. Больш актуальным у той час стаў праект «Блок народаў Усходняй Еўропы», як супрацьвага ўласаўскаму «Камітэту вызвалення народаў Расіі». У склад «Блока» ўвайшлі беларусы (прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі), украінцы (старшыня Ўкраінскага Нацыянальнага Камітэта генерал П. Шандрук), крымскія татары, данскія казакі, грузіны, армяне, азербайджанцы, кіргізы, казахі і «народы Паўднёвага Ўрала». Езавітаў сведчыць, што ўдзельнікі «Блока народаў Усходняй Еўропы», акрамя барацьбы з праектам Уласава, скіравалі высілкі на збор звестак пра колішніх дыпламатычных прадстаўнікоў, якія маглі знаходзіцца ў нейтральных краінах. Як бачым, па-ранейшаму лідэраў эміграцыйных груповак найбольш турбавала сувязь з заходнімі саюзнікамі, а дакладней — яе адсутнасць. Таму ўсе падобныя «блокі» і «саюзы» ствараліся найперш з разлікам на палітычнае выжыванне ў паваенных рэаліях.

---

[439] Белорусская нива, 1994, 20 студзеня.

[440] Ёрш С. Рэйд праз Карпаты. Пра беларускія атрады, якія з Чэхіі ішлі партызаніць на Радзіму // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9). С. 73.

## *Адносіны да генерала Ўласава і Камітэта вызвалення народаў Расіі*

Найбольш паслядоўным праціўнікам супрацоўніцтва з былым савецкім генералам А. Уласавым быў прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі. У гэты час ён, разумеючы *«бескарыснасць і бяссэнсавасць удзелу ў абароне Рэйха»,* сабатаваў прапанаванае немцамі стварэнне «беларускага легіёну», «Саюза вызвалення Беларусі», адмаўляўся ад супрацоўніцтва з Уласавым. Як слушна адзначае Ю. Туронак, апошняе *«магло б пасля вайны ўскладніць і нават зусім перакрэсліць яго палітычную працу ў эміграцыі».*[441]

Стварэнне «беларускага легіёну» Астроўскі ўдала зацягваў ад ліпеня да пачатку лістапада 1944 г. — чатыры месяцы! Ю. Туронак лічыць, што прэзідэнт БЦР адмыслова даслаў прапанову аб стварэнні «беларускага легіёна» не ў Галоўнае ведамства СС, а ў штаб камандзіра Вермахта па ненямецкіх фармаваннях генерала Кёстрынга. Там *«ніхто не займаўся гэтым пытаннем, і таму было мала шансаў на яго хуткае вырашэнне».*[442]

Астроўскі імітаваў «актыўнасць», *«але справа не зрушылася ні на крок»*, піша Ю. Туронак.[443] І толькі 6 лістапада 1944 года на паседжанні БЦР было абвешчана, што ў справе арганізацыі беларускіх вайсковых фармацый трэба звяртацца не да Вермахту, а ў СС.[444] У Галоўнае ведамства СС адпаведныя дакументы былі перададзеныя толькі ў сярэдзіне снежня 1944 года.[445]

Ю. Грыбоўскі лічыць, што прычына зацягвання стварэння «беларускага легіёна» была ў маруднасці саміх нямецкіх уладаў ды ў адсутнасці згоды ў гэтым пытанні паміж беларускімі дзеячамі (адныя выступалі за перамовы з СС, іншыя — з Вермахтам).[446] На наш погляд, больш слушная версія Ю. Туронка. Дарэчы, падобнай тактыкі, як і Р. Астроўскі, прытрымліваліся і некаторыя кіраўнікі іншых іншаземных палітычных структур і вайсковых фармацый у Нямеччыне.

---

[441] Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 197.
[442] Тамсама. С. 193.
[443] Тамсама. С. 194.
[444] За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі..., С. 137.
[445] Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 195.
[446] Грыбоўскі Ю. Беларускі легіён СС: міфы і рэчаіснасць // Беларускі гістарычны агляд, 2007. Том 14. Сш. 1-2(26-27). С. 125.

У 1944-1945 гадах палкоўнік Хольмстан-Смыслоўскі, камандзір «Зялёнай арміі асобага прызначэння» (з сакавіка 1945 г. — «1-й Рускай нацыянальнай арміі») адмаўляўся ад супрацоўніцтва з Уласавым і «Рускай вызвольнай арміяй», не ўспрымаў Маніфест КВНР за яго *«сацыялістычную праграму»* і заклікі да барацьбы супраць заходніх краін. Як адзначае С. Драбязка, дасведчаны разведчык *«ужо ведаў, што чакае ў бліжэйшай будучыні Нямеччыну і тых, хто звязаў з ёй свой лёс, і шукаў шляхі выратавання для сябе і сваіх людзей».*[447]

У той жа час Астроўскі дамагаўся ў Галоўнага ўпраўлення бяспекі Рэйха на далучэнне значнай колькасці беларускіх вайскоўцаў і цывільных асобаў да плану «Чорны Кот». Яны праходзілі падрыхтоўку ў Нямеччыне і самалётамі альбо пешым парадкам перапраўляліся ў Польшчу і Беларусь для антыбальшавіцкай барацьбы. Некаторых гэтых людзей Р. Астроўскі вербаваў асабіста. Такім чынам ён спадзяваўся захаваць свой уплыў на падполле і партызанскі рух у Беларусі.[448]

Як адзначае Ю. Туронак, не ўсе беларускія вайсковыя дзеячы ў Нямеччыне разумелі гульню Астроўскага. Напрыклад, не расшыфраваў яе сапраўдных мэтаў кіраўнік БКА Ф. Кушаль.[449]

Але найбольшыя праблемы прэзідэнт БЦР меў з камандзірамі батальёна «Дальвіц», якія крытыкавалі яго і за маруднасць з арганізацыяй беларускага войска, і за адмову супрацоўнічаць з генералам Уласавым.[450]

9 снежня 1944 года адбыўся афіцэрскі сход батальёну «Дальвіц». Па яго выніках быў складзены мемарандум ў *«Вайсковы Аддзел Беларускай Цэнтральнай Рады»* (так у дакуменце, нагадаем, што ад кастрычніка 1944 г. замест вайсковага аддзела было ўтворана Галоўнае кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР). Афіцэры-камандасы прапанавалі «Вайсковаму аддзелу БЦР» *«навязаць лучнасьць з рухам генэрала Власава»*, увесці беларускіх прадстаўнікоў у склад «Камітэта вызвалення народаў Расіі» і падпарадкаваных яму арганізацый, а беларускіх афіцэраў адправіць у *«вайсковы штаб ген.*

---

[447] Дробязко С. Эпопея генерала Смысловского // Материалы по истории Русского освободительного движения 1941-1945 гг.: Сборник статей, документов и воспоминаний. Вып. 4. — Москва: Архив РОА, 1999. С. 125.
[448] Беларускі Супраціў. С. 377.
[449] Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 194.
[450] Тамсама. С. 196.

*Власава».* Таксама яны прапаноўвалі *«стварыць у межах вызвольнае арміі самастойныя беларускія фармацыі пад камандаваньнем беларускіх афіцэраў і пад палітычным кіраўніцтвам адпаведных беларускіх дзейнікаў».* Пры гэтым, *«апэратыўна гэтыя фармацыі падпарадкуюцца штабу ген. Власава».* У выпадку, калі гэтыя прапановы будуць праігнараваныя, афіцэры пагражалі *«дзеля ратаваньня нашага вайсковага палажэньня на эміграцыі рабіць беспасрэднія адпаведныя захады».**

Пераломным стала паседжанне прэзідыума БЦР 12 снежня 1944 года ў Берліне. Галоўнай тэмай абмеркавання было «Нашае становішча ў сувязі з акцыей гэнэрала Ўласава». З дакладам выступіў Радаслаў Астроўскі, які скрытыкаваў некаторых сябраў БЦР, якія не прытрымліваюцца агульнай лініі ў справе «акцыі генерала Ўласава». *«Трэба добра сабе ўсьведаміць, што БЦР не разьбівае адзінага фронту супроць бальшавікоў і ня можа гэтага рабіць, бо яна ад пачатку свайго існаваньня вядзе змаганьне з бальшавізмам,* — гаварыў ён. — *БЦР разам з іншымі народамі былой Расеі ствараюць адзіны супольны фронт супроць бальшавікоў, у якім не хапае толькі гэн. Уласава».*[451]

Паводле Астроўскага, «Камітэт вызвалення народаў Расіі» ад самага пачатку імкнецца падпарадкаваць сабе «іншыя народы», не звяртаючы ўвагі на іх «рэпрэзэнтацыйныя ворганы». Ён адзначыў, што беларусы і «іншыя народы» з гэтай нагоды накіравалі нямецкім уладам «супольны пратэст». Безумоўна, тут маецца на ўвазе праект «Блок народаў Усходняй Еўропы», пра які мы згадвалі раней. *«Мы і іншыя народы для змаганьня з бальшавікамі можам заключыць з ім* [Уласавым] *ваенны саюз, а не падпарадкавацца яму,* — працягваў сваю прамову Р. Астроўскі. — *Трэба памятаць, што мы павінны трымацца пастановы Кангрэсу. Ня мы, а гэн. Уласаў ня хоча ісьці на супольны фронт».*[452]

Са спазненнем на нараду прыехалі сябры БЦР капітан Усевалад Родзька і старшы лейтэнант Уладзімір Лазарэвіч. Таму, верагодна, з тэкстам мемарандума прысутныя азнаёміліся ўжо на паседжанні. Родзька ўзяў слова пасля Міколы Шкялёнка, Станіслава Станкевіча, Франца Кушаля і Яўгена Калубовіча, якія падтрымалі Астроўскага ды пагадзіліся, што *«акцыя гэн. Уласава... больш разьлічана на вонкавы эфэкт».*[453]

---

* Цалкам гэты дакумент змешчаны ў «Дадатку».
451 За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі..., С. 151.
452 Тамсама.
453 Тамсама. С. 151.

З прамовы Ус. Родзькі можна меркаваць, што ён меў сустрэчы з кіраўнікамі Рускай вызвольнай арміі альбо «Камітэту вызвалення народаў Расіі», якія і пераканалі яго ў магчымасці «рэвалюцыі ў Чырвонай Арміі». Пратакол паседжання прэзідыума БЦР захаваў словы Родзькі:

*«Мы найбольш зацікаўлены выращэньнем падзеяў на савецкім фронце. Магчыма, што гэтае выращэньне наступіць у наступным паўгодзьдзі дарогаю рэвалюцыі ў Чырвонай Арміі і вызвольных рухаў унутры Расеі. Мы павінны падтрымаць матар'яльна, збройнай сілай і маральна — ўсякую сілу, накіраваную супроць бальшавікоў. Самі мы, адны, нічога ня здолеем зрабіць. Мы павінны ісьці з тымі, з кім мы можам зьдзейсьніць нашыя імкненьні і гэта гварантуе нам нашыя дамаганьні. Дзеля гэтага мы павінны зрабіць усё, каб ісьці супольна з гэн. Уласавым».*[454]

«Самі мы, адны, нічога ня здолеем зрабіць», — гэта ці не самае важнае, што сказаў Родзька. Памыляючыся з прагнозамі наконт сітуацыі ў Чырвонай Арміі, альбо перабольшваючы значэнне «акцыі Ўласава», ён рэальна ацэньваў патэнцыял беларускіх узброеных сілаў, як на Бацькаўшчыне — у падполлі, так і ў Нямеччыне, ды шукаў выхад. Усевалад Родзька меркаваў, што калі «уласаўцы» уздымуць на этнаграфічнай расійскай тэрыторыі антысавецкі партызанскі рух, то і беларускім партызанам будзе лягчэй змагацца супраць бальшавікоў, бо не ўсе вайсковыя транспарты будуць даходзіць з Расіі ў Беларусь. Акрамя таго, разнастайныя рускія і казацкія аддзелы ды групы дзейнічалі і ў беларускія лясах. Як успамінае былы ўласаўскі афіцэр Аляксей Саўчанка, ён быў арыштаваны "Смершам" у сакавіку 1944 года, калі *«прабіраўся сувязным да «ўласаўскіх бандаў, якія заселі ў беларускіх лясах».*[455]

Цікава, што пасля прамовы Родзькі з паседжання сыйшоў Астроўскі, у якога ўзніклі «пільныя справы», і далей яго вёў віцэ-прэзідэнт Мікола Шкялёнак. Дыскусія працягнулася. Павел Свірыд заявіў, што БЦР ні ў якім выпадку ня можа быць падпарадкаванай Камітэту Вызваленьня і гэн. Уласаву, бо гэта азначала-б адыход БЦР ад кірунку, вызначанага 2-м Усебеларускім

---

[454] Тамсама. С. 152.

[455] Волкова О. И не друг, и не враг — а как? // Мегаполис-Экспресс (Москва), 1990, 25 кастрычніка, № 26.

Кангрэсам». Яўген Калубовіч яго падтрымаў і сказаў, што *«лічыць цяпер прапазыцыю кап. Родзькі передчаснай»*. На яго погляд, у будучым перамовы можна было б весці, але *«на раўнапраўных падставах»*.[456]

Родзьку падтрымалі В. Селях і С. Калядка. А Кушаль адзначыў, што «ня трэба траціць зусім кантакту з тымі беларусамі, якія пераходзяць да Ўласава, а нават самым пасылаць туды людзей, бо невядома, ці і калі дазволяць нам арганізаваць сваю збройную сілу». І тут узяў слова Кастусь Езавітаў, які заявіў, што пытанне фармавання беларускага войска «ўжо вырашана... пазытыўна», і што будзе створаная беларуская дывізія СС. Гэта, вядома, было навіной для многіх прысутных, у тым ліку і для Родзькі. І тым не менш, ён *«асьветчыў, што група беларускіх вайскоўцаў, да якой належыць ён і ст. лейт. Лазарэвіч, злажылі ў Галоўнае Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР мэмарандум* аб неабходнасьці далучэньня да акцыі гэн. Уласава і прачытаў некаторыя аргумэнты з гэтага мэмарандума»*. Родзьку прадказальна падтрымаў Лазарэвіч.[457] Дарэчы, ён удзельнічаў у публічных акцыях у падтрымку Ўласава. Вось што ўспамінае Лявон Галяк: *«Сярод тыпу гэтых людзей, якія пачалі энтузыявацца Ўласавым, трэба ўспомніць Уладзімера Лазарэвіча, які нейкі час быў віцэстаршынёю гораду Менску. Гэты тып — Лазарэвіч выступаў на нейкім мітынгу ў Торуні, выказваючы сваё захапленьне ідэямі ген. Уласава»*.[458]

Езавітаў парыраваў: *«гутаркі аб далучэньні да акцыі гэн. Уласава зьяўляюцца перадчаснымі»*. Яго падтрымаў Кушаль, які зноў паўтарыў сваю прапанову дзейнічаць «неафіцыйна», пасылаючы да Ўласава «паасобных вайскоўцаў». Паводле Кушаля, гэта быў бы выхад на той выпадак, калі немцы не выканаюць сваіх абяцанак у справе стварэння беларускага войска.

Вынік дыскусіі падвёў Шкялёнак, які адзначыў, што *«адносна арганізацыі нашае дывізыі мы маем аўтарытэтнае запэўненьне нямецкіх кампэтэнтных уладаў»*. Што да Ўласава, дык, паводле Шкялёнка, ён «пакуль што сам мае малыя магчымасьці арганізаваньня войска», а «РОА да яго не належыць». Ніякага далучэння

---

* Гэты дакумент, а таксама адказ на яго К. Езавітава цалкам змяшчаецца ў «Дадатку».

456 За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі..., С. 152-153.

457 Тамсама. С. 153.

458 Галяк Л. Успаміны. Кн. II. — ЗША: Выдавецтва «Летапіс», 1983. С. 17.

да «акцыі Ўласава» не плануюць і «арганізацыі іншых саюзных з намі народаў», сказаў віцэ-прэзідэнт. Ён выступіў супраць прапановы Кушаля «неафіцыйна» пасылаць людзей да Ўласава. Аднак адзначыў, што *«дарогі да гутарак з уласаўцамі мы не замыкаем».*[459]

Безумоўна, весткі пра хуткі дазвол стварэння беларускай дывізіі ды аргументы большасці сяброў Рады (а сярод іх і аднаго з ідэолагаў БНП Міколы Шкялёнка) не маглі не паўплываць на пазіцыю Ўсевалада Родзькі, што да пытання супрацоўніцтва з генералам Уласавым. З ім асабіста размаўляў К. Езавітаў, а, магчыма, і Р. Астроўскі. Практычна, не вырашаным заставалася пытанне апекі над беларусамі, якія патрапілі ў аддзелы Рускай вызвольнай арміі. Але і пра гэта Езавітаў гаварыў з Родзькам. *«Аб гэтым падрабязьней скажа Вам сп. кап. Родзька»,* — напісаў ён у лісце да афіцэраў «Дальвіца».*

Тэза Ю. Туронка (якая грунтуецца на адной з публікацый у таронцкай газеце «Беларускі голас»), што *«у пачатку 1945 г. Родзька ўвогуле адмовіўся ад супрацоўніцтва з Астроўскім і выказаў шкадаванне аб тым, што звязваўся з ім у мінулым»*,[460] на наш погляд, няслушная. У той час, асабліва пасля раззбраення немцамі «Дальвіца», Родзька быў зацікаўлены ў супрацоўніцтве з прэзідэнтам БЦР. Камандзірам «Дальвіца» была патрэбная дапамога як у наладжванні кантактаў з «адпаведнымі нямецкімі дзейнікамі»**, так і ва ўстанаўленні кантактаў з заходнімі саюзнікамі. Як сведчыць К. Езавітаў, у выпадку, калі б Родзька быў перакінуты ў БССР, ён атрымаў бы ад Астроўскага *«паўнамоцтвы быць яго намеснікам на тэрыторыі Беларусі».*[461]

Гэта, вядома, не змяняла планаў Усевалада Родзькі арыентавацца на БНР у паваенных рэаліях.

Варта таксама згадаць, што пасля снежаньскай нарады ў берлінскай «Раніцы» з’явіўся ліст камандзіраў і жаўнераў «Дальвіца» да прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага. У ім яны пісалі:

---

* Цалкам змешчаны ў «Дадатку».

** Як пісаў у сваіх успамінах Яўхім Кіпель, «Астроўскі быў асобай, якая магла найлепей гаварыць зь немцамі». Гл.: Кіпель Я. Эпізоды. — Нью-Ёрк: Выдавецтва газэты «Беларус», 1998. С. 232.

459 Тамсама. С. 153-154.

460 Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 197.

461 Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 147.

*«Апошнія падзеі гэтага жыцьця, зьвязаныя з агульным пытаньнем утварэньня задзіночанага супрацьбальшавіцкага фронту, моцна і парознаму ўсхвалявалі нашую грамадзкую думку, выклікаючы часта даволі неабдуманую рэакцыю з боку адзінак, неадпаведна паінфармаваных аб існуючым палажэньні.*

*Мы перакананыя, што толькі поўная здысцыплінаванасьць усіх беларусаў можа гарантаваць нам рост нашае нацыянальнае справы і прызнаньне ейнае роўнавартасьці сярод іншых народаў. Шкодныя спробы прыватнага палітыканства аслабляюць нашую палітычную пазыцыю і разьбіваюць нацыянальнае адзінства».*[462]

Аднак вернемся да беларускіх вайскоўцаў, якія патрапілі ў склад «уласаўскіх» аддзелаў. Найбольш падрабязныя ўспаміны пра іх пакінуў Яўхім Кіпель. Ён сведчыць, што далучыўся да «беларускае арганізацыйнае групы пры «ўласаўскім» камітэце» пасля размовы з капітанам/маёрам Міхалам Пугачовым (былы афіцэр мінскай паліцыі, а пасля акруговы начальнік БКА ў Мінскай акрузе).

*«Маніфэст Уласава быў з выгляду вельмі прывабны і таму вялікая колькасьць беларусаў выявіла жаданьне быць ва ўласаўскіх войсках,* — успамінае Я. Кіпель. — *Запісвалася ва ўласаўскія арміі шмат беларусаў з былых «остаўцаў» і палонных. Ясна, што патрэбна было ісьці туды і арганізоўваць тых беларусаў. З другога боку, зь беларускіх нацыянальных дзеячоў ніхто маніфэсту не падпісваў. Маніфэст ад беларусаў падпісаў былы чырвонаармеец, лейтэнант [Дубавец], які перад тым быў палонным».*[463]

Гэтую беларускую групу ачоліў «русафіл» Мікалай Будзіловіч. У кастрычніку 1944 г. ён, а таксама Кіпель, Пугачоў, падпалкоўнік Падлазнік і Ўладзімір Гуцька (Дудзіцкі) сустракаліся з А. Уласавым і яго атачэннем. Паводле Кіпеля, які пацікавіўся «нацыянальным пытаннем», пэўнага адказу ён не атрымаў, меркавалася яго вырашаць пазней. І тым не менш, Кіпель і іншыя вырашылі застацца. Пугачоў і Падлазнік мусілі адказваць за арганізацыю беларускіх вайсковых аддзелаў, Дземчанка — за вярбоўку людзей, Гуцька-Дудзіцкі — за прапаганду. Міхал Пугачоў сабраў касьцяк запланаванага беларускага батальёна — каля дзесятка беларускіх афіцэраў, рыхтаваў перавыданне беларускага

---

462 Раніца (Берлін), 1945, 3 студзеня, № 1. Цалкам гэты ліст, а таксама адказ Р. Астроўскага гл. у рубрыцы «Дадатак».
463 Эпізоды. С. 239.

вайсковага статуту, «распрацоўваў адзнакі беларускай вайсковай уніформы». Аднак і ў сакавіку 1945 года, калі «Беларуская Нацыянальная рада» (раней — «Беларускі Нацыянальны Камітэт») разам з усім «уласаўскім» камітэтам была накіраваная ў Судэты, у Карлсбад (Карлавы Вары), гаворка па-ранейшаму ішла толькі пра тое, «што хутка будзе сфармаваны першы беларускі батальён». Аднак вайна заканчвалася і гэты праект рэалізаваны не быў.[464]

Такім чынам, супрацоўніцтва часткі беларускіх дзеячоў з генералам Уласавым не дало ніякага выніку. Хіба што «ўласаўцы» змаглі ў прапагандысцкіх мэтах казаць пра тое, што іх «падтрымалі беларусы». Таму нават Я. Кіпель мусіў прызнаць слушнасць пазіцыі Р. Астроўскага: *«Хоць супрацоўніцтва з Уласавым было правільным, безь ніякага сумневу, правільна рабіла і БЦР, увесь час адстойваючы перад немцамі незалежную беларускую пазыцыю».*[465]

### *«План Астроўскага-Родзькі»*

Паводле Аляксандра Хацкевіча, *«на выпадак разгрому Нямеччыны Астроўскі, Радзько і іншыя беларускія нацыяналісты распрацавалі план далейшых дзеянняў»*. Нібыта, *«базай для разгортвання палітычнай, нацыяналістычнай, шпіёнскай-дыверсійнай і іншай дзейнасці»* былі вызначаны тэрыторыі Нямеччыны і Аўстрыі, акупаваныя заходнімі саюзнікамі. «Цэнтры сувязяў» мусілі знаходзіцца ў Берліне, Варшаве і Празе. Паводле згаданага плану, *«падполле і яго арганізацыі па папаўненню сілаў і практычным дзеяннем»* мусілі базавацца ў раёне Налібоцкай і Белавежскай пушчаў. Месцамі канцэнтрацыі беларускіх нацыяналістаў былі вызначаны Берлін, Прага, Гдыня альбо Данцыг. Верагодна, меркавалася, што гэтыя гарады будуць занятыя заходнімі саюзнікамі і з'явіцца магчымасць адтуль *«праз дэмаркацыйную лінію на захадзе ўстанаўліваць сувязі і прыводзіць іх у парадак».*[466]

А. Хацкевіч прыводзіць і спіс асобаў, якія мусілі дзейнічаць у розных краінах. У Францыі (у Парыжы) — М. Абрамчык, маёр Дз. Касмовіч, палкоўнікі Ф. Кушаль і Шувалаў*, у Швейцарыі (у

* Паводле ўспамінаў Кушаля, палкоўнік Шувалаў у красавіку 1945-га быў «кіраўніком вайсковых справаў пры БЦР». Верагодна, ён замяніў генерал-маёра К. Езавітава, якому зрабілі аперацыю. Гл.: Кушаль Ф. Спробы стварэньня беларускага войска. — Менск: Беларускі Гістарычны Агляд, 1999. С. 114.

464 Эпізоды. С. 233-242.

465 Тамсама. С. 238.

466 Хацкевич А. Преступления без срока давности // Фемида (Мінск), 1993, № 2(54), 11-17 студзеня.

Жэневе) — Міхал і Васіль Рагулі, А. Стагановіч, Трафімоўскі, Ст. Грынкевіч, Шэндар (А. Шантыр?), у Чэхіі (у Празе) — В. Русак, Нагулевіч, Корбут, Мароз, Малевіч, М. Ганько, Абрамовіч (Абрамава?), Станкевіч, у Нямеччыне (у Берліне) — М. Шчорс, К. Езавітаў, Б. Рагуля, (у Гёкстары) — Р. Астроўскі, Р. Зыбайла, у Аўстрыі (у Зальцбургу) — сябры «Беларускай Нацыянальнай Рады» пры «Камітэце вызвалення народаў Расіі» Будзіловіч, Жук, Комар, Ул. Гуцька.[467]

Калі падобны план сапраўды існаваў, ён мог быць напісаны дзесьці ў студзені 1945-га года. Ці сапраўды гэта быў агульны план Родзькі і Астроўскага? Апублікаваныя ўрыўкі з паказанняў Усевалада Родзькі ў турме савецкай дзяржбяспекі пацвярджаюць гэта. У прыватнасці, ён сцвярджаў, што маёр Дз. Касмовіч пасля пераходу лініі заходняга фронту мусіў паведаміць англійскім уладам: *«кіроўным цэнтрам палітычнай барацьбы за гэтую дзяржаву* [незалежную Беларусь] *на міжнароднай арэне з'яўляецца Беларуская цэнтральная рада, а асноўным фактарам барацьбы ў падполлі на тэрыторыі Беларусі — Беларуская незалежніцкая партыя».*[468]

Таксама як і з «месцамі канцэнтрацыі беларускіх нацыяналістаў», у далейшым далёка не ўсё атрымалася і з персаналіямі. У канцы вайны многія займаліся ратаваннем свайго і сваіх блізкіх жыцця. Толькі адзінкі, самыя ідэйныя і адчайныя, кіраваліся ранейшымі інструкцыямі.

### *Спробы наладжвання сувязі з заходнімі саюзнікамі*

Наладжванне сувязі з заходнімі саюзнікамі (найперш, англічанамі) была адной з галоўных задач, якая летам-восенню 1942 года стаяла перад ідэолагам беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціву ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім. Калі б быў дасягнуты станоўчы вынік, з'віўся б магутны імпульс да аб'яднання ўсіх нацыянальных групаў у адзіны «фронт». Аднак спробы выйсці на англічан праз польскую канспірацыю і нават савецкую разведку скончыліся няўдачаю.[*] У далейшым беларускія дзеячы (Я. Станкевіч, Ст. Грынкевіч (лекар) ды іншыя) працягвалі спробы на-

---

[*] Падрабязна пра гэта гл.: Беларускі Супраціў. С. 64-65.
[467] Тамсама.
[468] Белорусская нива, 1994, 20 студзеня.

ладзіць кантакты з англійскім урадам праз польскую канспірацыю, перадавалі мемарандумы, якія заставаліся ў польскіх архівах.

Пасля эвакуацыі з Беларусі дзеячы Беларускай Незалежніцкай Партыі паспрабавалі самастойна адправіць эмісараў у нейтральную Швейцарыю. Дзесьці ў кастрычніку 1944 года сябра БНП Язэп Сажыч у Берліне атрымаў ад Усевалада Родзькі заданне нелегальна перабрацца ў Швейцарыю. Ён мусіў зрабіць гэта разам з Дзмітрыем Касмовічам, да якога быў прыдзелены ў якасці «вайсковага аташэ».

*«Там вам трэба дабрацца да аліянцкіх амбасадараў і рэпрэзэнтаваць беларускую справу ад БНП, бо-ж без дапамогі звонку ніякае змаганьне ці паўстаньне ня ўдасца»,* — сказаў Родзька. Ён перадаў Сажычу пакунак з паперамі і 5 тысячамі нямецкіх марак на выдаткі.[469]

Нагадаем, ЦК БНП на сваім паседжанні 25 верасня 1944 г. у Берліне вызначыў, што Дз. Касмовіч будзе прадстаўляць БНП на Захадзе. Родзька («Воўк») выдаў Касмовічу «Ўпаўнаважаньне»:

БЕЛАРУСКАЯ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЯ ПАРТЫЯ
ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ

25 верасьня 1944.

УПАЎНАВАЖАНЬНЕ

Гэтым даручаецца Маёру ***Касмовічу*** Дзімітру рэпрэзэнтацыя інтарэсаў Беларускай Незалежніцкай Партыі і агульнабеларускіх інтарэсаў на абшары Заходняй Эўропы і Паўночнай Амэрыкі. У абсяг паўнамоцтваў уваходзіць: вядзеньне перагавораў і заключаньне дагавароў палітычнага і вайсковага характару.

Дагаворы, падпісаныя маёрам Касмовічам ад імя БНП уваходзяць неадкладна ў дзейнасьць, павінны аднак для поўнай праўнай важнасьці быць ратыфікаваныя на працягу трох месяцаў ад даты подпісу Цэнтральным Камітэтам БНП.

Вышэй дадзеныя паўнамоцтва можа перадаць маёр К. на вызначанага ім сябру БНП, паведамляючы аб гэтым адначасова ЦК БНП.

*КІРАЎНІК ПАРТЫІ /**Воўк**/* [470]

---

[469] Юзік С[ажыч]. Яшчэ, і больш пра Ўсевалада Родзьку і некаторых ягоных школьных сяброў // Беларускі дайджэст, 1998, № 8 (56), верасень; Перадрук — Наша ніва, 1999, № 1, 11 студзеня.

[470] Каваль Я. Генэрал вызвольнага фронту. — Менск: Голас Краю, 2002. С. 18-19.

У сваіх успамінах Касмовіч патлумачыў, якія заданні ён меў, як кіраўнік замежнага сектару БНП і ўпаўнаважаны ЦК БНП:

*«Маім заданьнем было, адпаведна палітычнай і вайсковай сытуацыі і кансалідацыі антыкамуністычных, аб'яднаных дэмакратычных сілаў Нямеччыны і Вольнага Сьвету, заключаць дамовы з вайсковымі і дзяржаўнымі антыкамуністычнымі сіламі Вольнага Сьвету ад імя ЦК БНП, г. зн. ад імя народных беларускіх антыкамуністычных вайсковых сілаў.*

*Для сувязі са штабам беларускіх антыкамуністычных партызанаў на Бацькаўшчыне ЦК БНП прыдзяліў мне спэцыяльна давераных лучнікаў — капітана Язэпа Сажыча, лейтэнанта Шантыра, зьвязнога Канстанціна Станюша і інш. Былі ўстаноўленыя тайныя коды і паролі для лучнасьці і адпаведных вайсковых дзеяньняў антыкамуністычных партызанаў».*[471]

Якія дакументы знаходзіліся ў згаданым пакунку Сажыча, невядома. Але там маглі быць нейкія звароты ці мемарандумы да ўрадаў краін-удзельніц антыгітлераўскай кааліцыі ў справе змагання беларускага вызвольнага руху за незалежнасць Беларусі.

Паводле ўспамінаў Я. Сажыча (Дз. Касмовіч пра гэты эпізод успамінаў не пакінуў), яны прыехалі ў горад Зінген (Singen) у Альпах каля самай швейцарскай мяжы. Там Сажыч і Касмовіч спыніліся ў гатэлі і чакалі з'яўлення Антона Шантыра, які мусіў іх перавесці праз «гарыстую мяжу». Пра тое, што здарылася далей, успамінае Я. Сажыч: *«Але дзесьці каля чацьвёртае гадзіны раньня чуем стук у дзьверы і нейкая жанчына, гаворачы папольску, сказала нам, каб мы ўцякалі з гатэлю, бо нямецкае СД ідзе па нашых сьлядох і плянуе нас арыштаваць. Відаць, быў нейкі данос. На гэтым скончылася мая пасольская місія. Больш не спатыкаўся з Родзькам ані з Касмовічам».*[472]

Пра тое, што *«афіцэр штаба Дальвіцкай школы»* Антон Шантыр рыхтаваўся да выканання задання па наладжванню сувязі з заходнімі саюзнікамі, сведчыў на следстве маёр Глеб Багдановіч. Прыблізна ў верасні 1944 года Шантыр паведаміў яму, што *«ёсць намер тайна ад немцаў устанавіць сувязь з англічанамі ці амерыканцамі, і пра гэта ведаюць толькі Родзька і Рагуля».* Меркавалася, што Антон Шантыр пад выглядам хворага (Багдановіч вучыў яго сімуляваць сухоты) выедзе на адпачынак і лячэнне ў Нямеч-

---

[471] За вольную і сувэрэнную Беларусь. С. 209.
[472] Беларускі дайджэст, 1998, № 8 (56), верасень.

чыну. Там ён мусіць дачакацца прасоўвання заходняга фронту і ўсталяваць сувязь з амерыканцамі ці англічанамі, а таксама з беларускімі дзеячамі, найперш з інжынерам Міколам Абрамчыкам (які ў 1943 годзе атрымаў ад Васіля Захаркі паўнамоцтвы Прэзідэнта Рады Беларускай Народнай Рэспублікі).[473]

Што да Шантыра, дык ён, верагодна, застаўся ў Берліне. Л. Галяк сведчыць, што «Тонік Шантыр» спаткаў Новы 1945 год ў Берліне разам з ім, Езавітавам у памяшканні БЦР.[474]

Дакладна невядома, ці місія Касмовіча-Сажыча была ў той час адзінай, ці кіраўніцтвам БНП планавалася адправіць і іншых эмісараў. Аднак ніякай сувязі з заходнімі саюзнікамі не было наладжана.

Таксама, як сцвярджаў на допыце К. Езавітаў, нібыта, на загад БЦР у жніўні 1944 г. на бок заходніх саюзнікаў пераходзілі беларускія батальёны 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Паводле атрыманых інструкцыяў, яны павінны былі стварыць беларускія аддзелы ў складзе армій заходніх саюзнікаў, альбо нават і «Беларускі камітэт», як палітычны орган. Аднак на пачатак красавіка 1945 года ў БЦР пра тое, ці былі рэалізаваныя гэтыя планы, нічога не ведалі.[475]

Няўдалымі былі і спробы Радаслава Астроўскага адправіць праз лінію фронту асобных людзей. К. Езавітаў у сваіх паказаннях у турме савецкай дзяржбяспекі сведчыць пра спробы Р. Астроўскага наладзіць сувязі з заходнімі саюзнікамі. Непазбежная параза Нямеччыны ў канцы 1944 года паставіла на павестку дня пытанне пра будучае БЦР, *«каб перанесці яе да саюзнікаў і арганізаваць там новую базу для работы беларускай эміграцыі за мяжой»*. Гэты праект Радаслаў Астроўскі *«ў мэтах канспірацыі»* цалкам узяў у свае рукі і таго ж К. Езавітава інфармаваў пра яго мінімальна.[476]

Прэзідэнт БЦР выкарыстоўваў былых сябраў беларускай студэнцкай карпарацыі «Скарынія», якая існавала ў 1930-х гадах пры Віленскім універсітэце. Паводле Езавітава, Астроўскім у студзені-сакавіку 1945 года былі пасланыя гэтыя людзі «*ў якасці дыпламатычных прадстаўнікоў*» у Швейцарыю, Швецыю, Францыю,

---

473 Семь дней, 1994, № 28, 9 ліпеня.
474 Галяк Л. Успаміны. Кн. II. С. 20.
475 Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 151.
476 Тамсама. С. 150.

Турцыю, Бельгію, Данію, Нарвегію, Італію, Вугоршчыну і далучаную да Рэйха Аўстрыю. Усіх іх ён пасылаў як прадстаўнікоў БЦР. Аднак ніводнага прозвішча гэтых эмісараў Езавітаў, нібыта, не ведаў. Ён толькі дадаў, што ўвесь час пры Астроўскім з ліку былых карпарантаў былі Л. Галяк, А. Сакалоў і нейкі Ўладзімір, які быў кансультантам.

Паводле Езавітава, Астроўскі (дзесьці ў лютым-сакавіку 1945-га) скардзіўся яму, што *«не ўдаецца навязаць сувязі з замежжам, хаця ён спрабаваў пасылаць туды людзей з ліку свайго бліжэйшага атачэння, а таксама з ліку былых студэнтаў-карпарантаў беларускай студэнцкай карпарацыі пры Віленскім універсітэце, якая называлася «Скарынія».*[477]

Таму сцверджанне В. Раманоўскага, што эмісары Р. Астроўскага *«хутка знайшлі агульную мову з прадстаўнікамі разведак амерыкана-англійскіх войск»*[478], не адпавядае сапраўднасці.

Што да людзей з «бліжэйшага атачэння» Астроўскага, то К. Езавітаў згадвае намер адправіць Дземідзецкага-Дземідовіча (былога працаўніка Мінскай гарадской управы, Езавітаў памылкова называе яго «Дземідовічам-Дзясніцкім») *«у Англію для сувязі з англійскім урадам і Польскім Эміграцыйным урадам»*, у складзе якога ён, нібыта, меў сваякоў. Таксама Езавітаў ведаў пра адпраўку маёра Дз. Касмовіча ў Францыю і Ст. Грынкевіча — у Швейцарыю. Аднак вынікаў місіяў гэтых асобаў ён на пачатак красавіка 1945 г., калі трапіў у бальніцу, не ведаў.[479]

Верагодна, у пачатку 1945 года, пасля зняцця напружання ў справе з «акцыяй генерала Ўласава», Ус. Родзька скаардынаваў з Р. Астроўскім высілкі па адпраўцы эмісараў. Многія з іх былі сябрамі БНП, жаўнерамі ці афіцэрамі «Дальвіца».

Пераход лініі заходняга фронту маёру Дз. Касмовічу ўдаўся толькі ў красавіку 1945 года. Як сведчыў на следстве Родзька, Касмовіча на гэты раз ён накіраваў у Парыж *«з заданнем, акрамя арганізацыйнай працы па лініі БНП, устанавіць сувязь асабіста ці праз іншых нацыяналістаў, ужо вядомых на Захадзе, з англійскімі ўрадавымі коламі».* У гэтых мэтах ён мусіў скарыстацца дапамогай М. Абрамчыка, у прыватнасці, *«праз яго высвятліць магчымасць устанаўлення сувязяў з англічанамі».* Калі б

[477] Тамсама. С. 152.
[478] Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 202.
[479] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 150.

такія магчымасці былі, Касмовіч мусіў *«у мэтах узмацнення сваіх пазіцый устанавіць таксама сувязь з украінскім і рускім нацыяналістычнымі цэнтрамі эмігрантаў у Францыі».*[480]

Калі б сувязь з англічанамі была наладжаная, Дз. Касмовіч мусіў бы паведаміць англійскаму ўраду, *«што беларускія нацыяналісты імкнуцца стварыць незалежную беларускую дзяржаву і што кіруючым цэнтрам палітычнай барацьбы за гэтую дзяржаву на міжнароднай арэне з'яўляецца Беларуская цэнтральная рада, а асноўным фактарам барацьбы ў падполлі на тэрыторыі Беларусі — Беларуская незалежніцкая партыя».*[481]

Родзька таксама даручыў Касмовічу *«праінфармаваць англійскае камандаванне пра існаванне спецыяльнага батальёна Дальвіц, у выпадку канфлікта з Савецкім Саюзам выкарыстаць яго для арганізацыі дыверсій, тэрора і шпіянажу на карысць англічан».* На следстве Ўсевалад Родзька патлумачыў, што ў гэтым выпадку ён спадзяваўся *«ўстанавіць кантакт з англійскімі разведвальнымі органамі і перайсці на бок англічан усім складам разведшколы».*[482]

У пачатку красавіка 1945 г. Касмовіч з Берліна выехаў у г. Страсбург. Неўзабаве на тым участку фронту англійскія і французскія войскі прасунуліся наперад і Родзька палічыў, што Касмовічу ўдалося перайсці на той бок, тым больш, што ён адтуль не вярнуўся. Родзька лічыў, што Касмовіч сувязь з англічанамі ўстанавіў.[483]

Паводле А. Хацкевіча, пасля капітуляцыі Нямеччыны Касмовіч «хаваўся ў Швейцарыі» і быў там арыштаваны як «вайсковы злачынца». Аднак неўзабаве быў вызвалены і перабраўся ў амерыканскую зону акупацыі Нямеччыны.[484] Такім чынам і Дзмітрый Касмовіч выканаць заданне не мог.

З аналагічным заданнем у Швейцарыю быў адпраўлены сябра БНП і БЦР Станіслаў Грынкевіч. Летам 1944 года Ст. Грынкевіч, праўдападобна, у Берліне быў прыняты Ўс. Родзькам у БНП і атрымаў мянушку «Каладзей». У пачатку вясны 1945 года Родзька і Астроўскі даручылі Грынкевічу перабрацца ў Швейцарыю, дзе жыла 84-гадовая княгіня Магдалена Радзівіл. Меркавалася,

---

[480] Белорусская нива, 1994, 20 студзеня.
[481] Тамсама.
[482] Тамсама.
[483] Тамсама.
[484] Фемида, 1993, № 3(55), 18-24 студзеня.

што з яе дапамогай удасца наладзіць кантакты з заходнімі саюзнікамі, найперш з Англіяй.[485]

Ні Родзька, ні Грынкевіч не ведалі, што княгіні ўжо не было сярод жывых. Яна памерла 6 студзеня 1945 года ў кляштары сясцёр-дамініканак у г. Фрыбур.[486] Таму, калі Ст. Грынкевічу і ўдалося дабрацца да Швейцарыі, дапамогі для беларускай справы ён там не знайшоў.

Яшчэ адным кур'ерам Родзькі быў Уладыслаў Рыжы. Яго, нібыта, шукала гестапа за распаўсюд у лагерах СБМ у Нямеччыне і ў брыгадзе «Беларусь» канспірацыйнага «Бюлетэню БНП». Аднак капітан Бенэш паспеў папярэдзіць Рыжага пра небяспеку і ён сышоў з брыгады «Беларусь», дзе *«вёў падгатоўку паўстаньня на загад Родзькі»*. Родзька арганізаваў выраб Ул. Рыжаму фальшывых дакументаў і даў *«новае партыйнае заданьне навязаньня зьвязкоў з Альянтамі»*.[487]

Сам Уладыслаў Рыжы ўспамінаў наступнае: *«Ня бачачы змогі павароту на барадзьбу на Бацькаўшчыне, я заняўся пашырэньнем антынямецкай праграмы «БНП» у Нямеччыне і пасьля падгатоўкай паўстаньня ў беларускай дывізіі. Быў здраджаны ўзноў памочнікам Ганько і шуканы ваеннай спэцыяльнай паліцыяй, але Бог памог даведацца аб здрадзе і ўцячы...*

*Атрымаўшы заданьне знайсьці Абрамчыка ў Парыжы і скантактавацца з Захадам, я з беларускай павязкай дабраўся ў Парыж, знайшоў Абрамчыка ў дзень капітуляцыі Нямеччыны, і гатоў быў быць пасланы на Беларусь на падтрымку нашым партызанам. Я краў у польскім лягеры што мог, каб карміць галадуючага Абрамчыка».*[488]

Такім чынам, і Ўл. Рыжы не мог выканаць сваю місію — ён мусіў забяспечваць харчамі галоднага прэзідэнта Рады БНР.

Таксама вядомыя спробы наладзіць сувязь з заходнімі саюзнікамі праз нейтральную Швецыю.* Аднак няма дакладных звес-

---

* Гл.: Дубноўскі В. Спроба ўтварэння Беларускага Вызвольнага Цэнтру ў Швэдыі. 1943-1945 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2). С. 53-57; Адзінец А. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. — Мінск: Медисонт, 2007. С. 171.

485 Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 202; Белорусская нива, 1994, 20 студзеня.

486 Гарбінскі Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. — Менск — Мюнхэн: «Беларускі кнігазбор», 1999. С. 157.

487 Адамёнак У. [Уладыслаў Рыжы-Рыскі?] Чарговая няпраўда // Беларускі голас, 1966, № 136, сакавік.

488 Arcybiskup Uladyslau [Ryzy-Ryski]. Tym, chto mianie nia viedaje. Копія ў архіве С. Ярша.

так, каб напрыканцы Другой сусветнай вайны беларускі вызвольны рух здолеў наладзіць сувязь з заходнімі альянтамі. Адзінае сведчанне знаходзім у кнізе «Беларускія буржуазныя нацыяналісты»: *«Асабістая сакратарка «прэзідэнта» БЦР Астроўскага — Казлова, будучы арыштаванай органамі дзяржаўнай бяспекі, засведчыла, што беларускія буржуазныя нацыяналісты яшчэ да разгрому фашыстоўскай Нямеччыны ўстанавілі сувязь з амерыканскай і англійскай разведкамі і па іх заданнях вялі падрыўную працу супраць СССР. Паводле паказанняў Казловай, у канцы Айчыннай вайны быў затрыманы перад ад'ездам у Лондан актыўны нацыяналіст, які здзяйсняў сувязь з англійскімі разведорганамі. Ён таксама даў паказанні пра наяўнасць сувязі беларускіх нацыяналістаў з амерыканскай і англійскай разведкамі. Пра сувязь беларускіх нацыяналістаў з гэтымі разведкамі маюцца і іншыя матэрыялы».*[489]

Як вядома, Еўдакія Казлова ў траўні 1945 года дапамагала савецкім спецслужбам выяўляць беларускіх дзеячоў у Празе. Што да «кандыдата» да выезду ў Лондан, дык верагодна маецца на ўвазе былы слуцкі паўстанец Васіль Русак. Толькі застаецца адкрытым пытанне, ці варта верыць таму, што ў канцы вайны ўжо была «сувязь з англійскімі разведорганамі». Магчыма, што яна толькі шукалася.

### *Перадача «Дальвіцу» прэзідэнцкага сцягу Васіля Захаркі*

У пачатку сакавіка 1945 года Ўсевалад Родзька атрымаў сцяг прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі Васіля Захаркі, які на працягу двух гадоў перахоўваўся ў ваколіцах Берліну беларускім дзеячом Станіславам Грынкевічам (малодшым). Грынкевіч разам з Ларысай Геніюш і Міколам Абрамчыкам у сакавіку 1943-га ўдзельнічалі ў вывазе з пражскай кватэры Захаркі найбольш каштоўнай часткі прэзідэнцкага архіву (яны баяліся, што яго забяруць нямецкія спецслужбы). Архіў у Парыж перавёз Абрамчык, а Грынкевічу даручылі перахоўваць сцяг.[490]

Летам 1944 года Ст. Грынкевіч быў прыняты Ўс. Родзькам у БНП. У пачатку вясны 1945 года Родзька і Астроўскі адправілі Грынкевіча з спецзаданнем у Швейцарыю. Таму перад ад'ездам

---

[489] Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. С. 27.

[490] Каладзей С. «Прэзыдэнцкі сьцяг БНР» // Бацькаўшчына, 1949, 25 сакавіка, № 8. Перадрук — Навіны БНФ «Адраджэньне», 1991, № 1.

Станіслаў Грынкевіч і перадаў сцяг «Дальвіцу». Вось як ён успамінаў ужо ў паваенны час пра тую падзею:

*«Адзін із сяброў ЦК БНП прыгатаўляўся із сваім аддзелам да змаганьня за волю народу й беларускую дзяржаўнасьць на Бацькаўшчыне. Для мяне было назначана іншае заданьне. Гэтаму сябру было пастаноўлена перадаць гэтую сьвятую памятку.*

*Сталася гэта ў першых днях сакавіка 1945 г. у Бэрліне, у дзялянцы Шарлётэнбург, у гатэлі «Гамбургэр Гоф» застаў я сябру камандзіра Р[одзьку] ў прысутнасьці сьв. п. маёра Гелды ды аднаго ад'ютанта — абсальвэнта Віленскай Беларускай Гімназіі, прозьвішча якога сяньня не прыпамінаю.*

*Выясьніўшы мэту свайго прыбыцьця, я выняў з партфэля нашую нацыянальную сьвятасьць — бел-чырвона-белы сьцяг Прэзыдэнта Захаркі. Усхапіліся зь месца маладыя арлы-жаўнеры. З адпаведнай дзеля пашаны паставай, стаўшы на калені, узяў з маіх рук сябра камандзір сьцяг, пацалаваў яго і з павагай і моцай прысягі выказаў гэткія словы: «Уздымем яго высока, або ён пакрые нас!».*[491]

Які лёс напаткаў сьцяг В. Захаркі, невядома. Паводле С. Грынкевіча, дэсантнікі «Дальвіца» панеслі яго ў Беларусь: *«Дарогай падпольнай вандроўкі пайшоў сьцяг Прэзыдэнта БНР на Бацькаўшчыну, каб там быць сьветкам і ўдзельнікам крывавай долі свайго народу. Ня ведаю сяньня ягонае долі, ані энтузыястычных юнакоў, якія яго туды панесьлі. Адно толькі пэўна — не аднаго ён ужо там прыкрыў...».*[492]

Пра знаходжанне сцягу Васіля Захаркі ў беларускіх партызанскіх аддзелах у паваенны час нічога невядома. Няма звестак, каб ён быў вынесены на Захад. Таму, альбо сцяг быў схаваны разам з архівам «Дальвіца» дзесьці ў Чэхіі, альбо ён знаходзіўся ў Родзькі і быў канфіскаваны разам з іншымі рэчамі падчас арышту ў чэрвені 1945-га ў Беластоку.[493] У апошнім выпадку ёсць надзея адшукаць прэзідэнцкі сцяг у мінскіх ці маскоўскіх архівах.

---

[491] Бацькаўшчына, 1949, 25 сакавіка, № 8. Перадрук — Навіны БНФ «Адраджэньне», 1991, № 1.

[492] Тамсама.

[493] Ёрш С. Сцягі беларускага руху // Новы час (Мінск), 2003, № 24, снежань.

*Глава 4.*

# *Раззбраенне ў Чэхіі і лёсы дэсантнікаў*

## *Беларуская Вайсковая Арганізацыя*

Напярэдадні перакідкі ў Беларусь буйных дэсантных груп ва Ўсевалада Родзькі з’явіўся план стварэння «Беларускай Вайсковай Арганізацыі» (БВА). З аднаго боку, кіраўнік БНП спрабаваў «легалізавацца» — не маючы магчымасці выступаць перад нямецкімі ўстановамі ад імя партыі, ён хацеў стаць паўнамоцным прадстаўніком «беларускага вайсковага руху». З іншага боку, Усевалад Родзька меў засцярогу, што немцы выкарыстаюць дэсантнікаў «Дальвіца» выключна ў сваіх мэтах (выведка, дыверсіі), а не для арганізацыі беларускага паўстанцкага руху. Таму БВА мусіла аб’ядноўваць і каардынаваць дзейнасць усіх «экспедыцыйных груп».

Можна меркаваць, што праект «Беларускай Вайсковай Арганізацыі» паўстаў дзесьці напрыканцы верасня 1944 года. Сам Родзька падчас следства сцвярджаў, што адпаведнае рашэнне прыняў ЦК БНП.[494] Вядома, што паседжанне кіраўніцтва партыі адбылося ў Берліне 25 верасня 1944 г.[495] Таму гэтую дату можна прыняць як верагодны час заснавання БВА.

Задачай Беларускай Вайсковай Арганізацыі было разгортванне антысавецкай узброенай барацьбы на тэрыторыі Беларусі дзеля змагання за яе незалежнасць. Усе дэсантнікі, перакінутыя ў БССР, лічыліся сябрамі БВА.[496]

Натуральна, стварэнне Беларускай Вайсковай Арганізацыі было ўзгодненае з абверам, які ў асобе маёра Геруліса даў санкцыю на яе дзейнасць.[497] Пазней у турме савецкай дзяржбяспекі Ўс. Родзька сведчыў, што для сябраў БВА арганізацыя падавалася, як нелегальная, ім казалі, што *«ўсё робіцца ў глыбокай таямніцы ад немцаў»*. А насамрэч абвер даў санкцыю на антынямецкую прапаганду з мэтай уцягвання ў арганізацыю і нацыяналістаў, якія не пагадзіліся б на супрацоўніцтва з немцамі.[498]

---

494 Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 90.
495 Kasiak I. Byelorussia. Historical outline. S. 288.
496 Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 90.
497 Тамсама. С. 90.
498 Тамсама.

Дарэчы, пра БВА пісала тагачасная берлінская беларуская прэса, але толькі ў кантэксце яе дзейнасці на тэрыторыі Беларусі. Напрыклад, выступаючы 17 снежня 1944-га ў беларускім кадравым батальёне на ўрачыстасці, прысвечанай угодкам Слуцкага паўстання, прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі згадаў, што на Бацькаўшчыне дзейнічаюць партызанскія аддзелы Беларускай Вайсковай Арганізацыі.[499] Той жа Р. Астроўскі віншаваў з Новым, 1945 годам партызанаў «Беларускае Ваеннае Арганізацыі» у сваёй навагодняй адозве.[500] Таму наўрад ці для завербаваных сябраў БВА падавалася як «нелегальная арганізацыя».

Існуе і яшчэ адна версія ўтварэння БВА. У шэрагу публікацый у беларускай эміграцыйнай перыёдыцы сцвярджаецца, што ў красавіку 1945 года (у адным выпадку называецца і іншая дата — сакавік 1945 г. Гл.: Беларуская Вайсковая Арганізацыя // Дакуманты і факты, 1954, № 3, травень. С. 15.) ў Берліне прайшла «спешная» канферэнцыя беларускіх вайскоўцаў-сябраў БНП, падчас якой і была створаная Беларуская Вайсковая Арганізацыя.[501]

З прысутных на канферэнцыі ўспаміны апублікаваў толькі Сяргей Хмара (Сіняк). Таму яны — пакуль адзіная даступная крыніца інфармацыі. Паводле Хмары, ён быў запрошаны Родзькам як кіраўнік нелегальнай арганізацыі «Двупагоня» (былая канспірацыйная Беларуская Народная Грамада) і быў на канферэнцыі адзіным «цывільным». Праўда, агаворваецца, што прысутнічаў і кіраўнік Саюзу Беларускай Моладзі Міхась Ганько. І ён *«выступаў на нарадзе з пакаяньнем, што вінаваты, бо занадта верыў гітляроўцам і хоча адкупіць сваю віну перад народам, далучыўшыся да нашых антысавецкіх партызанаў (што і зрабіў)»*.[502]

Пра персанальны склад удзельнікаў берлінскай канферэнцыі БНП-БВА вядома няшмат. С. Хмара ўспамінае, што акрамя яго і згаданых Ганька і Родзькі быў Гелда. Можна меркаваць, што прысутнічала не менш за дзесятак вайскоўцаў.

Канферэнцыя прыняла рашэнне аб стварэнні БВА, якая замяніла сабой Беларускую Незалежніцкую Партыю, бо тая *«дзя-*

---

[499] Мы выканаем іх загад! // Раніца, 1944, 20 сьнежня, № 56.

[500] Раніца, 1945, 3 студзеня, № 1.

[501] Хмара С. Беларускае інфармацыйнае бюро ў Бэрліне — 1944-45 гг. // Беларускі голас, 1991, № 360, сакавік; Він В. Маёр Беларускай Краёвае Абароны — Ўсевалад Родзька // Беларускі голас, 1991, № 365, кастрычнік, ды інш.

[502] Беларускі голас, 1991, № 360, сакавік.

*куючы сваёй партыйнай структуры не зусім надавалася да заданьняў, якія стаялі перад беларускімі вайсковікамі — збройная барацьба з бальшавікамі ў абставінах акупацыі Краю».*[503] Хмара сведчыць, што з прапановай зьмяніць назву БНП на «Беларускую Вайсковую Арганізацыю», як больш зручную структуру для антысавецкае барацьбы на Бацькаўшчыне, выступіў Ус. Родзька.[504]

*«Маючы як госьць дарадчы голас, я ад імя «Двупагоні» выступіў проціў кіданьня маладых хлапцоў на Беларусь з Нямеччыны для партызанкі, бо яна бязсэнсная, калі не будзе ў хуткім часе вайны з Саветамі,* — ўспамінаў С. Хмара. — *А паводле нас вайны гэткай у бліжэйшыя 5-6 год няма што чакаць. Вайскоўцы заглядаліся* іначай, але прынялі да ўвагі нашую засьцярогу і пастанавілі, калі ня выбухне вайна, партызанку па 5-ці гадох — зьліквідаваць, калі яна яшчэ будзе існаваць. Я ад імя «Двупагоні» цьвердзіў, што лепш захаваць нашыя маладыя кадры па вайне ў Эўропе, што прынясе Беларусі больш карысьці ў прышласьці для яе вызваленьня, чым пасылаць у лес».*[505]

Невыпадкова на канферэнцыі было прынятае рашэнне, што сябры БНП-БВА, якія не падпарадкуюцца *«загаду перакінуцца на Беларусь для збройнай барацьбы»* будуць лічыцца дэзэртырамі.[506] Гэта магла быць прапанова Родзькі. З аднаго боку, частка сябраў БНП, пераважна вайскоўцаў, была завербаваная ў шэрагі «Чорнага Ката» і, тым самым, ужо не падначальваліся загадам партыйнага кіраўніка. З іншага боку, нават сябры ЦК, як Барыс Рагуля, станавіліся «незалежнікамі ў незалежніцкай партыі» (адмова Рагулі ляцець з дэсантам, адмена Рагулем загаду, які атрымаў Язэп Сажыч ад Родзькі і г. д.). Таму Ўс. Родзька спрабаваў захаваць у цэласці хаця б рэшту былога актыву.

Можна меркаваць, што БВА, якая раней была хутчэй арганізацыяй, якая існавала толькі на паперы (з дэсантнікамі ў Беларусі сувязі практычна не было), якраз у красавіку 1945-га была рэальна створаная.** Да гэтага магло падштурхнуць пагадненне,

---

* Меркавалі.

** Паводле непацверджанай дакументальна інфармацыі, БВА нават распрацавала свой «адумысловы мундзер... нямецкі, на ўзор французскага фрэнчу пясочнага колеру... і такое ж кепі». На пятліцах былі Ярылавыя крыжы, а адзнакі на пагонах былі выкананыя «па французскаму ўзору». Аднак гэтай уніформы не хапала нават на ўсіх афіцэраў. Гл.: Жыган А. Абмундзіроўка беларускіх аддзелаў у 1941-1945 гг. // Дакуманты і факты, 1955, № 5, студзень-люты. С. 9.

[503] Беларуская Вайсковая Арганізацыя // Дакуманты і факты, 1954, № 3, травень. С. 15.

[504] Беларускі голас, 1991, № 360, сакавік.

[505] Тамсама.

[506] Беларускі голас, 1986, № 327, травень.

падпісанае Родзькам (дарэчы, як камандзірам БВА) з «Ягдфербанд-Ост СС».* Яно давала надзею, што батальён «Дальвіц» удасца перакінуць у Беларусь, таму варта было ажывіць праект БВА.

### *Ота Скарцэні і аперацыя «Валошка»*

Пасля таго, як Дальвіцкая разведшкола перайшла пад камандаванне нямецкай франтавой разведкі, узнікла пагроза не толькі выкарыстання беларусаў у бліжэйшым савецкім тыле, але нават для закрыцця «дзірак» на ўсходнім фронце. Як сведчыць адзін з былых дэсантнікаў, лёс «Дальвіца» мог быць незайздросным, бо немцы планавалі выкарыстаць яго як звычайную пяхотную частку: *«У той час аслабленая нямецкая армія патрабавала дапамогі. Наш батальён немцы хацелі паслаць на перадавую лінію, але Ў. Родзька якімсьці спосабам выйшаў з гэтага становішча. Гэтым самым ён выратаваў жыццё многіх беларусаў, таму што перад канцом вайны фронт зьяўляўся сьмерцю».*[507]

Праўдападобна, гэта адбылося ў сакавіку 1945 г. і стала «апошняй кропляй», за якой паследавала раззбраенне...

На сакрэтнай нарадзе ў Галоўным упраўленні войск СС у Берліне вырашаўся не толькі лёс праекту перакідкі ў БССР беларускіх «экспедыцыйных» групаў, але і лёс самога «Дальвіца». Нагадаем, у сакавіку 1945 года ў Памераніі, пасля адмовы Родзькі і Гелды падначаліцца рашэнню нямецкай франтавой разведкі аб выкарыстанні беларускіх дэсантнікаў у неглыбокім савецкім тыле, асабісты склад разведвальна-дыверсійнай школы быў раззброены.[508]

Дакладная дата правядзення нарады ў Галоўным упраўленні войск СС невядомая. І. Валахановіч называе сакавік 1945 года,[509] А. Салаўёў і К. Езавітаў — канец сакавіка,[510] В. Рамаоўскі —

---

* «Ягдфербанд-Ост СС» («Знішчальнае злучэнне-«Усход» СС») з'яўлялася складовай часткай створанага ў ліпені 1944 г. «Вафэн СС Ягдфербанд» («Знішчальнае злучэнне войск СС»), якім камандаваў падпалкоўнік Ота Скарцэні. Гэта быў спецыяльны орган, які займаўся правядзеннем дыверсій, разведкі, а таксама спецыяльных аперацый як на заходнім, так і ўсходнім фронце. Скарцэні сабраў пад сваім камандаваннем рэшткі розных аддзелаў камандасаў, якія складаліся як з немцаў, так і з беларусаў, украінцаў, рускіх, эстонцаў, латышоў ды інш.

507 Пра Ўсевалада Родзьку // Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад. Перадрук — Ёрш С. Усевалад Родзька — правадыр беларускіх нацыяналістаў. С. 22.

508 Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 22.

509 Тамсама.

510 Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 86; Езовитов К. Воспоминания // Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 135.

другую палову сакавіка 1945-га,[511] І. Гелда — першыя дні красавіка 1945 г.[512] У нарадзе ўдзельнічалі наступныя асобы: з беларускага боку — прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі, віцэ-прэзідэнт БЦР маёр Ус. Родзька, начальнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР генерал-маёр К. Езавітаў (апошні далучыўся да нарады пазней); з нямецкага боку — падпалкоўнік Ота Скарцэні,* начальнік «Ягдфербанд-Ост СС» маёр Аляксандр Аук,** кіраўнік аддзела ўсходнееўрапейскіх спраў (III-га) ў Галоўным упраўленні войск СС падпалкоўнік Арльдт,*** кіраўнік Беларускага аддзела пры Міністэрстве ўсходніх тэрыторый Любэ, начальнік Беларускага аддзела пры Галоўным упраўленні войск СС старшы лейтэнант СС Шмідт ды іншыя.[513]

З дакладам выступіў Усевалад Родзька. Ён спрабаваў пераканаць немцаў у неабходнасці перакінуць «Спецыяльны батальён «Дальвіц» паветраным шляхам у Заходнюю Беларусь, а калі будзе магчымасць, далей — у цэнтральную і ўсходнюю часткі Беларусі. Паводле яго слоў, аддзел ужо дастаткова падрыхтаваны для таго, каб асобнымі атрадамі па 25-30 чалавек праводзіць у савецкім тыле дыверсійныя аперацыі (падрывы мастоў, вайсковых складоў, цягнікоў і г. д.), разведвальную дзейнасць (дзеля гэтага кожны атрад мусіць мець рацыю).[514] Акрамя гэтага, сцвярджаў Родзька (і гэта была галоўная мэта беларускага боку, што, відаць,

---

* Ота Скарцэні (1908 — 1975), палкоўнік (на час капітуляцыі Нямеччыны), знакаміты нямецкі супердыверсант, кіраўнік «Вафэн СС Ягдфербанд» («Знішчальнае злучэнне войск СС»). З канца 1940-х жыў у Іспаніі. Аўтар некалькіх кніг успамінаў.

** Аляксандр Аук, маёр СС, начальнік «Ягдфербанд-Ост СС» (з лютага 1945 г.). Ураджэнец Пецярбурга. У 1942-1944 гг. камандаваў 1-м батальёнам палка «Брандэнбург». Кр.: Чуев С. Спецслужбы Третьего Рейха. Книга II. — Санкт-Петербург: Издательский Дом «Нева». С. 347.

*** Фрыц Арльт, падпалкоўнік, кіраўнік аддзела ўсходнееўрапейскіх спраў у Галоўным упраўленні войск СС (з ліпеня 1944 г.). Кр.: cdvr.org.ua/zbirnyk1/zbirnyk_1.pdf А. Салаўёў і І. Валахановіч памылкова называюць Ф. Арльта старшынём (!) Галоўнага ўпраўлення войск СС. Гл.: Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 87; Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 23.

511 Саўдзельнікі ў злачынствах. С. 191.

512 Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 91.

513 Тамсама. С. 86-87; Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 135.

514 Паводле І. Валахановіча, са снежня 1944 г. да красавіка 1945 г. былі падрыхтаваныя для адпраўкі ў Беларусь тры групы дэсантнікаў па 25-30 чалавек. Гл.: Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 23.

разумелі і немцы), кожны атрад будзе збіраць вакол сябе мясцовае насельніцтва, незадаволенае савецкай уладай, з мэтай стварэння асобных беларускіх паўстанцкіх раёнаў. Пасля, паводле яго плану, з дапамогай радыёсувязі паміж атрадамі дэсантнікаў, аб'яднаць іх у *«больш буйныя аб'яднанні і выклікаць у Беларусі шырокі антысавецкі паўстанцкі рух, які будзе праводзіцца пад лозунгам Незалежнай Беларусі».*[515]

Дзеля рэалізацыі гэтага плану беларусы прасілі забяспечыць дэсантнікаў абмундзіраваннем, *«удасканаленай лёгкай зброяй»*, запасам набояў, гранат і выбухоўкі, а таксама харчавання ў канцэнтраваным і кансерваваным выглядзе. Таксама прапаноўвалася кожны атрад забяспечыць *«малой паходнай друкарняй»*, каб, *«акрамя літаратуры, якая можа быць закінутая самалётамі, была магчымасць друкаваць кароткія загады насельніцтву, у адпаведнасці з мясцовымі абставінамі».*

Паводле сведчання К. Езавітава, даклад Родзькі *«выклікаў ва ўсіх прысутных вялікую зацікаўленасць».* Маёр Родзька і двое супрацоўнікаў Скарцэні пачалі абмяркоўваць дэталі, у прыватнасці, экіпіроўку, узбраенне з дакладным вызначэннем вагі, бо дэсантнікі пасля прызямлення *«мусілі б увесь рыштунак і запасы несці на сабе».* Было вырашана, што ўсе байцы мусілі мець малакаліберныя аўтаматы і пісталеты, па 1,5 кг *«моцных выбуховых рэчываў».* Агульная вага груза на аднаго чалавека не мусіла перавышаць 25 кілаграмаў.[516]

Аднак у гэты момант на нараду вярнуўся падпалкоўнік О. Скарцэні, які заявіў, што высветліў магчымасці перакідкі атрадаў «Дальвіца» ў Беларусь. *«На жаль, такіх магчымасцяў на цяперашні момант няма,* — сказаў Скарцэні. — *Мы, немцы, сталі надзвычай беднымі: самалётаў, бензіну — няма, парашутаў — няма...*[*] *Таму батальён «Дальвіц» мусіць зрабіць свой марш у Беларусь пешым парадкам».*[517]

---

[*] В. Цяліцын пацвярджае, што яшчэ да канца лютага 1945 г. групе Скарцэні перасталі даваць паліва. «Крах і неверагодны хаос, якім былі ахопленыя многія службы вермахту вясной 1945 года, канчаткова дабілі каманду Скарцэні, — піша Цяліцын. — Не магло быць і гаворкі аб вылеце самалёта...». Гл.: «СМЕРШ»: операции и исполнители. С. 232.

[515] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 136.

[516] Тамсама.

[517] Тамсама.

Як сведчыць Езавітаў, гэтая інфармацыя сталася сапраўдным шокам для прысутных, асабліва для Родзькі і Астроўскага. Родзька катэгарычна заявіў, што гэты варыянт *«зусім немагчымы»*, таму што батальёну давялося б з-пад Берліна, куды ён перадыслакаваўся, прайсці ўсю Ўсходнюю Прусію і Польшчу. Прэзідэнт БЦР таксама не пагадзіўся з *«поўным рызыкі паходам»* і зазначыў, што *«батальён «Дальвіц» з'яўляецца вельмі каштоўным для паўстанцкага руху ў Беларусі і яго страта была б зрывам паўстанцкага руху, якому неабходна даць кіраўніцтва і сродкі сувязі».*

Адрынуў беларускі бок і прапанову Скарцэні даставіць батальён на аўтамашынах да лініі фронту, каб пасля дэсантнікі пешым парадкам прабіраліся ў савецкі тыл, у пункты, дзе маюцца акружаныя нямецкія ці іншыя аддзелы, і такім чынам рухацца ў Беларусь. Ус. Родзька заявіў, што гэты план нельга рэалізаваць, бо батальён падчас маршу згубіў бы першапачатковыя запасы, а папоўніць іх не было б дзе, да таго ж акружаныя аддзелы паспрабавалі б выкарыстаць камандасаў у сваіх мэтах. Таму, адзначыў Родзька, асноўная мэта «Дальвіца» — арганізацыя дыверсійна-разведвальнай і паўстанцкай дзейнасці — не была б дасягнутая, а спецыяльна падрыхтаваныя кадры згубленыя падчас пешага маршу. Падпалкоўнік Скарцэні на гэта прапанаваў маёру Родзьку выкласці свае контрпрапановы на наступны дзень.[518]

На жаль, паколькі на наступнай нарадзе генерал-маёр К. Езавітаў не прысутнічаў, дык яе падрабязнасці нам невядомыя. Аднак, як успамінае Езавітаў, праз два дні Р. Астроўскі яму паведаміў, што *«Родзька ўсё яшчэ спадзяецца атрымаць авіятранспарт* (у тэксце паказанняў Езавітава відавочная памылка — «аўтатранспарт» — ***СЁ***) *і абдумвае новыя праекты».*[519]

Важны вынік нарады — «Дальвіц» перайшоў з-пад кіраўніцтва нямецкай франтавой разведкі ў падначаленне «Ягдфербанд-Ост СС».[520] І. Валахановіч адзначае, што вынікам нарады ў Галоўным упраўленні войск СС было залагоджванне канфлікту паміж беларускімі камандзірамі «Дальвіца» і нямецкай франтавой разведкай, дэсантнікі зноў былі ўзброеныя і іх ужо не збіраліся выкарыстаць у бліжнім савецкім тыле.[521] Як сцвярджае А.

---

518 Тамсама.
519 Тамсама. С. 137.
520 Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 91.
521 Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 22-23

Хацкевіч, на нарадзе ў Галоўным упраўленні войск СС у Берліне падпалкоўнік Скарцэні прапанаваў Астроўскаму і Родзьку забяспечыць усім неабходным групы па 30 чалавек і перакінуць іх у тыл Чырвонай Арміі ў раёны Памераніі і Познані для арганізацыі дыверсій і разведкі. Беларускі бок з такім планам не пагадзіўся.[522] Аднак пра гэтую прапанову не згадвае прысутны на нарадзе К. Езавітаў. Праўдападобна, небяспека выкарыстання «Дальвіца» немцамі для абароны Нямеччыны была вялікая. Таму Астроўскі і прызнаўся Езавітаву, што калі батальён не ўдасца адправіць у Беларусь самалётамі, *«то трэба яго захаваць і папоўніць новымі людзьмі, каб працэс падрыхтоўкі людзей не спыняўся і каб батальён не быў выкарыстаны проста для вайсковых дзеянняў, як звычайная вайсковая частка».*[523]

Дарэчы, пад пагрозай выкарыстання на фронце «ў разе патрэбы» як звычайнай пяхотнай часткі знаходзілася і ўкраінская «брыгада спецыяльнага прызначэння» (Група «Б», украінскі аналаг «Дальвіца») Т. Бульбы-Бараўца.[524]

Паводле І. Гелды, пасля нарады была падпісаная «дамова-абавязацельства». Ад імя «Ягдфербанд-Ост СС» подпіс паставіў капітан Фоклендэр, ад імя Беларускай Цэнтральнай Рады — маёр Родзька, як камандуючы Беларускай Вайсковай Арганізацыі.[525] Дакумент гэты, які існаваў, як мінімум у двух асобніках, дагэтуль неапублікаваны, таму пра яго змест можам меркаваць паводле сведчання Гелды.

Галоўным зместам дакумента было абавязацельства беларускага боку прадставіць да 800 беларусаў, а нямецкага боку — узброіць і забяспечыць іх усім неабходным рыштункам ды перакінуць на тэрыторыю Беларусі. Гэтая аперацыя атрымала назву «Валошка» («Васілёк»), што было адлюстравана ў дамове. Таксама адзначалася, што ў мэтах канспірацыі «Ягдфербанд-Ост СС» экіпіруе і ўзбройвае *«дыверсійна-шпіёнскую групу «Валошка»* у абмундзіраванне і зброю англійскага *«ці якога-небудзь іншага ўзору».* Паводле Гелды, гэта тлумачылася тым, што *«з'яўленне на*

---

[522] Хацкевіч А. Генерал Езавітаў: здраднік ці агент КДБ? // Звязда, 1992, 19 жніўня, № 164.
[523] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 137.
[524] Шандрук П. Історична правда про 1 УД і УНА // Вісті комбатанта, 1965, № 1; http://komb-a-ingwar.blogspot.com/search/label/1965%20%E2%84%96%201
[525] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 92.

*тэрыторыі Беларусі шматлікай групы дыверсантаў у нямецкай форме выкліча неадкладную расшыфроўку задумы, што пацягне за сабой карныя рэпрэсіі і знішчэнне дыверсантаў з боку часцей Чырвонай Арміі».*[526] Тлумачэнне, дарэчы, небездакорнае. З'яўленне ў савецкім тыле нават малой групы ў англійскай форме выклікала б у «Смерша» значна большую занепакоенасць, чымсьці дзейнасць нямецкіх парашутыстаў. Можна з вялікай верагоднасцю дапусціць, што ідэя абмундзіраваць беларускіх дэсантнікаў у англійскую форму належала Ўс. Родзьку. Тут ён відавочна думаў пра дзейнасьць у паваенных рэаліях. Беларускія камандасы ў англійскай форме ў беларускіх лясах — гэта не толькі своеасаблівы выхад у сітуацыі, калі не было магчымасці апрануць байцоў БВА ў адзіную (не нямецкую) форму, але і надзея на важны ідэалагічна-прапагандысцкі эфект. Як вядома, польская прапаганда вясной 1945-га падагравала надзеі беларускіх нацыяналістаў на хуткі канфлікт паміж заходнімі саюзнікамі і Савецкім Саюзам. З'яўленне камандасаў Родзькі ў Беларусі ў англійскіх мундзірах выглядала б як прадвесце гэтых падзеяў. Гэта быў бы важкі аргумент у барацьбе Родзькі за кіраўніцтва беларускім нацыянальным антысавецкім Супрацівам.

Паводле А. Хацкевіча, беларускі бок прапанаваў немцам сфармаваць полк «Беларускай краёвай абароны» колькасцю 1000 чалавек, узброіць яго і перакінуць на самалётах у Беларусь для арганізацыі паўстанцкай дзейнасці.[527] Аднак тут больш дакладны К. Езавітаў, які піша, што праект прадугледжваў разгортванне батальёна Родзькі і Гелды ў «Асобы беларускі полк «Дальвіц», і яго планавалі размясціць для далейшага ўкамплектавання недалёка ад «Беларускай штурмовай брыгады».[528] Цяжка сказаць, адкуль узялася лічба «тысяча», бо ў большасці іншых крыніц колькасць байцоў палка планавалася ў 700-800 чалавек. Нават той жа Хацкевіч у іншай сваёй публікацыі піша пра 700 дэсантнікаў.[529]

Гелда, пераказваючы словы Родзькі, сведчыць, што перакідка беларускай «дыверсійна-паўстанчай групы» была запланаваная

---

[526] Тамсама.
[527] Хацкевіч А. Генерал Езавітаў: здраднік ці агент КДБ? // Звязда, 1992, 19 жніўня, № 164.
[528] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 137.
[529] Хацкевич А. Преступления без срока давности // Фемида (Мінск), 1993, № 2 (54), 11-17 студзеня.

на поўдзень ад Беларусі, «у адной з найбольш слаба абароненай частцы фронту».[530] *«Дыверсанты групы Родзькі мусілі перайсці фронт на Ўкраіне і, прабіўшыся ў глыбіню, дабрацца да тэрыторыі Беларусі»,* — дадае І. Гелда.[531] Фактычна, беларусы мусілі прабівацца праз Валынь і Палессе. Таму не дзіўна, што разам з Ус. Родзькам дамову з «Ягдфербанд-Ост СС» падпісаў і ўкраінскі атаман, камандзір Групы «Б» Тарас Бульба-Баравец («Каненка»). І калі беларусаў дадаткова мусілі падрыхтаваць 700 чалавек, дык украінцаў — 400.[532]

Аднак сітуацыя на ўсходнім фронце імкліва мянялася і да капітуляцыі Нямеччыны заставаліся лічаныя тыдні. Таму запланаваны пераход фронту даволі хутка стаў неактуальным. Аднак і беларусы, і ўкраінцы працягвалі падрыхтоўку асабістага складу аддзелаў, што, нагадаем, забяспечвала ім адносную гарантыю невыкарыстання на фронце.

Як сведчыць К. Езавітаў, у канцы сакавіка, праз некалькі дзён пасля нарады ў Галоўным упраўленні войск СС, батальён «Дальвіц» чыгункай быў дастаўлены ў раён Берліна* і размешчаны на адпачынак у адным з лагероў.[533]

І. Валахановіч паведамляе, што асабісты склад разведвальна-дыверсійнай школы праходзіў падрыхтоўку па прынятым на нарадзе плане ў раёне г. Ораніенбурга.** Але неўзабаве, пасля наступлення Чырвонай Арміі, у красавіку 1945 года «Дальвіц» перадыслакаваўся ў Судэцкія горы.[534] Як успамінае К. Казак, пад-

---

* Вось што ўспамінае пра перадыслакацыю батальёна ў пачатку 1945 года Кастусь Казак: «Пасля Вальбуша былі маршы, і ноччу, і днём. Доўгія, цяжкія. Іншы раз, ледзь не падаў ад стомы. Ішлі нейкімі «крывулямі» — там якраз фронт трашчаў. Да Кольберга прыйшлі, мусіць, дзень-два там пабылі і пайшлі далей. Там дурны быў фронт — незразумела было, дзе хто. Авіяцыя моцна лупіла. Як ляцелі амерыканскія самалёты, дык падавалася, што ўсё неба было чорнае ад іх. Навокал усё гарэла... Неяк удачна мы праходзілі, што ніхто не загінуў. Хоць часта пад бомбы траплялі». Гл. інтэрв'ю з К. Казаком, змешчанае ў рубрыцы «Дадатак».

** У мястэчку Фрыдэнталь у некалькіх кіламетрах ад Ораніенбурга да пачатку сакавіка 1945 года знаходзіўся штаб «Вафэн СС Ягдфербанд», адкуль ён быў эвакуяваны ў Баварыю, а пасля ў Аўстрыю. Гл.: Чуев С. Спецслужбы Третьего Рейха. Книга II. С. 222, 224.

530 Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 91-92.

531 Беларуская думка, 1997, № 1. С. 149.

532 Фемида, 1993, № 2 (54), 11-17 студзеня.

533 Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 136.

534 Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 23.

час пераезду з-пад Берліну ў Чэхаславаччыну іх цягнік трапіў пад бамбёжку: *«Бомбы навокал цягніка разрываліся, але ў нас не патрапілі — пашанцавала».*[535]

Родзька спрабаваў рэалізаваць план разгортвання батальёна ў полк «Дальвіц». Таму ў першых чыслах красавіка 1945 года ён паслаў сваіх вярбоўшчыкаў (афіцэраў і падафіцэраў) у розныя лагеры ваеннапалонных і ў працоўныя лагеры для вярбоўкі новых людзей.[536] Хаця спачатку і планавалася папаўняць шэрагі за кошт беларусаў-нацыяналістаў і антысаветчыкаў.[537] Аднак гэтыя рэзервы да вясны 1945-га былі ўжо адносна вычарпаныя — добраахвотнікі (асабліва шмат СБМаўцаў) папаўнялі «штурмовую брыгаду», розныя спецыяльныя фармацыі і найперш — «элітную» арганізацыю «Чорны Кот», куды вербаваліся канспірацыйна і пасля падрыхтоўкі паветраным шляхам альбо пешым парадкам перакідваліся групамі і атрадамі ў Беларусь.

Вярбоўка працягвалася яшчэ ў сярэдзіне красавіка 1945-га, калі «Дальвіц» ужо быў у Чэхіі. *«Пераехаўшы ў Чэхаславакію, на «Чэрну Гару» (Шварцбэрг), езьдзіў па лягерох вэрбаваць хлопцаў»,* — успамінае лейтэнант «Дальвіца» Міхась Зуй.[538]

Вось што згадвае былы старшына роты «Дальвіца» Сяргей Кажан, які ў той час у працоўных лагерах таксама вербаваў добраахвотнікаў:

*«Прыязджаю ў лягер, праводжу мітынг, забіраю добраахвотнікаў у наш батальён. Немцы аддавалі. У прыватных гутарках тлумачыў: наша задача — ваяваць за Беларусь. Мне пярэчаць, ды як жа ж, вайна ўжо вось-вось скончыцца. Тады я казаў, што, маўляў, даўно было вядома, што немцы вайну прайграюць. Саветы пруцца на захад. Тут іх сустрэнуць амэрыканцы й пагоняць назад. Пачнецца другая вайна. Вось у ёй мы й павінны ваяваць за Беларусь. У гэтай вайне Саветы сканаюць. Эўропай завалодаюць Амэрыка й Англія. І яны будуць вырашаць лёсы народаў. Прыводзіў прыклад Першай сусьветнай вайны, пасьля якой усе палітычныя ўмовы дыктавала Англія, менавіта зь яе дазволу Польшча захапіла Заходнюю Беларусь. Той, хто актыўна ваяваў, хутка вымотваўся й прайграваў, як тады Расея й Нямеччына. А іншыя*

[535] Інтэрв'ю з К. Казаком. Цалкам змешчана ў рубрыцы «Дадатак».
[536] Нёман, 1993, № 3, сакавік. С. 137.
[537] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 92.
[538] Вяртаньне БНП... С. 78.

*пажыналі плады. Таму наша задача — чакаць часу, калі Беларусь пакліча бараніць сябе. Гэта была стратэгія Родзькі. З-за гэтае пэрспэктывы нашае барацьбы я й пайшоў да яго».*[539]

Кажан сведчыць, што ў 3-4 лагерах набраў 50 чалавек і было гэта ранняй вясной, яшчэ да перадыслакацыі школы ў Чэхію.[540]

Можна меркаваць, што на працягу сакавіка-красавіка 1945 г. былі завербаваныя як мінімум каля 150-200 чалавек, якія паспелі прайсці да канца вайны мінімальную падрыхтоўку. Паводле сведчання Кастуся Казака (гл. інтэрв'ю з ім у раздзеле «Дадатак»), перад капітуляцыяй Нямеччыны ў «Дальвіцы» налічвалася «больш за 500 чалавек». «Каля 500 чалавек» — сведчыць і Сяргей Кажан.[541] А Дз. Касмовіч піша, што ў канцы красавіка ў «Дальвіцы» было 600 чалавек.[542]

### *Супрацоўніцтва з аддзелам украінскіх камандасаў Бульбы-Бараўца*

Напрыканцы сакавіка 1945 г. батальён «Дальвіц», нібыта, аб'яднаўся з спецыяльнай парашутнай фармацыяй — Групай «Б» Украінскай нацыянальнай арміі, якой камандаваў Тарас Бульба-Баравец («Каненка»).*

Былы беларускі дэсантнік сведчыць: *«У канцы сакавіка 1945 году наш парашутны батальён злучыўся з украінскім парашутным батальёнам. Украінцы прынялі нас, як братоў (яны былі лепш арганізаваныя і баёва падрыхтаваныя, чым мы)».*[543]

Такое аб'яднанне ў той час не магло адбыцца без санкцыі нямецкага кіраўніцтва. Праўда, «аб'яднання» магло і не быць, вайсковыя часткі проста дыслакаваліся ў адным месцы, што і стварала ілюзію іх зліцця. Напрыклад, Ю. Найдзюк (Брэчка) ў сваіх успамінах кажа не пра «аб'яднанне» аддзелаў, а пра тое,

---

* Як сведчыць генерал-палкоўнік Паўло Шандрук, яна была сфармаваная на працягу дзесяці дзён (24 сакавіка — 5 красавіка 1945 г.) з украінцаў, набраных у лагерах ваеннапалонных. У двух батальёнах налічвалася каля 400 чалавек. Дзесьці ў пачатку красавіка іх перадыслакавалі ў Чэхію, дзе аддзел мусіў закончыць падрыхтоўку. Гл.: Шандрук П. Історична правда про 1 УД і УНА // Вісті комбатанта, 1965, № 1; http://komb-a-ingwar.blogspot.com/search/label/1965%20%E2%84%96%201

539 Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.

540 Тамсама.

541 Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.

542 За вольную і сувэрэнную Беларусь. С. 208.

543 Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.

што *«ў Судэтах Родзька меў моцнае супрацоўніцтва з украінцамі».* Дзяўчат з «Дальвіца» ўкраінскі лекар вучыў санітарнай справе.[544]

Захавалася пасведчанне Юзэфы Брэчкі аб сканчэнні адмысловых курсаў.

Часопіс «Архэ», які надрукаваў гэты дакумент, памылкова напісаў, што гэта *«пасьведчаньне аб праходжаньні вайскова-мэдычных курсаў пры 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Нямеччына, 1945 г.».*[545]

Насамрэч, гэта адзін з нямногіх дакументаў батальёна «Дальвіц», якія на гэты час апублікаваныя. Да таго ж ён мае пячатку з надпісам «Беларуская Краёвая Абарона — Батальён», якой, праўдападобна, вясной 1945-га карыстаўся Ўсевалад Родзька. Подпісы на дакуменце неразборлівыя, але яны, відавочна, належаць украінскім вайскоўцам-лекарам. Прыводзім тут гэты дакумент, курсівам вылучаныя словы і лічбы, упісаныя ад рукі:

«ВАЙСКОВЫ КУРС М.П.* дня 20.4.1945 г.

Спэц. прызначэньня
Нр. *10*

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Бречко Юзефа
праслухаў 3-х тыднёвы курс для вайсковых санітараў, здаў іспыты з посьпехам. *дуже добрий***
і, у выніку гэтага, атрымаў права на становішча камандзіра санітарнага патруля.
Старшыня экзамінац. камісіі — Камандзір Курсу
*Лейтэнант****
Кір. перашкаленьня — Маёр-лекар
Сябра экз. камісіі — Капітан-лекар[546]

*«У. Родзька навёў добрую сувязь зь імі* (ўкраінцамі — **СЁ**) *й заплянаваў разам перайсьці фронт іісьці разам зь імі на Ўкраіну,*

---

* Месца пастою (дыслакацыі).
** Вельмі добры (укр.).
*** Упісана ад рукі, а надрукаваная ранга «капітан» закрэсленая.
544 Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.
545 Arche, 2010, № 7-8. С. 663.
546 Тамсама.

*а там — на Беларусь»,* — успамінае адзін з дэсантнікаў.[547]

Дзе ж, у якім населеным пункце, маглі сустрэцца беларускі і ўкраінскі аддзелы? С. Чуеў піша, што ўжо ў канцы сакавіка 1945 года Дальвіцкая разведшкола месцілася ў Чэхіі, на гары Шварцэнберг (Чорная гара), каля горада Трутнаў (Траўтэнаў; чэшск. *Trutnov*, ням. *Trautenau*).[548] У кнізе *«Щит и меч Отечества»* змешчаны фотаздымак будынка Дальвіцкай разведшколы ў Траўтэнаў.[549] М. Зуй сцвярджае, што на «Чорнай Гары» батальён знаходзіўся да капітуляцыі Нямеччыны.[550]

Паводле ўспамінаў Бульбы-Бараўца, атрады яго Групы «Б» «*базаваліся ў гарах, у раёне Ёганэсберга».*[551]

Паводле іншых звестак, яны праходзілі падрыхтоўку каля гарадка Альтбургунда на тэрыторыі цяперашняй Чэхаславакіі.[552]

Аднак устанавіць дакладнае месцазнаходжанне гэтых населеных пунктаў нам не ўдалося.

Дакладна невядома, чаму «беларуска-ўкраінскае супрацоўніцтва» не працягнулася да капітуляцыі Нямеччыны. Праўда, ёсць звесткі, што нейкія ўкраінцы былі з «Дальвіцам» да траўня 1945 года[553], але гэта дакументальна не пацверджана. Верагодна, прычына таго, што шляхі аддзелаў Родзькі і Бульбы-Бараўца («Каненкі») разыйшліся, крыецца ў асаблівай тактыцы першага. Усевалад Родзька не імкнуўся вывесці батальён да заходніх саюзнікаў, у той час ён цалкам «пераарыентаваўся» на БНР ды чакаў пачатку вайсковага канфлікту паміж заходнімі саюзнікамі і СССР.

Бульба-Баравец сцвярджае, што ў канцы вайны вырашыў кіравацца «таемным загадам» камандзіра Ўкраінскай Нацыянальнай Арміі генерала П. Шандрука «адпаведнымі манеўрамі адарвацца ад ворага на ўсходнім фронце» і прарывацца на заходні фронт, каб здацца ў палон войскам саюзнікаў. *«Не маючы ніякай магчымасці здзейсніць планы Групы «Б», я таксама аддаў у канцы*

---

547 Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.
548 Чуев С. Диверсионные службы третьего рейха против СССР // Диверсанты третьего рейха. — Москва: Эксмо, Яуза, 2003. С. 289.
549 Щит и меч Отечества. С. 175.
550 Вяртаньне БНП..., С. 78.
551 Бульба-Боровець Т. Армія без держави // http://zustrich.quebec-ukraine.com/lib/bulba/bulba_307armee.htm
552 «Полесская Сечь» и атаман Тарас Бульба // http://ukrstor.com/ukrstor/bezprava-kniga1-2.4.html
553 Пра Ўсевалада Родзьку // Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.

*красавіка 1945 года загад па нашай Групе з такой самай дырэктывай. Палкоўнік Долуд і палкоўнік Каваль, выконваючы гэты загад, разбілі нашыя гатовыя два батальёны на меншыя групы, якія базаваліся ў гарах, у раёне Ёганэсберга, і фарсаванымі маршамі вывелі ўсіх людзей у Баварыю, дзе нашыя людзі часткова здаліся ў амерыканскі палон, а іншыя разсяліліся сярод нямецкага цывільнага насельніцтва»,* — успамінае Бульба-Баравец.[554]

Паводле ўспамінаў украінскага атамана, сваіх дэсантнікаў ён не змог пераправіць на радзіму. Ужо ў красавіку 1945 г. быў падрыхтаваны першы батальён групы «Б», з якім на Ўкраіну збіраўся ляцець сам Бульба-Баравец са сваім штабам, але немцы не мелі магчымасці перакінуць іх самалётамі.[555] Аднак некаторыя крыніцы сведчаць, што ўсё ж асобныя групы бульбаўцаў былі перакінутыя ва Ўкраіну.

Паводле адной з украінскіх крыніц, Група «Б» Бульбы-Бараўца ў канцы вайны праходзіла падрыхтоўку ў будынку каля гарадка Альтбургунд на тэрыторыі цяперашняй Чэхаславакіі. Таксама згадваецца іншая назва групы — «Майглекхен» («Ландыш»). Яе разам са штабам рыхтаваліся закінуць у «басейн ракі Прыпяць». Аднак, амаль усіх закінутых у апошнія тыдні вайны агентаў абязшкодзілі чэкісты.[556]

Паводле І. Сіманенкі, амаль усе агенты гэтай дыверсійнай групы былі закінутыя ва Ўкраіну, але абязшкоджаныя. Курыраваў «Каненкі» намеснік начальніка «Ягдфербанд-Ост СС» штурмбанфюрэр СС Эбергард Хайнцэ.[557]

Магчыма, што разрыў Бульбы-Бараўца з Родзькам адбыўся з іншай прычыны. Яшчэ ў кастрычніку 1944 года Бульба-Баравец удзельнічаў у Берліне ў нарадзе, прысвечанай арганізацыі антысавецкага супраціўлення ў савецкім тыле. На ёй кіраўнік Галоўнага ўпраўлення СС Готлаб Бергер прапанаваў першапачаткова падначаліць украінскія аддзелы камандасаў, якія мусілі стварацца (была прынятая іх працоўная назва — «Стэпавы Кот»), бела-

---

[554] Бульба-Боровець Т. Армія без держави // http://zustrich.quebec-ukraine.com/lib/bulba/bulba_307armee.htm
[555] Бульба-Боровець Т. Армія без держави. — Вінніпег, 1981. С. 310.
[556] «Полесская Сечь» и атаман Тарас Бульба // http://ukrstor.com/ukrstor/bezprava-kniga1-2.4.html
[557] Симоненко И. «Волки УПА» в овечьей шкуре // http://russedina.ru/frontend/print.php?id=13588

рускаму кіраўніцтву плана «Чорны Кот». Апошнія, у адрозненне ад украінцаў, мелі падрыхтаваныя базы і людзей. Аднак украінцы (акрамя Тараса-Бульбы прысутнічаў генерал П. Шандрук) з гэтым не пагадзіліся і настойвалі на ўласным кіраўніцтве.[558]

На той нарадзе прысутнічаў Міхал Вітушка, з якім Бульба-Баравец быў знаёмы з 1941 года. Ён мог патлумачыць украінскаму атаману ролю «Дальвіца» і Родзькі, які ніякіх адносінаў да «Чорнага Ката» ў той час не меў. І калі ў красавіку 1945 года Бульба-Баравец не змог самалётамі перакінуць сваіх людзей на Палессе і Валынь, ён, натуральна, звярнуўся не да Родзькі (які сам быў у такой жа сітуацыі), а да вядомых яму людзей Вітушкі, якія заставаліся ў Нямеччыне.

У красавіку 1945 года Т. Бульба-Баравец сустрэўся ў Нямеччыне з групай беларусаў (а сярод іх з Уладзімірам Сенькам), утаямнічаных у справы «Чорнага Ката». Ён прасіў дапамогі ва ўладкаванні яго атрадаў на ўкраінскім Палессі, якія збіраліся ў рэйд на Бацькаўшчыну. Сенька такую дапамогу паабяцаў. Праз лінію фронту пайшлі каля 250 чалавек з Групы «Б». Тыя, хто дайшоў, фармальна падпарадкоўваліся камандзіру групы «Беларусь-Поўдзень» «Сычу» (такую згоду даў Тарас Бульба-Баравец), іх базы знаходзіліся на тэрыторыі Ровенскай, Кіеўскай і Чарнігаўскай абласцей.[559]

Ускосна гэтую інфармацыю пацвярджае адна ўкраінская крыніца: *«У 1947-1948 гадах група былых бульбашоў разам з прыбылым з-за мяжы падмацаваннем была выяўленая і абязшкоджаная чэкістамі».*[560]

Таксама як і ўкраінцы, папярэдне рыхтавалі «шляхі адыходу» і расейскія спецыяльныя фармаванні. Палкоўнік Хольмстан-Смыслоўскі вывеў рэшткі незалежнай ад РОА «Зялёнай арміі асобага прызначэння» (з сакавіка 1945 г. — «1-я Руская нацыянальная армія») на тэрыторыю княства Ліхтэнштэйн, дзе яны былі інтэрнаваныя.[561] Прычым, сярод 494 яго байцоў аказалася чацвёра беларусаў.[562] Маёр, граф Рыгор Ламздорф вывеў свой атрад

[558] Беларускі Супраціў. С. 251.
[559] Тамсама. С. 252.
[560] «Полесская Сечь» и атаман Тарас Бульба // http://ukrstor.com/ukrstor/bezprava-kniga1-2.4.html
[561] Назаров М. Миссия русской эмиграции. — Ставрополь, 1992. С. 321.
[562] Эпопея генерала Смысловского // Материалы по истории Русского освободительного движения 1941-1945 гг.: Сборник статей, документов и воспоминаний. Вып. 4. С. 129.

камандасаў у французскую зону акупацыі Нямеччыны, адкуль «Смершу» нікога не выдавалі.[563]

Кіраўніцтва ўласаўскага Камітэта вызвалення народаў Расіі ў сакавіку 1945 г. прыняло сакрэтны план дзеянняў на выпадак непазбежнай капітуляцыі Нямеччыны. У адпаведнасці з ім, РОА мусіла сканцэнтравацца ў раёне Альпаў, каб пасля злучыцца з югаслаўскімі нацыянальнымі партызанамі Д. Міхайлавіча, Л'ецііча і Недзіча, для сумеснай барацьбы супраць камуністаў. Гэты план падтрымлівалі і дзеячы рускай арганізацыі НТС.[564]

Аднак частка войскаў РОА затрымалася ў Чэхіі, дзе прыняла ўдзел у вызваленні Прагі ад нямецкіх войскаў. І выканаць першапачатковы план яны ўжо не маглі.

### *«Дальвіц» складае зброю антыфашысцкім партызанам*

Некаторыя аўтары, якія пішуць пра перадыслакацыю «Дальвіца» ў Чэхіі, не арыентуюцца ў чэшскіх гарах. Паводле І. Валахановіча, разведшкола спачатку знаходзілася ў Судэцкіх гарах, пасля перабралася ў Ізерскія горы.[565] Аднак Ізерскія горы — гэта частка Судэтаў. Таксама як і горны масіў Крканошэ, каля якога знаходзіцца г. Траўтэнаў. У 1945-м у горадзе жылі амаль выключна немцы, таму там было адносна бяспечна. Там жа каля Траўтэнаў была і Чорная гара. Калі батальён пакінуў Чорную гару і пайшоў на паўночны-захад праз горны масіў Крканошэ, толькі тады мог патрапіць у Ізерскія горы.

Міхась Зуй сведчыць, што «Дальвіц» аж да капітуляцыі Нямеччыны заставаўся на Чорнай гары: *«У гэты час мы пільна сачылі за вынікамі вайны. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны, вечарам, наш батальён пакінуў Чорную Гару, беручы напрамак — прабіцца на Захад да Аліянтаў».*[566]

Сяргей Кажан удакладняе, што ад самага пачатку знаходжання ў Судэцкіх гарах «Дальвіц» чакаў *«пачатку новай вайны». «Але ў выніку атрымалася ня тое, на што мы спадзяваліся. Бальшавікі сустрэліся з амэрыканцамі й пачалі цалавацца. Мы пра гэта па-*

[563] Вронская Д. Похождения графа Ламздорфа. Воевал против Сталина и пел «Жди меня...» // Совершенно секретно, 2002, № 12.
[564] Миссия русской эмиграции. С. 333, 335.
[565] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 23.
[566] Вяртаньне БНП... С. 78.

*чулі па радыё. Кіраўніцтва батальёну вырашыла прабівацца да амэрыканцаў»,* — успамінае Кажан.[567]

Дакладна невядома, у якім напрамку прабіваўся на Захад батальён. Калі яго раззбраенне чэшскімі партызанамі адбылося ў раёне г. Гобленец,[568] альбо Габланс,[569] дык, праўдападобна, пайшоў на поўдзень. Вядомы нам г. Gablans (Яблонув) знаходзіцца далёка на поўдзень ад Чорнай гары. Магчыма, усё ж такі населены пункт ёсць і ў Ізерскіх гарах, альбо і ў іншым рэгіёне паўночна-заходняй Чэхіі, але па вайне таксама быў перайменаваны.

С. Чуеў адзіны, хто піша пра раззбраенне «Дальвіца» ў вёсцы Кляйнэ Ізэль, куды ён, нібыта, пераехаў у канцы красавіка 1945 г.[570] Аднак не спасылаецца на крыніцу інфармацыі, а выявіць месцазнаходжанне гэтага населенага пункта таксама не ўдалося.*

Яўген Сямашка сцвярджае, што *«ратуючыся ад наступаючай Чырвонай Арміі, батальён «Дальвіц» апынуўся ў Чэхіі, каля горада Цэлтаў. 10 траўня ён быў раззброены ў Судэцкіх гарах чэшскімі партызанамі. Родзька абʼявіў пра роспуск батальёна».*[571]

А вось І. Валахановіч датай раззбраення «Дальвіца» называе 11-13 траўня 1945 г.[572] Наўрад ці раззбраенне адбывалася некалькі дзён, гэтаму супярэчаць і ўспаміны былых дэсантнікаў. Найхутчэй, падчас допытаў у турме савецкай дзяржбяспекі Родзька і іншыя называлі розныя даты з разьбежкай у некалькі дзён, а ўстанавіць дакладную дату не ўдалося. Зыходзячы з успамінаў Зуя, «Дальвіц» сыйшоў з Чорнай гары 8-9 траўня. Атрымліваецца, што батальён быў у дарозе, як мінімум, 2-3 дні.

Але зусім не факт, што «Дальвіц» чакаў на Чорнай гары капітуляцыі Нямеччыны, як сцвярджае Зуй. Тыя ж амерыканскія і

---

* Праўда, як сведчыць адзін з беларускіх эмігрантаў, які жыве ў Чэхіі, назву вёскі дэсантнікі ў сваіх паказаннях/успамінах маглі сказіць. Напрыклад, каля горада Іглава (Іглаў) знаходзіцца вёска Вежнічка (ням. Klein Wiesnitz). Магчыма. якраз яе мае на ўвазе С. Чуеў. А ад Вежнічкі да Яблонава прыкладна 35 кіламетраў уздоўж трасы Брно-Прага. Гэтую тэрыторыю Чырвоная Армія вызваліла толькі да 11 траўня, таму праз яе на поўдзень і захад адыходзілі нямецкія вайсковыя часці. Але гэта толькі версія, могуць быць іншыя варыянты.

567 Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.

568 Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 23.

569 Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.

570 Диверсанты третьего рейха. С. 289.

571 Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.

572 Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 23.

савецкія войскі сустрэліся на Эльбе яшчэ 25 красавіка. І ўжо тады было відаць, што заходнія саюзнікі не збіраюцца ваяваць з СССР. Мікола Рулінскі сведчыць, што дэсантнікі адступалі на Захад *«калі ўжо заканчвалася вайна»,*[573] а не закончылася. Фактычна гэта пацвярджае і безыменны дэсантнік, які ў сваіх успамінах піша:

*«У гэты час да нас дайшла вестка, што вайна зьбліжаецца да канца. Мы апынуліся ў цяжкім становішчы. У траўні 1945 году наш батальён папаў зноў у акружэньне разам з украінцамі, літоўцамі й латышамі. Нямецкія танкі прарвалі кальцо, і мы былі вызваленыя. Тыя, што змаглі перайсьці ў той час на Захад, засталіся шчасьлівейшымі, чым тыя, што засталіся пад савецкай акупацыяй.*

*У час капітуляцыі* [Нямеччыны] *мы з Родзькам знаходзіліся ў Чэхіі, у горадзе Габланс. З усіх бакоў была паніка, немцы ішлі ў палон (але гэта было ўсё арганізавана з нямецкай стараны). Мы ня кінулі зброю. Наш батальён разам з украінцамі пайшоў у лес, дзе савецкія самалёты заўважылі нас і пачалі кідаць бомбы, але, на шчасьце, ніхто ня быў забіты. Пасьля гэтай бамбёжкі мы рашылі разьбіцца на малыя групы (па 30-35 чалавек) і перабірацца далей на Захад. Мы пераадзеліся ў цывільную вопратку й разыйшліся».*[574]

Дзіўна, але больш ніхто з дэсантнікаў, хто пакінуў успаміны, не згадвае пра прарыў, пра ўкраінцаў, латышоў і літоўцаў, ніхто не піша, што «не кінулі зброю». Але ўсё ж вымалёўваецца пэўная карціна. «Дальвіц» верагодна сыйшоў з Чорнай гары ў канцы красавіка — у першых чыслах траўня 1945 года. Па дарозе беларускія дэсантнікі маглі сустрэць падобныя аддзелы і іншых нацыянальнасцяў (калі толькі яны сумесна не сыходзілі з-пад Трутнава). Яны трапілі ў акружэнне, але здолелі з яго выйсці, і прасоўваліся далей на захад ці паўднёвы-захад, пакуль, ужо пасля капітуляцыі Нямеччыны, не былі спыненыя чэшскімі партызанамі альбо ўдзельнікамі самаабароны.

Былыя байцы «Дальвіца» пакінулі супярэчлівыя ўспаміны і пра яго раззбраенне. Галоўная супярэчнасць — хто аддаў загад скласці зброю.

Лейтэнант Міхась Зуй успамінае: *«У часе адсутнасьці камандзіра Родзькі, яго заступнік, капітан Гелда, каб не праліваць крыві, даў загад жаўнерам батальёну «Дальвіц» здаць зброю чэхам. Гэта*

---

[573] Вяртаньне БНП... С. 48.
[574] Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.

*здарылася на вуліцах гораду Прагі. Калі вярнуўся маёр Родзька ў батальён, са сьлязьмі сказаў: «Здаўшы зброю чэхам, вы зрабілі сябе безабароннай групай. Ваша жыцьцё цяпер залежыць ад волі лёсу. Дарогу на Захад адрэзалі бальшавікі, а таму хто трапіць ім у рукі, не абмінуць кулі. Разьбівайцеся на групы і прабівайцеся на Захад».*[575]

Заўважым, што раззбраенне адбылося адназначна не ў Празе і тут Зуй памыліўся. Ці не памыліўся ён і ў астатніх дэталях? Напрыклад ён сцвярджае, што Родзька перад роспускам людзей выдаў *«часовыя посьведкі, што мы палякі».*[576] Ніхто іншы гэтага не пацвердзіў, а лейтэнант Мікола Рулінскі гэта абвяргае: *«Ніякіх посьведак, што мы — палякі, [ён]не даваў».*[577]

Вось якую версію тых падзеяў прапануе Мікола Рулінскі:

*«У 1945-ым мы арганізаваным парадкам пачалі адступаць на Захад... Усе разам... Тады Родзька камандаваў. Апынуліся мы ў Чэхаславакіі. Тут ужо канец вайны, фронт набліжаўся. Вырашылі ісьці на Захад. І Родзька нас вёў. І вось у адным месцы ў Чэхаславакіі Родзька гаворыць: «Я пайду ў разьведку ў гэтае мястэчка». А там ужо партызаны чэскія занялі ўсю тэрыторыю. Мы яго чакаем. А зброі ў нас было поўна — «па зубы» былі ўзброеныя. Каб ведалі, што нас там гэта чакае, мы пайшлі б з боем. Ён вяртаецца, кажа: «Прапусьцяць нас». Родзька дагаварыўся зь імі. Мы прыходзім у мястэчка, там такі рынак быў вялікі, а тут нас акружылі і кажуць: «Скласьці зброю! А не, дык мы вас тут інтэрніруем. Афіцэры могуць пакінуць сабе пісталеты». Я памятаю, што я меў два пісталеты. Бо пасьля яны ашукалі нас. Калі ўсё аддалі, яны кажуць: «Пісталеты таксама кідайце». Я кінуў адзін пісталет, а другі ў мяне быў яшчэ...*

*Прапусьцілі нас бяз зброі. Пайшлі мы кілямэтры два ў лес, затрымаліся там. Родзька кажа: «Сытуацыя такая, браткі, што гіблая справа нам. Хто куды хоча і як хоча, разьбягайцеся. Хто ведае польскую мову, можа прыкінуцца за паляка. Падбірайце сабе групу». Мы сабраліся ўтрох:Мілюць, я і Фарботка. Мелі цывільнае адзеньне, пераапрануліся. Мы добра ведалі польскую мову, бо «за палякамі» жылі. І вырашылі неяк прайсьці праз Эльбу... На Захад».*[578]

---

[575] Вяртаньне БНП... С. 78.
[576] Тамсама. С. 78.
[577] Ліст да аўтара Міколы Рулінскага ад траўня 1996 года.
[578] Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 38-39.

У іншым выпадку Рулінскі піша, што пра раззбраенне Родзька ад пачатку дамовіўся з чэхамі — гэта была ўмова пропуску беларускіх камандасаў: *«Родзька... хутка вярнуўся і кажа: «Хлопцы, нам чэхі далі дазвол прайсьці, але мы павінны здаць зброю». На плошчы ўсе здалі зброю, а было яе шмат, пераважна аўтаматы, ахвіцэрам дазволілі затрымаць пісталеты, хаця пасьля адмянілі сваё рашэньне. Гэта быў момант вельмі цяжкі. Што варты жаўнер без зброі? Мы прайшлі цераз мястэчка і затрымаліся ў лесе. Тут Родзька зьвярнуўся да ўсіх і кажа, што няма другога выйсьця, як ісьці групкамі на Захад».*[579]

Розніца ва ўспамінах прынцыповая, і гэта яшчэ раз пацвярджае неабходнасць асцярожна ставіцца да такіх крыніц, параўноўваць іх з іншымі сведчаннямі.

Лейтэнант Сяргей Кажан фактычна паўтарае версію М. Зуя, што загад скласці зброю даў Іван Гелда:

*«На нашым шляху аказаліся чэскія партызаны. Родзька паехаў да іх на перамовы. Далей батальён рухаўся пад кіраўніцтвам Гелды. У невялічкім мястэчку, здаецца, Райханаў, нашая калёна, гэта чалавек 500, нос у нос сустрэлася з калёнай чэскіх паўстанцаў, якраз на рынкавай плошчы. Нам прапанавалі здаць зброю. І Гелда даў загад раззброіцца. Затым выйшлі зь лесу, селі ля дарогі. Калі прыехаў Родзька, было ўжо позна. Ён страшэнна раззлаваўся. Але нічога ўжо не паробіш. Батальён разьбіўся на групы, якія самастойна пачалі прабівацца на захад».*[580]

А вось што ўспамінае Ю. Найдзюк (Брэчка): *«Родзька ўсіх сабраў і сказаў: «Дзяліцца на маленькія групы і хто куды хоча ісці, гэта на ўсход ці на захад. Падрыхтоўваць глебу да вайны з Саветамі. Бо польская прапаганда (з Лондана) была: пакончаць з Гітлерам, пойдуць на Сталіна».*[581]

Як бачым, Ус. Родзька яшчэ верыў у магчымасць новай вайны, прынамсі, настройваў на гэта сваіх байцоў.

Адзначым, што ў падобнай сітуацыі, калі шлях у Судэтах каля г. Іглаў быў перакрыты чэшскімі партызанамі, нямецкія камандасы з 1-га палка «Бранденбурга» атрымалі каманду «поўная маскіроўка!». У выніку, байцы пераапрануліся ў сялян, рабочых, са-

[579] Ліст да аўтара Міколы Рулінскага ад траўня 1996 года.
[580] Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.
[581] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.

вецкіх і англійскіх жаўнераў, і адзінкамі, групамі перайшлі ў амерыканскую зону акупацыі.[582]

## *Шлях на Захад і Ўсход*

Колькі групаў з байцоў «Дальвіца» ўтварылася, дакладна невядома. Яны налічвалі ад 3 да 30-35 чалавек. Звычайна ў групу збіраліся сябры, добрыя знаёмыя, землякі. Большая частка дэсантнікаў паспрабавала прабіцца на Захад, але пашанцавала нямногім.

На Захад спрабавала прабіцца група лейтэнанта Рулінскага з трох чалавек, але іх затрымалі савецкія вайскоўцы ў трох кіламетрах ад Эльбы. Паколькі яны былі ў цывільнай вопратцы, сказалі, што былі вывезеныя на працу ў Нямеччыну. Іх змясцілі ў фільтрацыйны лагер. Праверку ўсе трое прайшлі паспяхова — яны сказалі, што паходзяць з Польшчы, і ім дазволілі туды вярнуцца. З Кракава хлопцаў адправілі працаваць на «землі адзысканыя» на захад Польшчы.[583]

Юзэфа Брэчка патрапіла ў групу з 7 чалавек, яны таксама прабіваліся на Захад: *«Я прыстала да групы* [Аўгена] *Занковіча, Ніны* [Лабовіч] *— на захад. У нас былі: Ігнатовіч, Маеўскі, Франц (прозвішча не ведаю) і Махнюк — 7 асобаў. Недалёка граніцы савецка-амерыканскай нас Саветы затрымалі і падзялілі: хлопцаў асобна і дзяўчат таксама па адной. Бязумоўна, нас уважалі як рабочых, бо мы былі адзеты цывільна і некаторыя рэчы вайсковыя.*

*Мяне дапытваў* [савецкі афіцэр]*, ругаўся на чым свет стаіць. Выстраліў у хаце навокал мяне па сцяне з «зоркі». Нарэшце спытаў — што я буду рабіць? Я адказала: На Бацькаўшчыну пайду, а ён мне: Ты изменница родины, из наших рук не выйдешь и на родину не пойдёшь, а к «белым медведям». Адпусціў мяне. Я выйшла і зараз жа да мяне падыйшла немка. Яна забрала мяне да сябе і дапамагла ўцячы на амерыканскую зону, бо яна бальшавікоў ненавідзела. Чаму яна мне такую паслугу зрабіла, я і сёння не ведаю. Я сказала ёй, што я беларуска. У дарозе я мусіла граць ролю дурнаватай і глухаватай. Яна мяне адзела ў смешную вопратку, забараняла мыцца, бо каб бальшавікі пазналі, то мяне і яе павесілі б. Там бальшавікі над маладымі немкамі вельмі здзекаваліся, станавіліся ў чаргу ды яшчэ матак застаўлялі гэта ўсё глядзець...*

---

[582] Неподаев Ю. Спецназ адмирала Канариса. — Москва: Яуза, Эксмо, 2004. С. 270.
[583] Вяртаньне БНП... С. 48-49.

*Хлопцам таксама ўдалося ўцячы, гэта: Аўген Занкавіч, Маеўскі, Махнюк, Ігнатовіч і Франц. У жывых яшчэ Махнюк (ЗША)».*[584]

Групу з 26 чалавек на чале з старшым лейтэнантам Ігарам Будахоўскім затрымаў аддзел савецкага войска.

*«Забралі ад нас гадзіньнікі і ўсе каштоўнейшыя рэчы і пад канвоем адвялі ў лес, абставілі кулямётамі і сказалі: «Сядзець, а хто толькі падымецца, страляем без папярэджаньня». На мне была ўніформа беларускага лейтэнанта,* — успамінае Міхась Зуй. — *Нашы канваіры, атрымаўшы загад ад вышэйшага камандаваньня, вывелі нас на дарогу і накіравалі на разьмеркавальны пункт у горад Тускаў.*[*]

*Пакуль дайшоў да месца прызначэньня, свой мундзір беларускага лейтэнанта замяніў свэтрам і на допыце ў НКВД падаў няправільны адрас, схлусіў, што я быў забраны прымусова з дому на працу ў Нямеччыну. Мяне ўключылі ў «143 гвардзейскі красназнамённы полк».*[585]

Лейтэнант Сяргей Кажан таксама быў затрыманы ў Чэхіі і адпраўлены на *«адмысловы савецкі зборны пункт».* На праверцы сказаў, што быў вывезены ў працоўны лагер. У выніку, яго залічылі ў *«запасны полк, рабочую групу».*[586]

Адзін з удзельнікаў групы Родзькі падрабязна апісаў яе маршрут у Польшчу. Нейкі час група знаходзілася ў лесе, высвятляла магчымасці пераходу на Захад. Калі сыйсці туды не ўдалося, Родзька са сваімі хлопцамі, апранутымі ў цывільную вопратку, паехаў на цягніку ў Польшчу з намерам дабрацца да Белавежскай пушчы.[587]

Ёсць звесткі, што з Родзькам у Польшчу накіравалася 12 чалавек.[588] І. Валахановіч называе 10 чалавек, якія былі з Усеваладам Родзькам: Бабкоўскі, Дзячук, Кулініч, Негулевіч, Малеўскі (Сітнік), Маісюк, Пабяржын, Сербін, Якавенка і Сянькоўскі.[589]

---

[*] Tuskau — горад на захад ад г. Пльзень. Атрымліваецца, што калі група Будахоўскага сапраўды была затрыманая ў тым раёне, дык «Дальвіц», ідучы з Чорнай гары, мусіў з поўначы ці з поўдня абыйсці Прагу (Пльзень знаходзіцца на паўднёвы-захад ад сталіцы Чэхіі).

[584] Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 г. На той час Махнюк быў жывы.

[585] Вяртаньне БНП... С. 78.

[586] Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.

[587] Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.

[588] Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. С. 25.

[589] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 34.

Аднак ёсць звесткі, што Юрка Сянькоўскі далучыўся да групы Родзькі ў Варшаве, пасля выпадковага спаткання.[590]

*«Наша група апынулася ў цяжкім становішчы: бяз грошай, бязь ежы, бязь месца для адпачынку, але мы даехалі да польскай мяжы (бо цягнік далей ня ішоў), перайшлі яе й накіраваліся ўжо на польскім цягніку ў Кракаў. Там мы затрымаліся на некалькі дзён»,* — успамінае былы дэсантнік «Дальвіца».[591] У Варшаву група Родзькі прыехала 30 траўня 1945 года.[592]

Такім чынам, большасць навучэнцаў «Дальвіца» здолелі пазбегнуць арышту ў Чэхіі. «Смершам» там быў выкрыты толькі 31 чалавек.[593] Калі браць за аснову 500-асабовы склад «Дальвіца» ў траўні 1945 г., атрымліваецца, што «Смерш» здолеў выявіць толькі 6% дэсантнікаў.

### *Усевалад Родзька трапляе ў рукі савецкай дзяржбяспекі*

Дагэтуль арышт Ус. Родзькі і яго далейшы лёс не былі дакладна апісаныя, вядомыя толькі некалькі агульных версій. Ігар Акшэўскі і Генадзь Сенюкоў сцвярджаюць, што Родзьку *«ўзялі глыбокай восеннюю 1945 года ў Беластоку».*[594] Ігар Валахановіч піша, што *«ў ліпені 1945 г. У. Родзька і яго група былі арыштаваныя савецкімі органамі дзяржбяспекі».*[595] Дакладную дату арышту Ўс. Родзькі падае толькі Аляксандр Хацкевіч, які ў 1990-х мог атрымаць доступ да справы кіраўніка БНП. Паводле яго версіі, гэта адбылося ў Беластоку ***26 чэрвеня 1945 года***.[596] І гэтая дата выглядае праўдзівай. А ўсе іншыя варыянты (ліпень, восень 1945-га) — адбітак нейкай гульні, якую ў той час спрабавала весці савецкая дзяржбяспека з выкарыстаннем Родзькі.

Пётра Рашэтнік, спасылаючыся на расповед Івана Гінько, успамінае: *«Родзьку, па расказах Гінька, арыштавалі ў Беластоку... Родзька ўладкаваўся на працу па азеляненьні гораду, але працаваў там нядоўга. Яго арыштавалі і адразу накіравалі ў Менск».*[597]

---

[590] Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.
[591] Тамсама.
[592] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 33.
[593] Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28.
[594] Белорусская нива, 1994, 19 студзеня.
[595] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 34.
[596] Хацкевич А. Преступления без срока давности // Фемида (Мінск), 1993, № 3 (55), 18-24 студзеня.
[597] Рашэтнік П. Сустрэчы на жыцьцёвым шляху // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1 (3). С. 133.

А вось успаміны бязыменнага дэсантніка «Дальвіца», апублікаваныя ў 1998 годзе, сведчаць, што Родзька, нібыта, заставаўся на волі аж да часу капітуляцыі Японіі (а гэта, нагадаем, адбылося 2 верасня 1945 года). Родзька *«падтрымліваў сувязь з братамі Луцкевічамі* [яны былі ў Варшаве і мусілі «навязаць сувязь з амэрыканцамі праз польскую партызанку»] *й чакаў падтрымкі».*[598]

Па справе «Дальвіца» і Родзькі савецкая дзяржбяспека працавала па некалькіх каналах. У рамках агентурнай справы «Кантакт» летам 1945-га Родзьку і іншых навучэнцаў «Дальвіца» шукаў у Варшаве завербаваны НКГБ былы дэсантнік «Беразоўскі» (Кракасевіч?). У ліпені ён вярнуўся ў БССР як рэпатрыянт, быў «сакрэтна зняты», дапытаны, а пасля і завербаваны. «Беразоўскі» паведаміў савецкай дзяржбяспецы, што Родзька з Чэхіі выехаў у Польшчу.[599]

Родзьку шукала і агентка «Фаіна», якая знаходзілася ў Беластоку па заданню савецкай дзяржбяспекі. Верагодна, гэта была асоба, якая мела дачыненне да беларускіх установаў у Менску, напрыклад, да БЦР, таму магла апазнаць некаторых беларускіх нацыяналістаў. У канцы чэрвеня 1945 г. на беластоцкай вуліцы Міцкевіча каля дома нумар 13 яна ўбачыла Ўсевалада Родзьку. Пра гэта агентка адразу ж паведаміла сваім куратарам з НКГБ.

Аператыўнікі праверылі ўсіх жыхароў дома, і высветлілася, што без прапіскі там жыў толькі Ян Ермаловіч, які прыехаў з Варшавы. «Фаіна» пазнала ў Ермаловічы Родзьку. Пасля гэтага яго «сакрэтна знялі» і дапыталі. Усевалад Родзька прызнаўся, што з’яўляецца адным з лідараў БНП і распавёў пра яе ўзнікненне, структуру і дзейнасць.[600]

*«Пры арышце ў вас забраныя дакументы на імя Ермаловіча Яна. Каму яны належаць?»* — запытаўся следчы. Са слоў Родзькі, з відавочным «карэктаваннем» некаторых фармулёвак, у пратаколе допыту было запісана наступнае: *«Забраныя ў мяне пры вобыску дакументы на імя Ермаловіча Яна з’яўляюцца фіктыўнымі. Імі я карыстаўся ў Беластоку, знаходзячыся на нелегальным становішчы. Маё знаходжанне на нелегальным становішчы тлумачыцца тым, што ў Беласток я прыбыў з мэтай перакідкі з-за мяжы сваёй агентуры для вядзення падрыўной работы на тэрыторыі БССР».*[601]

---

[598] Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.
[599] Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. С. 25.
[600] Тамсама. С. 25-26.
[601] Белорусская нива, 1994, 19 студзеня.

Аднак існуе яшчэ адна дата арышту Ўсевалада Родзькі — ***травень 1945 года, Чэхія.*** Яна змешчана ў іншым варыянце кнігі пра беларускіх буржуазных нацыяналістаў, больш грунтоўнай і значна большай па аб'ёме.[602]

У гэтым выданні чытаем: *«В мае 1945 г. на территории Чехословакии был задержан активный пособник немецких оккупантов и шпион абвера Всеволод Родько, которого немцы назначили «командиром движения освобождения». В ходе допроса и оперативных мероприятий было принято решение использования Всеволода Родько для выявления оставленной немцами белорусской националистической агентуры. Операция закончилась в августе 1945 г. ликвидацией шпионской сети БНП, которую абвер готовил с мая 1944 г. Было арестовано 17 агентов и ликвидировано 6 бандформирований этой фашистской организации. Сам Всеволод Родько дал исчерпывающие показания, что позволило получить важные сведения».*[603]

Аналізуючы гэтую супярэчлівую інфармацыю, напрошваецца версія пра сутыкненне ў справе Родзькі інтарэсаў некалькіх савецкіх спецслужбаў. Адна з іх арыштавала яго ў траўні 1945-га ў Чэхіі і вырашыла «пад кантролем» перакінуць у Польшчу для выкрыцця «агентуры». Іншая натрапіла на Родзьку ўжо ў Беластоку і, не ведаючы, што ён ужо кантралюецца канкурэнтамі, арыштавала яго і частку групы.

З дакументаў, прадэманстраваных у дакументальным фільме «Супрацьстаянне» (2004), вядома, што 2 ліпеня 1945 г. Родзьку яшчэ дапытвалі ў Беластоку. Аднак ужо 5 ліпеня 1945 г. яго ў Віцебску дапытваў начальнік 3-га аддзялення 2-га аддзела Упраўлення НКГБ па Віцебскай вобласці капітан дзяржбяспекі Галубкін. Чаму Родзьку адвезлі ў Віцебск, а не пакінулі ў Мінску? Як піша Іван Касяк, *«выдатнейшых беларусаў, схопленых савецкімі ўладамі... вязьлі ў горад іх дзейнасьці».*[604] Таму і Родзьку, які быў бурмістрам Віцебску, адразу адправілі туды для правядзення першапачатковага следства. Як яго пасля гэтага выкарыстоўвалі ў «аператыўных мерапрыемствах», дакладна невядома.

Яшчэ адна заблытаная гісторыя — правядзенне Родзькам 17 чэрвеня 1945 г. у Варшаве на каспірацыйнай кватэры братоў Луц-

---

[602] Белорусские буржуазные националисты. Учебник. — Москва: ВШ КГБ, 1957.
[603] Тамсама. С. 86.
[604] Беларусь учора і сяньня. С. 340.

кевічаў нарады актыву БНП. Вядома, што ў ёй удзельнічалі акрамя Ўс. Родзькі, Ю. і Л. Луцкевічаў Мікола Шкялёнак і Язэп Пабяржын. На ёй абмяркоўваліся *«пытанні пра міжнароднае становішча, мэты і задачы дзейнасці беларускіх нацыяналістаў у новых умовах».*[605]

З прамовы Родзькі вынікала, што ён па-ранейшаму спадзяваўся на канфлікт паміж заходнімі саюзнікамі і СССР. Аднак улічваў той факт, што БССР стала сябрам ААН. На нарадзе Шкялёнак, нібыта, атрымаў заданне выехаць у Берлін і ўстанавіць сувязь з беларускімі эміграцыйнымі цэнтрамі. Сам Родзька з групай дэсантнікаў накіраваўся ў Беласток.[606]

Існуе іншая версія гэтай падзеі. Паводле яе, Мікола Шкялёнак у канцы вайны ў Нямеччыне стаў камандзірам атрада беларускіх камандасаў, якія мусілі вярнуцца ў Беларусь для ўзмацнення арганізацыі «Чорны Кот». Такім чынам, Шкялёнак выпадаў з планаў Родзькі па арганізацыі Супраціву сіламі БНП. Тым не менш, яны сапраўды сустрэліся ў Варшаве. Шкялёнак пасля пісаў у справаздачы, што Родзька патрабаваў вызнання яго кіраўніком усяго беларускага Супраціву і перадачы яму адпаведных паўнамоцтваў. Пры гэтым кіраўнік БНП заяўляў, што на чале беларускага Супраціву мусіць быць Урад БНР (праўда, у той час яго не існавала), а сам, нібыта, называў сябе «галоўнакамандуючым арміяй БНР». Родзька настойваў, што антысавецкае змаганне павінна быць адкладзена да восені 1945 года, калі *«можа адбыцца пераўтварэнне БССР у незалежную дзяржаву».* Нібыта, была папярэдняя дамоўленасць пра «сакрэтныя перамовы» прадстаўнікоў БНР і Ўраду СССР, якія мусілі распачацца ў жніўнівераснi 1945 года. І толькі, калі яны будуць бязвыніковыя, тады БНР абвесціць вайну СССР... Гэта гучала так фантастычна, што Шкялёнак наўрад ці паверыў у рэалістычнасць інфармацыі.

Родзька хацеў даведацца ад Шкялёнка выхады на базы «Чорнага Ката» ў Белавежскай пушчы і ў Беластоку, але атрымаў адмову. Родзьку прапанавалі перабрацца ў Беласток, але на «канспірацыйны карантын», пра што ён не ведаў.[607]

Калі давяраць інфармацыі пра тое, што ад траўня 1945 года Ўсевалад Родзька працаваў пад савецкім кантролем, дык ягоная

---

[605] Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. С. 33.
[606] Тамсама. С. 33-34.
[607] Беларускі Супраціў. С. 171-172.

«актыўнасць» у Варшаве мусіла быць скіравана на пошук выхаду на ўсе беларускія канспірацыйныя структуры, якія існавалі ў Польшчы і ў БССР. Аднак наладзіць кантакт з «Чорным Катом» ён не змог. Адзінае, што ўдавалася — збіраць асобных дэсантнікаў, якія апынуліся ў Польшчы.

Як маглі кантраляваць Ус. Родзьку савецкія спецслужбы? Падаслаўшы ў групу, з якой ён перабраўся ў Польшчу свайго чалавека? Ці з дапамогай шантажу, сказаўшы, што яго сям'я знаходзіцца ў іх руках? На жаль, усе гэтыя пытанні застаюцца пакуль без адказу. Канстатуем толькі, што на лета 1945 года Родзька згубіў глебу пад нагамі. Частка сяброў БНП, у тым ліку і з сябраў ЦК, выйшлі з-пад кантролю і пераарыентаваліся на канспірацыйную структуру, якую ачольваў Міхал Вітушка. Міжнародная сітуацыя, нягледзячы на ўвесь аптымізм Родзькі, не давала надзеі на хуткі пачатак новай вайны. Байцы «Дальвіца» разышліся па ўсёй Еўропе, вестак ад колішніх дэсантаў не было, нічога не было вядома пра падполле БНП.

Фактычна, Родзька апынуўся ў ізаляцыі, не маючы ні сувязяў, ні рэсурсаў. Усе яго ранейшыя планы па арганізацыі паўстанцкага руху ў БССР абрынуліся. І вось у гэтай сітуацыі, паводле версіі А. Хацкевіча, 26 чэрвеня 1945 года яго арыштавалі.[608]

Усевалад Родзька быў асуджаны на пакаранне смерцю ваенным трыбуналам войскаў МВД «Беларускай вайсковай акругі» 22 траўня 1946 г.[609]

Паводле ўспамінаў Лявона Луцкевіча, гэта быў «працэс шасці». Акрамя Родзькі судзілі іншых дзеячоў БНП: Івана Гелду, Івана Гінько, Усевалада Караля, Юрыя і Лявона Луцкевічаў.[610] Прысуд смерці таксама атрымаў Гелда[*], іншыя — вялікія тэрміны зняволення.

Як піша Аляксей Салаўёў, *«крызіс яго* [Родзькі] *поглядаў на падзеі, што адбываліся, дазволіў яму палітычна раззброіцца і расказаць праўду аб правакацыйнай сутнасці партыі, якую ён ачольваў».*[611]

---

[*] Ёсць няпэўныя звесткі, што маёр Гелда скончыў жыццё самагубствам у турме. Паводле афіцыйнай версіі, у 1946 г. ён быў павешаны ў Беластоку, яго жонка Вольга атрымала 7 гадоў турмы. Гл.: Komendant bialoruskich oddzialow SS w Bialymstoku przed sadem // Jednos'c' Narodowa, 1946, 25 траўня, № 68.

[608] Фемида, 1993, № 3 (55), 18-24 студзеня.

[609] Органы государственной безопасности СССР в годы Великой Отечественной войны. — Том 4. Книга 1: «Секреты операции «Цитадель» (1 января — 30 июня 1943). — Москва: «Русь», 2003; http://mozohin.ru/article/a-156.html

[610] Паведамленне Л. Луцкевіча аўтару ад 2 ліпеня 1997 г.

[611] Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. С. 90.

Але ці сапраўды ён «палітычна раззброіўся»? Лявон Луцкевіч казаў: *«Такая вялікая асоба, як Родзька, ня мог проста так здаваць сваіх паплечнікаў. Ён спрабаваў арганізаваць нейкую гульню, перайграць Цанаву. Але дзе-ж ты яго перайграеш?!»*.[612]

Пра добры маральны стан Родзькі ў час зняволення сведчыць удзельнік антыпартызанскай «Ягд-каманды» з Барысаўшчыны Іван Апет, які ў 1946 годзе сядзеў з ім у камеры смяротнікаў мінскай «амерыканкі»: *«Ён вылучаўся тым, што быў вельмі энэргічны, бадзёры, падтрымліваў усіх. Перастукваўся па ўсёй турме. Ведаў усе апошнія навіны: каго за што пасадзілі, прозьвішчы, нават імёны па бацьку. Шмат чаго расказваў...*

*Надзеі ён ня меў. Так і казаў: «Мяне расстраляюць, ні на які тэрмін не заменяць».*[613]

Што да гульні з савецкай дзяржбяспекай, дык нам вядомы толькі адзін яе накірунак. Як сведчыць Кастусь Шышэя, яму (а верагодна і іншым дэсантнікам) чэкісты прапаноўвалі магчымасць дэсанту ў Грэцыю. Верагодна, яны мусілі ваяваць на баку камуністычных партызанаў супраць урадавых і англійскіх войскаў. Аднак гэты праект рэалізаваны не быў.[614] Гэта была б выдатная магчымасць, каб вырвацца з «савецкага раю».

Аднак Родзьку не расстралялі паводле прысуду 1946 года. Верагодна, яму захавалі жыццё ў разліку на правядзенне разнастайных аператыўных гульняў з заходнімі разведвальнымі і эміграцыйнымі цэнтрамі. Усевалада Родзьку бачылі ў 1956 годзе ў сібірскім канцлагеры.[615]

Але яшчэ да гэтага, у сакавіку 1954 года, радыёперахоп выведкі Заходняй Нямеччыны запеленгаваў невядомую радыёстанцыю, якая працавала на тэрыторыі СССР. На кароткіх хвалях кодам абвергрупаў вясны 1945-га і ў часы іх перадачаў яна паведамляла пра дзейнасць на тэрыторыі Беларусі «Беларускага вызвольнага цэнтру» пад кіраўніцтвам Усевалада Родзькі. Паводле гэтай інфармацыі, сам Родзька, *«з канспірацыйных меркаванняў»*, жыў у Сібіры. Радыёстанцыя стабільна працавала на працягу некалькіх месяцаў. На Захад перадаваліся просьбы аб уста-

---

612 Паведамленне Л. Луцкевіча аўтару ад 2 ліпеня 1997 г.
613 Іван Апет // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8). С. 132-133.
614 Вяртаньне БНП... С. 25.
615 Рамановіч Н. Родзька меў забарону вяртацца на Радзіму // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4). С. 96-101.

наўленні сувязі, падаваліся яўкі. Аднак нарада беларускіх супрацоўнікаў нямецкіх спецслужбаў прыйшла да высновы, што *«саветы спрабуюць наладзіць радыёгульню»*. Тым не менш, «Беларускаму вызвольнаму цэнтру» пасылаліся праверачныя пытанні, а сярод іх і тыя, што датычылі жыцця Ўсевалада Родзькі. У адказах перадаваліся звесткі, якія мог ведаць асабіста Родзька, альбо людзі, якія яго ведалі з дзяцінства.[616] Верагодна, пасля гэтага выпадку савецкія спецслужбы пераканаліся, што выкарыстоўваць Родзьку ў радыёгульнях бязсэнсоўна.

Ці не апошняя згадка пра Родзьку адносіцца да 1957 года. Аддзел крымінальнага вышуку МВД СССР 19 кастрычніка 1957 года разаслаў мясцовым аддзелам унутраных спраў спіс злачынцаў, якія былі ва ўсесаюзным вышуку. У спісе ёсць і прозвішча Родзькі.[617]

Гэта мог быць працяг гульні савецкіх спецслужбаў, якія арганізавалі «зліў» для спецслужбаў заходніх. Мэта магла быць усё тая ж — прымусіць паверыць, што Родзька сапраўды вырваўся на волю і хаваецца ў СССР. Аднак інфармацыі пра тое, што на заходнія спецслужбы зноў выходзілі невядомыя людзі ад Родзькі, няма. Як няма і інфармацыі, што ён мог уцячы. Паводле неафіцыйных дадзеных, Усевалад Родзька да канца жыцця (а пражыў ён да глыбокай старасці) заставаўся пад кантролем савецкіх спецслужбаў.

### *Арышты былых камандасаў у Польшчы і ў Беларусі*

Пасля арыштаў лета-восені 1945 года новая хваля затрыманняў былых дэсантнікаў «Дальвіца» прыпадае на канец 1940-х — пачатак 1950-х гадоў. Яны адбываліся пераважна ў Польшчы і Беларусі, ды закранулі як тых, хто ўсе гэтыя гады проста пераховаўся, так і тых, хто браў удзел у антысавецкім супраціўленні.

У паваенны час МГБ у асобных ваяводствах Польшчы ажыццяўляў «распрацоўку» былых вайскоўцаў «Дальвіца». На 1952 год па гэтай справе былі арыштаваныя 14 чалавек (паводле некаторых звестак, агулам у паваеннай Польшчы былі арыштаваныя 22 былых камандаса «Дальвіца»), 12 з іх асуджаныя на розныя тэрміны зняволення. Але арышты маглі адбывацца і ў пазнейшы час. [618]

---

[616] Беларускі Супраціў. С. 315-316.
[617] Тамсама. С. 174.
[618] Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 171.

Звычайна былых камандасаў «Дальвіца», арыштаваных у ПНР, выдавалі савецкім спецслужбам. 14 красавіка 1949 г. у Польшчы быў арыштаваны Глеб Багдановіч. З лета 1945-га, пасля нелегальнага пераходу беларуска-польскай мяжы, ён жыў у ПНР. Пэўны час удзельнічаў у дзейнасці польскай падпольнай арганізацыі «Воля і Незалежнасць» (ВіН). На момант арышту працаваў лекарам у 62-м пяхотным палку 18-й пяхотнай дывізіі. У СССР Багдановіча асудзілі да 25 гадоў зняволення, аднак у 1957 г. ён быў вызвалены, жыў у Беларусі.[619]

У 1949 годзе былі арыштаваныя таксама Рулінскі, Фарботка, Мілюць і Будахоўскі.[620] Яшчэ раней, верагодна таксама на тэрыторыі Польшчы, быў арыштаваны Шунько.[621] У канцы 1948 г. у Польшчы арыштавалі былога жаўнера «Дальвіца» Кастуся Казака.[622]

У 1952 годзе ў Польшчы былі арыштаваныя Мікола Грыцук і Алесь Асвяцімскі. Таксама польская служба бяспекі затрымала Канстанціна Лазарэвіча, брата капітана Ўладзіміра Лазарэвіча. Працягваліся актыўныя пошукі Міхася Ганька, які паводле сведчанняў былых байцоў «Дальвіца», змяніў прозвішча і жыў у Катавіцах.[623]

Паводле Ю. Грыбоўскага, польскія спецслужбы завербавалі як мінімум трох былых вайскоўцаў «Дальвіца», якія былі інфільтраваныя ў асяроддзе іх калегаў. У Зялёнай Гуры знаходзіліся агенты «112» і «В-105». Пад пагрозай прыцягнення да крымінальнай адказнасці, быў завербаваны былы капітан «Дальвіца», які атрымаў мянушку «Каліноўскі».[624] Дакладна ўстанавіць асобу апошняга пакуль нам не ўдалося.

Найбольш масавае затрыманне на тэрыторыі БССР былых навучэнцаў Дальвіцкай разведвальна-дыверсійнай школы адбылося восенню 1945 года. У верасні 1945-га аддзел контрразведкі «Смерш» 28-й арміі Баранавіцкай вайсковай акругі выявіў былых камандасаў у 143-м гвардзейскім стралковым палку 48-й гвардзейскай стралковай дывізіі. Арышты працягваліся да кастрыч-

---

[619] Тамсама. С. 187-188.
[620] Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 39.
[621] Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. С. 113.
[622] Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1 (4). С. 92-95.
[623] Паведамленне аўтару Ю. Грыбоўскага ад 5 снежня 2005 г.
[624] Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 171.

ніка, пад варту былі ўзятыя 22 чалавекі. Большасць з іх служылі чырвонаармейцамі ў згаданым 143-м палку. Іх справу 22, 23 і 25 сакавіка 1946 г. у Бабруйску разглядаў Ваенны трыбунал Баранавіцкай вайсковай акругі. Усе 22 чалавекі былі асуджаныя на розныя тэрміны зняволення на падставе артыкулаў 63-1 («здрада радзіме») і 63-2 («здрада радзіме, здзейсненая вайскоўцам») Крымінальнага кодэксу БССР. Ніхто з гэтых людзей у далейшым не быў рэабілітаваны.[625]

Лейтэнант Сяргей Кажан, які яшчэ ў Чэхіі трапіў у запасны полк Чырвонай Арміі, падчас перадыслакацыі падраздзялення ў Кіеў уцёк. Ён вярнуўся ў Шаркоўшчынскі раён, але ў 1946 г. быў арыштаваны. У чэрвені 1946-га быў асуджаны на 10 гадоў зняволення.[626]

Лейтэнант Антон Шантыр, сын сябра першага ўраду БССР Фабіяна Шантыра, расстралянага бальшавікамі, ледзьве не вырваўся з СССР на Захад. Вось што ўспамінае былы вязень ГУЛАГу Пятро Рашэтнік: *«Антон Шантыр, сын Зоські Верас, быў у «Дальвіцы». Трапіў да саветаў, але доўгі час маскіраваўся пад немца. Стаў «Антанам Сівіцкім, ураджэнцам Франкфурта-на-Майне». Толькі недзе ў 1948 ці 1949 гадах у Баку яго выдаў немец-обэр-лейтэнант, які ведаў яго па «Дальвіцу». Выклікала Шантыра лягернае начальства (а павінны ўжо былі яго вызваліць і накіраваць у Нямеччыну). «Ты никуда не поедешь, Антон, больше не маскируйся!» — сказалі. Хутка і ліст ад маці, зь Вільні, атрымаў. Далі яму яшчэ 25 год. А некаторыя беларусы, відаць, так і трапілі ў Нямеччыну, як былыя ваеннапалонныя-немцы».*[627]

Паводле прысуду ўдзельнікам канспірацыйнай арганізацыі «Саюз беларускіх патрыётаў» ад чэрвеня 1947 года, сябра СБП Алег Табола меў заданьне ад кіраўніцтва звязацца *«з беларускім нацыяналістам ЗУЙ Міхаілам, які знаходзіўся на нелегальным становішчы»*. Табола *«некалькі разоў праз сваякоў спрабаваў устанавіць сувязь»*, але няўдала, *«з прычын, якія ад яго не залежалі»*.[628]

Аднак сам Табола ў сваіх успамінах абвяргае гэта. Ён сведчыць, што на вочнай стаўцы завучаныя словы пра Зуя сказаў

---

625 Надтачаев В. Военная контрразведка Беларуси: судьбы, трагедии, победы... — Минск: Кавалер, 2008. С. 206.
626 Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.
627 Паведамленне аўтару ад 20 красавіка 1997 г.
628 ПРИГОВОР именем Союза Советских Социалистических Республик. 16-20 июня 1947 года, город Минск, арк. 14. Копія — ў архіве С. Ярша.

кіраўнік арганізацыі Васіль Мядзелец: *«Яму было даручана зьвязацца з Зуем. Зуй за немцамі быў начальнікам Шаркаўскага раёна. Ён адступіў разам зь імі. Яго маглі закінуць у Беларусь і празь яго СБП павінен быў наладзіць сувязь з замежжам».*

*Я аслупянеў, чуючы такое ад Мядзельца. Пройдзе час, працягнуцца допыты, катаваньні, і я пацьверджу словы Мядзельца. Пасьведчу тое, чаго ніколі не рабіў...».*[629]

Пра ўдзел Міхася Зуя ў антысавецкай партызанцы на Віцебшчыне звестак няма, у 1945-1948 гадах ён знаходзіўся ў Польшчы. МГБ, відавочна, прыдумала яго знаходжанне на нелегальным становішчы ў БССР, каб абвінаваціць моладзь у сувязях з заходнімі спецслужбамі.

Дарэчы, польскія спецслужбы мелі інфармацыю, што ў 1956 годзе Польшчу пад фальшывым прозвішчам наведаў М. Зуй, які, нібыта, вывучаў магчымасці стварэння падпольнай сеткі сярод сваіх знаёмых і паплечнікаў, што жылі ў гэтай краіне.[630]

У 1956 годзе ў СССР і Польшчы працягваліся пошукі 57 былых навучэнцаў разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы (сярод іх і радысткі Тамары Чэрамшагінай). Гэта былі пераважна «заходнікі»: 27 ураджэнцаў Маладэчанскай вобласці, 11 — Брэсцкай, 10 — Мінскай, 8 — Гродзенскай.[631] Верагодна, у гэты лік не ўваходзілі тыя дэсантнікі, якіх спецслужбы выявілі сярод беларускіх эмігрантаў у розных краінах свету. Калі так, дык гэтыя паўсотні чалавек — пераважна тыя камандасы, якія ўдзельнічалі ў антысавецкай партызанскай і падпольнай барацьбе. Частка іх загінула, частка сышла на Захад, рэшта засталася жыць пад іншымі прозвішчамі ў Польшчы і СССР.

Значную частку дэсантнікаў арыштавалі савецкія спецслужбы. Яны былі асуджаныя на розныя тэрміны зняволення. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, невялікая колькасць навучэнцаў «Дальвіца» была пераверабаваная НКГБ (МГБ) СССР. У першыя паваенныя гады (у 1945-1949 гг.) яны знаходзіліся ў спецыяльным лагеры пад Масквой (сярод іншых называецца прозвішча Ўсевалада Родзькі). Былы афіцэр «Дальвіца» сцвярджае, што два колішніх камандаса батальёну, пераверабаваныя савецкімі спецслужбамі, перайшлі на бок амерыканцаў падчас вайны ў В’етнаме.[632]

[629] Табола А. Мой жыцьцяпіс // Verytas (Мінск), 2004, № 1 (2). С. 12.
[630] Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 177.
[631] Семь дней, 1994, 9 ліпеня, № 28; Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 171.
[632] Паведамленне аўтару ад 6 чэрвеня 2008 г.

*Камандасы ў партызанцы*

Дэсантнікі «Дальвіца» ўдзельнічалі ў антысавецкай партызанскай барацьбе да сярэдзіны 1950-х. Некаторыя дзейнічалі самастойна, іншыя — у складзе атрадаў арганізацыі «Чорны Кот». Напрыклад, вядома, што ў 1945-1947 гг. былыя камандасы дзейнічалі ў раёне Камянца, Пінскіх балот і на мяжы з Ровенскай вобласцю. Пра гэта на допыце распавёў дэсантнік «Дальвіца», арыштаваны ў 1948 г. Ён лячыўся на хутары і быў выкрыты мясцовымі савецкімі актывістамі. Апошнія згадкі пра групу беларускіх дэсантнікаў з батальёна «Дальвіц», якая дзейнічала каля Камянца, адносяцца да 1951 года, калі адзін з камандасаў быў забіты на беларуска-польскай мяжы.[633] Аднак камянецкая група найхутчэй уваходзіла ў мясцовы атрад арганізацыі «Чорны Кот», які перайшоў у Польшчу ў пачатку 1950-х.

Асобныя ўдзельнікі «Дальвіца» «засвяціліся» і ў іншых атрадах. Напрыклад, летам 1945 года ў партызанскі атрад «каліноўшчыкаў» Віктара Сікоры на Пастаўшчыну прыйшлі з Польшчы байцы «Дальвіца» лейтэнант Аляксандр Латышонак і Ўладзімір Бахер.[634] Але самым вядомым партызанам стаў дэсантнік Яўген Жыхар.

*Яўген Жыхар — апошні партызан «Дальвіца»*

Апошнім байцом «Дальвіца», які працягваў дзейнічаць супраць савецкіх уладаў у БССР, быў малады настаўнік і паэт Яўген Жыхар. Будучы сябрам СБМ, ён вясной 1944-га ў Паставах уступіў у БНП, стаў байцом «баёўкі» Віктара Сікоры.[635] З лета 1944 года Жыхар праходзіў курс навучання ў «Дальвіцы» і, праўдападобна, быў у ім да канца вайны. Вясной 1945-га ў Нямеччыне яму ўдалося пад сваім прозвішчам уступіць у Чырвоную Армію, а праз некалькі месяцаў дэмабілізавацца. Яўген Жыхар вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў у Дунілавіцкім раёне. У 1946 годзе яго спрабавалі арыштаваць, але ён уцёк. У лесе далучыўся да вядомага ў тых мясцінах атрада Каралёнка. З часам Жыхар стаў яго камандзірам.[636]

---

633 Оперативные операции МГБ БССР против политического бандитизма в 1944-1950 гг. Курс лекций. — Москва, 1959. Для служебного пользования. С. 327.
634 Беларускі Супраціў. С. 130.
635 Вяртаньне БНП... С. 28, 30, 32, 92.
636 Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг. С. 40.

Жыхар меў значную падтрымку насельніцтва Пастаўскага і сумежных раёнаў, якое было незадаволенае мерапрыемствамі савецкай улады. Гэта дазваляла яму дзейнічаць так доўга — каля дзевяці гадоў. Таксама былыя камбатанты адзначаюць «канспіратыўна-партызанскія здольнасці» самога Жыхара.

Атрад Жыхара здзяйсняў тэракты супраць савецкіх установаў і іх супрацоўнікаў, ліквідоўваў міліцыянтаў, чэкістаў і іх тайных інфарматараў у вёсках. Неаднаразова атрад нёс значныя страты ў баях з войскамі МГБ, але кожны раз ён адраджаўся і працягваў свае ўзброеныя акцыі.[637]

Паводле непацверджанай дакументальна інфармацыі, Жыхар навязаў сувязь з падпольнай сеткай арганізацыі М. Вітушкі толькі ў канцы 1948 года.[638] Яму ўдалося гэта зрабіць праз падполле Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, якое было павязана з беларускім антысавецкім Супрацівам.[639] На той час многія партызанскія атрады М. Вітушкі (асабліва ў паўночнай Беларусі) ўжо былі ліквідаваныя МГБ, таму атрад Жыхара з яго разгалінаванай падпольнай сеткай мусіў умацаваць слабыя пазіцыі арганізацыі на Віцебшчыне. Аднак ён быў вылучаны ў «асобную баявую адзінку» і не меў сувязі з партызанскімі атрадамі арганізацыі, толькі з Галоўным штабам (праз радыёсувязь альбо нейкім іншым чынам). Ад кіраўніцтва арганізацыі Жыхар атрымліваў заданні, якія былі пераважна разведвальнага характару (дыверсійная і агітацыйная дзейнасць была на другім плане), яму ён адсылаў справаздачы.[640] Такім чынам, маюць рацыю тыя даследчыкі, якія сцвярджаюць, што Яўген Жыхар працаваў на заходнія разведкі. Фактычна, так і было. Звесткі, якія здабываў ён і яго людзі, пасля траплялі на Захад.

Ёсць згадкі, пакуль не пацверджаныя дакументальна, што сярод інфарматараў Я. Жыхара былі некалькі афіцэраў савецкага войска, якія рэгулярна пастаўлялі яму інфармацыю аб савецкіх вайсковых частках у раёнах, дзе яны неслі службу. Адзін з іх кантактаваў з Яўгенам Жыхарам да восені 1954-га, калі здзейсніў дыверсію ў сваёй вайсковай частцы і сышоў у лес. Ён разам з

---

[637] Борисов И. Охота Цанавы за Арсеньевой. Минск: Изд. В. Хурсик, 2004. С. 145.
[638] Беларускі Супраціў. С. 238.
[639] Паведамленне аўтару былога афіцэра «Дальвіца» ад 6 чэрвеня 2008 г.
[640] Беларускі Супраціў. С. 239.

групай партызанаў Жыхара напрыканцы 1954-га паспяхова пераправіўся праз Латвію морам на Захад.[641]

Восенню 1954 года Галоўны штаб арганізацыі М. Вітушкі загадаў Жыхару згортваць дзейнасьць і сыходзіць на Захад праз Прыбалтыку. Падрыхтоўка працягвалася да пачатку зімы, калі савецкія спецслужбы ўзялі пад пільны кантроль раён дзеяння атрада. У гэтай сітуацыі Яўген Жыхар падзяліў свой атрад на тры групы. Адна група, пра якую мы згадвалі вышэй, пайшла першай, іншыя дзве яе прыкрывалі, дэзарыентуючы спецатрады КГБ. Падчас рэйду яны загінулі.

Сам Жыхар вырашыў перазімаваць на Пастаўшчыне. Перад сваім сыходам на Захад ён збіраўся пакінуць заканспіраваную падпольную сетку. Яна мусіла пачаць дзейнасць тады, калі актыўныя аператыўныя мерапрыемствы КГБ будуць спыненыя. Аб гэтых сваіх захадах Жыхар дакладваў М. Вітушку ў верасні-кастрычніку 1954 года.[642] Аднак пра лёс гэтай падпольнай сеткі нічога невядома. Праўдападобна, яе ўдзельнікі былі завязаныя толькі на Жыхара і з яго смерцю засталіся без сувязі.

У студзені 1955-га Жыхар загінуў у баі. Паводле сведчання некаторых асобаў, апазнаць яго было немагчыма — куля патрапіла ў твар і моцна яго знявечыла. У 1958-м пасмяротнае фота Жыхара патрапіла на Захад, дзе неаднаразова яго вывучалі адмыслоўцы і людзі, якія былі з ім асабіста знаёмыя. Таксама былі спробы антрапалагічнага аналізу шляхам параўнання з фотаздымкам 1944 года. Пераважная большасць удзельнікаў гэтага апазнання сышліся на думцы, што Яўген Жыхар сапраўды загінуў.[643]

Смерць Жыхара прынята лічыць заканчэннем арганізаванай партызанскай барацьбы ў Беларусі.

### *Байцы «Дальвіца» на Захадзе*

На жаль, няма звестак, колькі навучэнцаў «Дальвіца» патрапілі на Захад. З каманднага складу батальёна на Захадзе апынуліся маёры Дзмітрый Касмовіч і Барыс Рагуля, капітаны Ўладзімір Лазарэвіч і Аляксей Рудак, у 1948 годзе з Польшчы праз Заходні Берлін перайшоў лейтэнант Міхась Зуй, у 1951 г. перабраўся на Захад капітан Юрый Вежан, які ўдзельнічаў у антысавецкай партызанскай барацьбе.

[641] Беларускі Супрацiў. С. 239.
[642] Тамсама. С. 239-240.
[643] Тамсама. С. 240.

Частка былых дэсантнікаў адразу альбо з часам адыйшлі ад беларускага грамадскага жыцця на эміграцыі. З гэтай прычыны даведацца штосьці пра лёсы некаторых з іх амаль немагчыма. Іншыя, наадварот, праяўлялі актыўнасць, былі ў пераважнай большасці прыхільнікамі Беларускай Цэнтральнай Рады.

Верагодна, менавіта хтосьці з былых афіцэраў «Дальвіца» спрабаваў ажывіць па вайне на Захадзе Беларускую Вайсковую Арганізацыю — праект Усевалада Родзькі. Найхутчэй гэта быў капітан Уладзімір Лазарэвіч. У 1946 годзе ў заходніх акупацыйных зонах Нямеччыны з'явілася адозва «Замежнага Аддзелу Беларускай Вайсковай Арганізацыі», якая пачыналася словамі *«Беларускія афіцэры і жаўнеры...»*.[644] У 1949 г. там жа з'явіўся статут Беларускай Вайсковай Арганізацыі, надрукаваны лацініцай.[645]

Дзмітрый Касмовіч ачольваў Замежны сектар БНП, пасля — Беларускі Вызвольны Фронт, быў чальцом БЦР. Барыс Рагуля, наадварот, быў намеснікам старшыні Рады БНР. Міхась Зуй стаў прэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады ў 1988 годзе, калі гэтая арганізацыя ўжо не мела ўплыву на беларускую эміграцыю (у Пленуме БЦР тады прынялі ўдзел толькі восем чалавек) і яе дзейнасць абмяжоўвалася напісаннем адозваў, зваротаў і іншых падобных дакументаў. Тым не менш, Зуй *«марыў пра аднаўленьне былой велічы БЦР»* і не пагаджаўся на аб'яднанне з апанентамі з Рады БНР. Аднак цяжкая хвароба прымусіла яго неўзабаве адмовіцца ад гэтай ідэі.[646] У 1995 годзе Міхась Зуй памёр.

Кастусь Станюш, які, верагодна, удзельнічаў у антысавецкай узброенай барацьбе ў паваеннай Беларусі і толькі ў канцы 1940-х трапіў на Захад, жыў у Канадзе. Спачатку ён быў актыўны ў грамадскай дзейнасці, кіраваў краёвым прадстаўніцтвам Замежнага сектару БНП, удзельнічаў у рэлігійным жыцці. Аднак з другой паловы 1950-х адыйшоў ад беларускага руху, нібыта, нават пачаў лічыць сябе «палякам». Аляксандр Адзінец з цяжкасцю здолеў адшукаць сляды Станюша ў 2005 годзе, але было ўжо запозна — ён памёр у 1998-м.

---

[644] Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе. Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Складальнікі Зора й Вітаўт Кіпель. — Нью-Ёрк — Менск: БІНІМ, 2003. С. 38.
[645] Тамсама. С. 109.
[646] Гардзіенка А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). — Смаленск, 2009. С. 239.

Найлепш законспіраваліся на Захадзе тыя з былых камандасаў, якія ўдзельнічалі ў партызанскай барацьбе ў складзе арганізацыі Міхала Вітушкі. Усе яны змянілі прозвішчы і пазбягалі публічнасці, кантактуючы толькі з абмежаваным колам асобаў. На сённяшні дзень ужывых засталося толькі некалькі чалавек.

# *ДАДАТАК*

## ІНТЭРВ'Ю

Інтэрв'ю з ***Андрэем Вайтовічам***, сябрам БНП, дэсантнікам «Дальвіца», 1920 г. н. Слонім, 12 жніўня 2004 года.


*Фота Алеся Масюка.*

***Сяргей Ёрш: — У Беларусь Вас адпраўляў Барыс Рагуля?***

***Андрэй Вайтовіч:*** — Ён. І калі адпраўляў мяне сюды, ён яшчэ спадзяваўся... Барыс спадзяваўся, што я чэсна дам даныя, што тут робіцца. Ён спадзяваўся на мяне. І таму так смела мне сказаў: *«Ніякіх нямецкіх заданняў не выконваць. Тваё заданне такое: разглядзецца, дзе-што-як. Калі спаткаеш нашых сяброў, каторых ты ведаеш па настаўніцкай семінарыі, смела з імі гавары. Гэта — надзейныя».* Вось тут яго памылка!

***— А каго вы ведалі з сяброў БНП, якія былі ў настаўніцкай семінарыі ў Навагрaдку?***

— Гэта наш выпускны курс быў, матуральны. Рагуля дзяўчатаў адпусціў дахаты, а нас, хлопцаў, затрымаў. Караценька сказаў: *«Вось такая сітуацыя, хлопцы. У нас будзе Беларуская Незалежніцкая Партыя. І яна ў нас будзе, як бы сказаць, арганізатарам».* Ён сказаў мала, не ўдакладняў, хто за гэтым стаіць. Я лічу, што ён правільна сказаў. Але ж мы зусім не былі ў курсе справы. Ён сказаў, што ў партыі сістэма: 1 — 4. Гэта значыць, што мяне хтосьці старшы па чыну інфармуе. Можа і радавы, калі надзейны, а можа і не шэраговы. Але ён са мной павінен гаварыць толькі ўадзіночку. А я — кантактаваць не больш чым з чатырма — адсюль і сістэма 1 — 4. Вось гэта ён нам сказаў.

***— А колькі вас там сядзела?***

— Нас там было чалавек 15, не менш.

***— А памятаеце прозвішчы тых, хто быў?***

— Я, Казік Гінц, які ўжо памёр, Вася Конюх, Сяргей Мацюкевіч, які ўжо памёр, Сераброўскі. Столькі прайшло часу, цяжка

згадаць усіх... Давідчык быў, самы актыўны і, мне падаецца, ён «хват» быў: «Я!». Вось яго памылка асноўная. Ён і ў Дальвіцы такую арганізатарскую пасаду меў. Вера Краскоўская па нямецкіх законах была яго жонкай. І ён ведаў, што яна радыстка і сюды вернецца ў Налібоцкую пушчу...

Я магу грашыць, не хачу нешта катэгарычна сцвярджаць. Ён жа ж тады вяртаўся, як і Шышэя. Яны дзесьці ў лістападзе 1944-га дэсантаваліся. І ён, пад падставай, што пойдзе, каб штосьці даведацца, што там робіцца, з Вераю ад іх адлучыўся, скрыта прыйшоў дахаты. Удома паначаў ноч. Вера яго бацькам вельмі не падабалася. Не ведаю, якія ў іх там былі размовы. Але факт, што назаўтра бацька Давідчыка запрог каня і завёз іх абодвух у Любчу, у НКВД... Там іх ужо раздзялілі. Гэта магла б Краскоўская распавесці, але па пісьму я бачу, што Вера не хоча ўспамінаць. Можа яе муж забараняе? Яна забараніла, каб я пісаў на яе адрас пісьма, а праз Ёўсянку. Каб я ёй перасылаў, а яна ўжо ёй будзе пасылаць.

***— Давідчык з якой вёскі родам?***

— Ён быў з вёскі Рэвятычы, гэта ад Любчы 2 кіламетры... З Давідчыкам гэта ж мы тады [у 1944 годзе] ездзілі ў Прагу: Вера, Тамара, Давідчык, я, адзін хлопец (прозвішча не памятаю) і дзве яго сястры — нас 7 чалавек было. Рагуля даў нам пропуск туды. Купілі мы білет у Прагу і прыехалі туды ўначы. Усё было нармальна, але атрымалася такая рэч, што сёння мы прыехалі, а заўтра гэтая ўся група, праская, з’язджае ў Тыроль — эвакуіруецца. Нашы дзеўкі: Куды? Мы — да сваіх!

У даведцы было па-нямецку напісана «цурык фэрботэн» («назад забараняецца») і з абзаца пачатак, а там яшчэ было месца. Дык я пайшоў з Давідчыкам у рускае пасольства [нейкую рускую грамадскую арганізацыю] дзеля цікавасці. Перад гэтым мы выцерлі гэтае слова «фэрботэн». Давай старшыню прасіць, каб нам зрабіць спіс, гэта ж няма нічога ў нас. Ён дазволіў на машынцы надрукаваць. Я рускага давай забаўляць — тое і тое пытацца. А Давідчык аддрукаваў: «нур фір пэрзонэн цу энтляссэн» («для чатырох чалавек дазваляецца»). Таму што той хлопец са сваімі сёстрамі вырашыў ехаць туды.

Таму мы вярнуліся назад. І калі пераязджалі паміж Лодзю і Варшавай, там была нейкая мяжа, там нейкі начальнік састава цягніка здзівіўся, праглядаючы нашую даведку, кажа, што яна нікуды не годная. Давідчык гаворыць: «А што мы вінаватыя, што

вашыя такія даюць даведкі?!» Той гаворыць: «У другі раз я вас не пушчу з такім дакументам!». А Давідчык кажа: «Будзем старацца здабыць лепшыя». Вось і ўся размова, мы прыехалі.

***— А як вы знайшлі ў Варшаве сваіх?***

— А мы ж як прыехалі, адразу там была такая разбітая гасцініца, дзе мы спыніліся. Коней мы кінулі яшчэ па дарозе. А вось самі і рэчы былі там. Таму што Барыс ведаў, што ў Варшаве не застанецца. Ён даведаўся, што групы, якія адступаюць, едуць у Дальвіц... Там вайсковая часьць сышла з Дальвіца. Там стаяла вайсковая часць. Зброя была — склад зброі ў лесе. І недалёка праходзіла чыгунка.

***— А што там за вайсковая часць стаяла?***

— Не ведаю.

***— Нямецкая?***

— Нямецкая. І яны іх кудысьці перакінулі, а было ўсё свабоднае. І тут была «перавалачная база». Немцы хацелі падрыхтаваць дыверсійны дэсант, каб дыверсіі ў Беларусі рабіць. Такія ў іх былі планы. А я ні на адным іх занятку не быў.

***— А вось што там было, калі вы туды прыехалі? Казарма нейкая там была? І хто прыехаў з вамі тады?***

— Тамака ўсе розныя былі. Асабліва дзесьці з-пад Менску, былыя паліцыянты. Іх я не ведаў. З нашых там было чалавек 10 — не больш. З батальёна. І там саветы скінулі свой дэсант у лес. Немцы акружылі і забралі ў палон гэты ўвесь дэсант...

Мне немцы далі толькі дакументы-чарцяжы мясцовасці, каб я арыентаваўся. Чатыры дні я мусіў вывучаць. А Барыс сказаў: «Выконвай мой загад!» А я быў дысцыплінаваным жаўнерам...

***— А які там быў распарадак дня, у Дальвіцы?***

— Там — жаўнерскі. Але не было яшчэ ў хлопцаў адной формы. Мне далі форму ўжо недалёка Пазнаня, адкуль адпраўлялі самалётам. Далі дакументы, даведкі... Неяк яны не кожны дзень займаліся. Таму што хадзілі на нямецкія фермы займацца ўборкай ураджаю. Цікава, я нават не думаў, што так можа быць. Ва Усходняй Прусіі ад вёскі, у якім небудзь кіламетры, дарога па полі ідзе. Стаяць хаты, фальваркі. У канцы фальварку — пляцоўка і яны, немцы, рана туды малако завозілі, ставілі. Ніколі не было такога, каб хтосьці паздзекаваўся. Там гэта была святая справа. У немцаў быў парадак такі: каб сам не ехаў, піша таму, які возіць па дарозе, будзе забіраць: прывязі мне столькі масла. І гэты прывозіў. Гэта я бачыў. І мне давялося адзін раз туды падыйсці, паглядзець.

***— А хто заняткі праводзіў?***

— Нямецкія камандзіры, а з нашых — я нават не ведаю. Мне падаецца, што нашыя не рабілі ніякіх заняткаў.

***— А хто там з беларускіх камандзіраў быў пры вас?***

— З нашых камандзіраў быў Друцько, Мярляк, бо ён, як уцёк шафёр грузавой машыны, дзесьці за шкляной гутай (у Бярозаўцы на Лідчыне — ***С. Ё.***), дык сам вёў яе. Аж пад самае Гродна. А я, як пабачыў, што конік мой стамляецца, аддаў яго жаўнеру, які адступаў. Бо ў машыне было месца.

Ці быў якім камандзірам хоць адзін дзень Давідчык Філя, не ведаю. Ён любіў камандаваць. Я з імі мала кантактаваў. Мая справа была: не перашкаджаць ім і сваё заданне ведаць. Тым больш, я Налібоцкую пушчу трошкі ведаў. Там у ёй у майго бацькі быў невялікі кавалак сенакосу.

А атрымалася так, што мяне не там скінулі, дзе планавалі. Скінулі далёка ад Налібоцкай пушчы. І Давідчык з Вераю пад падставай, што «яны разбяруцца, дзе што, дзе дзявацца», сышлі з групы. Таму Давідчыка не асабліва і дапытвалі... Я з ім спатыкаўся, калі цалкам мяне вызвалілі. Ён прыязджаў да сваіх бацькоў — былі яшчэ жывыя. І я ездзіў у Залоскі. А мне гавораць, што Філя Давідчык дома дапамагае бацьку сена касіць. Паехаў я туды — Філі няма. Я сказаў ім: Калі хоча са мной сустрэцца, хай заўтра рана пад’едзе на ровары ў Залоскі. Ён пад’ехаў. Ён як быццам быў нейкі надзвычай, як бы сказаць, задаволены ўсім. Я здзівіўся. Ён тады на нейкай грузінцы ажаніўся, у Маскве яе знайшоў. А яна была з Тбілісі, і яна яго туды забрала. Так ён з гэтай грузінкай і застаўся.

***— А жыве ён яшчэ?***

— Ці цяпер жыве, не скажу. Нашая сустрэча адбылася гадоў 12 назад.

***— Конюх Васіль яшчэ жыве. А брат Леанід яго нядаўна памёр.***

— А ён прыязджаў у Беларусь?

***— Не.***

— З Конюхам Васькай было у мяне трохі непаразуменне. Калі я быў там, на поўначы, дзе мы жылі — у Паўночнаянісейску. А пасля Конюх з’ехаў адтуль раней за мяне — у Аляксандраў, 100 кіламетраў ад Масквы. І Гуцько Жэнька з’ехаў раней. А я пазней з’ехаў адтуль. Як я прыехаў сюды [у Слонім], Ваську сябрам лічыў. Як жа ж яго даведацца адрас, думаю сабе. Калі напісаць у пашпартны стол, могуць даслаць. Я так і зрабіў — напісаў. У мяне

такое разуменне было: тэрмін адбыў, усё. Чаго ж мне баяцца?! Калі атрымаў Конюх гэтае пісьмо (пашпартны стол яму перадаў), прыбягае ён да Гуцько: «Андрэй звязаны з чэкістамі, не давай ніякага сігналу, нічога!» А гэты... яго маці, гэтага Гуцько, у Карэлічах жыла. Ён прыязджаў, а я быў тады на аўтарамонтным заводзе ў Слоніме. Гуцько былі патрэбныя скаты «масквічоўскія». Дык ён мне гэта ўсё расказаў. Я гавару: «Калі баіцца, тады не трэба». І я не стаў пісаць. Гэта яго гэтая масквічка «апрацавала» [жонка].

А калі мы там былі, на поўначы, з Віцебска прыязджаў чэкіст. Мэту яго візіту я і сам не ведаю. У канцы рабочага дня падняўся я наверх і мне гавораць: «Прыхадзілі з міліцыі, каб ты зайшоў у міліцыю». Я павінен пайсці. Захаджу: Стаіць чалавек на крыльцы. Я яго мінаю, іду да дзяжурнага, гавару: Тут хтосьці мяне патрабуе. А той гэта пачуў: *Ваша фамилия Войтович?* Гавару: Да, Вайтовіч. — *Это я вас просил зайти. Пойдем, я хочу с вами побеседовать.*

Ну што ж, дзе ты дзенешся, пайшлі. Ён мяне давай пытацца, але ён не сказаў... Яшчэ ж мы былі не вызваленыя. Не сказаў нічога. Пытаўся: *Как вы себя ведете и прочее? Какое ваше моральное состояние?* Я яму гавару: Як вы мяне ўзялі як экспанат, то памыліліся, я вельмі кансерватыўны. Тут хлопцы ёсць, якія больш прагрэсіўныя. — *Нет, нет, мне вот так...*

Але ён нічога такога не пытаўся. Спытаў, як мы ўладкоўваемся. Ну што ж, у нас была ў кожнага кватэрка ці хоць паўкватэркі. У мяне нават, як бы сказаць, свая «палавінка». Мы адзін аднаму дапамагалі. Вось так, а больш не было.

Ён яшчэ пытаецца, гэты следчы: *«А как вы праздники празднуете?»* Я гавару: *«Праздники плохо празднуем». — А почему?* Я кажу: А вот таму, што ўсе празднуют, а мы павінны тут у міліцыі сядзець.

Дык ён мне гаворыць: *Знаете что, здесь и милиция, и все свободные — это тоже за что-то провинные. Какую-то провинность отбывают. Поэтому у них такое отношение.*

Вось што ён мне сказаў. А так больш у нас не было ніякіх размоваў.

***— Давайце вернемся да «Дальвіца». А хто яшчэ быў там сярод камандзіраў?***

— Здаецца, Родзька ўжо быў. Там былі хлопцы з-за Маладэчна, з-пад Паставаў. У іх там лепей арганізавана было. Яны былі больш падобныя на жаўнераў...

***— А ў чым гэта было заўважна?***

— Нашыя нейяк халатна адносіліся, я шчыра гавару. Халатна адносіліся. Нібыта, былі на нейкай экскурсіі. Такое ўражанне. Не папярэдзілі, нічога. Ну мяне не, а чаму ж гэтых хлопцаў? Іх жа ў канцы года перакінулі сюды. Чаму Шышэя нічога не сказаў, што ім там давалі нейкае... Вось гэтага не было. Гэта вялікая памылка нашага кіраўніцтва. Вось гэта трэба было, толькі так неяк культурна...

***— А Барыс Рагуля неяк кіраваў сваімі хлопцамі, ці ён зусім адышоў?***

— Не. Яго мэта была — замежжа. Яго мэта была Англія, Амерыка. Мне ў савецкім лагеры Лекант Алёна, калі я ўжо з ёй пазнаёміўся і шчыра з ёю гаварыў, пра гэтую мэту казала. Я ёй прызнаўся, што хочам дваіх пабег рабіць. Яна ведала, што гэта бессэнсоўна, усё роўна пакалечаць і больш нічога. Але маладым цяжка гэта ў галовы давесці. Дык яна мне гаворыць: «Ну добра, я ўжо старая, хутка памру, ты пабяжыш, а вось там нашыя хлопцы дзесьці ў Лондане ці Нью-Ёрку будуць перад кіраўніцтвам заходніх краінаў аб якойсьці Беларусі гаварыць. Ім скажуць: А дзе ж у вас, што? Гаворыць: «Гэта нашая такая доля. Ёсць Каліноўскі і Касцюшка, а ёсць сотні тысяч, а можа і мільёны бязыменных Каліноўскіх».

І вось яна мяне адгаварыла ад пабегу. А пасля, калі я ўжо даведаўся, як яны шукаюць, як сабака можа пачуць схаванага чалавека на адлегласці, зразумеў, што гэта было бессэнсоўна. Пачула б нас сабака і нас адшукалі б.

***— А вось у Дальвіцы былі свае кухары, як вас кармілі?***

— Была нямецкая жаўнерская ежа. Нават нейкую долю, невялічкую, масла давалі. Цукру. Я там іхнім пайком карыстаўся аж чатыры дні, як рыхтаваўся, пакуль цягнік мяне забраў. А вось адзежы пры мне не было ніякай.

***— Кожны быў у тым, у чым прыйшоў?***

— Пасля можа ўжо была, а вось пры мне не было адзінай формы. Не паспелі яшчэ. Яшчэ ўсё прыбывалі [людзі].

***— Кожны дзень прыбывалі?***

— Так. Барыс Рагуля ездзіў туды, дзесьці пад Кракаў. Ён ездзіў, вербаваў.

***— Гэта былі ў асноўным маладыя людзі, ці былі старэйшыя?***

— Справа ў тым, што Рагуля адразу гаварыў: «Мая задача — [наладзіць сувязі] з вышэйшым вайсковым камандаваннем на-

шых сяброў, з Чэрчылем, Рузвэльтам. Гэта было заданне Рагулі. Таму я знаў, што ён сюды не з'явіцца. І гэта выкарыстаў, калі мне ўжо прыйшлося прызнавацца, што я быў «у самай аўтарытэтнай партыі — Беларускай Незалежніцкай Партыі», дык я ж ім сказаў, што яна падпольная, сыстэма 1 — 4.

*«Кто тебя информировал?»* — пытаецца следчы. Я кажу: «Рагуля». *«А где он?»* Я кажу: «Хутка будзе ў вас...». А следчы дапытваецца: *«А ты кого информировал?»* А з Залозак ужо на двох прыйшлі пахаронкі. І з Загор'я — на двох. Дык я і гавару: «Кавэліча Захара Міхайлавіча, Кавэліча Мікалая Міхайлавіча, у Залосках — Вайтовіча Івана Іванавіча і Вайтовіча Міхаіла Тамашавіча». *«А где они?»* — пытаецца. Я кажу: «Я не ведаю, я не паспеў з імі сустрэцца». І вось гэта мяне многа выратавала. А таксама тое, што я ні ў якіх арганізацыях не быў: ні ў СБМ, ні ў іншых. Ну што балтаць на людзей?!

***— А на самой справе хто быў у БНП, у вашай «пяцёрцы»?***

—Я сапраўды вёў гутаркі са сваімі вяскоўцамі. Асцярожна вёў. З Драздом Антонам Фёдаравічам. А дзе ён цяпер, не знаю. Ён быў, як я толькі прыехаў [з Расіі], дзесьці ў Віцебску. Пасля ён пайшоў на праваслаўнага святара.

***— А вы яго прымалі ў партыю?***

— [не пачуў пытанне] Мы тады агульную прысягу прымалі. Не кожны асобна, а разам. А пасля Барыс сказаў: «Гэтая прысяга павінна быць для нас святой». Вось і ўсё.

***— А Дразда вы прымалі ў партыю?***

— З Драздом я гутарыў, але афіцыйна не прымаў... Маё заданне было другое: мясцовасць — хто застаўся, на каго можна спадзявацца, і як найхутчэй даць даныя. Так што я прыёмам у партыю не займаўся. Чэкісты, калі мяне «прыхвацілі», калі я сказаў, што «я быў у самай аўтарытэтнай партыі», пытаюцца: *«Что же это за партия?»* Я кажу: «Беларуская Незалежніцкая Партыя... Гэта ж працяг вашай КПЗБ! Прытыцкі — наш настаўнік». Давай ім вершпесню чытаць. Фактычна, так і было. Мы калісьці пры Польшчы, не клаліся спаць, пакуль Менск не дасць па радыё апошніх навінаў. А там кажуць: «Без суда і следства вышэйшую меру пакарання!» Там [у БССР] нашым правадырам [заходнебеларускім]. І мы таксама давольныя, бо не ведалі праўды...

Не ведаю, хто мне гэта падказаў, але больш ім не было што пытацца. Іх толькі ЦК партыі цікавіла. Я кажу: ЦК я не ведаю. *«Как не знаешь?»*

«Гэта ж падпольнае: сістэма 1 — 4», — адказваю. І я толькі на гэта спаслаўся. Тым больш, што я і з Паўлам Турайкевічам аб гэтым меў размову. Сакрэт — асноўнае. Маіх памылак многа...

***— Гэтыя Кавэлічы, пра якіх вы казалі, і яшчэ двое, яны не былі ў партыі?***

— Не. Яны не былі. Яны ўсе загінулі.

***— А чаму Рулінскага тады не было, калі Барыс Рагуля прымаў усіх хлопцаў у партыю?***

— А вось не памятаю. Мне падаецца, Жамойцін прымаў некаторых сяброў. Ён жа ж не быў у БКА. А яму трэба было і ён прымаў. У яго было такое права, у Жамойціна Янкі.

***— А вы мелі права прымаць людзей у БНП?***

— Я меў права толькі чатырох [пыняць]. А дзе ж іх знойдзеш? Калі гаварылі, што давядзецца пяць год скрывацца тут...

***— А хто гаварыў, што пяць год?***

— Не памятаю... Што выхад, што нашае падполле. Дзесьці з-пад Пастаў дахадзіла... Было такое. Што нашае падполле павінна пратрымацца да 1950-га, здаецца, года.

***— А хто гэта гаварыў, не памятаеце?***

— Не скажу. Ужо столькі часу прайшло... Але былі такія. Мяне выратавала, што ім не было, як да мяне прычапіцца. Не было. Тым больш, што калі я яшчэ следчаму сказаў, што я дапамагаў партызанам не ідэйна. Бацька прыязджае, кажа: «Гэтая гадасць, галасракія, не даюць жыць. Забралі ўсю ўпраж, патрабуюць зброю». А што ж мне было рабіць? Была ж магчымасць. І гэты бацька хаваў і вазіў. За тое на ссылку папаў.

***— Калі ў Дальвіц прыехалі, дзяўчат адразу ад вас аддзялілі?***

— Не. Яны, дзяўчаты, асобна вывучалі рацыю.

***— Яны на месцы жылі ці іх перавялі кудысьці?***

— А там быў барак жаночы, там яны былі ў тым бараку. Давідчык ажаніўся, афіцыйна далі яму пакойчык, там з Верай [жылі].

***— А многа дзяўчат тады было?***

— А я не памятаю...

***— А можна было свабодна з імі кантактаваць, ці было забаронена хадзіць туды?***

— Мне не, бо мне Барыс даў заданне: рыхтуйся, на цябе ўся надзея. Таму мяне ён адразу [калі былі ў гасцях] ў Шышэі і папытаўся (у ліпені 1997 года ў Вільні — ***С. Ё.***): «Як жа ж ты папаў?» Я кажу: «Мяне прадалі, прывялі проста ім у рукі». І я Барысу сказаў: «Барыс, у мяне многа разгавору, я хацеў бы проста падзя-

ліцца тым вопытам». «І ў мяне да цябе многа», — сказаў ён. Калі б ён мне сказаў так: Чакай хоць чатыры-пяць дзён, я бы чакаў. Хацеў пагаварыць...

***— А вы Ігара Будахоўскага ведалі?***

— Прозвішча знаёмае. Справа ў тым, што нас, беларусаў, у Казахстане было мала. А там розныя былі, найбольш было ўкраінцаў. І вось у брыгадзе хлопец, не памятаю прозвішча, быў са мною. Мы з ім многа размаўлялі. Ён пра сваё, я — пра сваё. А ён мне дае там, у Казахстане, такое пытанне: А вось ты мне падкажы другога беларуса, каб пагаварыць. А там было два лагеры, толькі пасярэдзіне перагароджаныя. Але лазілі туды-сюды. І вось пайшлі мы з ім у той лагер, перайшлі. Там быў Матысік наш, са швадрону. Я ведаў. Я Матысіку сказаў. Ён давай пытацца: На каго вы спадзяяцеся? А гэты проста: На Рузвельта, Чэрчыля і г. д. Я адыйшоўся, пакуль яны гаварылі.

Выпадак яшчэ быў. Было многа такіх чэкістаў, што здзекаваліся. Адзін наш вільнянін, прозвішча не помню, сын святара. Ведаю, што яны жылі на Тапалёвай вуліцы ў Вільні, там, дзе цяпер жыве Косця Шышэя [дзе жыў на час інтэрв'ю]. Ён быў у хоры Шырмы, добра ўмеў спяваць (Магчыма, маецца на ўвазе Ліванчук (Леванчук), пра якога згадваецца ў раздзеле, прысвечаным дэсанту групы Вайтовіча-Караля — ***СЁ***). Не ведаю, хто яму дапамагаў, але факт той, што гэты хлопец увайшоў у такі давер, што быў памочнікам нарадчыка. А гэта такая пасада, што менавіта яны выганяюць усіх дахадзягаў на працу. І ўкраінцы аднаго нарадчыка можа месяца за тры перад тым «прыбралі». Калун ёсць дровы калоць і ўночы яму яго ўсадзілі...

І вось на гэтага хлопца — калун яму і ўсё! Я ведаю, што яму засталося да вызвалення тры месяцы. Гавару: Ну, хлопцы, добра, калун, а пасля якія наступствы будуць? Колькі за гэта пацерпіць? Якую гэта дасць карысць? Ведаеце, хлопцы, я яго ведаю, пастараюся яго трохі «прыжучыць». Паслухалі. І гэты хлопец застаўся жывы. Пасля ён трапіў на ссылку. Сышоўся ён з медсястрой, яна была вольнанаёмная. Ён ёй даваў даверанасць, яна ездзіла ў Вільню, прадала тую кватэрку. Яны ў маёй кватэры начавалі там, на поўначы, адну ноч. А дзе ён дзеўся далей, не ведаю.

***— Прозвішча яго не помніце?***

— Не помню. Высокі такі, прыгожы хлопец.

***— А пра Матысіка што вы ведаеце?***

— Матысік быў польскі афіцэр. Гэта ён у нас у Наваградку камандаваў у БКА.

***— Вы былі на Замкавай гары ці ў парку, калі Барыс Рагуля распускаў свой батальён?***

— Так. Калі ён прывёў батальён у Наваградак, пастроіў, а дзе пастроіў, не памятаю.

***— А колькі чалавек тады было?***

— Дакладна не памятаю. Было шмат людзей. Ён сказаў тады нам: «Адсюль я вас браў, сюды вас прывёў. Заўтра мы адступаем. Хто хоча з намі, калі ласка, хто хоча заставацца, калі ласка». Гэта яго словы.

***— У каго мог быць сцяг швадрону? Хто з хлопцаў мог яго вывезці на Захад?***

— Толькі Мярляк. Ён быў адказны за зброю, пад яго камандай быў склад зброі. І там яны хавалі... Я гэта знаю, я — жаўнер. Я быў у гэтых адносінах дысцыплініраваны. Я ідэйны быў. Не выкарыстоўваў сваю пасаду... І ўсё ж такі не шкадую. Затое сумленне чыстае.

***— Пра Тамару Чэрамшагіну так нічога і не ведаеце?***

— Не. Так нічога і не атрымалася.

***— А ў Веры Краскоўскай вы не пыталіся?***

— Смеласці не хапіла. Бо праз гэтую Ёўсянку [былую радыстку «Дальвіца» Анюту Ёўсу (Еўсу), якая пасля лагероў жыла ў Краснадары] трэба лісты перасылаць. Мне ж ужо 84 гады. Неяк нязручна... Вось. Мне гаварылі, былі такія версіі, што, нібыта, парашут зачапіўся дзесьці на высокай елцы, яна падала і забілася. Але гэтая Маня, суседка яе ў Любчы, калі хавалі Сяргея Мацюкевіча [дэсантніка «Дальвіца»]... Я тады не выступаў, Барыс, яго брат выступаў. Дык Ліда, Сяргея жонка, гаворыць: А я столькі часу была з ім і не ведала, што ў яго такія прыгожыя сябры... Пасля выходзілі, падходзіць да мяне гэтая Маня і... я не ведаю, чаму мне самому не спытаць? Гаворыць: «Яна цікавілася, ці ёсць дзеці». Я кажу: «У мяне ўжо сын». Я ёй гэта сказаў. І, нібыта, Тамара сказала: «Няхай жыве спакойна». А спытацца ў Мані я не асмеліўся. Гэта ж было калісьці, калі гэтага Сяргея хавалі.

***— Маня ўжо памерла, я не паспеў яе застаць...***

— Шкада. Бо яна многа знала...

***— А тады ў Дальвіцы вы Вітушку сустракалі?***

— Вітушка, здаецца, быў у Дальвіцы, але я яго асабіста не бачыў. Можа толькі тады, калі яны ўжо вызначылі, хто будзе адлятаць, пастроілі. І вызвалі па мянушках. «Выступ!» Ну і я выступіў. Барыс гаварыў: «Вось гэта нашыя першыя ластаўкі, като-

рыя нам дадуць знаць, першыя весткі, што там у нас, на Бацькаўшчыне, робіцца». Вось што ён толькі сказаў.

***— А хто з афіцэраў яшчэ вас адпраўляў?***

— Там былі, але яны збоку стаялі, Барыс гаварыў.

***— А немцы тады былі?***

— Нават не ўспомню. «Выступ!» Я сказаў, хутка ўсё — гэта ж нямецкая каманда.

***— А іншыя хлопцы, што з вамі былі, якія мянушкі мелі?***

— Не помню. Толькі... Здаецца, у Тамары была мянушка «Асмалак», яна сама чорная (чорныя валасы мела).

***— Пасля гэтага выступу куды вас павезлі?***

— Я не ведаю, куды везлі.

***— А на чым ехалі, на цягніку?***

— У цягніку прывезлі ўжо позна вечарам, пераначавалі...

***— А хто вёз?***

— Здаецца, немцы.

***— А ў вас нейкія рэчы былі з сабой ці ўсё пакінулі там?***

— Усё пакінулі.

***— І дакументы пакінулі?***

— Так. У мяне не было сваіх рэчаў. Я ішоў, я знаў, што мне дадуць. Мне Барыс сказаў, што будзе жаўнерская форма. Я ж тады памылку зрабіў: дакумент запоўніў, што я — сяржант, а на пагонах гэтая ранга не была адзначаная. І калі мяне затрымаў жаўнер савецкі ва Ўселюбе, папрасіў дакументы. Я яму паказаў — усё у парадку. Ён гаворыць: *А почему у вас нет знаков отличия?* Я кажу: *Спешил, это же увольнительная. Приду домой, уже приведу себя в порядок.*

Гэта быў першы выпадак, калі я пачаў маніць...

Канешне, досведу жаўнерскага ў мяне было мала. Не ведаю, як ім, калі яны ўжо былі ў Пазнані, можа ім больш давалі гэтай жаўнершчыны. А мне было канкрэтнае заданне. А што давалі Каралю і гэтаму самаму радысту, я не знаю. Радыст — гэта савецкі, Барыс яго ў немцаў вырваў. З лагеру.

***— А Кароль гэты быў маладым хлопцам?***

— Малады. Я знаю, што ён — Кароль.

***— А адкуль ён родам, не казаў?***

— Не. Але, здаецца, ад Старой Вялейкі. Тады быў зусім іншы настрой, зусім іншыя думкі... [...]

***— Шунько Мішу памятаеце?***

— Успомніў яго. Мне падаецца, Міша — парадачны хлопец.

Ён жа тады ў спектаклі Каліноўскага іграў.

***— З якога года ён быў?***

— Прыблізна, 1923-га, максімум 1924-га.

***— А адкуль родам?***

— Далятычы.

***— А Барыс тады не прымаў Шунько ў партыю?***

— Мне падаецца, што ён тады быў з намі. Шунько быў! Ён жа з намі вучыўся на матуральным курсе.

***— Што з ім было далей?***

— Не ведаю, якая доля яго сустрэла. А вось дачка яго аднавяскоўца ўсё патрабавала, каб бацьку рэабілітавалі. Усё пісала. Не ведаю, у якіх газетах я яе лісты сустракаў. Але ў іх няма літасці...

***— А куды Мацук Саша знік?***

— Як прыехалі ў Краснаярск, яго адправілі на цагляны завод. Ён у самым Краснаярску застаўся, яго на поўнач не пасылалі. А вось куды ён з Краснаярска дзеўся, не ведаю.

***— А Паўла Шляхтуна не памятаеце?***

— Не. Колькі ўжо часу прайшло!.. Мы ж у лагеры адразу не ведалі, колькі там давядзецца сядзець. А ўжо з год пабыўшы ў лагеры, тады толькі прыйшло паведамленне, не ведаю адкуль, што мне *«особым совещанием»* далі 8 гадоў. Як падыйшло да канца, у турэмных вагонах завезлі. Адразу на Ўкраіне быў, недзе ў Паўлаўску. А пасля адтуль ў Навасібірскую турму, адтуль — у Краснаярскую турму. І ўжо з Краснаярска — на Янісей апошнім рэйсам туды, на поўнач, 400 кіламетраў. Двух чалавек упала ў ваду, бо мачыцца выходзілі наверх, да борта. Уночы... Там прыйшлося каля Янісейска начаваць. І двух не далічыліся. А так завезлі: «Тут табе жыць і паміраць». Вось тады жыццё падавалася бязмэтным. Самае цяжкае...

***

***Андрэй Вайтовіч:*** — Мне падаецца ўжо многа пісалася пра тое, як чэкісты дапытваюць. Пра іхнія метады. Яны хацелі мяне выкарыстаць. Гэта была б мая магільная памылка. Яны маглі б мяне пакінуць працаваць настаўнікам, каб з імі працаваў...

У лагеры, у апошні, восьмы год, як я быў, следчы выклікаў. На работу не адправілі — нарадчык пакінуў у зоне. У 11 гадзінаў прыходзіць пасланец: *К оперу!*

Прыходжу. — *Фамилия, год рождения, срок... О, так мы тебя будем скоро принимать в наше советское общество!* Я кажу: *Я*

*благодарен.* Ён: — *Так нужно работать.* Я кажу: Грамадзянін начальнік, я і работаю, у мяне мазалі на руках. Ён: — *Да нет, у вас есть в бригаде 10-летники. 25-летники. Как они себе ведут?* Я кажу: А вось гэта — не! Ён*: Почему?* Я кажу: Той чалавек, які за міску баланды прадасць свайго блізкага, дык за дзве міскі баланды вас прадасць! Ён: *Смотри, чтобы никому не говорил, что я тебе предлагал.* «Гэта я вам абяцаю», — адказаў яму і пайшоў.

Назаўтра ідзем з работы, стаіць на прахадной : *«Бакалейка, бригаду в кино! Этого не бери!»* — на мяне паказвае...

***

Інтэрв'ю з ***Канстанцінам Казаком***, жаўнерам «Дальвіца», 1925 г. н. Запісана па тэлефоне 28 жніўня 2004 г. Шаркаўшчына — Мінск.

***Сяргей Ёрш: — А як вы трапілі ў «Дальвіц»?***



***Канстанцін Казак:*** — У «Дальвіц» людзей збіралі вярбоўшчыкі. Мне сказалі: «Будзеш дома праз 10-20 дзён, мы скінем на парашуце». А я абрадаваўся. А чаму ж не вярнуцца дамоў? Але атрымалася так, што не скінулі...

Я ж быў зусім малады, калі трапіў у «Дальвіц». Мне было 18 гадоў. Я ж выхоўваўся як паляк, у польскім духу. Быў у іх скаўтах. Я ў польскую школу хадзіў, пасля — у гімназію. Адзін мой сябра на мяне добра паўплываў, у беларускім духу. Ён на хутар наш прыходзіў, беларускія газеты, кніжкі прыносіў, вочы мне адкрыў на беларушчыну. У гімназію я хадзіў у Дзісне. У час нямецкай акупацыі атрымаў у Глыбокім адукацыю настаўніка.

***— Ці быў у батальёна «Дальвіц» сцяг?***

— Дакладна не памятаю.

***— А ці была агульная форма?***

— Агульнай не было. Бо людзі розныя ўсё падыходзілі і падыходзілі, і кожны быў апрануты ў розную форму.

***— Але праблемаў з амуніцыяй не было?***

— Не, не было. Ды былі мы маладыя і дужыя.

***— Якія знакі адрознення былі?***

— Нашыя, старыя беларускія. І крыжы былі, і бел-чырвона-белыя сцяжкі.

***— А песні якія спявалі?***

— Розныя беларускія песні. І Шчагловым пісаныя, і іншыя. Былі партызанскія песні. Памятаю: «Ідзем удзень, ідзем начамі... Ідзем бунтарнымі шляхамі...».

***— А свае паэты ў вас былі? Я чуў пра Пабяржына...***

— Пабяржын, мусіць, і цяпер жыве ў Браславе. Мне здаецца, я менавіта яго бачыў гадоў 10-15 назад, калі ездзіў у камандзіроўку ў Браслаў. Ён працаваў заўхозам на турбазе. Моцна змяніўся ён. Я прыглядаўся, але не загаварыў. А ён, мусіць, мяне не пазнаў.*

***— А які падзел быў у батальёне?***

— Я быў да канца, але не з самага пачатку... Цяжка сказаць, які быў падзел. Былі групы сакрэтныя ў батальёне. Была група радыстаў, іншыя... Па профілю дзейнасці. Калі гэта ўсё апісаць, мог бы атрымацца выдатны раман. Трэба так апісаць, каб прыгожа і ідэальна было... Добра было б выдаваць вялікія тамы, нават энцыклапедыю пра той вайсковы беларускі рух. Каб у моладзь гэта ішло, каб яна выхоўвалася, каб уплываць на яе. Але мусіць няма ў нас раманістаў такіх. Відаць, яшчэ не нарадзіліся...

***— А дзяўчаты былі ў батальёне?***

— Былі дзве, але прозвішчаў не памятаю.

***— Ці былі немцы ў батальёне?***

— Не было ніякіх немцаў. Былі мы самі. Беларускае было кіраўніцтва.

***— Ці адпраўляліся пры вас дэсанты на Беларусь?***

— Гэта не ўсім было вядома. Як было? Некаторых паклікалі — яны пайшлі і іх не было. Некаторыя туды ляцелі, некаторыя назад варочаліся... У батальёне кожны шукаў сваіх землякоў і з імі сябраваў.

***— Вы, напэўна, Зуя добра ведалі?***

— Так. Ён жа з маіх месцаў, з Шаркаўшчыны. Але ў батальёне Зуй ніякай ролі не іграў, абсалютна. Там толькі прысутнічаў. Ён жа і з'явіўся разам з Ганько, яшчэ нехта... Пасля Вальбуша былі маршы: і ноччу, і днём. Доўгія, цяжкія. Іншы раз, ледзь не падаў ад стомы. Ішлі нейкімі «крывулямі» — там якраз фронт трашчаў.

---

* Інфармацыя пра тое, што гэта быў Язэп Пабяржын, не пацвердзілася. — С. Ё.

Да Кольберга прыйшлі, мусіць, дзень-два там пабылі і пайшлі далей. Там «дурны» быў фронт — незразумела было, дзе хто. Авіяцыя моцна лупіла. Як ляцелі амерыканскія самалёты, дык падавалася, што ўсё неба было чорнае ад іх. Навокал усё гарэла...

***— Напэўна, былі ахвяры гэтых налётаў у батальёне?***

— Ведаеце, не. Неяк удала мы праходзілі, што ніхто не загінуў. Хоць часта пад бомбы траплялі. Калі з-пад Берліну ехалі ў Чэхаславаччыну ў цягніку, нас бамбілі. Бомбы навокал цягніка разрываліся, але ў нас не патрапілі — пашанцавала.

***— А што пра Міхася Ганька скажаце?***

— Я казаў, што ён у Вальбушы з'явіўся. Але Ганько нешта ў мяне з памяці выпаў. Можа ён у Шчэціне перахоўваўся, перайшоў, як і Зуй?

***— А хто Зуя ў 1948-м пераправіў праз Одэр, вы неяк згадвалі?***

— Мой знаёмы Віталь Лагун, мы ў школе разам вучыліся. Ён пераправіў праз Одэр Зуя і яшчэ кагосьці...

***— Рудака Аляксея вы ведалі?***

— Не. Там жа так шмат людзей было! Пад канец ужо цэлая гвардыя вялікая была. Памятаю, занялі нейкі замак, дык ён быў поўны людзей.

***— І колькі ў «Дальвіцы» пад канец было людзей?***

— Напэўна, больш за 500, а можа і пад 1000. Вялікая была сіла. Наогул, глупства было зроблена. Трэба было ўсё тут [у Беларусі] пакідаць. Нашто было туды людзей выводзіць? Трэба было тут арганізоўваць і пакідаць. Не было галавы! Першы раз з такім сутыкнуліся...

***— Як хлопцы да Родзькі адносіліся?***

— Родзька быў вялікі аўтарытэт. Мы яго, праўда, мала бачылі. Але дух ягоны быў абсалютны. Пра яго нават самыя хлопцы міфы розныя складалі... Быў яшчэ іншы камандзір, старэйшы, высокі такі [Гелда]. Дык вось у яго была клічка «Каліноўскі». Гаварылі: «Які ён там Каліноўскі». Нічога ён не значыў у батальёне. А Родзька — наадварот. Ён такі рухавы быў...

***— Што вы ведаеце пра лёс Родзькі?***

— Чуў, што ён быў арыштаваны недзе ў Беластоку і знішчаны. Але я чуў, што Родзька недзе ёсць. Адчуваю, інтуіцыя — Родзька дзесьці ёсць. Не веру, што яго расстралялі... Ён і расказаў ім усё, каб яны ведалі, якую мы мелі сілу, каб баяліся. Яны ж і так усё ведалі, бо мелі засланых людзей у батальёне. Быў такі Бялоў засланы, іншыя...

А дзе Родзька, што з ім, Бог яго ведае?! Хацелася, каб ён быў... Ён напароў памылак таксама. Малады быў... Ён жа вазіў з сабой бібліятэку. Кнігі ў яго былі ў скрынях, мы іх на павозку грузілі.

***— А што за кнігі?***

— Не ведаю. Можа, класіка якая. Ён, відаць, займаўся. А дзе яны дзеліся, тыя скрыні, яго бібліятэка, я не ведаю.

***— Як вас арыштавалі ў Польшчы?***

— Я ж там жыў пад зменeным прозвішчам, замест «z» пісаў дзве літары «ss»... Яны мне спачатку жанчыну падаслалі, такую маладую і прыгожую, нібыта, рэпатрыянтку (тады якраз рэпатрыяцыя ішла) — ад бабулі сала перадала. І пасля таго мяне ўжо хутка злапалі... Яны мяне зразу не маглі ўзяць. Я працаваў настаўнікам, меў польскі пашпарт. Сакратарша мяне папярэджвала, каб уцякаў — нейкія людзі прыходзілі, пра мяне распытвалі.

***— І чаму не ўцякалі?***

— Я ж уцякаў, раней, калі жыў у цэнтральнай Польшчы, каля Варшавы. Уцёк адтуль у Сілезію. Працаваў настаўнікам у Чэрвонай Водзе (Родвассэр), гэта недалёка чыгункі на Еленю Гуру. У Торуні я вучыўся. А арыштавалі мяне ў канцы 1948-га — у пачатку 1949-га... Забралі у контрразведку. Не ведалі, што са мной рабіць, бо меў ужо польскае грамадзянства. Перавезлі ў контрразведку ў Варшаву, дзе некалькі месяцаў правёў у адзіночцы. Дапытваў мяне жыд, палкоўнік Гарадзецкі. З яго братам я пасля спаткаўся ў Нарыльску, дзе той працаваў. Фактычна, мяне «выкралі» з Польшчы. Праз Оршу «запёрлі» ў Нарыльск...

Везлі мяне ў Нарыльск з Краснаярску па Янісею на баржы. Калі Сталін памёр, мы ж у Нарыльску рабілі паўстанне. Што мы не вінаватыя, каб пераглядзелі нашыя справы. Але ж сілы былі няроўныя — нас там разганялі, дзялілі...

Мне было 25 гадоў лагероў. Знялі 15, засталося 10 гадоў. Яшчэ праз дзесяць дзён выклікалі, кажуць: Ну што, мусіць трэба цябе дамоў адпускаць... Ідзі, хутка цябе пусцім дамоў. А ў мяне ж не было суда — судзіў мяне Вайсковы трыбунал у Лігніцы.

Пасля вяртання я затрымаўся ў Шаркаўшчыне, але не атрымалася тут пабудаваць хату. Паехаў у Маладэчна, дзе прарабіў 10 гадоў, на брыкетным заводзе, у маладэчанскай філіі Белдзяржпраекту. Пасля зноў вярнуўся ў Шаркаўшчыну. Жонку я знайшоў у Нарыльску, маю дзве дачкі, якія цяпер жывуць у Расіі.

***— Будахоўскага Ігара вы ведалі?***

— Так. Я калі ў Лігніцы быў (гэта на поўдзень ад Вроцлава), у

турме, дык бачыў там Будахоўскага. Ён разам з Латышонкам Аляксандрам у адной камеры быў... Пасля лагероў Латышонак вярнуўся ў Шаркаўшчыну, механікам працаваў, памёр мусіць у 90-я. А дзе дзеўся Будахоўскі, я не ведаю.

***— А як вы ў Польшчу ішлі?***

— Тады батальён ніхто не распускаў афіцыйна. Толькі паміж сабой падзяліліся на групы. Я патрапіў нават у Прагу, там нейкі час быў. Пасля з двума сябрамі пайшоў пешшу да польска-чэскай мяжы. Калі пераходзілі, дык нас ледзь там не пастралялі... Здабылі дакументы і паехалі на Лодзь. У мяне быў такі «белы аўсвайс», на белай паперы, бо пры немцах у Польшчы былі некалькі ўзораў аўсвайсаў. Пайшоў я ў рэпатрыяцыйны аддзел, сказаў, што я — рэпатрыянт з-за Буга. Выдалі мне дакументы і я ўжо мог жыць і працаваць.

***— А хлопцы, што з вамі былі?***

— А куды яны дзеліся, я не ведаю. Наагул, цяжка нам тады прыйшлося, калі з Чэхіі ішлі. Бо не было ні грошай, ні ежы...

***— Паніка была?***

— Не, панікі не было. Я выдатна ведаў польскую мову, дык не меў моўнага бар'еру.

***— Можа вы і ажаніцца ў Польшчы паспелі?***

— Паспеў, пазней. Нават афіцыйна, вянчаліся ў касцёле. Як мяне арыштавалі, яны засталіся ў Польшчы. Быў сын у мяне. Яго забілі, калі ў Польшчы развал быў, калі адбываўся пераход улады [у канцы 1980-х]. Ён мне напісаў апошні ліст: «Бацька, я за цябе адпомшчу!»... Цяпер у Польшчы жывуць два ўнукі ад яго і жонка.

***— А ў Польшчу вы не хацелі вярнуцца, да сям'і?***

— Не, у Польшчу я не хацеў ехаць. Мне доўга не давалі пашпарт, гаварылі, каб ехаў. І некаторыя ехалі, а потым некаторыя вярнуліся. А я і не хацеў туды ехаць. Хопіць ужо падарожжаў, думаў сабе. Упаўнаважаны тры разы са мной размаўляў, каб туды ехаў. Што там мне дадуць пашпарт. Але я застаўся.

У 90-я зрабіў я замежны пашпарт і паехаў туды, у Польшчу. Сустракаўся са сваімі. Бачыў свайго сябра школьнага Віталя Лагуна, пра якога ўжо казаў. Ён з Шаркаўшчыны родам, тут, у Празароках, быў пасля вайны адразу старшынём сельсавета. Выехаў у Польшчу як рэпатрыянт, уцёк туды.

***— Ён быў беларус ці паляк?***

— Беларус-католік... У Беларусь ён прыязджаў у 70-я ці 80-я.

Са мной сустракаўся. Мне падаецца, што тут яго хацелі захапіць, сачылі за ім нейкія. У Германавічах. А я якраз з Маладэчна прыехаў на таксоўцы. Як убачыў, што за ім сочаць, зацягнуў у таксоўку і папёр яго, пасадзіў на цягнік, і ён вярнуўся ў Польшчу. Пасля ўчастковы да мяне падыходзіў: *«Ты что, ты кого в такси садил?»*

***— А дзе жыў Лагун?***

— У Шчэціне. Ён дужа хворы быў, кашляў. Ужо пасля майго прыезду, можа праз год-паўтара ён памёр, у 90-х. У яго сын застаўся.

***

Размова з ***Барысам Рагулям*** па тэлефоне (Мінск — Лондан, Канада). Запіс 23 жніўня 2004 г.



У пачатку размовы я распавёў Б. Рагулю пра фільм «Супрацьстаянне», які паказвала напрыканцы чэрвеня 2004-га БТ. Ён зацікавіўся, але досыць пасіўна, бо вельмі кепска сябе адчуваў. У канцы размовы так і сказаў: «Перадай Вайтовічу, што я ўжо ўсё, заканчваю...».

***Сяргей Ёрш: — Ці былі радыёперадачы з Беларусі ад закінутых групаў?***

***Барыс Рагуля:*** — Калі былі, то немцы не перадавалі. Мяне не інфармавалі аб гэтым. Група немцаў [кіраўнікі Дальвіцкай школы — Геруліс ды інш.] была нейкая падазроная для мяне. Я не ведаў, якія ў іх былі планы, што яны хацелі рабіць. Асабіста я быў супраць высадкі [дэсантаў] у Беларусь. А Родзька меў з імі [немцамі] нейкі дагавор, за маймі плячыма. Ён сказаў, што аперацыя і адказнасць ягоная. Гэта не мая справа...

Усё гэта было, калі цяпер паглядзець праз прызму часу, непатрэбная рэч. Я стаяў за тое, што варта высадкі рабіць, калі павернецца фронт, у што слаба верылася, альбо было спадзяванне, што немцы заміраццa з альянтамі. І калі б ізноў пачаўся на-

ступ на бальшавікоў, тады быў бы сэнс закідваць за лінію фронту людзей. Я гэта сказаў Родзьку, тады ён сказаў, што калі я не пагаджуся з ім, немцы мусяць мяне... пагроза існуе, што мяне арыштуюць. Гэта была не Родзькі пагроза, а немцаў. Яны сказалі, што калі я не пагаджуся, «апынуся ў спецыяльных абставінах», што «не змагу пратэставаць»...

Родзька сказаў мне, што трэба ехаць у Берлін да Астроўскага. Планавалася, што мяне назначаць камандзірам дывізіі беларускай.

Сітуацыя была ў тым, што паміж намі, мной і Родзькам, былі разыходжанні. Гэта дрэнна адбілася на цэлай сітуацыі. Калі Родзька арганізоўваў «Дальвіц», я паставіў умовы: дэсант тады, калі павернецца фронт, што было амаль немагчыма, а другі варыянт — альянты падпішуць дагавор з немцамі супраць саветаў. Такое ўяўленне было ў Родзькі, што немцы далучацца да альянтаў супраць Савецкага Саюзу. Не ведаў дэмакратычных сістэмаў Амерыкі і Ангельшчыны. І вось на тыя ўмовы я пагадзіўся.

***— Хлопцы ў Дальвіцы ведалі, што Вы маеце разыходжанні з Родзькам?***

— Другія сябры [ў Дальвіцы] ведалі аб гэтым, што ён [Родзька] са мной не пагаджаецца. Шышэя Кастусь гаварыў у 1997-м у Вільні, што меў ужо тады вельмі негатыўнае стаўленне да Родзькі. Шышэя ведаў, што мая сітуацыя была вельмі далікатная, калі я паставіўся супраць высадкі... Яны былі перакананыя, што я не вярнуся. У іх было ўражанне, што Родзька вінаваты ў тым, што мяне выслалі ў Берлін. Яны вінавацілі Родзьку, а я верыў яму на 100 адсоткаў.

Родзька не ўяўляў, што такое падпольная работа, асабліва калі яны [саветы] наступаюць. Гэта немагчыма, бо ніхто нам не будзе дапамагаць...

Нават калі немцы сказалі, што не дадуць самалётаў, Родзька вырашыў ісці ў Чэхію, а адтуль перабірацца ў Беларусь. Дайшлі да Беласточчыны і там яго арыштавалі. Родзька, ведама, ведаў, дзе хто ёсць...

Я сам быў паўгады на допытах у савецкай турме. Я не ўяўляю, што нехта можа вытрымаць больш, чым паўгады на допытах. Яшчэ трохі і я падпісаў бы на родную матку... Таму я не абвінавачваю Родзьку, што ён прызнаўся і даў інфармацыі пэўныя пра тое, хто-дзе знаходзіцца. Хто папаў у іх рукі — будзе «спяваць».

***— Якую пасаду Вы мелі з Дальвіцы?***

— У Дальвіцы я адказваў за вышкаленне партызанскае. А Родзька — за палітычнае.

***— Ці магло быць так, што пад прозвішчам Вітушкі дэсантаваўся іншы чалавек?***

— Не, не думаю. Я не ведаў аб гэтым.

***— А як выглядаў Вітушка?***

— Ён вельмі добра выглядаў. Ён, відаць, быў крыху старэйшы за мяне. [Міхал Вітушка быў 1907 г.н., а Барыс Рагуля — 1920 г.н. Гэта яшчэ адзін ускосны доказ, што Рагуля бачыў у Дальвіцы Мікалая Вітушку — ***СЁ***] Вельмі інтэлігэнтны, вельмі цікавы да гутаркі.

***— Чым ён займаўся ў батальёне?***

— Вышкалам займаўся.

***— А да гэтага Вы яго бачылі?***

— Не, да Дальвіца я яго ніколі не бачыў.

***— А ці заязджаў Касмовіч у батальён?***

— Не, не заязджаў. Мы з ім пасля вайны сустрэліся. Ён палітычна крыху не згаджаўся з намі. Рабіў асобную палітычную работу, але пазітыўную. Ён дагавор меў з прэзідэнтам Астроўскім. Я лічыў, што пазіцыя Абрамчыка больш рэалістычная. Маю ўражанне, што брытанскія пэўныя колы (разведка) шукалі сярод беларусаў супрацоўнікаў, абяцалі падтрымку «зарубежнікам». Я з Астроўскім спатыкаўся. І казаў яму, што яго роля ўжо кончаная і нам трэба трымацца лініі, каб быць альянтамі. Ён кажа: «Я знаю, што я раблю!» І даў мне выбар: далучыцца да іх ці ён мяне не прыме *да акцыі*. А я кажу, што быў ужо *ў акцыі*.

***— Як і дзе вы сустрэлі капітуляцыю Нямеччыны?***

— Я быў у дывізіі.* Зыглінг не хацеў выпускаць з рук камандаванне і сказаў мне і Сажычу, што мы маем выбар: паехаць на перашкаленне на камандзіраў дывізіі, альбо пакінуць дывізію — апошняе было сказана з пэўнай пагрозай. І мы з Сажычам вырашылі ехаць на гэтае перашкаленне. Там разам з намі вучыліся генералы і палкоўнікі, дарэчы, многія выказваліся супраць Гітлера, што вайна прайграная і няма сэнсу працягваць яе далей. У пер-

* У 30-й дывізіі СС («1-й рускай»), на базе якой у пачатку 1945 г. мусіла фармавацца «дывізія СС «Беларусь». Ф. Кушаль успамінаў, што *«маёр Рагуля, які як гастырлівая муха, бязупынна гудзеў у вушы Зіглінга аб невыкананьні ім прынятых на сябе ўмоваў адносна арганізацыі дывізіі «Беларусь», быў высланы на афіцэрскі курс для перашкаленьня».* Гл.: Спробы стварэньня беларускага войска. С. 111.

шых чыслах траўня (5-га ці 6-га) 1945-га мы з Сажычам перaапрануліся ў грамадзянскае адзенне і далучыліся да нашых — мы ведалі, дзе яны.

# УСПАМІНЫ

## *Юзэфа Найдзюк. Сваёй Бацькаўшчыны я ніколі не зьмяніла, а бальшавікоў ненавідзела і ненавіджу*



Пасьля заканчэньня вайны група — пяць хлапцоў і дзьве дзяўчыны — ішлі на захад з Судэтаў. У вадным гарадку нас затрымалі бальшавікі і пазналі, што мы ня немцы, хаця мы гаварылі па-нямецку. Адзін з нашых кажа:

— Таварышы, мы ня рускія, а беларусы.

Бальшавікі забралі нас — асобна хлопцаў, і нават мяне ад маёй сяброўкі аддзялілі.

Мне папаў дзіўны афіцэр, ругаўся страшна, называў *«изменницей родины»*, а я яму адказвала:

— Сваёй Бацькаўшчыны я ніколі не зьмяніла, а бальшавікоў ненавідзела і ненавіджу.

Тады ён мяне падставіў да сьценкі і выстраліў навокал маёй галавы сем разоў. Пасьля палажыў пісталет і пытае:

— Куда, изменница родины, пойдёшь?

А я кажу:

— На Бацькаўшчыну.

Ён:

— Ты своей родины никогда не увидишь, а к белым медведям не поедешь, а пойдёшь пешком. Сейчас мне нету время с тобой распоряжаться. Забирай свои вещи, но ты всё равно из наших рук не уйдёшь, подберут тебя наши ребята. Ступай отсюда, чтобы мои глаза тебя не видели.

Я выйшла з гэтай хаты, і адразу да мяне падыйшла старэйшая жанчына, немка. Яна кажа: «Хадзі са мною». Яна мяне адзела і ўладкавала на два тыдні мыць пасуду ў нейкім рэстаране. Пасьля

двух тыдняў яна мяне забрала і кажа:

— Я пастараюся табе памагчы. Будзеш граць маю дачку, але мусіш быць глухою і як бы дурнаватаю.

Гэтак, каб мяне не пазналі ў цягніку ня толькі бальшавікі, але й немцы. Яна мне пазваляла мыць толькі рукі, а твар падмазвала сажаю, і я мела сьмешную шырокую сукенку, туфлі як бы лапці – задзертыя наскі.

Каля граніцы савецка-амэрыканскай мы ішлі пяшком каля дзесяці кілямэтраў, бо я ня мела ніякіх дакумэнтаў. У нейкім гарадку працякала рэчка, якая дзяліла горад і зоны – савецкую і амэрыканскую. І немка заплаціла немцу грошы, каторы нас лодкаю перавез на амэрыканскую зону.

*http://archive.svaboda.org/halasy/najdzjuk.html*

# *ДАКУМЕНТЫ*

ОТДЕЛ КОНТРРАЗВЕДКИ «СМЕРШ» БЕЛОРУССКОГО ВОЕННОГО ОКРУГА

Совершенно секретно

СЕКРЕТАРЮ ЦЕНТРАЛЬНОГО КОМИТЕТА КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ /большевиков/ БЕЛОРУССИИ

Товарищу ПОНОМАРЕНКО П. К.
Гор. Минск

## СПЕЦСООБЩЕНИЕ

о задержании 10-ти германских агентов-парашютистов, обучавшихся в «десантной военной школе» белорусских националистов в мест. Дальвитц.

18-21 ноября 1944 года в районе Яшуны-Большие Солечники Литовской ССР, Отделом «СМЕРШ» 50 запасной Литовской дивизии и оперативной группой Отдела Контрразведки «СМЕРШ» БВО задержано десять германских агентов-парашютистов:

1. БОРИСИК Иван Петрович, 1903 года рождения, уроженец дер. Озаричи, Козловщинского района, Барановической области, белорус, гражданин СССР из крестьян-середняков, образование 4 класса, в Красной Армии не служил, в 1942 году служил в «Белорусской краевой обороне» /БКА/*, имел звание лейтенанта.

2. МАКАРЕВИЧ Иван Иванович, 1915 года рождения, уроженец дер. Хоросица, Любчанского района, Барановической области, белорус, гражданин СССР, образование 7 классов, в Красной Армии не служил; с января 1942 по июль 1944 года служил в Новогрудском «белорусском батальоне» по борьбе с советскими партизанами.

3. ТАЛАКО Владимир Демьянович, 1906 года рождения, уроженец гор. Мир, Барановической области, белорус, гражданин СССР, образование 5 классов, в Красной Армии не служил; в 1943-1944 г.г. работал в созданной немцами Новогрудской лесной Управе.

* Насамрэч — у Беларускай Самаахове.

4. ФЕДОРОВИЧ Эдуард Михайлович, 1910 года рождения, уроженец гор. Косов, Брестского района*, Брестской области, поляк, гражданин СССР, из крестьян-середняков, образование 2 класса, в 1942-44 г.г. служил в «белорусском национальном батальоне».

5. ГРОС Петр Иосифович /псевдоним «ЛАЙЗА»/, 1923 года рождения, уроженец дер. Пудино, Новогрудского района, Барановической области, белорус, гражданин СССР, из крестьян, образование среднее, в Красной Армии не служил; в 1942-44 г.г. работал немецким переводчиком в окружном гебитс-комиссариате в гор. Лиде, с 1942 года состоял членом националистической организации «белорусская самопомощь».

6. МЕШИЦ Иван Алексеевич, 1914 года рождения, уроженец дер. Глухой Ток, Березинского района, Могилевской области, белорус, гражданин СССР, бывший кандидат в члены ВКП/б/, образование средне-педагогическое, бывший младший лейтенант Красной Армии, командир взвода 334 артполка, сдался в плен немцам 25 мая 1942 года в районе Керчи.

7. СЕМАШКО Александр Николаевич, 1921 года рождения, уроженец дер. Семашки, Желудовского района*, Барановичской области, белорус, гр-н СССР, из крестьян-середняков, образование 7 классов, в Красной Армии не служил.

8. БЫЧЕК Михаил Николаевич, 1920 года** рождения, уроженец дер. Небышино, Бегомльского района, Минской области, белорус, гражданин СССР, образование 4 класса, в Красной Армии не служил.

9. БУЦКЕВИЧ Сергей Иванович, 1923 года рождения, уроженец гор. Новогрудок, Барановичской области, белорусс, гражданин СССР, из крестьян-середняков, образование 5 классов, в Красной Армии не служил.

10. ЛАПКОВИЧ Владимир Степанович, 1925 года рождения, уроженец мест. Греск, Гресского района, Минской области, белорус, гражданин СССР, образование низшее, в Красной Армии не служил.

Следствием по делу указанной группы германских парашютистов установлено, что все они, проживая на оккупированной

---

* Так у дакуменце.

** Насамрэч, 1930 г. н.

немцами территории, были в разное время, летом 1944 года, завербованы представителями так называемой «Белорусской независимой партии» /БНП/ на службу в «белорусскую армию» /БКА/ и направлены для обучения в лагерь около мест. Дальвитц, в 9 километрах от г. Инстенбург* /Восточная Пруссия/, где из них была скомплектована специальная «десантная военная школа», предназначенная для диверсионно-подрывной деятельности на территории Белоруссии.

В лагере Дальвитц обучалось свыше 100 человек. Большинство обучавшихся ранее служили в созданных немцами различных белорусских националистических формированиях, в частности в «белорусских национальных батальонах», или были завербованы в «БКА» специальными вербовщиками «белорусской независимой партии». Каждый из обучавшихся давал при вербовке подписку, примерно следующего содержания:

«...Я /такой-то/, вступая добровольно в белорусскую армию, обязуюсь беспощадно вести борьбу с большевизмом, до тех пор, пока Белоруссия не станет самостоятельным и независимым государством...»

/из показаний БУЦКЕВИЧА С. И./

Начальником «десантной военной школы» в Дальвитце был немец, майор германской армии ГЕРУЛИС; его заместителями и представителями «БКА» в школе — капитан РОДЬКО и капитан РОГУЛЯ. Последние поддерживали регулярную связь с руководителями белорусских националистов, в частности ежемесячно по 2-3 раза ездили в Берлин, к президенту «белорусской центральной рады» ОСТРОВСКОМУ.

Все обучавшиеся в школе носили немецкую военную форму. При школе была специальная группа женщин-радисток из 4-х человек.

А программу обучения входило: строевая подготовка, изучение оружия и практические стрельбы, подрывное и разведывательное дело, маскирование на местности, политподготовка в националистическом духе.

29 сентября с. г. школа из лагеря Дальвитц передислоцировалась в помещичье именье Комирово около гор. Пимпельбург /Сомпольно/.

---

* Насамрэч, Істэрбург.

В середине ноября из состава школы была выделена группа в 30 человек во главе с майором ВИТУШКО /«ЛОСЬ»/, предназначенная для переброски в советский тыл в первую очередь. После соответствующей подготовки /инструктаж, экипировка, снабжение и пр./ эта группа вечером 17-го ноября с аэродрома около гор. Вормдикт на четырехмоторном транспортном самолете была переброшена на советскую территорию.

Местом выброски группы намечалась, так называемая, Налибокская пуща /большой лесной массив, в 70-80 км. западнее Минска/, но фактически группа была выброшена на 60-70 км. северо-западнее, повидимому из-за потери ориентировки летчиками.

Задание, полученное группой ВИТУШКО от немецкой разведки и от представителей «БНП», состояло в следующем:

1. Вести разведку дислокации воинских частей в районе между Минском и Лидой и передавать по радио собранные сведения;

2. Проводить диверсионную работу на железнодорожном транспорте, подрывать железно-дорожные мосты.

3. Совершать террористические акты против советско-партийных работников, командиров Красной Армии, сотрудников НКВД-НКГБ;

4. Проводить антисоветскую националистическую пропаганду среди населения, призывать его к саботированию мероприятий советской власти, к невыполнению поставок государству, к уклонению от службы в Красной Армии.

5. Выявлять скрывающихся в лесах дезертиров и другие преступные элементы и группировать их вокруг себя.

6. Подготовить в Налибокской пуще базу для предполагаемой выброски второй диверсионно-подрывной группы белорусских националистов из Дальвицкого лагеря.

Для выполнения этих заданий группы были снабжены большим количеством взрывчатых веществ — толовых и динамитных шашек /частью в упаковках «суп-пюре»/, магнитных и других мин, фугасных зарядов, аммотолом в коробках, подвесными петардами, а также двумя легкими минометами и четырьмя пулеметами с большим запасом мин и патронов к ним.

Каждый участник группы получил винтовку или автомат, пистолет и гранаты, продукты питания на 10 дней и по 5000 рублей денег. Кроме того, на всю группу в специальных тюках был сбро-

шен запас продовольствия, инструменты для оборудования землянок. Начальник группы имел серию поддельных документов и бланков для выдачи участникам группы.

Для связи с органами немецкой разведки группе были приданы две женщины-радистки с коротковолновыми радиостанциями. Кроме того, перед выброской группы было обусловлено, что ее участники БОРИСИК И. П. и МЕШИЦ И. А. в случае необходимости, будут посланы в качестве курьеров обратно к немцам через линию фронта; для явки в немецкую разведку им был выдан пороль «Айн-це».

По показаниям задержанных парашютистов, вслед за их группой намечена переброска на территорию БССР еще трех диверсионно-подрывных групп из числа белорусских националистов, обучавшихся в Дальвитской «десантной» школе, а именно:

Группа под руководством капитана РОГУЛЯ, в составе 21 человека, должна быть выброшена в район Налибокской пущи через две недели после выброски группы ВИТУШКО.

Группа под руководством старшего лейтенанта РУДАК и лейтенантов ЗУЙ и АТРОХИМОВИЧ, в количестве 30 человек, должна быть выброшена в леса в район села* Глубокое, Вилейской области, через три дня после выброски группы РОГУЛЯ.

Группа под руководством лейтенанта ГУРЬЯНОВИЧ**, в количестве 16 человек, должна быть заброшена в леса между Слуцком и Минском, через три дня после выброски группы РУДАКА.

Из участников этих намеченных к переброске групп, нами собраны данные, по показаниям задержанных, на 75 человек. Из этих данных видно, что большинство их является уроженцами и жителями Барановической и Вилейской областей, которые ушли с немцами в июле 1944 года и были завербованы представителями «БНП» в Дальвицкую «десантную» школу.

Следствие по делу задержанных германских агентов продолжаем по линии выявления их связей с белорусским националистическим подпольем на территории Белоруссии.

Одновременно нами приняты меры к розыску остальных участников группы ВИТУШКО и намеченных к переброске других диверсионно-террористических групп белорусских националис-

---

* Так у тэксце.

** Насамрэч — Кур'яновіч.

тов. О предстоящей выброске этих групп ориентированы органы НКГБ и НКВД БССР.

НАЧАЛЬНИК ОТДЕЛА КОНТРАЗВЕДКИ
«СМЕРШ» БВО ГЕНЕРАЛ-МАЙОР
/ ЕРМОЛИН /

27 ноября 1944 года

*НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 177-182. Машынапіс, арыгінал.*

***Дакументы з архіва Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў Беларускай Цэнтральнай Рады***

Афіцэры
Спэц. Батальёну
«Дальвіц»

м[есца] п[астою] 9-га сьнежня 1944 г.

[№] 5

***У***
Вайсковы Аддзел
Беларускай Цэнтральнай Рады
Бэрлін

......на: Тварэньне беларускіх вайсковых аддзелаў.

На афіцэрскім сходзе батальёну дня 9.12.1944. абгаварвалася справа тварэньня ў шырэйшых памерах беларускае збройнае сілы і выкарыстаньня сучаснага палітычнага палажэньня дзеля як найхутчэйшага арганізаваньня вайсковых адзінак на эміграцыі ў Нямеччыне.

Пры абгаварэньні сьцьверджана наступнае палажэньне:

1. Мэтаю імкненьняў усяго беларускага народу і ўсіх яго небальшавіцкіх палітычных кірункаў зьяўляецца здабыцьцё сувэрэннай дзяржаўнасьці для Беларусі. На дарозе да рэалізацыі гэтага стаіць сёньня варожы бальшавізм.

2. Дзейнікам, які зможа гэтую мэту асягнуць, зьяўляюцца моцныя нацыянальныя беларускія вайсковыя аддзелы у краі і на эміграцыі.

3. Збройны падпольны рух у краі пачаты. Беларускі народ па меры магчымасьці імкнецца ліквідаваць стан варожай акупацыі, аднак неабходнай зьяўляецца падтрымка з замежжа.

4. Усе намаганьні беларускіх кіруючых дзейнікаў у Нямеччыне у напрамку злучэньня існуючых беларускіх вайсковых адзінак і стварэньня новых не далі да гэтае пары пазытыўных рэзультатаў.

5. Сучасны палітычны ўклад заінтэрасаваных сілаў не дае надзеі здабыць беларускім кіруючым дзейнікам рэальных магчымасьцяў тварэньня гэтае сілы бяз пэўнага паразуменьня з іншымі заінтэрасаванымі бакамі.

6. У барацьбе з бальшавізмам да гэтае пары беларусы мелі паразуменьне і саюз толькі з Нямеччынай.

7. У вапошні час у перадавую лінію антыбальшавіцкага фронту высунулася новая вайсковая і палітычная сіла, якою зьяўляецца рух пад кіраўніцтвам генэрала Власава, які перайшоў пасьля кангрэсу ў Празе у форму «Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі».

8. Цьвярозае вядзеньне палітыкі вымагае супрацоўніцтва аднолькава заінтэрасаваных і выкарыстаньня кажнай магчымасьці павялічыць сваю уласную сілу.

9. У аддзелах падпарадкаваных ген. Власаву знаходзіцца вялікі працэнт беларусаў, апошнія атрыманыя ім паўнамоцтвы дазваляюць праводзіць далейшы набор, уключаючы ў гэта і беларусаў.

10. Зьяўляецца неабходным гэтых беларусаў злучыць у асобныя беларускія нацыянальныя фармацыі.

11. З другога боку нашым абавязкам зьяўляецца падтрымаць і далучыцца да агульнага новастворанага антыбальшавіцкага фронту.

12. Гэта магчыма аднак толькі калі мы ў гэты фронт увойдзем як роўнапраўны партнёр.

13. Уваходзячы ў супрацоўніцтва з ген. Власавым мы здабываем магчымасьць тварыць беларускія вайсковыя аддзелы на эміграцыі і гэтым самым даць шырэйшую дапамогу вызвольнаму змаганьню ў краі.

Як выснаў з вышэйсказанага прапануем наступнае:

1. Вайсковы Аддзел БЦР навязвае лучнасьць з рухам генэрала Власава і дамагаецца наступнага:

а. увесьці у склад Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі адпаведную колькасьць пададзеных прадстаўнікоў ад беларусаў,

б. увесьці ўва ўсе аддзелы і арганізацыі, падпарадкаваныя Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі (як Цывільнае Кіраўніцтва, Чырвоны Крыж і г. д.) беларускіх прадстаўнікоў,

в. увесьці у вайсковы штаб ген. Власава беларускіх афіцэраў.

г. стварыць у межах вызвольнае арміі самастойныя беларускія фармацыі пад камандаваньнем беларускіх афіцэраў і пад палітычным кіраўніцтвам адпаведных беларускіх дзейнікаў. Апэратыўна гэтыя фармацыі падпарадкуюцца штабу ген. Власава.

2. Вайсковы Аддзел БЦР навязвае лучнасьць з беларускімі афіцэрамі, якія ужо уваходзяць у склад арміі ген. Власава.

3. Пасьля дагаворанасьці з ген. Власавым Вайсковы Аддзел БЦР вызначае беларускіх прадстаўнікоў, якія ўвойдуць у Камітэт Вызваленьня Народаў Расеі, у яго аддзелы і ў штаб ген. Власава; адначасова Вайсковы Аддзел дае адпаведны загад беларускай эміграцыі.

Мы просім Вайсковы Аддзел БЦР даць адказ на вышэйпададзеную прапанову нашаму дэлегаванаму прадстаўніку у працягу трох дзён ад дня яе даручэньня.

Калі Вайсковы Аддзел БЦР мае іншыя непасрэдныя рэальныя магчымасьці тварэньня у працягу найбліжэйшых тыдняў беларускіх вайсковых фармацыяў у шырэйшым памеры, просім аб іх нас паведаміць.

У выпадку, калі мы пасьля тэрміну не атрымаем адказу, або калі нэгуючы нашую прапанову Вайсковы Аддзел дасьць недастатковыя ўласныя меркаваньні адносна магчымасьцяў тварэньня збройнай сілы — мы будзем змушаны дзеля ратаваньня нашага вайсковага палажэньня на эміграцыі рабіць безпасрэдня адпаведныя захады.

Афіцэры Бел. Спэц. Батальёну:
1. —— (капітан Гелда)
2. —— (капітан Родзька)
3. —— (надлейтэнант Лазарэвіч)
4. —— (надлейтэнант Рудак)
5. —— (лейтэнант Будахоўскі)
6. —— (лейтэнант Іўчэнка)
7. —— (лейтэнант Луцкевіч)
8. —— (лейтэнант Зуй)
9. —— (лейтэнант Рулінскі)
10. —— (сьцяжны* Валасэвіч)
11. —— (сьцяжны Мазура)

* Паводле рангаў БКА, зацверджаных у красавіку 1944 г., сцяжны — малодшы лейтэнант (прапаршчык, падафіцэр). Гл.: Грыцкевіч А. Вайсковыя ступені ў беларускім войску // Культура (Мінск), 1992, 26 кастрычніка, № 41.

НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 6, арк. 3-4. Машынапіс, арыгінал. На першым аркушы зверху два надпісы ад рукі: «У тайныя справы «Вайск. Камісіі» і «15.XII.1944 Т. Вайсковая Камісія разгледзіць і дасць адказ. К. Ез.».

*«Да*

*Сп. Сп. Афіцэраў Бел. Спэц. Батальёну «Дальвіц»*

У адказ на Вашае пісьмо ад 9.XII.44 г. № 5 Вайсковы Аддзел выясьняе наступнае:

Стварэньне беларускае збройнае сілы ў Нямеччыне ёсьць адным з найгалаўнейшых заданьняў БЦР. У гэтай справе БЦР і ў асобнасьці Вайсковы Аддзел зрабілі і робяць усе магчымыя захады перад нямецкімі ўладамі. Гэтымі днямі мы атрымалі афіцыйнае паведамленьне з боку нямецкіх уладаў ад іх, што пытаньне аб фармаваньні Беларускага Легіёну вырашана канчальна. Мае быць сфармаванай беларуская дывізія пры СС. Падробязьнейшых дадзеных з зразумелых прычынаў ня можам падаць.

Гэткім чынам адпала-б бальшыня Вашых пытаньняў і жаданьняў, бо яны падыктаваныя зусім зразумелым для кажнага беларуса імкненьнем да стварэньня собскае збройнае сілы. Але нават тварэньне собскае дывізіі не выключае таго, каб мы, беларусы, не заапякаваліся тымі беларусамі, якія з розных прычынаў апынуліся, ці могуць апынуцца у чужых вайсковых фармацыях. Толькі гэтага нельга рабіць у тэй форме, якую прапануеце Вы. Ёсьць іншы шлях, які мы можам выкарыстаць. Аб гэтым падрабязьней скажа Вам сп. кап. Родзька.

Адносна Вашых пытаньняў агульна-палітычнага характару, як паразуменьне з Уласавым, і далучэньне да творанага ім «агульнага» антыбальшавіцкага фронту, — дык можам Вас запэўніць, што БЦР усебакова абмэркавала гэтае пытаньне, перш чымся заняць адносна яго азначанага становішча. БЦР зусім ня супроць аб'яднаньня усіх сілаў г. зв. усходніх народаў дзеля супольнае барацьбы з агульным ворагам — бальшавізмам, але, як Вы зусім правільна падчыркваеце, гэтае аб'яднаньне павінна адбыцца на прынцыпе роўных з роўнымі. Нэгатыўная пазыцыя БЦР да Уласава тлумачыцца аднак тым, што якраз ген. Уласаў гэтага ня хоча. Зь яго боку нам ведама, пакуль што, толькі адно дамаганьне — поўнае падпарадкаваньне, зьвязанае нават з ліквідацыяй усіх арганізацыяў асобных нацыянальнасьцяў. Беларусаў у ягоным Камі-

тэце маюць прадстаўляць вызначаныя ім «прадстаўнікі» (якія ужо ёсьць у Камітэце), а увесь ягоны «вызвольны рух» павінен адбывацца выключна пад расейскім сьцягам. На гэта БЦР пайсьці ня можа. Не пайшлі на гэтае і прадстаўнікі іншых, паняволеных Расеяй, народаў, якія стварылі, запраўды, аб'яднаны Камітэт, дзе не стае толькі расейцаў.

У сувязі з гэтым і бяручы пад увагу, што ува усей гэтай справе гутаркі зь нямецкімі уладамі незакончаныя, вельмі непажаданымі зьяўляюцца асобныя выступленьні адзінак, ці групаў, хоць бы і з найлепшых пабудоў, але якія ламаюць агульную лінію. Кажны палітычны крок ёсьць толькі тады апраўданы, калі дае якуюсь рэальную карысьць. Пакуль што гэтай карысьці з акцыі ген. Уласава мы, беларусы, для нашага народу ня бачым. Застаецца толькі чыста прапагандовы бок гэтай акцыі. Прапаганда, зразумела таксама, мае сваё значэньне, але і да яе мы можам далучыцца толькі пад умовай, калі яна ня будзе ведзена нашым коштам, і ня будзе накіравана супроць незалежнасьці Беларусі.

***Жыве Беларусь!»***

*НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 6, арк. 5-5 адв. Рукапіс, арыгінал, напісаны К. Езавітавым, непадпісаны і недатаваны.*

## *ПУБЛІКАЦЫІ*

***Там, дзе куецца воля...***

Адзін з сяброўскіх вечароў...

Саля замку, замененага на час вайны ў правезарычныя казармы — крыху цеснаватая, але прытульная. Замест сцэны, невялікі свабодны прастор перад шырокімі сходамі ў гару, кругом гледачы і адначасова ўдзельнікі вечару.

Жаўнерская грамада ў далёкай ад бацькаўшчыны нямецкай правінцыі канчае тыдзень роднай песьняю, хвілінамі патрыятычнага ўздыму, мастацкім словам ці вясёлым жартам. Гэта лучыць і ўзмацняе, і ўвайшло ўжо ў традыцыю аддзелу.

Кругом маладыя, адчыненыя твары, сьціплы жаўнерскі аднастрой, бадзёрыя позіркі. Сёньня больш зацікаўленыя, чым заўсёды, бо вялікую частку вечару запаўняе ўласнаю творчасьцю адзін із сяброў дружыны П.*, ужо і раней ведамы ў аддзеле, але не выступаўшы дагэтуль «публічна».

* Паэт Язэп Пабяржын.

Камандзер прыняў рапарт. Разьмераны рытм маршавай песьні ўводзіць у моцны нацыянальны настрой. Пераплятаюцца песьні народныя і жаўнерскія з дэкламацыямі, апавяданьнямі, сцэнкамі з жаўнерскага жыцьця. Ува ўсім прабіваецца воля ператрываць дні ваенныя, сум па бацькаўшчыне і бязмежны змагарскі патрыятызм. Нават у тужлівай мэлёдыі ці ў вершы аб роднай хаце не адчуваецца ценю слабасьці — толькі вялікая ідэя, здольная перавысіць найвялікшую трагедыю народу, і вера ў Дзень Вызваленьня лунае са слоў і твараў.

Дружыннага* П. спатыкаюць падбадзёрваючыя воплескі сяброў. Кожны верш хоць і малады формаю, перапоўнены гэтак сама маладым фанатычным пачуцьцём і ідэяю змаганьня і перамогі.

Ён зьвяртаецца да беларусаў із заклікам на змаганьне:

Беларус, кінь драмаць, бяры стрэльбу!
Сёньня волю ў вагні каваць трэба!
Нажыліся з нас ворагі — каты,
Насьмяяліся з нашых ідэй.
Але-ж хутка ўжо час адплаты
І дзень помсты што раз, то бліжэй.
　　Не паверым мы болей нікому.
　　Не падманіць нас болей ніхто.
　　На сябе маем толькі надзею
　　І на сьцяг наш з Пагоняй сьвятой.
Штых сталёвы назначыць граніцы.
Куля волі напіша закон.
Сьцяг Пагоні між хмар заірдзіцца,
Зацьвіце наш Крывіцкі загон.
　　Беларус, кінь драмаць, бяры стрэльбу!
　　Сёньня волю каваць у вагні трэба!

Ізноў чуецца ўсхвалёваны голас...

Ахвярнасьць у нацыянальным змаганьні — гэта абавязак беларуса:

Не, ня той беларус, хто сягоньня,
У рашучыя дні пералому,
У цёплым месцы засеўшы спакойна,
Прачакаць хоча бурныя громы...

---

* Паводле рангаў БКА, зацверджаных у красавіку 1944 г., дружыновы (дружынны) — гэта малодшы сяржант. Больш падрабязна гл.: Грыцкевіч А. Вайсковыя ступені ў беларускім войску // Культура (Мінск), 1992, 26 кастрычніка, № 41.

...Толькі той беларус, хто ахвярай
Здабыць волі імкнецца агонь,
І на подкуп ня сунуў далонь.
Толькі той беларус, хто ў хаосе
Разбурэньня імпэрый гнілых,
Жне нястомна буйныя калосьсі
Для вызвольных ідэяў сьвятых.

А з ворагам іранічна праводзіць разьлік і кідае ў твар папярэджаньне:

Мы вас знаем, вызвольнікаў нашых,
Добра помнім савецкі ваш быт...
...Але-ж нашых ідэй не схавалі,
У лясох зноў жыве Беларусь.
У гушчарнях хваёвых куецца
І гартуецца штаб змагароў.
Кроў вам Беларусі адрыгнецца,
Люта помсьцім мы мукі братоў.

Некалькі песьняў са словамі дружыннага П. дапаўняюць кароткі перагляд яго творчасьці. Аўтара праводзяць зноў воплескамі, толькі ўжо шмат дружнейшымі.

Усе яны тут — гледачы і ўдзельнікі адначасова. Сёньня саматужнікі-мастакі, а заўтра жаўнеры ці камандзеры ў найцяжэйшых, пасярод ведамых у ваеннай тактыцы змаганьнях. І тут і там аднолькава спакойныя, ідэйныя і цьвёрдыя.

Вечар канчаецца адсьпяваньнем стралецкай песьні і моцным «Жыве Беларусь!» Разыходзяцца. Кінуты ім у сьлед позірк пераконвае нейкай надзвычайнай упэўненасьцю, што сярод гэтых юнацкіх душаў гадуюцца вялікія змагары, безінтэрэсоўныя волаты нашага вырашаючага змаганьня і што ў іх руках перакуецца ў рэчаістасьць найвышэйшы ідэал нашай будучыні — Воля.

***К — н.***

*Раніца (Бэрлін), 1944, 10 сьнежня, № 53.*

***Нацыянальная сьведамасьць і дысцыпліна — зарука нашае перамогі***
(Адказ сп. Прэзыдэнта Р. Астроўскага беларускім жаўнерам)

***СПАДАРУ ПРЭЗЫДЭНТУ БЕЛАРУСКАЕ ЦЭНТРАЛЬНАЕ РАДЫ ПРАФ. Р. АСТРОЎСКАМУ***

СПАДАР ПРЭЗЫДЭНТ!

Ход палітычных падзеяў прымушае нас, побач з выконваньнем нашых баявых абавязкаў, цікавіцца і беларускім палітычным жыцьцём. Апошнія падзеі гэтага жыцьця, зьвязаныя з агульным пытаньнем утварэньня задзіночанага супрацьбальшавіцкага фронту, моцна і парознаму ўсхвалявалі нашую грамадзкую думку, выклікаючы часта даволі неабдуманую рэакцыю з боку адзінак, неадпаведна паінфармаваных аб існуючым палажэньні.

Мы перакананыя, што толькі поўная здысцыплінаванасьць усіх беларусаў можа гарантаваць нам рост нашае нацыянальнае справы і прызнаньне ейнае роўнавартасьці сярод іншых народаў. Шкодныя спробы прыватнага палітыканства аслабляюць нашую палітычную пазыцыю і разьбіваюць нацыянальнае адзінства.

І таму мы з поўным даверам чакаем у недалёкай будучыні вынікаў праводжанай Вамі, спадару Прэзыдэнце, ад імя БЦР, нацыянальнае палітыкі ў замежжы, перакананыя, што даручанае Вам народам ажыцьцяўленьне ягоных імкненьняў будзе з поўнай адказнасьцю і незалежна ад абставінаў, што склаліся сяньня, праведзенае ў жыцьцё.

Із свайго боку складаем запэўненьне, што ў межах нашых магчымасьцяў будзем бараніць агульнанародны Ідэал Незалежнасьці Беларусі, уключыўшыся на Ваш загад у супрацьбальшавіцкі фронт змаганьня.

Заклікаем усіх беларусаў-жаўнераў, работнікаў і моладзь у поўным даверы да сваіх народных кіраўнікоў выказаць сваю здысцыплінаванасьць, а ахвярнасьцю ў працы і змаганьні споўніць свой нацыянальны абавязак.

*Камандзіры і жаўнеры*
*Беларускага Спэцыяльнага Батальёну*
*«Дальвіц»*

***АДКАЗ***
***Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады***
***праф. Р. Астроўскага***
***камандзірам і жаўнерам Беларускага***
***Спэцыяльнага Батальёну «Дальвіц»***

Цешуся і ганаруся Вашай высокай нацыянальнай сьведамасьцю і дысцыплінай — зарукай нашае перамогі над зьлейшым ворагам беларускага народу і ўсяго чалавецтва — бальшавізмам.

Із свайго боку запэўняю Вас, што Беларуская Цэнтральная Рада непахісна стаіць і будзе і надалей стаяць на варце нацыянальных правоў і інтарэсаў беларускага народу, згодна з пастановамі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу.

СЬМЕРЦЬ БАЛЬШАВІЗМУ!
НЯХАЙ ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ І НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!

Прэзыдэнт БЦР
праф. Р. Астроўскі

*Раніца (Бэрлін), 1945, 3 студзеня, № 1. Перадрук — «За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі», Лёндан, 1960. С. 167-168.*

***У Н-скім Беларускім Батальёне***

Станцыя Ц.* Выходзім з цягніка. На малой станцыі поўна людзей. Кідаем вокам на прысутных і адразу пазнаем беларускага жаўнера ў даўгім кажуху. Падыходзім да яго: «Жыве Беларусь!» У вадказ чуем цьвярдое, як зялеза, жаўнерскае «Жыве!». Надзяем кажухі і мы, сядаем у брычку і едзем у В.** Краявід абапал шасы нагадвае нам нашу Радзіму і нам здаецца, што мы едзем недзе ў... нейкую родную вёску ці мястэчка. Па дарозе засыпаем нашага жаўнера рознымі пытаньнямі, але ён скупы на словы. «Рыхтуе нам неспадзяванку», кажу свайму суседу.

І сапраўды, хутка сярод лесу, на гары, бачым прыгожы 3-х паверхавы палац. «Вось, кажа горда жаўнер, і нашая хата». Праз нейкіх 15-20 часін пад'ягджаем да гэтае «хаты». Беларускі жаўнер із стрэльбай на плячы становіцца на «зважай»! — «Жыве Беларусь!», адказваем мы. У палацы спатыкае нас беларускі афіцэр

* Цэмпэльбэрг.
** Вальбуш альбо Вальбуж.

і вядзе да сп. каманданта, капітана Г.* Капітан Г., стары наш знаёмы**, уцешыўся з нашых адведзінаў, прыймае нас, ясна, чыста пабеларуску і мы, незаўважыўшы, праседжваем з нашымі вайскоўцамі да позьняе ночы, абгаворваючы нашыя агульныя нацыянальныя справы.

На другі дзень аглядаем ваколіцы палацу, парк і лес.

Папалудні сп. камандант павёў нас па пакоях, у якіх разьмешчаныя жаўнеры. Усе памешканьні ўпрыгожаныя яловымі галінкамі і беларускімі сьцяжкамі, чыстыя, прасторныя, сьветлыя, зрабілі на нас вельмі добрае ўражаньне, але асабліва спадабаліся нам сваёй жаўнерскай здысцыплінаванасьцю і пашанай да каманданта нашыя хлопцы і слухачы афіцэрскага курсу, сярод якіх ёсьць колькі з вышэйшай асьветай і нават адзін таленавіты паэт.

Надышоў вечар. Куцьця... Зацікаўленыя і ўзрушаныя, ідзем разам з камандантам і ягоным ад'ютантам-лейтэнантам Л.*** у даволі прасторную залю, дзе сьпявае калядныя песьні хор афіцэрскага курсу. На сталох стаіць ужо нашая традыцыйная куцьця й іншыя стравы. Праз пару часінаў уваходзіць шэф батальёну — нямецкі афіцэр, зь якім мы ўжо пазнаёміліся. Гэта вельмі мілы чалавек, таму нічога дзіўнага, што яго ўсе беларускія афіцэры й жаўнеры вельмі паважаюць. Ён вітае прысутных із сьвятам Калядаў і раздае нагароды — сярэбраныя й бронзавыя мэдалі, у першую чаргу сп. каманданту, а пасьля і іншым афіцэрам і жаўнерам. Пасьля гэтага пачынаецца вячэра пад гукі калядных і жаўнерскіх беларускіх песьняў.

Але найцікавейшым мамэнтам вечару быў прыход дзеда Мароза. Гэта быў ня звычайны дзед Мароз, а асаблівы — жаўнерскі. Амаль кажны атрымаў цікавы падарунак з адпаведным вершам да яго. Адзін напр[ыклад] любіць вельмі прыхарошвацца, дык атрымоўвае кавалачак люстэрка, другі адрошчвае сабе вусікі, дык атрымоўвае ўжо гатовыя, вялікія вусы, трэйці — заўсёды губіць сваю лыжку, дык атрымоўвае даўгую дзеравяную, чацьверты любіць выпіць, дык атрымоўвае... корак ад бутэлькі, іншы яшчэ — любіць танцаваць, — і атрымоўвае старыя чаравікі, каб не знасіць сваіх, а належна выкарыстаць сьвяты і да г. п. Ясна, што

---

* Гелды.

** Можна меркаваць, што аўтарамі матэрыялу былі журналісты з Беластоку, напрыклад, Хведар Ільляшэвіч.

*** Лазарэвічам?

пасьля кажнага падарунку заля трэслася ад сьмеху. Пасьля раздачы ўсіх падарункаў дзед Мароз сказаў вельмі прыгожую сымбалічную прамову, за якую атрымаў буру воплескаў. На гэтым афіцыйная частка вечару скончылася. Заступнік каманданта сп. капітан Р.* абвесьціў, што цяпер кажны можа сабе весяліцца, як патрапіць, ці хоча. Ізноў паплылі песьні, пачаліся танцы і доўга, да ночы гулялі беларускія жаўнеры ў палацы.

На другі дзень, папалудні, хор афіцэрскага курсу наладзіў канцэрт, якому мог-бы пазайдросьціць найлепшы ансамбль. Аўтарам большыні песьняў зьяўляецца паэт-слухач курсаў. Трэба паслухаць самому, каб ацаніць вялізарную вартасьць гэтых песьняў і ўражаньні, якія яны пакідаюць, асабліва наступныя: «Падняты Родны Сьцяг Дзяржаўны», «На выгнаньні», «Першы Наваградзкі эскадрон», «Партызанская» і іншыя. Сэрца поўнілася ня толькі радасьцю, але і гонарам, бо чуўся марш пераможных беларускіх узброеных змагароў, іхная нязломная воля і вера ў перамогу, іхная вялікая любоў да нашае Бацькаўшчыны — Беларусі. Хацелася доўга-доўга сядзець і слухаць гэтыя баявыя, прыгожыя песьні, бо іхнае баёвае перакананьне перамогі беспасярэдня ўлівалася ў душу і выклікала чароўныя вобразы нашае будучае Вольнае Бацькаўшчыны.

Калі на другі дзень тая самая брычка везла нас назад на станцыю, мы доўга аглядаліся на палац, дзе мы былі так міла прынятыя, дзе самаахвярна працуюць, вучацца і падрыхтоўваюцца да рашучага вырашальнага пераможнага змаганьня за нашую Волю найлепшыя сыны нашага Народу. І доўга гучэў у нашых сэрцах найпрыгажэйшы на сьвеце гімн — «Жыве Беларусь».

**У. К.**

*Раніца (Бэрлін), 1945, № 3, 10 студзеня.*

---

* Родзька.

# *БІЯГРАМЫ АФІЦЭРАЎ І ЖАЎНЕРАЎ «СПЕЦЫЯЛЬНАГА БАТАЛЬЁНА «ДАЛЬВІЦ»*

***АНІЧКОЎ*** (АНІЧКАЎ) ***Сяргей***

Афіцэр «Дальвіца», капітан. Нарадзіўся ў 1891 г. 19 жніўня 1942 г. скончыў першы афіцэрскі курс Беларускай Самаахoвы ў Мінску, быў накіраваны ў Навагрудак ў распараджэнне акругавага каменданта БСА. У снежні 1944 г. быў залічаны ў 1-ы Кадравы батальён БКА ў Берліне, але ўжо ў пачатку студзеня 1945 г. быў пераведзены ў батальён «Дальвіц». Пасля капітуляцыі Нямеччыны апынуўся ў Бібэрах (французская зона акупацыі), дзе разам з Філарэтам Родзькам (бацькам Усевалада Родзькі) у 1945 г. арганізаваў царкоўны хор і некалькі гадоў быў яго рэгентам. «Хор утрымаўся і існаваў да часу эміграцыі рэгента Анічкава», — сведчыць Ф. Родзька. Такім чынам, у канцы 1940-х ён выехаў з Нямеччыны. Далейшы лёс невядомы

*Кр.: Загад Галоўнага камандаваньня Беларускае Самаахoвы № 10 ад 19 жніўня 1942 г. // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10). С. 73; Загад Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР № 19 ад 31 снежня 1944 г. // НАРБ, ф.383, воп. 1, спр. 3, арк. 32; Вініцкі А. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гадох. – Менск: «Тэхналогія», 1994. С. 215.*

***АПУХЛІН*** (АПУХЦІН)

Сяржант, загадчык рэчавым складам «Дальвіца». Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: http://www.reibert.info/forum/showthread.php?t=40391*

***АСІПОВІЧ Лявон***

Баец «Дальвіца». Ураджэнец в. Залессе Маладзечанскага павета Віленскага ваяводства (цяпер Смаргонскі раён Гродзенскай вобл.). Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: http://www.reibert.info/forum/showthread.php?t=40391*

***АСЯЦІМСКІ Алесь***

Афіцэр «Дальвіца». Былы афіцэр польскага войска. З сакавіка 1943 г. служыў у Беластоцкім беларускім батальёне І. Гелды. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. У траўні 1944 г. арыштаваны

гестапа, вызвалены напрыканцы чэрвеня. Быў прыхільнікам антыбальшавіцкай партызанскай барацьбы, прайшоў падрыхтоўку ў «Дальвіцы». Ю. Грыбоўскі сведчыць, што А. Асяцімскі быў арыштаваны ў Польшчы ў 1952 г. Магчыма, быў дэпартаваны ў СССР. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 56-57; Паведамленне Ю. Грыбоўскага аўтару ад 5 снежня 2005 г.; Белямук М. Свайго лёсу не мінеш. — Вільня, 2006. С. 38-41.*

***АТРАХІМОВІЧ Мікалай***

Афіцэр «Дальвіца», лейтэнант БКА. Нарадзіўся ў 1906 г. Восенню 1944 г. планаваўся для дэсанту на Глыбоччыну (магчыма, ураджэнец гэтага рэгіёну). Прыблізна ў лістападзе 1944 г. перавёўся з «Дальвіца» ў 1-ы кадравы батальён БКА ў Берліне. Ранга лейтэнанта была пацверджаная загадам № 10 ад 27 лістапада 1944 г. кіраўніка Вайсковых спраў БЦР палк. К. Езавітава са старшынствам ад 1 верасьня 1944 г. У адным з рукапісаў Езавітава з камандным складам «першага беларускага пяхотнага палка 1-й беларускай СС-дывізіі беларускага легіёну» лейтэнант М. Атрахімовіч планаваўся камандзірам 6-й стралковай роты 2-га батальёну. У канцы студзеня 1945 г. накіраваны на папаўненне «1-й Грэнадзёрскай Штурмовай Брыгады «Беларусь», дзе, верагодна, быў прызначаны камандзірам роты. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 181; ф. 383, в. 1, спр, 2, арк. 7, 42, 152; ф. 383, в. 1, спр. 3, арк. 6, 37.*

***БАБКОЎСКІ Я.***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. Арыштаваны ў Беластоку летам 1945 года. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 34.*

***БАБРОВІЧ Міхал***

Баец «Дальвіца». Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі ў Паставах. Удзельнік «баявой групы» Віктара Сікоры, створанай вясной 1944 г. з санкцыі абвера. Са жніўня 1944 г. праходзіў навучанне ў «Дальвіцы». Вязень бальшавіцкіх канцлагераў. Памёр ужо пасля вызвалення.

*Кр.: Паведамленне Віктара Сікоры аўтару ад лютага 2001 г.*

***БАГДАНОВІЧ Глеб***, сын Вячаслава (1913 — 1.10.1971)



Афіцэр «Дальвіца». Ураджэнец Вільні, сын сенатара Вячаслава Багдановіча. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта імя С. Батуры. Быў сябрам Беларускай студэнцкай карпарацыі «Скарынія» у Вільні, друкаваўся ў часопісе «Новая варта» (пісаў пра праблемы беларускага спорту). Падчас нямецкай акупацыі працаваў лекарам у Івянцы. З 1942 г. быў сябрам Беларускай народнай самапомачы. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. З траўня 1944 г. — у БКА, маёр, «начальнік санітарнай службы». У ліпені 1944 г. у Варшаве завербаваны ў Дальвіцкую разведшколу. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., лекар групы (псеўданім «Чорны»). З пачатку снежня 1944 г. знаходзіўся ў атрадах АК на Віленшчыне «Комара», «Мысьлівага», «Лялюся». Разам з атрадам сяржанта В. Янчэўскага («Лялюсь») 28 ліпеня 1945 г. з боем прарваўся ў Польшчу. Легалізаваўся, уладкаваўся на працу лекара ў Высокім Мазавецкім. Адначасова ўдзельнічаў у дзейнасці канспірацыйнай польскай арганізацыі «Воля і Незалежнасць» на тэрыторыі Сакольскага і Аўгустоўскага паветаў. Быў прызваны ў польскае войска, атрымаў рангу паручніка, працаваў лекарам у 62-м пяхотным палку 18-й пяхотнай дывізіі. Арыштаваны ў Польшчы 14 красавіка 1949 г., дэпартаваны ў СССР. Асуджаны на 25 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў у Варкуце (поўнач Расіі). У Беларусь вярнуўся ў 1957 г. Дазволу на выезд у Польшчу да маці і сястры (яны жылі ў Беластоку) не атрымаў. Жыў і працаваў лекарам у Рудзенску. Стварыў сям'ю (ажаніўся з украінкай), выхаваў сына і дачку. Сына назваў Вячаславам у гонар расстралянага бальшавікамі бацькі.

*Кр.: Сямашка Я. Армія Краёва на Беларусі. — Мінск: Беларускае выдавецкае таварыства «Хата, 1994. С. 217-218; Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня; Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 85, 148; Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944 — 1956 / Даведнік. — Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999. С. 20-21; Kozlowska-Glogowska H. Bialoruski senator // Czasopis (Беласток), 2001, № 12. S. 30, 31; Гры-*

*боўскі Ю. Службы бяспекі ПНР і «беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх палітычныя цэнтры на Захадзе» (1945-1974) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 187-188.*

На здымку: Глеб Багдановіч у зняволенні. Варкута, 1950-я гг.

***БАКІЕВІЧ Мікалай***, сын Уладзіміра (1920 — 2007)

Баец «Дальвіца». Нарадзіўся ў м. Косава Слонімскага пав. (цяпер — Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобл.). Скончыў 7 класаў польскай школы. У 1943 г. быў прызваны на службу ў паліцыю, служыў у в. Галынка на Слонімшчыне. Вясной 1944 г. прапаноўвалі паступіць у афіцэрскую школу БКА ў Мінску, але адмовіўся. Летам 1944 г. адступіў у Польшчу, адтуль патрапіў у Францыю, дзе і быў завербаваны ў «Дальвіц». Прайшоў поўны курс падрыхтоўкі. Пасля раззбраення батальёна з Чэхіі перабраўся ў Польшчу. Летам 1945 г. уваходзіў у групу Родзькі, якая знаходзілася ў Беластоку. Разам з іншымі дэсантнікамі там быў арыштаваны. Асуджаны ў Мінску на 25 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў на Чукотцы. У 1955 г. вызвалены, вярнуўся ў Косава, працаваў на мэблевай фабрыцы. Яго сын — Рыгор Мікалаевіч Бакіевіч — тэатразнаўца, адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў БНФ «Адраджэньне» на Брэстчыне.

*Кр.: Паведамленне аўтару Рыгора Бакіевіча ад 2 ліпеня 2011 г.*

***БАКУНОВІЧ Павел***

Баец «Дальвіца». Праходзіў навучанне восенню 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, 26 лістапада.*

***БАРШЧЭЎСКІ Мікалай***

Баец «Дальвіца». Паходзіць з Глыбоцкай акругі. Яго брат Віктар падчас нямецкай акупацыі служыў у СД у Глыбокім. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, 1 кастрычніка.*

***БАРШЧЭЎСКАЯ Вольга***

Восенню 1944 г. знаходзілася ў «Дальвіцы». Магчыма, жонка дэсантніка М. Баршчэўскага.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, 1 кастрычніка.*

***БАРЫСІК Іван*** (Янка), сын Пятра.



Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1903 г. у в. Азарычы Казлоўшчынскага раёна Баранавіцкай вобл. (цяпер Слонімскі раён Гродзенскай вобл.). Адукацыя — 4 класы. 19 жніўня 1942 г. скончыў першы афіцэрскі курс Беларускай Самаахovы ў Мінску, быў накіраваны ў Слонім у распараджэнне акруговага каменданта БСА. Б. Данілюк называе яго «гарачым ахвотнікам змаганьня супраць саветаў». Паводле яго інфармацыі, у Барысіка была «раскулачаная» альбо высланая ў Сібір сям'я. Пасля роспуску БСА працаваў у Слоніме. З лета 1944 г. — у «Дальвіцы». Лейтэнант БКА. Займаўся вярбоўкай дабраахвотнікаў у батальён. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. Затрыманы 18-21 лістапада 1944 г. Выкарыстоўваўся савецкай контразведкай у радыёгульні з абверам, якая атрымала назву «Вогнішчы». Далейшы лёс невядомы. Верагодна, у паваенны час былі рэпрэсаваныя сваякі І. Барысіка, якія жылі ў Азарычах.

*Кр.: Загад Галоўнага камандаваньня Беларускае Самаахovы № 10 ад 19 жніўня 1942 г. // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10). С. 76; НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 177; Ліст да аўтара Б. Данілюка ад 1 красавіка 2003 г.; Ліст да аўтара Ю. Брэчкі ад 14 жніўня 2004 г.; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113; Ёрш С. Беларускі спэцыяльны батальён «Дальвіц» і радыёгульні савецкай контрразьведкі 1944-45 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2 (7). С. 14-16.*

***БЕЛЯКОЎ І.***

Баец «Дальвіца». Служыў у паліцыі ў Клешчынскім (?) раёне Мінскай вобл. Летам 1944 г. выехаў ва Ўсходнюю Прусію. У жніўні 1944 г. завербаваны Ю. Луцкевічам у «Дальвіц», дзе знаходзіўся з 25 жніўня 1944 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 114-115.*

***БЕРДНІКОВІЧ*** (БЕРНЯКОВІЧ) ***Сцяпан***

Афіцэр «Дальвіца», лейтэнант. Нарадзіўся ў 1914 г. Загадам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР ад 10 студзеня 1945-га звольнены «па стану здароўя» з беларускага войска. Быў адасланы ў распараджэнне біржы працы. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Загад Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР № 19 ад 31 снежня 1944 г. // НАРБ, ф.383, воп. 1, спр. 3, арк. 31; За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.., С. 171.*

***БРЭЧКА Юзэфа*** (у шлюбе — НАЙДЗЮК, 01.02.1927 — 19.11.2004)



Радыстка «Дальвіца». Нарадзілася ў в. Мазуркі Ляхавіцкага павету (цяпер — Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобл.). Падчас нямецкай акупацыі была сяброўкай СБМ, вучылася ў баранавіцкай гандлёва-адміністрацыйнай школе. Летам 1944 г. выехала ў Нямеччыну, па дарозе была параненая, патрапіла ў працоўны лагер каля г. Трыер на захадзе Нямеччыны. З кастрычніка 1944 г. праходзіла навучанне ў батальёне «Дальвіц». Летам 1945 г., пераадольваючы перашкоды, здолела перабрацца з савецкай зоны акупацыі на Захад. Жыла ў амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, у 1947 г. скончыла беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе. Была актыўная ў скаўтынгу. Працавала ў тэхнічным аддзеле радыё «Вызваленьне». У ЗША прыехала ў 1956 г., узяла шлюб з Чаславам Найдзюком, жыла ў Пасадэне (Каліфорнія). Брала ўдзел у беларускім грамадскім жыцці, падтрымлівала незалежны беларускі друк на Бацькаўшчыне. Пахаваная побач мужа на могільніку Forest Lawn Cemetery (Hollywood Hills, Pasadena, California).

*Кр.: Лісты Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 17 траўня, 7 лістапада 2003 г., 14 жніўня 2004 г.; Запруднік Я. Юзэфа Найдзюк [некралог] // Беларус, 2005, № 504. Студзень; Ёрш С. Юзэфа Найдзюк (Брэчка) [некралог] // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1. С. 124-125; Арлоў Ул. Імёны Свабоды. Юзэфа Найдзюк // Радыё Свабода, 2006, 31 студзеня, http://www.svaboda.org/content/transcript/766312.html*

*Тв.: Найдзюк Ю. Мае ўспаміны [прысвечаны паваенным падзеям] // Полацак (Кліўленд, ЗША), 1994, № 6 (36). С. 25-29;*

*Галасы стагодзьдзя. Мінулы век у памяці сучасьнікаў // Радыё Свабода, http://archive.svaboda.org/halasy/najdzjuk.html*

***БУДАХОЎСКІ*** (БУДАГОЎСКІ) ***Ігар***, сын Несцера

Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1915 годзе. 30 верасня 1942 г. скончыў другі афіцэрскі курс Беларускай Самааховы ў Мінску, быў накіраваны звязовым у роту БСА ў Дзятлава. Быў камандзірам «Паўднёвай» групы батальёна «Дальвіц». У студзені 1945 г. загадам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР атрымаў рангу надлейтэнанта. Пасля раззбраення «Дальвіца» ў Чэхіі ачоліў групу з 26 чалавек, якая прабівалася на Захад, але была затрыманая савецкімі войскамі. Здолеў вырвацца, жыў у Польшчы, у Зялёнай Гуры, дзе і быў арыштаваны ў 1948 г. Праўдападобна, быў дэпартаваны ў СССР. Паводле некаторых звестак, пасля лагероў жыў у Беларусі. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Загад Цэнтральнае [Рады] Беларускае Народнае Самапомачы ў справах Беларускае Самааховы // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10). С. 84; Загад Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР № 24 ад 13 студзеня 1945 г. // НАРБ, ф.383, воп. 1, спр. 3, арк. 29; Вяртаньне БНП..., С. 49, 78; http://www.reibert.info/forum/showthread.php?t=40391*

***БУЛЫГА***

Баец «Дальвіца», падафіцэр. Падчас нямецкай акупацыі служыў у «рабочай роце» ў Слоніме. У «Дальвіц» патрапіў у канцы лета — у пачатку восені 1944 г. Паводле сведчання Б. Данілюка (ён, у сваю чаргу спасылаецца на паведамленне Рыгора Зыбайлы), перад дэсантам узяў шлюб з радысткай Нінай Лабовіч. З іншых крыніц пра адпраўку Булыгі з дэсантам звестак няма. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ліст Б. Данілюка да аўтара ад 25 чэрвеня 2003 г.*

***БУЦКЕВІЧ Сяргей***, сын Івана



Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1923 г. у Навагрудку (па іншых звестках — у Навагрудскім раёне). Адукацыя 5 класаў (па іншых звестках — 7 класаў). Падчас нямецкай акупацыі служыў у Навагрудку ў паліцыі альбо ў батальёне БКА. З лета 1944-га — у «Дальвіцы». Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Кляйнэ». Паводле

сведчання яго стрыечнага брата П. Пісарука, здаўся савецкім уладам неўзабаве пасля дэсанту. Быў асуджаны на 10 гадоў зняволення. Пасля вяртання жыў у Навагрудскім раёне. Памёр.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 179; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113; Щит и меч Отечества. — Минск, 2006. С. 176; Пісарук П.: Нам сказалі, што будзем ваяваць за самастойную Беларусь супраць бальшавікоў і немцаў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6). С. 97-98.*

***БЫЧОК*** (БЫЧАК) ***Міхаіл***, сын Мікалая

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1930 г. (у вядомым нам дакуменце СМЕРШ памылкова называецца 1920 г.) у в. Нябышына Бягомльскага раёна Мінскай вобл. Адукацыя 4 класы. Вясной 1944-га выпадкова далучыўся да батальёна Б. Рагулі, які ўдзельнічаў у антыпартызанскай аперацыі на Віцебшчыне, стаў «сынам палка». Са жніўня 1944 г. — у Дальвіцы. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Мішка». Затрыманы 18-21 лістапада 1944 г. Праўдападобна, быў асуджаны. На пачатак 2010 г. жыў у в. Нябышына. Як піша Ілля Копыл, аўтар скандальнай кнігі «Нябышына. Вайна», «разгаварыць пра мінулае мне яго не ўдалося».

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 178; Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Вяртаньне БНП..., С. 65; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113; Копыл І. Нябышына. Вайна // Народная воля, 2010, 5 сакавіка, № 34-35.*

***БЯНЕВІЧ***

Дэсантнік «Дальвіца». Ураджэнец Вільні. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. З лета 1944 года знаходзіўся ў «Дальвіцы». Дэсантаваўся ў раёне Вільні ў ноч з 16 на 17 верасня 1944 г. Знаходзіўся на нелегальным становішчы ў Вільні, дзе жыла яго маці, спрабаваў наладзіць сувязь з літоўскімі антысавецкімі партызанскімі атрадамі на Віленшчыне. У кастрычніку 1944 г. сыйшоў

за лінію фронту. Паколькі І. Валахановіч не падае ў сваіх працах, у адрозненне ад іншых дэсантнікаў, ініцыялаў Бяневіча, можна меркаваць, што ён не быў арыштаваны.

*Кр.: Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 108, 110, 111.*

***«В.»***

Афіцэр «Дальвіца». Быў сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі з 1942 г. Служыў афіцэрам у адным з батальёнаў БКА на Міншчыне. Летам 1944 г. выехаў у Варшаву, дзе быў завербаваны ў «Дальвіц». Прайшоў поўны курс падрыхтоўкі. У канцы 1944 г. ці ў пачатку 1945 г. быў перакінуты ў БССР. З дакументамі савецкага вайскоўца пасяліўся ў Мінску, але ў 1945 годзе быў арыштаваны. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Цыбульскі Л. Арышт у Менску актывіста БНП. 1945 год // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2). С. 111.*

***ВАЙТОВІЧ Андрэй***, сын Філіпа (25.10.1920 — 31.03.2008)



Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Залоскі каля Любчы (Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). Вучыўся ў Залосках, Любчы, пасля паступіў у Віленскую электра-механічную гімназію, але навучанне ў апошняй спыніў пачатак Другой сусветнай вайны. Падчас нямецкай акупацыі навучаўся ў настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Служыў у батальёне Б. Рагулі, меў рангу падафіцэра, летам 1944 г. адступіў у Польшчу. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Удзельнік дэсанта «Дальвіца» ў ноч з 16 на 17 верасня 1944 г., меў мянушку «Андрук». Загадам Усевалада Родзькі ад 10 верасня 1944 г. быў прызначаны кіраўніком БНП у Баранавіцкай вобласці. Арыштаваны 28 верасня 1944 г. у Любчанскім раёне. Быў асуджаны на 8 гадоў зняволення. У 1945-1947 гг. утрымліваўся ў канцлагеры ў Сухабязводным каля Горкага (цяпер Сямёнаўскі раён Ніжагародскай вобл. Расіі). З канца 1947 г. — у канцлагеры Чурбан-Нура ў Казахстане. У канцы 1952 г. выслалі на пасяленне ў Паўночнаянісейск. Там ажаніўся на рускай дзяўчыне з сям'і, высла-

най на поўнач. У Беларусь вярнуўся ў 1958 г., пасяліўся ў Слоніме, працаваў на мэблевай фабрыцы. Падтрымліваў кантакты з былымі байцамі «Дальвіца», у тым ліку з Б. Рагулям. Сябраваў з паэткай Л. Геніюш. У ліпені 1997 года ўдзельнічаў у сустрэчы «рагулёўцаў» у Вільні. Пахаваны на слонімскіх могілках.

*Кр.: Жамойцін Я. З перажытага // Лёс аднаго пакалення — Беласток, 1996. С. 78-79; Ёрш С. Дэсант у няпэўнасьць // Наша ніва, 1997, № 11-12 (82), 24 сакавіка; Чыгрын С. «Плача над доляй жалейка...» // Праца (Зэльва), 1996, 6 жніўня; «Застаюся верны Беларускай Незалежніцкай Партыі!..» // Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. —Менск — Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 32-36; Чыгрын С. «Усе мы родзічы» // Ніва (Беласток), 2000, 17 снежня, № 51; Арол і Чайка // Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня, 2001. С. 129, 131; Ёрш С. Парашутысткі // Беларус, 2002, № 473, чэрвень; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 108-109; Щит и меч Отечества. — Минск, 2006. С. 175.*

*Тв.: Вайтовіч А. Як я пазнаёміўся з Ларысай Геніюш // Моладзевы клуб «Блізкая гісторыя». Наш першы год. — Мінск, 2004. С. 31; Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 100-136.*

***ВАЛАСЕВІЧ***

Афіцэр «Дальвіца», сцяжны (малодшы лейтэнант). Падпісаў вядомы ліст афіцэраў «Дальвіца» ў Вайсковы аддзел БЦР ад 9 снежня 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Ёрш С. Усевалад Родзька — правадыр беларускіх нацыяналістаў. — Менск: Голас Краю, 2001. С. 32.*

***ВАСЮЧОНАК***

Дэсантнік «Дальвіца». Прайшоў поўны курс падрыхтоўкі восенню 1944 г. Уваходзіў у «Паўночную» роту. У пачатку 1945 г., разам з групай іншых байцоў, перайшоў у падпарадкаванне нямецкай франтавой разведкі. Верагодна, быў дэсантаваны на тэрыторыю Польшчы. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ліст Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.; Ёрш С. Выкарыстаньне групы байцоў «Спэцыяльнага батальёну*

*«Дальвіц» нямецкай франтавой выведкай у пачатку 1945 году // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6). С. 27.*

***ВАСЮЧОНАК Валянціна***

Радыстка «Дальвіца». Жонка дэсантніка Васючонка. У пачатку 1945 г., разам з мужам перайшла ў падпарадкаванне нямецкай франтавой разведкі. Верагодна, была дэсантавана на тэрыторыю Польшчы. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ліст Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.; Ёрш С. Выкарыстаньне групы байцоў «Спэцыяльнага батальёну «Дальвіц» нямецкай франтавой выведкай у пачатку 1945 году // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6). С. 27.*

***ВЕЖАН Юрый***, сын Фелікса

Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся 23.12.1922 г. у м. Сідаровічы каля Нарачы (цяпер вёска ў Мядзельскім раёне Мінскай вобл.) ў сям'і былога афіцэра арміі генерала Ст. Булак-Балаховіча. У 1927 г. сям'я пераехала ў Варшаву. Скончыў гімназію. Вясной 1940 г., разам з бацькам, пачаў супрацоўнічаць з абверам, прайшоў падрыхтоўку каля Варшавы і Кракава, атрымаў рангу унцер-афіцэра. 19 чэрвеня 1941 г. на чале групы беларускіх камандасаў быў закінуты ў раён Ліды з заданнем правядзення дыверсій на лініях сувязі і на чыгунцы, што было паспяхова выканана. 26 чэрвеня 1941 г. яго група далучылася да нямецкіх войскаў. Быў узнагароджаны медалём. Падчас нямецкай акупацыі служыў інструктарам у школах абверу. У другой палове 1943 г. быў далучаны да плана па арганізацыі ў Беларусі канспірацыйнай дыверсійна-выведчай сеткі. Восенню 1944 г. кароткі час быў у батальёне «Дальвіц». Пасля разам з групай беларускіх дыверсантаў дзейнічаў у Італіі. Нібыта, у канцы 1944 г. атрымаў заданне ад Ус. Родзькі «перайсці на бок англічан і праінфармаваць іх пра антынямецкую працу БНП». На час капітуляцыі Нямеччыны меў рангу капітана. Вясной 1945 г. з групай байцоў перайшоў лінію ўсходняга фронту і пешым маршам дабраўся да Белавежскай пушчы. Камандзір партызанскага атрада арганізацыі «Чорны Кот». Пасля выканання спецзадання ў Маскве, у 1951 г. выехаў пад фальшывымі дакументамі ў Польшчу. Ад пачатку 1950-х жыў на Захадзе, працаваў у заходніх спецслужбах.

*Кр.: Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 30; Ліставанне аўтара са сваякамі Ю. Вежана, 2005 г.; Grzybowski J. Bialorusini*

*w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918-1945. Warszawa: Instytut studiow politycznych PAN, Oficyna wydawnicza Rytm, 2006. S. 280-282; Грыбоўскі Ю. Беларускі легіён СС: міфы і рэчаіснасць // Беларускі гістарычны агляд, 2007. Том 14. Сш. 1-2(26-27). С. 136; Арганізацыя беларускага антысавецкага падпольля ў 1943-1944 гг. у дакумэнтах нямецкіх архіваў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7). С. 63.*

***ВІТУШКА Мікалай***

Афіцэр «Дальвіца». Ураджэнец Бранскай вобл. Беларус, былы афіцэр Чырвонай Арміі. У верасні 1941 г. трапіў у нямецкі палон, быў завербаваны абверам. Здзейсніў некалькі паспяховых рэйдаў у савецкі тыл. У 1943-1944 гг. працаваў выкладчыкам у шэрагу школаў абвера ў Беларусі. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі, партыйны псеўданім «Рысь». Меў рангу маёра. Камандзір дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. Яго група з 5 чалавек пасля дэсанту перайшла ў Рудніцкую пушчу. З 3-га снежня 1944 г. знаходзіўся ў складзе атрада АК «Комара». Камандаваннем Віленскай акругі АК прызначаны намеснікам камандзіра атрада «Комара». Загінуў 7 студзеня 1945 г. у баю з савецкімі войскамі каля возера Кернава ў Рудніцкай пушчы.

*Кр.: Ёрш С., Горбік С. Беларускі Супраціў. — Львоў, 2006. С. 149-161, 359; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 112-113.*

***ГАЛЕНЧЫК Мікалай***, сын Івана

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1924 г. у Мінскай вобл. Падчас нямецкай акупацыі служыў паліцыянтам. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Дэсантаваны 21 снежня 1944 г. каля в. Стрыева Бярэзінскага раёна ў складзе групы Шпакава. Меў дакументы чырвонаармейца Чырвонай Арміі Мікалая Іванавіча Арлова. Арыштаваны 28 снежня 1944 г., знаходзіўся пад следствам у Маскве. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Стечкин В. Павел Судоплатов — терминатор Сталина. — Москва, 2005. С. 253-254.*

***ГАНЬКО Міхаіл***, сын Яўхіма (28.02.1918 — 19.06.2002)

Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся на хутары Каледзіна Лебедзеў-



скай воласці Маладзечанскага павета (цяпер — Маладзечанскі раён Мінскай вобл.). Скончыў Маладзечанскую гімназію, вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Адукацыя — незакончаная вышэйшая. У 1939-1941 гг. працаваў настаўнікам, пасля бухгалтарам у Маладзечанскім раёне. Да траўня 1941 г. працаваў загадчыкам пачатковай школы на Маладзечаншчыне, быў прызваны ў Чырвоную Армію. У ліпені 1941-га пад Псковам трапіў у нямецкі палон. Пасля вызвалення з лагеру ваеннапалонных накіраваны ў Вустраўскую школу прапагандыстаў. З пачатку 1942 г. працаваў у Мінску на пасадзе супрацоўніка аддзела прапаганды Генеральнага камісарыята. Належаў да групы беларускіх нацыянал-сацыялістаў, правадыром якой быў Ф. Акінчыц. З чэрвеня 1943 г. — шэф-праваднік Саюза Беларускай Моладзі, кантраляваў курсы кіраўнікоў арганізацыі, рэдагаваў і выдаваў часопіс «Жыве Беларусь!». Ад імя СБМ выступаў на Другім Усебеларускім кангрэсе. З лета 1944 г. — у Нямеччыне. У верасні 1944-га быў каптаваны ў склад БЦР. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі (верагодна, з 1945 года). Вясной 1945 г. служыць афіцэрам-прапагандыстам у батальёне «Дальвіц», рэдагуе ратапрынтны часопіс «Змагар» (верагодна, друкавалі яго ў Празе), які выдаваўся пры гэтым аддзеле камандасаў. Насуперак сцвярджэнням Ю. Туронка, ён не загінуў падчас Пражскага паўстання і не скончыў жыццё самагубствам. Разам з групай сяброў СБМ у траўні 1945 г. з Чэхіі праз Украіну прыйшоў у Беларусь. Адным з яго падпольных псеўданімаў быў «Доктар». У 1945-1946 гг. яго партызанскі атрад самастойна дзейнічаў на мяжы Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. У 1947 г. перабраўся ў Польшчу, дзе быў легалізаваны ў час амністыі як «былы жаўнер АК». З 1948 г. уваходзіў у Галоўны штаб беларускага партызанскага руху, якім кіраваў Міхал Вітушка. Памёр у Польшчы, пахаваны на Беласточчыне. У 2005 г. былі апублікаваныя ўрыўкі з яго даваеннага дзённіка, захаванага братам Міколам, які жыў у Канадзе.

*Кр.: Васильев П. По образу и подобию «Гитлерюгенда» // Советская Белоруссия, 1994, 11 сакавіка; Вініцкі А. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939 — 1951 гадох. — Менск: «Тэхналогія», 1994. С. 37-38; Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. —*

*Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 150; Ёрш С. Пра Міхася Ганька і Ўсевалада Родзьку // Беларус, 2003, № 485, чэрвень; Гардзіенка Н. Беларусы ў Аўстраліі. Да гісторыі дыяспары. — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2004. С. 316; Ганько Марыя. Каб сьведчылі пра Беларусь: жыцьцё й дзейнасьць Міколы Ганька. — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2005. С. 7-11, 68-72, 119-120, 125-136; Ёрш С., Горбік С. Беларускі Супраціў. — Львоў, 2006. С. 361-362; Туронак Ю. Людзі СБМ; Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Смаленск, 2008. С. 70-72; Ёрш С. Рэйд праз Карпаты. Пра беларускія атрады, якія з Чэхіі ішлі партызаніць на Радзіму // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9). С. 70-78.*

***ГЕЛДА Іван***, сын Антона (1897 — 1946)



Камандзір спецыяльнага беларускага батальёна «Дальвіц». Нарадзіўся ў в. Верхлессе Сакольскага пав. (цяпер — Польшча). Да беларускага нацыянальнага руху далучыўся падчас Першай сусветнай вайны. У складзе арміі генерала Юдзеніча ваяваў супраць бальшавікоў у Эстоніі, пасля ўступіў у аддзелы генерал-маёра Ст. Булак-Балаховіча. У міжваенны час жыў на Сакольшчыне, быў сябрам Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Трапляў пад рэпрэсіі польскіх уладаў, у прыватнасці, у 1928 г. быў асуджаны па справе Грамады. З восені 1941 г. — сябра ўправы Беларускага аб’яднання ў Беластоку. На працягу 1939-1942 гг. удзельнічаў у патайных нарадах грамадоўцаў, якія заснавалі канспірацыйную «Беларускую Народную Грамаду». У 1943 г. стаў камандзірам створанага ў Беластоку беларускага батальёну. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі, кіраўнік БНП на Беласточчыне. У траўні 1944 г. разам з групай афіцэраў і жаўнераў батальёна быў арыштаваны гестапа, якое падазравала іх у прыналежнасці да БНП. Вызвалены напрыканцы чэрвеня 1944 года. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». У студзені 1945 г. загадам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР атрымаў рангу маёра. У лютым 1945 г. уведзены ў склад БЦР. У траўні 1945 года ў Чэхіі даў загад батальёну «Дальвіц» скласці зброю, што дазволіла пазбегнуць узброенага канфлікту з мясцовымі антыфашысцкімі партызанамі. Арыштаваны ў чэрвені 1945 г. на Беласточчыне. Пакараны смерцю.

*Кр.: Беларускі дзень, 1928, №10, 16 сакавіка; Загад Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР № 24 ад 13 студзеня 1945 г. // НАРБ, ф.383, воп. 1, спр. 3, арк. 28; Леоновец А. Кто «каину» руку подаст? // Советская Белоруссия, 1993, 22 чэрвеня; Ёрш С. Загінуў на шыбеніцы // Ніва, 1996, № 15, 14 красавіка; Ёрш С. Зноў пра маёра Гелду // Ніва, 1997, № 2, 12 студзеня; Загінуў на бальшавіцкай шыбеніцы... // Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск — Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 54-58; Белямук М. Свайго лёсу не мінеш. — Вільня, 2006. С. 36-41; Грыцук В. Мы стваралі сваю Беларусь: жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука. — Мінск: Медисонт, 2007. С. 110.*

***ГІНЬКО Іван***, сын Філіпа (3.01.1912 — 1980-я)



Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Загор'е Залескай гміны на Дзісненшчыне (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобл.). У 1927 г. скончыў 7-гадовую школу ў Глыбокім, у 1931 г. — глыбоцкую прыватную гімназію імя Люблінскай вуніі. Быў запісаны палякам, але выпісваў беларускі часопіс «Шлях моладзі». Адукацыя вышэйшая — у 1939 г. закончыў Варшаўскую палітэхніку па спецыяльнасці інжынер геадэзіі. У 1930-х гг. быў актывістам Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве. У 1940-1941 гг. працаваў па спецыяльнасці ва ўсходняй Беларусі. З восені 1941 г. — старшыня Беларускай Народнай Самапомачы ў Глыбоцкай акрузе. У ліпені 1942 г. быў прызначаны камандантам акруговага аддзелу БСА ў Глыбокім. Сябра ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі. 29 лютага 1944 г. быў прызначаны намеснікам БЦР на Слуцкую акругу, але ад пасады адмовіўся і ўжо 1 сакавіка 1944 г. быў адклікованы. У траўні 1944 г. зусім вызвалены ад працы ў БЦР. Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Круглы». Арыштаваны 29 лістапада 1944 г. у Іўеўскім раёне Маладэчанскай вобл. Пакаранне адбываў у Інце (поўнач Расіі). На волю выйшаў у 1956 г., жыў у Інце, пасля шлюбу з габрэйкай — у Маскве.

*Кр.: Загад № 4 галоўнага каменданта БСА І. Ермачэнкі ад 30 ліпеня 1942 г. // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10). С. 78-79; За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі..., С. 88-89; NKWD o polskim*

*podziemiu. 1944 − 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 165-166; Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Ёрш С. Варшаўскае дасье генэрала Вітушкі // Наша ніва, 1999, № 6, 29 сакавіка; Каваль Я. Янка Гінько — нацыяналіст з Дзісьненшчыны // Голас Краю, 2002, № 1 (16); Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 114.*

***ГРОС Пятро***, сын Іосіфа

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1923 г. у в. Пудзіна Навагрудскага раёна Баранавіцкай вобл. Адукацыя сярэдняя. У 1942-1944 гг. працаваў перакладчыкам у акруговым камісарыяце ў Лідзе. З 1942 г. быў сябрам Беларускай народнай самапомачы. З лета 1944 г. — у «Дальвіцы». Шэраговец БКА. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Лайза». Затрыманы 18-21 лістапада 1944 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 178; Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность / / Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113.*

***ГРУЗДЗЕЎ Б.***

Дэсантнік «Дальвіца». Рускі, ураджэнец Сталінграда (?). Закінуты ва Ўсх. Прусію ў складзе савецкай дыверсійна-разведвальнай групы, як радыст. Быў затрыманы і пераверабаваны (паводле сведчання А. Вайтовіча, Барысам Рагулям). Удзельнік дэсанта «Дальвіца» ў ноч з 16 на 17 верасня 1944 г. Дэсантаваўся на Смаргоншчыне. Дзейнічаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Віленшчыны разам з І. Каралём больш за месяц. 30 кастрычніка 1944 г. затрыманы на чыгуначнай станцыі ў Лідзе. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжна-*

*роднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 108-112;*

*Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 117.*

***ГРЫГАРОВІЧ*** (ГРЫГАРЦЭВІЧ) ***Іван***

Дэсантнік «Дальвіца». Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Яначка». Апынуўся ў групе Мікалая Вітушкі, якая перайшла ў Рудніцкую пушчу. З 3 снежня 1944 года знаходзіўся ў складзе атрада АК «Комара». З другой паловы лютага 1945 г. — у атрадзе АК «Мысьлівага». Нелегальна перайшоў на тэрыторыю Польшчы. Паводле няпэўных звестак, якія мела савецкая дзяржбяспека, служыў у польскім войску ў ранзе паручніка. Далейшы лёс невядомы. Паводле Ю. Грыбоўскага, ён мог быць арыштаваны польскай службай бяспекі.

*Кр.: Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня; Сямашка Я. Армія Краёва на Беларусі. — Мінск: Беларускае выдавецкае таварыства «Хата, 1994. С. 217 (Я. Сямашка ў згаданых публікацыях, відаць, памылкова падае прозвішча Грыгаровіча як «Грыгарцэвіч» — **СЁ**); Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113; Grzybowski J. Bialorusini w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918-1945. Warszawa: Instytut studiow politycznych PAN, Oficyna wydawnicza Rytm, 2006. S. 428.*

***ГРЫГОР'ЕЎ Цімафей***

Баец «Дальвіца». 1920 (?) г. н. Скончыў 7 класаў польскай школы. Да вайны, ужо пры савецкай уладзе, закончыў бухгалтарскія курсы і працаваў па спецыяльнасці ў в. Полава Шаркоўшчынскага раёну. Падчас нямецкай акупацыі працаваў бухгалтарам у Шаркоўшчыне. Вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі, сябра Пастаўскай арганізацыі Беларускай Незалежніцкай Партыі. У 1944 г. быў на «курсах беларускіх камандзіраў» у Мінску (альбо СБМ, альбо ў камандзірскай школе БКА). Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Пасля капітуляцыі Нямеччыны вярнуўся ў Беларусь, быў арыштаваны. Адбываў пакаранне ў нарыльскім канцлагеры. Пасля вызвалення вярнуўся ў Беларусь. З 1957 г. працаваў у Шаркоўшчыне ў школе загадчыкам вучэбнай майстэрні,

выкладаў працу. Завочна навучаўся ў Мінскім індустрыяльным педагагічным тэхнікуме. У 1964 годзе ў газеце «Голас Радзімы» надрукаваў успаміны, у якіх прызнаваў свае памылкі, шкадаваў, што патрапіў у «Дальвіц», асуджаў яго камандзіраў. Быў жывы ў канцы 1990-х гг.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня; Грыгор'еў Ц. Успамінаючы мінулае... // Голас Радзімы, 1964, № 27-28, красавік; Вяртаньне БНП..., С. 28, 90, 91; Казак К.: «Тады мы верылі, што будзем самастойныя» // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1 (4). С.95.*

***ГРЫНЕВІЧ Юльян***

Баец «Дальвіца». Праходзіў падрыхтоўку восенню 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, 15 кастрычніка.*

***ГРЫЦУК Мікола***, сын Юльяна



Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Міхноўцы на Беласточчыне (цяпер Падляскае ваяводства Польшчы). Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. З сакавіка 1943 г. служыў у Беластоцкім беларускім батальёне І. Гелды. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. У траўні 1944 г. арыштаваны гестапа, вызвалены напрыканцы чэрвеня. Быў прыхільнікам антыбальшавіцкай партызанскай барацьбы, прайшоў падрыхтоўку ў «Дальвіцы». Сям'я Грыцука была перакананая, што Мікола «зьнік бязь вестак, будучы ў беларускім антыбальшавіцкім падпольлі Родзькі-Гелды». А Ю. Грыбоўскі сведчыць, што М. Грыцук быў арыштаваны ў Польшчы ў 1952 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 56-57; Паведамленне Ю. Грыбоўскага аўтару ад 5 снежня 2005 г.; Грыцук В. Мы стваралі сваю Беларусь: жыццё і дзейнасьць Аляксея Грыцука. — Мінск: Медисонт, 2007. С. 9, 10, 13, 67.*

***ГРЫШКЕВІЧ Часлаў***

Баец «Дальвіца». Паходзіў з Крывіцкага павету Вілейскай вобл. (цяпер Мядзельскі раён Мінскай вобл.). Праходзіў падрыхтоўку

ў «Дальвіцы» восенню 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, 1 кастрычніка; 1944, 15 кастрычніка.*

***ДАВІДЧЫК Філіп***, сын Аляксандра



Дэсантнік «Дальвіца», лейтэнант. Нарадзіўся ў 1925 г. у в. Рэвяцічы (па іншых звестках — у в. Галынь, Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). Настаўнік паводле адукацыі, скончыў Навагрудскую настаўніцкую семінарыю. З канца 1943 г. — у эскадроне Б. Рагулі. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Са жніўня 1944 г. праходзіў падрыхтоўку ў «Дальвіцы». У кастрычніку 1944 г., разам з М. Рулінскім, вывозіў архіў кіраўніка Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР К. Езавітава з Рыгі. Быў узнагароджаны. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. Перад адлётам узяў шлюб з радысткай Верай Краскоўскай. Арыштаваны ў лістападзе 1944 г. Паводле К. Шышэі, «у дадзенай сітуацыі Давідчык аказаўся не на ўзроўні пастаўленых перад ім задач». Быў асуджаны. Пакаранне адбываў у Казахстане (недакладна). Пасля вызвалення з савецкіх канцлагераў жыў у Грузіі, у Тбілісі, дзе стварыў новую сям'ю. Нібыта, стаў навукоўцам-матэматыкам. Паводле іншай версіі, завочна скончыў Маскоўскі інстытут па механізацыі, працаваў у Тбілісі на тытунёвай фабрыцы. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Мальдзіс А. Лёс архіва Кастуся Езавітава // Беларускі дайджэст, 1996, № 10(34), кастрычнік; NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 166; Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск — Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 47, 66, 92; Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 133, 136, 137, 143; Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 107, 110, 114-118.*

***ДАРАЖЭЙ Мікола***

Баец «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Неўда (Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). Служыў у Навагрудскім батальёне БКА. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Быў арыштаваны, асуджаны. Пасля вызвалення вярнуўся ў Беларусь. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Недабітыя // Беларускі голас, 1961. № 77. Студзень; Стагановіч А. Успаміны пасла // Запісы БІНіМ. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 316.*

***ДЗЯКОЎСКІ Віталь***

Баец «Дальвіца». Праўдападобна, ураджэнец Навагрудчыны. Праходзіў падрыхтоўку ў канцы 1944 г. — у пачатку 1945 г. Іншых звестак не выяўлена.

*http://www.reibert.info/forum/showthread.php?t=40391*

***ДЗЯЧУК Д.***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. Арыштаваны ў Беластоку летам 1945 года. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 34.*

***ДРУЦЬКА Мікалай***

Афіцэр «Дальвіца». Ураджэнец Карэліч. Служыў у польскім войску, у кавалерыі. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі ў Карэлічах. Быў арыштаваны немцамі за нейкую правіннасць. З канца 1943 г. — у эскадроне Б. Рагулі, камандзір звяза коннікаў, лейтэнант. З жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Верагодна, восенню 1944 г. сыйшоў у іншы вайсковы аддзел. Паводле версіі Ўл. Сіўка, загінуў у Францыі. Нібыта, быў западозраны ў сувязі з французскімі партызанамі і расстраляны немцамі.

*Кр.: Паведамленне Яўгена Усюкевіча аўтару ад 7 чэрвеня 1996 г.; Камэнтары і заўвагі Ўладзімера Сіўка да публікацыі пра Наваградзкі швадрон // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9). С. 25.*

***ЁЎСА*** (ЕЎСА) ***Ганна***

Радыстка «Дальвіца». Ураджэнка Навагрудскага раёна (былы Любчанскі раён) Гродзенскай вобл. Падчас нямецкай акупацыі вучылася ў настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку. Яе брат Зміцер служыў у эскадроне Б. Рагулі. У 1944 годзе яе сям'ю, што жыла каля Любчы, па-зверску забілі лясныя бандыты. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». У батальёне заставалася да капітуляцыі Нямеччыны. Пасля вайны, праўдападобна, апынулася ў нямецкай Сілезіі (г. Лігніца, Легніца), дзе ў 1947 г. была арыштаваная альбо вывезеная ў СССР і ўжо там трапіла пад следства. Пасля савецкіх канцлагераў жыла ў Краснадары. Была жывая ў 2001 годзе, цяжка хварэла.

*Кр.: Ліст Ганны Ёўсы (Мароз) да Андрэя Вайтовіча ад 16.7.2001 г. Копія — у архіве аўтара; Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.*

***ЖАБУРТОВІЧ***

Дэсантнік «Дальвіца». Пасля раззбраення «Дальвіца» ў Чэхіі патрапіў у Чырвоную Армію. Восенню 1945 г. разам з М. Зуём дэзерціраваў у Польшчы. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Вяртаньне БНП..., С. 79.*

***ЖУК Іван***

Баец «Дальвіца». Падчас нямецкай акупацыі жыў у Старобіне Слуцкага павету. Праходзіў падрыхтоўку ў «Дальвіцы» восенню 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, 1 кастрычніка.*

***ЖЫХАР Яўген***, сын Івана (1925 — 1955)



Баец «Дальвіца». Паводле асабістых дакументаў, нарадзіўся ў в. Навасёлкі Мядзельскага раёна. Жыў на хутары Любянішкі каля в. Новадруцк (цяпер — в. Парыж) Пастаўскага раёна. Да 1941 г. вучыўся ў сямігодцы ў в. Асінавы гарадок. Падчас нямецкай акупацыі — навучэнец Пастаўскай настаўніцкай семінарыі (1943-1944 гг.). Быў сябрам Саюзу беларускай моладзі. Лічыўся таленавітым паэтам. У 1944 г. уступіў у Беларускую Незалежніцкую Партыю, быў удзельнікам «баявой групы» В. Сікоры. Летам 1944 г. адступіў ва Ўсх. Прусію, праходзіў навучанне ў «Дальвіцы». У 1945 г. на тэрыторыі Нямеччыны быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, дзе праслужыў некалькі месяцаў. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Беларусь, працаваў настаўнікам Верацееўскай пачатковай школы ў былым Дунілавіцкім раёне (цяпер — Пастаўскі раён Віцебскай вобл.). У 1946 г., пры пагрозе арышту, перайшоў на нелегальнае становішча. Далучыўся да партызанскага атрада Яна Каралёнка, а пасля стаў яго камандзірам. За час дзейнасці ўдзельнікамі атрада былі здзейсненыя 23 тэрарыстычныя акты. Да 1955 г. амаль увесь атрад быў знішчаны савецкімі органамі дзяржбяспекі, толькі адна група здолела сыйсці за мяжу праз Балтыйскае мора. Сам Жыхар перад сыходам на Захад ства-

раў канспірацыйную сетку. У студзені 1955 г. загінуў у баю з супрацоўнікамі КГБ у в. Карповічы Дунілавіцкага раёна.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, 1 кастрычніка; Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім, 1998. С. 28, 30, 32, 92, 93; Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944 — 1956 / Даведнік. — Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999. С. 41; Скрабатун Ул. Сваю газэту — кожнаму хутару // Наша ніва, 2001, 29 студзеня; Ёрш С. Жыхар быў беларускім партызанам-незалежнікам // Вольнае Глыбокае, 2003, № 25, 19-25 чэрвеня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 117.*

***ЗАНКАВІЧ*** (ЗАНКОВІЧ) ***Аўген*** (1923 — 1998)



Баец «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1923 г. на Глыбоччыне. Сын праваслаўнага святара. Кіраўнік СБМ у Пастаўскім раёне. Вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі, скончыў Альберцінскія курсы СБМ. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Выпускнік камандзірскага курсу батальёну «Дальвіц», лейтэнант, дружыновы. Паводле сведчання Ю. Брэчкі, у пачатку 1945 г. узяў шлюб з радысткай «Дальвіца» Н. Лабовіч. У траўні 1945 г. здолеў з Чэхіі перабрацца ў зону акупацыі Нямеччыны заходнімі саюзнікамі. Жыў у беларускім лагеры ДП у Ватэнштэце. Сябра Замежнага сектару БНП. У кастрычніку 1952 г. быў абраны старшынём Згуртаваньня Беларускіх Студэнтаў у Лювэне (Бельгія). Неўзабаве пераехаў у ЗША, жыў у г. Саўт-Рывер. Быў прыхільнікам БЦР, абіраўся ў яе кіраўнічыя органы. Быў старшынём Арганізацыі беларускіх вайскоўцаў у Саўт-Рыверы, актывістам Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі. Яшчэ ў 1959 г. КГБ БССР з дапамогай польскіх спецслужбаў займаўся яго «распрацоўкай», верагодна, з мэтай прыезду ў Польшчу з наступным яго арыштам і спробай вярбоўкі.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня, 24 верасня; Сьв. Памяці Аўген Занкавіч // Беларуская думка (ЗША), 1998, № 44. С. 38; Ёрш С. Вяртаньне*

*БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск — Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 26, 28, 80, 93; Ліст Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.; Гардзіенка А. Беларускі асяродак у Саўт-Рыверы (ЗША). http://zbsb.org/index.php?view=article&catid=34%3A2008-08-07-08-35-02&id=3062%3A-q-q&option=com_content&Itemid=104 ; Грыбоўскі Ю. Службы бяспекі ПНР і «беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх палітычныя цэнтры на Захадзе» (1945-1974) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 185; Ёрш С. Замежны сэктар Беларускай Незалежніцкай Партыі. 1945-1955 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1 (8). С. 14, 23, 28, 31.*

***ЗУЙ Міхаіл***, сын Міхаіла (23.10.1909 — 24.04.1995)



Афіцэр «Дальвіца», лейтэнант. Нарадзіўся ў в. Вялікае Сяло Германаўскай воласці Дзісенскага павета (цяпер Шаркаўшчынскі раён Віцебскай вобл.). Вучыўся ў рускіх і польскіх школах, меў адукацыю — сем класаў польскай школы. Прайшоў «аднагадовы курс сельскай гаспадаркі». Да беларускага руху далучыўся ў 1930-х гг., кіраваў суполкай польскага «Кола вясковай моладзі», у рамках якога праводзіў беларускую культурніцкую працу. У 1940 г. быў завербаваны НКВД, аднак сцвярджаў, што нікому ніякай шкоды не зрабіў. У 1940-1941 гг. вучыўся ў сельскагаспадарчым паляводчым тэхнікуме ў Глыбокім. З восені 1941 года — старшыня Беларускай Народнай Самапомачы ў Германавічах. З лістапада 1941 г. — старшыня Германаўскай воласці. У траўні 1942 года прызначаны начальнікам Шаркоўшчынскага павету. З 1943 года — сябра БНП, пазней — сябра ЦК БНП (верагодна, меў псеўданім «Колас»). Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы», камандзір звяза, выкладаў шыхтавую падрыхтоўку. Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі, разам з групай камандасаў быў затрыманы савецкімі вайскоўцамі. Мабілізаваны ў Чырвоную Армію, восенню 1945 г. на тэрыторыі Польшчы, перад пагрозай арышту, дэзертыраваў. У 1945-1948 гг. — на нелегальным становішчы ў Польшчы. Напрыканцы чэрвеня 1948 г. перабраўся ў амерыканскую зону акупацыі Берліна. У пачатку восені 1948 г., з дапамогай сяброў БНП М. Маеўскага і Ўл. Сенькі, на самалёце выляцеў у англійскую зону акупацыі Нямеччыны. Жыў у

беларускім лагеры ДП у Ватэнштэце. Сябра ЦК Замежнага сектара БНП. Са жніўня 1949 г. — у Аўстраліі, жыў у Сіднеі. Кіраўнік Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі (з 1952 года). Адзін з кіраўнікоў Беларускага Вызвольнага Фронту. У 1949 г. атрымаў ад прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага рангу надлейтэнанта, у 1978 г. — ад прэзідэнта БЦР Н. Мядзейкі «рангу генэрала». На XIX Пленуме БЦР у 1987 годзе быў абраны прэзідэнтам БЦР. Пахаваны на беларуска-ўкраінскай сэкцыі могілак Роквуд у Сіднеі.

*Кр.: Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 157; Вежан Я. [Ёрш С.] Памёр Міхась Зуй // Пагоня (Гродна), 1995, № 23, 16-22 чэрвеня; Ёрш С. Лісты прэзыдэнта // Пагоня, 1995, № 46, 8-14 сьнежня; Ёрш С. Успамін пра Міхася Зуя // Ніва, 1996, № 39, 29 верасня; Лісты прэзыдэнта // Вяртаньне БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск — Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 69-83; Гардзіенка Н. Беларусы ў Аўстраліі. Да гісторыі дыяспары. — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2004. С. 422-423; Ёрш С. Замежны сэктар Беларускай Незалежніцкай Партыі. 1945-1955 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1 (8). С. 18-21, 24, 25, 36, 41.*

*Тв.: Зуй М. Мая аўтабіяграфія // Вяртаньне БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск — Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 71-82.*

***ЗЫБАЙЛА Рыгор***, сын Барыса (15.09.1913 — 15.11.1987)



Афіцэр «Дальвіца». Ураджэнец в. Ёлкі цяперашняга Івацэвіцкага раёна. Паводле Б. Данілюка, скончыў унівэрсітэт у Пазнані «з ступеняй лясного інжынера». Быў падафіцэрам польскага войска. У верасні 1939 г. ваяваў супраць немцаў, патрапіў у палон. Дасылаў допісы, вершы ў берлінскую беларускую газету «Раніца». У 1940 г. уцёк з лагера, спрабаваў вярнуцца ў Беларусь, але быў затрыманы савецкімі памежнікамі. У жніўні 1940 г. падчас знаходжання ў брэсцкай турме быў завербаваны савецкай дзяржбяспекай (мянушка «Ёлкін»). Для «распрацоўкі асяроддзя беларускіх нацыяналістаў» яго перакінулі ў акупаваную немцамі Польшчу. У 1940-1941 гг. працаваў на «адказнай пасадзе» ў філіі Беларускага камітэта ў Белай-Падлясцы. Верагодна, быў завербаваны абверам. Падчас нямецкай акупацыі выйшаў з-пад кантролю НКГБ.

З канца 1941 г. кіраваў Слонімскім акруговым камітэтам Беларускай Народнай Самапомачы. У канцы 1942 г. пераведзены на пасаду старшыні павета ў Дзярэчын. З лета 1943 г. — намеснік старшыні Беларускай Самапомачы Ю. Сабалеўскага ў Мінску. З сакавіка 1944 г. быў начальнікам БКА ў Глыбоцкай акрузе, меў рангу лейтэнанта. Сябра ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы», надлейтэнант (старэйшы лейтэнант). З канца 1944 г. служыў у 1-м Кадравым батальёне БКА ў Берліне, пасля патрапіў на заходні фронт у дывізію Зіглінга. У канцы 1944 г. разам са сваім аддзелам перайшоў да французскіх партызанаў. З падачы І. Касяка, на эміграцыі панавала версія пра расстрэл Зыбайлы польскай контрразведкай у 1945 г. у Марселі. Насамрэч, ён быў завербаваны спецслужбамі, верагодна, французскімі, працаваў інструктарам. 1 чэрвеня 1946 г. быў затрыманы савецкімі спецслужбамі ў Берліне. 21 сакавіка 1947 г. асуджаны Ваенным трыбуналам МВД Гродзенскай вобл. да 10 гадоў зняволення. У другой палове 1950-х гг. вярнуўся ў Івацэвіцкі раён, працаваў будаўніком. Ажаніўся з былой сакратаркай прэзідэнта БЦР Еўдакіяй Казловай. Пахаваны ў в. Яглевічы Івацэвіцкага раёна.

*Кр.: Вяртаньне БНП... С. 93-94; Данілюк Б. Бог забраў яго зарана // Голас камбатанта (Слонім), 2000, № 2, ліпень; Ёрш С. Рыгор Зыбайла не загінуў у Францыі, а прайшоў савецкія канцлягеры // Голас камбатанта, 2000, № 3, жнівень; Дэсантнік пахаваны пад Івацэвічамі // Голас Краю, 2001, № 3 (14); Ёрш С. Пра лёс Рыгора Зыбайлы // Беларус (Нью-Ёрк), 2002, № 477, кастрычнік; Грыбоўскі Ю. Польска-беларускі канфлікт у Генеральнай акрузе «Беларусь» (1941-1944 гг.) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2006, № 25. С. 129, 130, 155-162; Грыбоўскі Ю. Беларускі рух і Нямеччына напярэдадні і ў пачатку Другой сусьветнай вайны // Архэ, 2009, № 5. С. 157.*

***ІВАНОЎ Арсень***

Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1919 г. у в. Шкяліх (?) Глыбоцкай акругі. Сябра СБМ. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Выпускнік камандзірскага курсу батальёна «Дальвіц», лейтэнант. Быў арыштаваны. Пасля вызвалення вярнуўся ў Беларусь, стварыў сям'ю, працаваў прарабам на будоўлі (на 1964 год). Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, № 38 (200), 17 верасня; 1944, 24 верасня; Грыгор'еў Ц. Успаміна-*

*ючы мінулае... // Голас Радзімы, 1964, № 27-28, красавік; Беларускі голас (Таронта), 1964, № 118, чэрвень.*

***ІГНАТОВІЧ Мікалай***

Баец «Дальвіца». Пасля капітуляцыі Нямеччыны здолеў перабрацца на Захад (ішоў з Чэхіі ў складзе 7-асабовай групы А. Занковіча). Жыў на эміграцыі. Верагодна, у траўні 1948 г. браў удзел у заснаванні Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва ў Нямеччыне (магчыма, у спісе заснавальнікаў згадваецца іншы Мікола Ігнатовіч). У пазнейшы час ад актыўнай грамадскай дзейнасці адыйшоў. Памёр.

*Кр.: Панькоў М. Хроніка беларускага жыцця на чужыне (1945-1984). — Мінск, 2001. С. 39; Лісты Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 17 траўня 2003 г. і 14 жніўня 2004 г.*

***ІЎЧАНКА Пракоп***

Афіцэр «Дальвіца», лейтэнант. Падпісаў вядомы ліст афіцэраў «Дальвіца» ў Вайсковы аддзел БЦР ад 9 снежня 1944 г. наконт супрацоўніцтва з генералам А. Власавым. Неўзабаве сыйшоў з батальёна. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, 25 снежня; Ёрш С. Усевалад Родзька — правадыр беларускіх нацыяналістаў. — Менск: Голас Краю, 2001. С. 32; Ліст Ю. Найдзюк (Брэчкі) да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.*

***КАБАК Мікалай***

Баец «Дальвіца» ад жніўня 1944 г. Нарадзіўся на тэрыторыі былой Вілейскай вобл. Іншай інфармацыі не выяўлена.

*Кр.:Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 110.*



***КАЖАН Сяргей*** (1916 — 2000)

Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Вялікае Сяло на Шаркаўшчыне. Да беларускага руху далучыўся ў 1930-х гг., удзельнічаў у дзейнасці польскага «Кола вясковай моладзі», у рамках якога праводзілася беларуская культурніцка-асветніцкая праца. У 1938-1939 гг.

служыў у польскім войску. У верасні 1939-га ваяваў супраць немцаў пад Варшавай, патрапіў у палон. Восенню 1939 г. вызвалены, вярнуўся ў Беларусь. У 1942 г. скончыў курс падафіцэраў Беларускай самаахловы ў Глыбокім. У 1942-1944 гг. кіраваў камітэтам Беларускай Народнай Самапомачы ў Браслаўскім раёне. У пачатку 1944 г. стаў супрацоўнікам абверу, камандзірам «баявой групы» (пазней яе ўдзельнікаў назавуць «каліноўшчыкамі»). Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад жніўня 1944 г. — сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Старшына батальёна «Дальвіц», выпускнік камандзірскага курсу. У студзені 1945 г. загадам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР атрымаў рангу лейтэнанта, звязовы. Пасля капітуляцыі Нямеччыны быў прызваны ў Чырвоную Армію, пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Беларусь. У 1946 г. арыштаваны, асуджаны на 10 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў на Інце. Уваходзіў у «сілавое ядро», якое складалася з «дужых, баявых хлопцаў», і было заклікана абараняць палітвязняў-беларусаў. Пасля вызвалення ў 1956 г. вярнуўся на радзіму. «У родных мясьцінах мясцовае кіраўніцтва жыць не дазволіла — загадалі пакінуць раён на працягу 24 гадзінаў», — успамінаў С. Кажан. Ён купіў дом у Полацку, працаваў вартаўніком, рабочым.

*Кр.: Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.). — Менск: Наша ніва, 1997. С. 173; Кажан С. «У БНП я з жніўня 1944-га...» // Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18; Паведамленне А. Аркуша ад 13 верасьня 2000 г.; [Ёрш С.] Сьв. Пам. Сяргей Кажан // Голас камбатанта (Слонім), 2000, № 4, верасень-кастрычнік; Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 267; Паведамленне Г. Кірылава ад 19 ліпеня 2003 г.*

***КАЗАК Канстанцін***, сын Сцяпана (2.01.1926 — 2008)



Баец «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Германавічы Шаркаўшчынскага раёна. Скончыў Германавіцкую школу, настаўніцкія курсы. У 1942-43 гг. працаваў настаўнікам у Лужках. Летам 1944 г. выехаў у Польшчу, дзе быў завербаваны ў батальён «Дальвіц». Пасля яго раззбраення ў Чэхіі перабраўся ў Польшчу, скончыў вышэйшыя настаўніцкія курсы пры педінстытуце г. Торунь, працаваў настаўнікам. У 1948 г. арыштаваны і вывезены ў

СССР. Асуджаны ваенным трыбуналам на 25 гадоў лагероў і 5 гадоў паражэння ў правах. Пакаранне адбываў у Нарыльску, Горлагу. Вызвалены ў 1955 г. Жыў у Шаркаўшчыне.

*Кр.: Вернутыя імёны // Бацькаўшчына. Выданне культурна-асветніцкага цэнтра імя Я. Драздовіча і ТБМ імя Ф. Скарыны (в. Германавічы Шаркаўшчынскага раёна). 2003, № 2, люты; Казак К.: «Тады мы верылі, што будзем самастойныя» // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1 (4). С. 92-95.*

***КАЙДАК Міхаіл***

Дэсантнік «Дальвіца». Ураджэнец в. Капашчава Любчанскага раёна (цяпер — Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). З канца 1943 г. служыў у эскадроне Б. Рагулі. З лета 1944 г. — у «Дальвіцы», шэраговец БКА. Пасля дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. вярнуўся ў сваю вёску, знаходзіўся на нелегальным становішчы, хаваўся ў сваякоў. Паводле сведчання рагулёўца Яўгена Усюкевіча, звар'яцеў. 12 верасня 1951 г. быў затрыманы аператыўнай групай Упраўлення МГБ Баранавіцкай вобл. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Паведамленне Яўгена Ўсюкевіча аўтару ад красавіка 2001 г.; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 114.*

***КАРОЛЬ І.***

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1923 г. у в. Луні Браслаўскага раёна Вілейскай вобл. (цяпер Браслаўскі раён Віцебскай вобл.). Настаўнік паводле адукацыі. Да пачатку вайны працаваў настаўнікам пачатковай школы ў Ільянскім раёне Вілейскай вобл. У 1941-1943 гг. жыў у в. Пушча Браслаўскага раёна, працаваў настаўнікам Слабадской народнай школы. У траўні 1944 г. скончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю. У траўні 1944 г. у Дзвінску (Даўгаўпілсе) быў арыштаваны СД, 38 дзён правёў за кратамі. Летам 1944 года выехаў ва Ўсходнюю Прусію, уступіў у Дальвіцкую разведшколу. У пачатку верасня 1944 г. быў прыняты Ўс. Родзькам у Беларускую Незалежніцкую Партыю, атрымаў паўнамоцтвы на арганізацыю і кіраўніцтва падполлем БНП на тэрыторыі Вілейскай вобл. Удзельнік дэсанта «Дальвіца» ў ноч з

16 на 17 верасня 1944 г. Дэсантаваўся на Смаргоншчыне. Дзейнічаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Віленшчыны больш за месяц. 30 кастрычніка 1944 г. затрыманы на чыгуначнай станцыі ў Лідзе, аказваў узброенае супраціўленне, параніў супрацоўніка НКГБ. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 108-112.*

***КАРСЮК Ігнат***

Баец «Дальвіца». Старшы стралец. Загінуў у баі з савецкімі парашутыстамі ва Ўсходняй Прусіі 16 кастрычніка 1944 года. Пасмяротна быў ўзнагароджаны «бронзавым медалём за адвагу».

*Кр.: Раніца, 1944, № 44, 29 кастрычніка; НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 9, арк. 21; Іх лёсы звязаныя з Вільняй. С. 130.*

***КАСМОВІЧ Дзмітрый*** (21.09.1909 — 23.04.1991)



Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў Нясвіжы. Стрыечы брат Міхала Вітушкі, кіраўніка беларускага паваеннага антысавецкага Супраціву. Скончыў Радашковіцкую беларускую гімназію (1927). Вучыўся ў Бельгіі, быў актыўным сябрам Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. У 1931-1934 гг. служыў у польскім войску. Пасля дэмабілізацыі вучыўся ў Бельгіі і Югаславіі. З восені 1939 г. працаваў у савецкай адміністрацыі ў Нясвіжы. Быў дэлегатам Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку, уваходзіў у склад дэлегацыі, якая паехала ў Маскву, сустракалася са Сталіным. У 1940-1941 гг. вучыўся ў мінскай палітэхніцы. З ліпеня 1941 г. працаваў у грамадзянскай адміністрацыі ў Мінску, пасля ачольваў мясцовую паліцыю. У лістападзе 1941 г. выехаў на Браншчыну, дзе ствараў паліцыйныя аддзелы. З вясны 1942 г. — у Смаленску, як інспектар службы парадку, стварае паліцыйныя аддзелы ў акрузе, змагаецца супраць савецкіх партызанаў. Сябра ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі (псеўданімы «Сава», «Каршун»). На лета 1944 г. меў рангу маёра. Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. У Нямеччыне быў супрацоўнікам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў

БЦР. У сакавіку 1945 года лічыўся афіцэрам «Дальвіца». У паваенны час жыў у Заходняй Нямеччыне, у Штутгарце. Быў кіраўніком Замежнага сектара БНП, Беларускага Вызвольнага Фронту, дэлегатуры БЦР у Нямеччыне, пазней — у Еўропе. Прадстаўляў беларускі вызвольны рух у міжнародных антыкамуністычных арганізацыях. Выдаваў часопіс «Барацьба», дзе выступаў з публіцыстыкай. У канцы 1970-х ад прэзідэнта БЦР Н. Мядзейкі атрымаў рангу «генэрала». Аўтар успамінаў.

*Кр.: Сьв. Пам. Дзьмітры Касмовіч // Беларус, 1991, № 379, сакавік-красавік; Памяці Дзьмітра Касмовіча // Беларус, 1991, № 380, травень-чэрвень; Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 160; Беларускі генэрал-антыкамуніст // Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 36-45; Б. П. Змагар за вызваленьне Бацькаўшчыны // Голас камбатанта, 2001, № 1 (6), вясна; Ёрш С. Генэрал Касмовіч // Наша ніва, 2001, 25 красавіка, № 17; Каваль Я. Генэрал вызвольнага фронту. — Менск, «Голас Краю», 2002.*

*Тв.: Касмовіч Дз. За вольную і сувэрэнную Беларусь. — Вільня: Gudas, 2006.*

***КАТОВІЧ Язэп***

Баец «Дальвіца». Праходзіў падрыхтоўку ў канцы 1944 г. — у пачатку 1945 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1945, 10 студзеня.*

***КВЯТКОЎСКІ Юрый*** (?)

Баец «Дальвіца». Ураджэнец Слонімшчыны. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у грамадзянскіх установах у Слоніме. Увосень 1944 г. разам з лейтэнантам І. Барысікам займаўся вярбоўкай беларусаў у «Дальвіц» у працоўных лагерах у Нямеччыне. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Ліст да аўтара Ю. Брэчкі ад 14 жніўня 2004 г.*

***КІСЛЫ***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення «Дальвіца» ў Чэхіі патрапіў у Чырвоную Армію. Восенню 1945 г. дэзерціраваў разам з М. Зуём на тэрыторыі Польшчы. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Вяртаньне БНП..., С. 79.*

***КОНЮХ Васіль***, сын Васіля



Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1922 г. у мястэчку Турэц Мірскага раёна Баранавіцкай вобл. (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобл.). Брат вядомага опернага спевака Пятра Конюха (1910 — 1994), які ў паваенны час жыў на эміграцыі. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку. Служыў у эскадроне/батальёне Б. Рагулі. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. З жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы», прайшоў поўны курс навучання. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Артыст». Паводле А. Салаўёва, меў асабістае зданьне Ўс. Родзькі. Арыштаваны ў лістападзе 1944-га. Пасля адбыцця пакарання жыў у г. Аляксандраве Ўладзімірскай вобл. Расіі. Быў жывы ў 2011 годзе (інфармацыя *«КП в Беларуси»* ад снежня 2011 г.).

*Кр.: Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 85, 86; NKWD o polskim podziemiu. 1944 − 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 165; Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 133, 136-139, 153; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113-114; Кошур С. Чистый голос // Советская Белоруссия, 2007, 11 верасня, № 170; Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 127; Кривец Н. Белорусский Шаляпин ни разу не выступил на родине // Комсомольская правда в Беларуси, 2011, № 234, 8-14 снежня.*

***КОРБУТ Міхаіл***, сын Пятра

Афіцэр «Дальвіца», лейтэнант. Займаўся вярбоўкай добраахвотнікаў. Быў арыштаваны. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: http://www.reibert.info/forum/showthread.php?t=40391*

***КРАКАСЕВІЧ*** (КРАСАКЕВІЧ) ***Іван***, сын Якава

Баец «Дальвіца». Ураджэнец Случчыны. Паводле некаторых

звестак, быў начальнікам канцылярыі ў «Дальвіцы». Верагодна, пасля раззбраення «Дальвіца» ў Чэхіі здолеў вярнуцца ў БССР, быў арыштаваны і завербаваны МГБ. Летам 1945 г. у Беластоку дапамагаў савецкім спецслужбам праводзіць арышты былых байцоў «Дальвіца». Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. — Москва: Высшая школа КГБ СССР, 1957. С. 25; Пра Ўсевалада Родзьку // Беларус, 1998, № 458, кастрычнік-лістапад.* http://www.reibert.info/forum/showthread.php?t=40391

***КРАСКОЎСКАЯ Вера***, дачка Мікалая



Радыстка «Дальвіца». Нарадзілася ў 1924 г. ў вёсцы Краснае Карэліцкага раёна Гродзенскай вобл. Вучылася ў польскай школе, пасля — у Віленскай беларускай гімназіі. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў школе, з 1942 года вучылася ў настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку. Яе брат, 21-гадовы падафіцэр батальёна Б. Рагулі Аўген Краскоўскі, загінуў у красавіку 1944 г. у Карэлічах у баю з савецкімі партызанамі. З жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы», закончыла курсы радыстак. Удзельніца дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. Затрыманая 26 лістапада 1944 г. разам са сваім мужам Ф. Давідчыкам у Любчанскім раёне. Асуджаная на 8 гадоў зняволення і 3 гады «паражэння ў правах». Пакаранне адбывала ў Сібіры, на Магадане, дзе зноў выйшла замуж і змяніла прозвішча. Пазней жыла ў г. Белгарад, выхавала дваіх дзяцей, цяжка хварэла (інфармацыя на 2003 г.).

*Кр.: Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 85, 86; NKWD o polskim podziemiu. 1944 − 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 166; Міхась Г. Загінуў геройскай сьмерцю // Голас Краю (Мінск), 2001, № 2 (13); Лісты В. Краскоўскай да аўтара ад 30 красавіка 2001 г. і 6 чэрвеня 2003 г.; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 114.*

***КУІМАЎ Аляксандр***

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1918 г. у г. Кандалакша Карэла-Фінскай ССР. Выхаванец дзіцячага дома. Быў у камсамоле, служыў у Чырвонай Арміі. Падчас нямецкай акупацыі апынуўся на Навагрудчыне. Падпаручнік БКА, быў шафёрам Б. Рагулі. З жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. Арыштаваны ў лістападзе 1944-га. Паводле сведчання К. Шышэі, павешаны ў Лідзе напрыканцы 1944 г.(?).

*Кр.: NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 166; Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 145.*

***КУЛІНІЧ І.***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. Арыштаваны ў Беластоку летам 1945 года. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 34.*

***КУР'ЯНОВІЧ М.***

Афіцэр «Дальвіца», лейтэнант. Восенню 1944 г. планаваўся дэсант яго групы ў лясы паміж Слуцкам і Мінскам. Праўдападобна, паходзіць з гэтага рэгіёну. Далейшы лёс невядомы. У адным з дакументаў "Смершу" яго прозвішча падаецца як «Гур'яновіч». Нейкі «І. Кур'яновіч», паліцыянт з-пад Грэска, быў вызвалены са зняволення ў 1955 г., жыў у Пухавіцкім раёне.

*Кр.: НАРБ, ф. 383, в. 1, спр, 2, арк. 7; ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 181: Недабітыя // Беларускі голас, 1961, № 77. Студзень.*

***ЛАБОВІЧ Ніна***

Радыстка «Дальвіца». Ураджэнка Слонімшчыны (верагодна, з в. Кракотка). Мела сярэднюю адукацыю. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў лясным аддзеле ў Слоніме, «ад беларускага руху трымалася здалёк». У канцы лета — у пачатку восені 1944 г. патрапіла ў «Дальвіц». Паводле сведчання Б. Данілюка, перад адлётам з дэсантам выйшла замуж за слонімца Булыгу. Іншых звестак пра яе дэсант няма. Паводле сведчання Ю. Брэчкі, у траўні 1945 г. Н. Лабовіч была ў «Дальвіцы», узяла шлюб з А. Занкавічам, спрабавала перайсці на Захад, але была затрыманая савецкімі вайскоўцамі. У паваенны час была арыштаваная ў амерыканскай

зоне акупацыі Нямеччыны за шпіянаж на карысць СССР і асуджаная. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Лісты да аўтара Ю. Брэчкі ад 17 траўня 2003 г. і ад 14 жніўня 2004 г.; Ліст да аўтара Б. Данілюка ад 25 чэрвеня 2003 г.*

***ЛАЗАРЭВІЧ Канстанцін***, сын Івана

Баец «Дальвіца». Брат капітана Ўл. Лазарэвіча. Супрацоўнік абвера. У 1941-42 гг. праходзіў падрыхтоўку ў Нямеччыне ў аддзеле камандасаў »Бранденбурга», якім камандаваў обер-лейтэнант Ланге, але быў адлічаны за парушэнне дысцыпліны. Інакш, магчыма, мог бы быць прыцягнуты да аперацыі «Шаміль», калі летам 1942 г. на Каўказ быў дэсантаваны батальён дыверсантаў, у тым ліку рота Ланге. У 1944 г. залічаны ў «Дальвіц». Арыштаваны пасля вайны ў Польшчы. Уліваючы, што брат знаходзіўся на Захадзе, быў перспектыўным аб’ектам для вярбоўкі. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Раніца, 1944, 20 снежня; Неподаев Ю. Спецназ адмирала Канариса. — Москва: Яуза, Эксмо, 2004. С. 258; Паведамленне Юрыя Грыбоўскага аўтару ад 2006 г.*

***ЛАЗАРЭВІЧ Уладзімір***, сын Івана

Афіцэр «Дальвіца», Нарадзіўся ў 1908 г. у Мінску. У 1940-1941 гг. знаходзіўся ў Варшаве, быў актыўным сябрам мясцовага беларускага камітэта. У ліпені 1941 г. прыехаў у Мінск, працаваў начальнікам аддзела гарадской управы па ўліку насельніцтва, віцэ-старшынём управы. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. З лета-восені 1944 г. — у «Дальвіцы», выкладчык шыхтавой падрыхтоўкі, вярбоўшчык. Падпісаў вядомы ліст афіцэраў «Дальвіца» ў Галоўнае кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР ад 9 снежня 1944 г. наконт супрацоўніцтва з генералам А. Власавым. Быў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады. У пачатку 1945 г. сыйшоў з батальёна. На час капітуляцыі Нямеччыны меў рангу капітана. Верагодна, быў ініцыятарам рэанімацыі ў другой палове 1940-х у заходняй Нямеччыне «Беларускай Вайсковай Арганізацыі». У 1948 г. удзельнічаў у заснаванні Агульнабеларускага саюза вайскоўцаў, быў кіраўніком часовай управы. Жыў у лагеры Бакнанг. Быў актыўным прыхільнікам БЦР, удзельнічаў у XII пленуме БЦР у траўні 1948 г. Выехаў з Нямеччыны ў ЗША, жыў у Дэтройце. Паводле сведчання Юзэфы Брэчкі, «грамадска не працаваў, толькі для сябе, і ў досыць старэйшым веку спакойна памёр».

*Кр.: Ю. А. Рэха пяцігодзьдзя ІІ Кангрэсу // Беларускае слова, 1949, 30 ліпеня; Галяк Л. Успаміны. Кн. ІІ. — ЗША: «Летапіс», 1983. С. 17; Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 162; Ёрш С. Усевалад Родзька — правадыр беларускіх нацыяналістаў. — Менск: Голас Краю, 2001. С. 32; Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 17 траўня 2003 г. і 14 жніўня 2004 г.; http://www.reibert.info/forum/showthread.php?t=40391 Гардзіенка А. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). — Смаленск, 2009. С. 26; Грыбоўскі Ю. Беларускі камбатанцкі рух на Захадзе пасьля Другой сусьветнай вайны // Запісы БІНІМ, 2009, № 32. С. 421.*

***ЛАПКОВІЧ Уладзімір***, сын Сцяпана

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1925 г. у м. Грэск Грэскага раёна Мінскай вобл. Адукацыя ніжэйшая. Удзельнік дэсанту «Дальвіца» 17/18 лістапада 1944 г., меў мянушку «Шавец». Арыштаваны 18-21 лістапада 1944 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 179; Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня (Я. Сямашка ў гэтай публікацыі памылкова называе яго прозвішча — «Лабкоўскі» — **СЁ**); Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113.*

***ЛАТЫШОНАК Аляксандр***, сын Рыгора



Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1923 г. у в. Паянавічы Шаркаўшчынскага раёна. Вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. З 1943 г. — сябра СБМ, з вясны 1944-га — сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі, удзельнік «ударнай групы» В. Сікоры. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Выпускнік камандзірскага курсу батальёна «Дальвіц», лейтэнант. Летам 1945 г. вярнуўся з Чэхіі праз Польшчу на Шаркаўшчыну, далучыўся да партызанскага атрада В. Сікоры. З другой паловы 1945-га хаваўся ў сваякоў, пазней змог выехаць у Польшчу. У 1948 г. быў арыштаваны і дэпартаваны ў СССР. Знаходзіўся ў

зняволенні ў Горлагу і Нарыльску. Пасля вяртання жыў у Шаркаўшчыне, працаваў механікам на гароднінна-сушыльным заводзе. Памёр у 1980-х (?).

*Кр.: Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня; Грыгор'еў Ц. Успамінаючы мінулае... // Голас Радзімы, 1964, № 27-28, красавік; Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.). — Менск: Наша Ніва, 1997. С. 137, 138; Вернутыя імёны // Бацькаўшчына. Выданне культурна-асветніцкага цэнтра імя Я. Драздовіча і ТБМ імя Ф. Скарыны (в. Германавічы Шаркаўшчынскага раёна). 2003, № 2, люты.*

***ЛУЦКЕВІЧ Лявон***, сын Антона (17 (па іншых звестках — 13).3.1922 — 28.7.1997)



Радыст «Дальвіца». Нарадзіўся ў Вільні. Сын прэм'ера Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча, закатаванага бальшавікамі. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў (выкладаў беларускую мову і літаратуру ў няпоўнай сярэдняй школе ў Радашкавічах), прымаў удзел у нацыянальным падполлі. У «Дальвіцы» знаходзіўся ад жніўня 1944 г. Быў арыштаваны савецкай дзяржбяспекай у Польшчы летам 1945 г. Праходзіў на судовым працэсе над кіраўніцтвам БНП. Пасля канцлагераў жыў у Вільні, ажаніўся з Галінай Войцік, дачкой беларускай пісьменніцы і грамадскай дзеякі Зоські Верас. Працаваў намеснікам галоўнага энэргетыка на ЖБК-3. З канца 1980-х актыўна падтрымліваў беларускі адраджэнскі рух. Аўтар некалькіх кніг.

Кр.: Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 24, 96; Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944 — 1956 / Даведнік. — Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999. С. 64; Войцік Г. Лявон Луцкевіч (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). — Вільня, 1999; Войцік Г. Там, дзе мяне няма... // Рунь (Вільня), 2001, № 41, 13 жніўня;

*Тв.: Луцкевіч Л. Вандроўкі па Вільні. — Вільня, 1998; Луцкевіч Л., Войцік Г. «Аляксандар Коўш» (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). — Вільня, 1999 ды інш.*

***ЛУЦКЕВІЧ Юрый***, сын Антона (22.10.1920 — 12.08.1992)



Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў Вільні. Сын прэм'ера Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча, які загінуў у савецкім зняволенні. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, тэхнічную вучэльню па спецыяльнасці электрыка. Паступіў у Варшаўскую палітэхніку, «але перад тым мусіў адслужыць у афіцэрскай школе польскага войска». У верасні 1939 г. трапіў у нямецкі палон, вярнуўся на радзіму. Разам з братам Лявонам ад лета 1940 года «практычна знаходзіліся на поўлегальным становішчы». З восені 1941 г. працаваў дырэктарам няпоўнай сярэдняй школы ў Радашкавічах, пазней — настаўнікам прагімназіі ў Баранавічах. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы», лейтэнант, выкладчык (чытаў лекцыі па гісторыі Беларусі), вярбоўшчык. Арыштаваны ў Варшаве летам 1945 года, асуджаны на 25 гадоў зняволення, якое адбываў на Калыме. Увосень 1957 г. вярнуўся ў Вільню. Працаваў па спецыяльнасці ў сістэме міністэрства будаўніцтва Літвы. Пасля лагероў ажаніўся з масквічкай, з якой пазнаёміўся на Калыме (туды яна прыехала па «камсамольскім прызыве»). Яна «адвадзіла ад дому сяброў Юркі, а пасля выжыла і Лявона» (брата). Неаднаразова спрабаваў атрымаць рэабілітацыю, але кожны раз няўдала. Памёр пасля доўгай хваробы ў Вільні. Пакінуў дачку і сына.

*Кр.: Іваноў М. Сьветлая памяць Юркі Луцкевіча // Беларус, 1992, кастрычнік; Сьветлая Памяць Юры Луцкевіч // Вільня і край (Вільня), 1992, № 1, жнівень; Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 97; Войцік Г. Там, дзе мяне няма... // Рунь (Вільня), 2001, № 41, 13 жніўня, 2002, 25 сакавіка, № 46; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 108.*

***ЛЯШКЕВІЧ Ігнат***

Баец «Дальвіца». Праходзіў падрыхтоўку ў канцы 1944 г. — у пачатку 1945 г. Верагодна, па вайне жыў у Вялікабрытаніі. Сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі ад верасня 1947 г.

быў нехта Ігнат Ляшкевіч, 1925 г. н., ураджэнец в. Старынкі (найбольш праўдападобна — Вілейскага раёна), які меў 4 класы адукацыі, працаваў краўцом.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1945, 10 студзеня; Гардзіенка Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі. — Мінск: Медысонт, 2010. С. 583.*

***МАЕЎСКІ Міхаіл***

Баец «Дальвіца». Сябра СБМ. Пасля капітуляцыі Нямеччыны з Чэхіі з групай байцоў «Дальвіца» здолеў прарвацца на Захад. Жыў у беларускім лагеры ДП у Ватэнштэце. Сябра Замежнага сектара БНП, Беларускага Вызвольнага Фронта. Служыў у вайсковых аддзелах NATO, альбо нават і ў заходніх спецслужбах у Нямеччыне, меў рангу афіцэра. Памёр у 1980-х гг. у Нямеччыне.

*Кр.: Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск — Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 80, 97; Ліст Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.; Ёрш С. Замежны сэктар Беларускай Незалежніцкай Партыі. 1945-1955 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1 (8). С. 36.*

***МАЗУРА Арсень***

Афіцэр «Дальвіца». Сцяжны (малодшы лейтэнант). Быў у «Дальвіцы» ўжо ў кастрычніку 1944 г. Разам з афіцэрамі «Дальвіца» падпісаў ліст у Вайсковы аддзел БЦР ад 9 снежня 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Раніца, 1944, 28 кастрычніка; НАРБ, ф. 383, в. 1, спр. 6, арк. 4; Ёрш С. Усевалад Родзька — правадыр беларускіх нацыяналістаў. — Менск: Голас Краю, 2001. С. 32.*

***МАЗУРА Юрый*** (1916 — 4.02.1990)



Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў Полацку. Жыў у Літве, у канцы 1920-х пераехаў у Навагрудак, дзе «усьведаміўся, што ён — Беларус, палюбіў свой народ і Бацькаўшчыну». Служыў у польскім войску. У 1943-44 гг. быў лейтэнантам і камандзірам звязу эскадрона Б. Рагулі. Летам 1944 г. на кароткі час патрапіў у «Дальвіц». Паводле сведчання К. Шышэі, у жніўні 1944 г. разам з К. Мерляком з'ехаў з Дальвіца, бо не хацеў «ваяваць за немцаў». У першыя паваенныя гады

вучыўся ва ўніверсітэце Філіпса ў Марбургу, стварыў студэнцкі хор. З 1949 г. жыў у ЗША, у Дэтройце. Браў удзел у беларускім грамадскім і рэлігійным жыцці. Сябра Рады БНР. Пахаваны на стараверскіх могілках каля Дэтройта (стараверкай была яго маці).

*Кр.: Юзік С[ажыч]. Сьв. Пам. Юрка Мазура // Беларус (Нью-Ёрк), 1990, № 367; Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 128; Стагановіч А. Успаміны пасла // Запісы БІНІМ, 2009, № 32. С. 315.*

***МАЗУРА Варвара*** (у шлюбе — САЖЫЧ; 17.12.1919 — 21.07.1978)

Радыстка «Дальвіца». Нарадзілася ў г. Укмерге (Літва). З 1928 г. жыла на Навагрудчыне. Летам 1944 года выехала з Беларусі ва Ўсх. Прусію. У жніўні 1944 г. на кароткі час залічаная ў разведвальна-дыверсійную школу ў Дальвіцы. Пасля капітуляцыі Нямеччыны патрапіла ў зону акупацыі заходніх саюзнікаў. У 1946-49 гг. вучылася ў Філіпс універсітэце ў Марбургу. У 1950 годзе ўзяла шлюб з Я. Сажычам, у лістападзе яны выехалі ў ЗША, жылі ў Дэтройце. Брала ўдзел у працы мясцовага аддзелу Беларуска-Амерыканскага Задзіночання. Была салісткай беларускага хору ў Дэтройце.

*Кр.: Мерляк К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. — Нью-Ёрк, 1992. С. 33; Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. — Лёндан (Канада) - Нью-Ёрк, 1996. С. 180; Адзінец А. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. — Мінск: Медисонт, 2007. С. 665; Грыцук В. Мы стваралі сваю Беларусь: жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука. — Мінск: Медисонт, 2007. С. 46, 229.*

***МАЗУРА Таццяна***

Радыстка «Дальвіца». Сястра Юркі і Варвары Мазураў. Жыла на Навагрудчыне. Летам 1944 года выехала з Беларусі ва Ўсх. Прусію. У жніўні 1944 г. на кароткі час была залічаная ў разведвальна-дыверсійную школу ў Дальвіцы. У паваенны час, праўдападобна, жыла на Захадзе.

*Кр.: Мерляк К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. — Нью-Ёрк, 1992. С. 33; Стагановіч А. Успаміны пасла // Запісы БІНІМ, 2009, № 32. С. 316.*

***МАІСЮК*** (МАЙСЮК) ***І.***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. Арыштаваны ў Беластоку

летам 1945 года. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 34.*

***МАКАРЭВІЧ Іван***, сын Івана

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1915 г. у в. Харосіца Любчанскага раёна Баранавіцкай вобл. (цяпер Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). Адукацыя 7 класаў. Са студзеня 1942 г. да ліпеня 1944 г. служыў у Навагрудскім «беларускім батальёне». Удзельнік дэсанту «Дальвіца» 17/18 лістапада 1944 г., меў мянушку «Пудовы». Падафіцэр БКА. Арыштаваны 18-21 лістапада 1944 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 177-178; Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113.*

***МАКАРЭВІЧ В.***

Дэсантнік «Дальвіца». Шэраговец БКА. Удзельнік дэсанту «Дальвіца» 17/18 лістапада 1944 г., меў мянушку «Поп». Арыштаваны не быў, яго далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 114.*

***МАЛЕЎСКІ*** (СІТНІК) ***Уладзімір***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. Паводле непацверджаных звестак, здолеў пазбегнуць арышту ў Беластоку летам 1945 года і ўцячы на Захад. Жыў у ЗША. Магчыма, ён з'яўляецца аўтарам ананімных успамінаў «Пра Ўсевалада Родзьку», надрукаваных у газеце «Беларус» (1998, № 458, кастрычнік-лістапад).

*Кр.: Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 34.*

***МАЦКЕВІЧ*** (МІЦКЕВІЧ) ***Мікалай***

Баец «Дальвіца». Ураджэнец в. Лебяда Лідскага раёна Гродзенскай вобл. Арыштаваны ў 1947-1948 гг. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Паведамленне аўтару былога рагулёўца Я. Сераброўскага ад 29 снежня 1999 г.*

***МАЦУК Аляксандр***, сын Аляксандра

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1920 г. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Гаўбіца». Арыштаваны ў лістападзе 1944-га, асуджаны. У 1950-х высылку адбываў у Краснаярску, працаваў на цагляным заводзе. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 166; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 114; Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 122-123.*

***МАЦЮКЕВІЧ*** (МАЦЮКОВІЧ, МАЦУКЕВІЧ) ***Сяргей***, сын Івана (1923 — 1968?)



Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Гернікі Слонімскага пав. (цяпер — Дзятлаўскі раён Гродзенскай вобл.). У др. пал. 1930-х вучыўся ў варшаўскай гімназіі, падчас нямецкай акупацыі — у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Служыў у батальёне Б. Рагулі. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Саламон». 27 лістапада 1944 г. разам з І. Сяргейчыкам з'явіўся і здаўся ў Дзятлаўскі раённы аддзел НКВД. Быў асуджаны на 10 гадоў зняволення, пакаранне адбываў на Калыме. Вызваліўся ў 1954-1955 гг., прыехаў у Беларусь, ажаніўся на настаўніцы. Цяжка хварэў (з Калымы вярнуўся з селікозам). Працаваў майстрам у СПТВ у Казлоўшчыне (Дзятлаўскі раён). Яго два сыны сталі лекарамі (адзін з іх — палкоўнікам медыцынскай службы).

*Кр.: NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 166; Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994,*

*№ 28, 9 ліпеня; Жамойцін Я. З перажытага // Лёс аднаго пакалення (Успаміны). — Беласток, 1996. С. 78; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 114; Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 122-123; Паведамленне аўтару Барыса Мацюкевіча (стрыечнага брата С. Мацюкевіча) ад 29 снежня 1999 г.*

***МАХНЮК*** (МАШНЮК) ***Алег*** (07.05.1928 — 21.02.2009)


nn.by

Баец «Дальвіца». Нарадзіўся на Шаркаўшчыне (паводле іншых звестак, магчыма, памылковых — на Браслаўшчыне). Верагодна, быў сябрам СБМ. Летам 1944 г. выехаў ва Ўсходнюю Прусію, быў завербаваны ў «Дальвіц», прайшоў поўны курс падрыхтоўкі. Пасля капітуляцыі Нямеччыны здолеў перабрацца ў заходнія зоны акупацыі Нямеччыны. Да 1950 г. жыў у беларускім лагеры ДП у Ватэнштэце (англійская зона акупацыі), вучыўся ў беларускай гімназіі імя М. Багдановіча. Актывіст беларускага скаўтынга. Са снежня 1950 г. — у ЗША, жыў у Саўт-Рыверы. У ліпені 1952 г. быў прызваны на два гады ў амерыканскае войска, ваяваў у Карэі, звольніўся ў ранзе капрала. Больш за 30 гадоў працаваў на заводзе Форда ў Эдысоне. Узяў удзел у І Кангрэсе беларусаў Амерыкі, што прайшоў у Саўт-Рыверы, потым уваходзіў у кіруючыя органы Беларускага кангрэсавага камітэта. Спяваў у беларускім хоры «Каліна». У 1960-х высвяціўся на дыякана, у ліпені 1972 г. быў узведзены ў сан пратадыякана, служыў у беларускіх праваслаўных парафіях, якія падпарадкоўваліся Канстанцінопальскаму патрыярху. Сярод эміграцыі вядомы як мастак, скульптар, зрабіў купал, іканастас для царквы св. Еўфрасінні Полацкай. З 1980 г. жыў у г. Джэймсбург, Нью-Джэрсі.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, № 38, 17 верасня; 1944, 1 кастрычніка; 1944, 15 лістапада; Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.; АГ. Памёр мастак Алег Махнюк // http://www.nn.by/index.php?c=ar&i=24167; Сенька М. Сьв. Пам. А. пратадыякан Алег МАХНЮК // Беларус, 2009, №*

*555, красавік; Баравы Л. На магілу Алега Махнюка // Беларус, 2009, № 555, красавік.*

***МАШОНСКІ Ўладзімір***

Баец «Дальвіца». Паходзіць з Мядзельскага раёна Мінскай вобл. (был. Крывіцкага раёна Вілейскай вобл.). Праходзіў навучанне ўвосень 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, 1 кастрычніка, 15 лістапада.*



***МЕРЛЯК Кастусь*** (25.12.1919 — 25.11.2007)

Баец «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Дзетамля (Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Навагрудку ў БНС. З канца 1943 г. — інтэндант эскадрона/батальёна Б. Рагулі. У жніўні 1944 г. кароткі час быў у батальёне «Дальвіц». Пазней абверам быў закінуты з заданнем у Італію, арыштаваны, але з лагеру ваеннапалонных уцёк. З 1947 г. — у Аргентыне, заснавальнік і старшыня Згуртавання беларусаў у Аргентыне. З 1954 г. жыў у ЗША. Старшыня Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (у 1959-1964 гг.), пасля — Беларуска-Амерыканскага Аб'яднання ў Нью-Ёрку (пасля канфлікту і сыходу з БАЗА). Быў актыўны у палітычнай і грамадска-рэлігійнай дзейнасці. Пахаваны на беларускім могільніку ў Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

*Кр.: Я[нка] З[апруднік]. Сьв. Пам. Кастусь Мерляк // Беларус, 2007, № 539, снежань; Шчэцька В. Адыйшоў ад нас сьв. Пам. Кастусь Мерляк...// Беларус, 2007, № 539, снежань.*

*Тв.: Мерляк К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1992.*



***МЕШЫЦ Іван***, сын Аляксея

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1914 г. у в. Глухі Ток Бярэзінскага раёна Магілёўскай вобл. Былы кандыдат у члены ВКП (б). Адукацыя сярэдне-педагагічная. Быў малодшым лейтэнантам Чырвонай Арміі, каманд-

зірам звязу 334-га артылерыйскага палка. Здаўся ў нямецкі палон 25 траўня 1942 г. у раёне Керчы. З лета 1944 г. — у «Дальвіцы». Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. Арыштаваны 18-21 лістапада 1944 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 178; Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113.*

***МІЛЮЦЬ***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі перабраўся ў Польшчу. У канцы 1940-х быў арыштаваны. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Вяртаньне БНП..., С. 48-49.*

***НАГУЛЕВІЧ*** (НЕГУЛЕВІЧ) ***Уладзімір***

Баец «Дальвіца». У 1944 г. служыў у Навагрудскім эскадроне Б. Рагулі. Падафіцэр БКА. Паводле сведчання К. Шышэі, савецкія партызаны па-зверску закатавалі яго маці. З лета 1944 г. — у «Дальвіцы». Знаходзіўся ў складзе групы, якая дэсантавалася ў Беларусі 17/18 лістапада 1944 г., аднак, праўдападобна, вярнуўся з-за сапсаванага парашута. Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. Арыштаваны ў Беластоку летам 1945 года. Далейшы лёс невядомы. Нельга выключыць, што ў «Дальвіцы» былі два Нагулевічы і тут іх біяграфіі былі аб'яднаныя.

Кр.: Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Вяртаньне БНП..., С. 65, 98; Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 34.

***НІКІПІРОВІЧ*** (НІКІПАРОВІЧ) ***Павел***

Баец «Дальвіца». Паходзіў з Глыбоцкай акругі. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня; 15 лістапада.*

***ПАБЯРЖЫН Язэп***

Баец «Дальвіца», дружыновы (малодшы сяржант). Паэт. Сябра Саюзу Беларускай Моладзі і Беларускай Незалежніцкай Партыі. Паводле адных звестак, ураджэнец Глыбоччыны, паводле іншых — Браслаўшчыны. Як сведчыць В. Сікора, у 1944 г. быў кіраўніком БНП на Браслаўшчыне. У красавіку 1944 г. навучаўся на курсах вышэйшых кіраўнікоў СБМ у Мінску. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. 17 чэрвеня 1945 г. на канспірацыйнай кватэры Ю. Луцкевіча ў Варшаве ўдзельнічаў у нарадзе кіраўнікоў БНП. Разам з Родзькам выехаў у Беласток, дзе быў арыштаваны летам 1945 года. Асуджаны на 25 гадоў зняволення. У пачатку 1950-х знаходзіўся ў інвалідным лагеры ў Спаску ў карагандзінскім стэпе (Казахстан), цяжка хварэў. Вось што пісаў пра Язэпа Пабяржына Янка Жамойцін, які быў разам з ім у зняволенні: «Былы вайсковец — змагар за незалежнасць, паэт, прынцыповы ў сваіх перакананнях і незалежнасці думак, неразрыўны спадарожнік сваёй паэтычнай музы... Пісаў ён шмат і хутка, бічаваў савецкую імперыю і нявольніцкі, антычалавечы лад яе, апяваў красу роднае мовы і краіны ды драму суайчыннікаў». У 1956 г. у лагер прыехала камісія для перагляду спраў зняволеных. Пабяржын заявіў ёй, што «не бачыць ніякай сваёй віны і, калі надарыцца магчымасць, аддасць усе сілы барацьбе за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны». Камісія прызнала яго *«неисправимым»*, сведчыць Я. Жамойцін. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: К-н. Там, дзе куецца воля... // Раніца (Бэрлін), 1944, 10 снежня, № 53;*

*У. К. У Н-скім Беларускім Батальёне // Раніца, 1945, № 3, 10 студзеня; Жамойцін Я. З перажытага // Лёс аднаго пакалення (Успаміны). — Беласток, 1996. С. 165-168; Вяртаньне БНП..., С. 98; Ліст Я. Жамойціна аўтару ад 13 лістапада 2000 г.; Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С.33-34; Ёрш С. Забыты паэт з Браслаўшчыны // Павет. Выданне краязнаўцаў Браслаўшчыны, 2005, № 2 (39). Сакавік. С. 6-7.*

***ПАЛЯГОШКА*** (ПАЛІГОШКА) ***Пятро***

Дэсантнік «Дальвіца». Уваходзіў у групу капітана А. Рудака, якую ў пачатку 1945 г. перадалі нямецкай франтавой разведцы. Быў арыштаваны, адбываў пакаранне ў нарыльскім канцлагеры,

у 1950-х быў у Інце (поўнач Расіі). Пасля вызвалення скончыў нейкі інстытут і працаваў прарабам (на 1964 г.). Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Грыгор'еў Ц. Успамінаючы мінулае... // Голас Радзімы, 1964, № 27-28, красавік; Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 227-229; Казак К.: «Тады мы верылі, што будзем самастойныя» // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1 (4). С. 95.*

***ПАЎЛОЎСКІ Сцяпан***

Баец «Дальвіца». Паходзіць з Мядзельскага раёна Мінскай вобл. (был. Крывіцкага раёна Вілейскай вобл.). Праходзіў навучанне ўвосень 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца (Берлін), 1944, 1 кастрычніка; 15 лістапада.*

***ПРЫСТАЎКА Вячаслаў***, сын Мікалая



Баец «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1925 г. на хутары Дубавое Шаркоўшчынскай гміны Глыбоцкага павету. Скончыў 7-гадовую школу ў Шаркоўшчыне. У 1942-1943 гг. вучыўся ў Глыбоцкай прагімназіі, у 1943-1944 гг. — у Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. Сябра СБМ і БНП. Летам 1944 г. патрапіў у «Дальвіц» (сам В. Прыстаўка называе сваё знаходжанне ў Дальвіцы «кароткім адпачынкам»), але неўзабаве выехаў у Берлін. Быў на 2-хмесячных курсах кіраўнікоў СБМ. У 1945 г. трапіў у лагер ДП у амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. Вярнуўся ў Беларусь як рэпатрыянт, быў прызваны ў савецкую армію, служыў у Баранавічах. Арыштаваны 17 студзеня 1948 г. Асуджаны на 25 гадоў лагераў і 5 гадоў паражэння ў правах. Працаваў на вугальных шахтах Інты. Вызваліўся ў 1956 г., рэабілітаваны не быў. Жыў у Шаркаўшчыне.

*Кр.: Ліст В. Прыстаўкі да аўтара ад 21 лістапада 2000 г.; Вернутыя імёны // Бацькаўшчына. Выданне культурна-асветніцкага цэнтра імя Я. Драздовіча і ТБМ імя Ф. Скарыны (в. Германавічы Шаркаўшчынскага раёна). 2003, № 2, люты.*

***ПЯТКЕВІЧ***

Баец «Дальвіца». У паваенны час жыў на эміграцыі, у беларускім руху ўдзелу не прымаў. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 17 траўня 2003 г.*

***РАГУЛЯ Барыс***, сын Дзмітрыя (01.01.1920 — 21.04.2005)



Афіцэр «Дальвіца». Беларускі палітычны і вайсковы дзеяч. Нарадзіўся ў в. Турэц Навагрудскага пав.(цяпер — Карэліцкі раён Гродзенскай вобл.). Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, пасля яе закрыцця — у Навагрудскай польскай гімназіі імя А. Міцкевіча. Скончыў падафіцэрскую школу ў Замброве. У верасні 1939 г. у складзе польскага войска ваяваў супраць нямецкіх агрэсараў, трапіў у палон, адкуль у 1940 г. уцёк. Працаваў настаўнікам у школе ў Любчы. У студзені 1941 г. арыштаваны НКВД, утрымліваўся ў мінскай «амерыканцы», абвінавачваўся «ў нелегальным пераходзе мяжы, контррэвалюцыйнай дзейнасці, шпіянажы». Быў асуджаны на смерць, здолеў вырвацца на волю на пачатку нямецка-савецкай вайны. Працаваў перакладнікам у Навагрудку, выкладчыкам настаўніцкай семінарыі. Сябра ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі, партыйны псеўданім «Менскі». У ліпені 1942 г. быў прызначаны камандзірам акруговага аддзелу Беларускай Самаахова ў Навагрудку. З восені 1943 г. — камандзір беларускага эскадрона/батальёна ў Навагрудку. У пачатку ліпеня 1944 г. распусціў батальён, на Захад адыйшоў толькі яго касцяк. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы», меў рангу капітана. У кастрычніку 1944 г. адмовіўся ляцець з дэсантам у Беларусь і сыйшоў з «Дальвіца». Пасля вайны апынуўся ў амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. Скончыў Лювенскі ўніверсітэт (Бельгія). Сябра Рады БНР, пры падтрымцы заходніх спецслужбаў удзельнічаў у закідцы беларускіх груп за «жалезную заслону». З 1954 г. жыў у Лондане (Канада), доктар медыцыны. Намеснік старшыні Рады БНР. У 1997 г. з яго ініцыятывы была актывізавана Рада БНР, у яе былі ўведзеныя свежыя сілы. Аўтар успамінаў. Ад Рады БНР меў рангу «генэрала».

*Кр.: Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 83, 85, 168, 169; «Тады мы пачалі дзейнічаць...» // Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 20, 21, 25, 49-54; Каваль Я. Камандзір легендарнага эскадрону // Голас Краю, 2002, № 1 (16); Навумчык С. У Канадзе памёр Барыс Рагуля // Радыё Свабода, 2005, 22 красавіка; http://www.svaboda.org/content/article/794870.html*

*Ёрш С. Ён мог стаць беларускім Адамкусам // Наша ніва, 2005, № 16, 29 красавіка; Жук-Грышкевіч Р. Сьв. пам. Барыс Рагуля // Беларус, 2005, № 508, травень;*

*Тв.: Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. — Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996. Выданне другое — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2006; [Барыс Рагуля]. Згадкі // Юрэвіч Л. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. — Менск: Спэцвыпуск часопіса ARCHE, 1999. С. 9-155; Against the Current: The Memoirs of Boris Ragula (Насуперак плыні: Успаміны доктара Барыса Рагулі), MD McGill-Queen's University Press, 2005; 185 p.*

***РАГУЛЯ Міхась***, сын Васіля (6.08.1914 — 6.07.2002)



Выкладчык «Дальвіца». Сын беларускага палітычнага дзеяча, пасла, пазней — сенатара польскага Сойму Васіля Рагулі. Нарадзіўся ў в. Ачукевічы Навагрудскага павету (цяпер — Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). У 1933 г. скончыў беларускую гімназію ў Навагрудку. Вучыўся ў Варшаўскай палітэхніцы, уваходзіў у кіраўніцтва Асветнага таварыства беларусаў. У 1940-1941 гг. вучыўся ў Львоўскай палітэхніцы. Летам 1941 г. вяртаецца ў Беларусь, працуе загадчыкам аддзела культуры і асветы Віцебскай гарадской управы. Сябра ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі (псеўданім «Чорны»), рэдактар падпольнага «Бюлетэня БНП», удзельнічаў у падрыхтоўцы партыйных праграмы і статута. У 1942-1943 гг. рэдагаваў дадатак да газеты «Новый путь» — «Беларуская старонка». У жніўні-кастрычніку 1944 г. — у «Дальвіцы». У канцы 1940-х скончыў палітэхніку ў Мюнхене. У канцы 1948 года ў выніку «пераварогу», здзейсненага старшынём Замежнага сектара БНП Дз. Касмовічам, выключаны з партыі. Стварыў «уласную» партыйную арганізацыю БНП (прабээнэраўскую), старшынём якой некалькі гадоў з'яўляўся. З 1950 года — у ЗША. Зрабіў кар'еру ў галіне будаўніцтва фабрычных печаў. У 1950-х браў удзел у беларускім грамадскім жыцці, быў сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус», аднак пазней адыйшоў ад гэтай дзейнасці. Успамінаў не напісаў. Пахаваны на беларускім могільніку ў Іст-Брансўіку.

*Кр.: Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 99; Запруднік Я. Сьв. памяці Міхась Рагуля // Беларус, 2002, № 475, жнівень.*

***РАГУЛЯ*** (дзяв. ІВІЦКАЯ) ***Ніна***

Радыстка «Дальвіца». Жонка сябра ЦК БНП Міхася Рагулі. Перад вайной вучылася ў Віцебскім медінстытуце, акторка Віцебскага тэатру. Скончыла курсы радыстак у «Дальвіцы». Пасля вайны жыла ў ЗША. Памерла ў 2005 г. у Нью-Ёрку.

*Кр.: Ліст Ю. Брэчкі да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.; Зайка В. Чэрвеньскі сход аддзелу БАЗА // Беларус, 2005, № 510, ліпень.*

***РАГУЛЯ*** (дзяв. ГУТАР) ***Людміла***, дачка Міколы



Радыстка «Дальвіца». Нарадзілася ў 1925 г. у Наваградку. Кіраўнічка юначак у Наваградскай акрузе. У 1943 г. скончыла Наваградскую настаўніцкую семінарыю. З лета 1944 г. — у «Дальвіцы». У кастрычніку 1944 г. разам з мужам Б. Рагулям сышла з разведшколы. З лістапада 1944 г. працавала ў канцылярыі Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Пасля вайны жыла ў Нямеччыне, Бельгіі. У пачатку 1950-х пераехала ў Канаду. Была актывісткай Згуртавання беларусаў Канады, праваслаўнай парафіі св. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

*Кр.: За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі..., С. 138; Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995. С. 152; Дакумэнты кіраўнічага штабу СБМ ліпеня-жніўня 1943 году // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3). С. 91; Грыцук В. Мы стваралі сваю Беларусь: жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука. — Мінск: Медисонт, 2007. С. 39; Туронак Ю. Людзі СБМ; Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Смаленск, 2008. С. 73.*

***РАМЗА Янка***

Баец «Дальвіца». Праходзіў навучанне восенню 1944 г. Паходзіў з Глыбоцкай акругі. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня.*

***РОДЗЬКА Ўсевалад***, сын Філарэта (21.06.1920 — ?)

Палітычны кіраўнік «Дальвіца». Беларускі палітычны і вайсковы дзеяч, публіцыст. Нарадзіўся на хутары Паддубнае каля в. Чучавічы Лунінецкага павету (цяпер — Лунінецкі раён Брэсцкай вобл.). Скончыў Навагрудскую польскую гімназію імя А. Міцке-



віча, а пасля — падафіцэрскую школу ў Замброве. У верасні 1939 года, як харунжы рэзерва 42-га пяхотнага палка, прымаў удзел у нямецка-польскай вайне. Быў паранены (чатыры кулявых раненні), 19 верасня патрапіў у нямецкі палон, знаходзіўся ў шталагу каля Пазнані. Вызвалены з лагера 20 жніўня 1940 г. Адразу ж устанавіў кантакты з дзеячамі беларускай палітычнай эміграцыі. Працаваў сакратаром Кракаўскай філіі Варшаўскага беларускага камітэта. Уваходзіць у групу В. Гадлеўскага, якая арганізоўвала падпольную Беларускую Незалежніцкую Партыю. З вясны 1941 супрацоўнічаў з абверам, меў мянушку «Рак». З ліпеня 1941 г. — бурмістр Віцебска. Арганізатар нацыянальнага падпольнага і партызанскага руху, з 1942 года — старшыня ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі (псеўданім «Воўк»). Выступаў з публіцыстыкай у легальным і нелегальным друку. Сябра Беларускай Цэнтральнай Рады, адказны за працу з моладдзю. З сакавіка 1944 года выконваў абавязкі камандзіра 15-га батальёна БКА, меў рангу капітана. За ўдзел у антыпартызанскай аперацыі ў траўні-чэрвені 1944 г. у раёне Вілейкі быў узнагароджаны Жалезным Крыжам II ступені. Распрацаваў план антынямецкага паўстання ў Мінску, якое меркавалася ўзняць падчас правядзення Другога Усебеларускага кангрэса. З жніўня 1944 года — у «Дальвіцы», быў адным з камандзіраў беларускага дэсантнага батальёна. У студзені 1945 г. загадам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР атрымаў рангу маёра. У чэрвені 1945 года з групай дэсантнікаў з Чэхіі перабраўся ў Беласток, дзе быў арыштаваны і вывезены ў БССР. Паводле іншай версіі, быў арыштаваны савецкімі спецслужбамі ў траўні 1945 г. у Чэхіі і выкарыстоўваўся імі для ліквідацыі падполля і партызанскіх атрадаў БНП. 22 траўня 1946 г. «за здраду Радзіме» прыгавораны ваенным трыбуналам войскаў МВД Беларускай вайсковай акругі да расстрэлу. Смяротны прысуд быў заменены вялікім тэрмінам зняволення, які адбываў у Сібіры. Ад яго імя савецкія спецслужбы ў 1950-х арганізоўвалі радыёгульні з заходнімі цэнтрамі. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Загад Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР № 24 ад 13 студзеня 1945 г. // НАРБ, ф.383, воп. 1, спр. 3, арк. 28; Бадулин А. Националист — это человек, сделавший уверенный шаг к фашизму // Советская Белоруссия, 1996, 20 чэрвеня, №*

*115; Ёрш С. Арыштаваны ў Беластоку // Ніва, 1996, № 27, 7 ліпеня; Ёрш С. Усевалад Родзька // Наша ніва, 1998, № 9, 11 траўня; Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 19-25; Юзік С. [Язэп Сажыч]. Яшчэ, і больш пра Ўсевалада Родзьку і некаторых ягоных школьных сяброў // Беларускі дайджэст (ЗША), 1998, № 8 (56), верасень. Перадрук — Наша ніва, 1999, 11 студзеня, № 1; [Сяргей Ёрш]. Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх // Голас камбатанта, 2000, № 5, лістапад-снежань; Ткаченко Е. Среди живых и мертвых // БДГ, 2001, 22 лістапада, № 79; Ёрш С. Пра Міхася Ганька і Ўсевалада Родзьку // Беларус, 2003, № 485, чэрвень; Надзея Рамановіч: «Родзька меў забарону вяртацца на Радзіму» // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4). С. 96-101; Органы государственной безопасности СССР в Великой Отечественной войне. Сборник документов. — Том 4. Книга 1. Секреты операции «Цитадель» (1 января — 30 июня 1943 года). — Москва: »Русь», 2008. С. 636; Грыбоўскі Ю. Беларускі рух і Нямеччына напярэдадні і ў пачатку Другой сусьветнай вайны // Архэ, 2009, № 5. С. 156-157; Грыбоўскі Ю. Абмундзіраванне беларускіх вайсковых фармаванняў на нямецкай службе падчас Другой сусветнай вайны // Архэ, 2010, № 5. С. 478.*

***РУДАК Аляксей***, сын Хведара



Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1916 годзе. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам Шаркоўшчынскай паліцыі. Летам 1944 г. у ранзе старэйшага лейтэнанта патрапіў у «Дальвіц». Камандзір «Паўночнай» роты батальёна, выкладаў мінамётную справу і шыхтавую падрыхтоўку. Восенню 1944 г. планаваўся на камандзіра групы, якая мусіла дэсантавацца каля Глыбокага. У студзені 1945 г. атрымаў рангу капітана БКА. У пачатку 1945 г. з групай байцоў быў перададзены нямецкай франтавой разведцы, у апошні момант адмовіўся ляцець з дэсантам «па стане здароўя». Вясной 1945 г. апынуўся ў «асобнай групе» (звяз, укамплектаваны беларусамі) надлейтэнанта Юрыя Васільковіча, якую рыхтавалі інструктары Ота Скарцэні. Паводле некаторых звестак, нейкі час партызаніў супраць савецкіх войскаў у складзе групаў «Верфольфа» ва Ўсходняй Прусіі. Пасля вайны жыў у ЗША, у штаце Нью-Джэрсі, з беларускім рухам сувязі не падтрымліваў. Памёр.

*Кр.: Загад Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР № 24 ад 13 студзеня 1945 г. // НАРБ, ф.383, воп. 1, спр. 3, арк. 28; Грыгор'еў Ц. Успамінаючы мінулае... // Голас Радзімы, 1964, красавік. № 27-28; Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 27 мая. № 103; Ліст да аўтара Ю. Брэчкі (Найдзюк) ад 14 жніўня 2004 г.; Паведамленне аўтару былога афіцэра батальёна «Дальвіц» ад 2 кастрычніка 2008 г.;*
*http://www.reibert.info/forum/showthread.php?t=40391*

***РУДАК Люся***

Радыстка «Дальвіца», прайшла поўны курс падрыхтоўкі. Жонка капітана Аляксея Рудака. Па вайне жыла ў ЗША. Была жывая ў 2004 г.

*Кр.: Ліст да аўтара Ю. Брэчкі (Найдзюк) ад 14 жніўня 2004 г.*

***РУЛІНСКІ Мікола***, сын Максіма (1923 — 23.10.2002)



Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага святара Максіма Рулінскага (у паваенны час быў двойчы рэпрэсаваны савецкімі ўладамі — у 1945 і 1951 гадах). Пачатковую школу скончыў у Любчы (Навагрудскі раён). З 1936 года вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Падчас нямецкай акупацыі паступіў у настаўніцкую семінарыю ў Навагрудку. У 1943 годзе быў на курсах кіраўнікоў Саюза Беларускай Моладзі ў Альберціне пад Слонімам, быў звязовым СБМ у Навагрудку. З канца 1943 г. — у эскадроне/батальёне Б. Рагулі, быў падафіцэрам. З жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Удзельнічаў у ратаванні з Рыгі архіва К. Езавітава, за што быў узнагароджаны. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Знаходзіўся ў складзе групы, якая дэсантавалася ў Беларусі 17/18 лістапада 1944 г., аднак вярнуўся з-за сапсаванага парашута. У 1945 г. атрымаў рангу лейтэнанта. У траўні 1945 г. з Чэхіі перабіраецца ў Польшчу. Да лета 1946 г. жыў ва Ўроцлаве, але перад пагрозай арышту пераязджае на панямецкія землі на захадзе Польшчы. Арыштаваны ў 1949 годзе, асуджаны на 25 гадоў зняволення. Вызваліўся ў 1957 г., жыў у Грыгішках каля Вільні. Пісаў вершы, маляваў краявіды, добра спяваў. З канца 1980-х удзельнічаў у працы беларускіх грамадскіх арганізацый у Вільні. У ліпені 1997 г. быў ганаровым госцем віленскай сесіі Еўрапейскага сектара Рады БНР. Памёр у Бярозаўцы

на Гродзеншчыне, быў пахаваны ў Вільні, як беларускі афіцэр — дамавіну накрылі бел-чырвона-белым сцягам з выявай «Пагоні».

*Кр.: Мілаш Л. «Лёсам падараваная сустрэча» // Голас Радзімы, 1993, № 52, 30 снежня; Мальдзіс А. Лёс архіва Кастуся Езавітава // Беларускі дайджэст (ЗША), 1996, № 10 (34), кастрычнік; Жамойцін Я. З пражытага // Лёс аднаго пакалення (Успаміны). — Беласток, 1996. С. 91, 129, 133; Ён быў намесьнікам Вітушкі // Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 46-49; Ёрш С. Успамін пра Віленскую сустрэчу // Голас камбатанта (Слонім), 2000, № 1, студзень; Мілаш Л. «Яны — нявывучаная старонка гісторыі» // Наша слова, 2000, № 38, 27 верасня; С.Ё. In memoriam // Наша ніва, 2003, № 1, 10 студзеня; Ёрш С. Пра лёс архіву генэрала Езавітава // Беларус (Нью-Ёрк), 2003, № 480, студзень; Мілаш Л. Гартаючы старонкі жыцця // Наша слова, 2003, № 4, 29 студзеня; Рулінскі М.: «Мы павінны былі падрыхтаваць народ» [інтэрв'ю, публікацыя С. Ярша] // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1. С. 37-47;*

*Тв.: Рулінскі М. Я ратаваў архіў генерала Езавітава... [урывак з інтэрв'ю, публікацыя С. Ярша] // Пагоня (Гродна), 1998, 10 сакавіка, № 18.*

***РЫЖЫ*** (на эміграцыі — РЫЖЫ-РЫСКІ) ***Ўладыслаў***, сын Францука (26.04.1925 — 2.03.1978)



Баец «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Лытагаль Пастаўскага павету (цяпер — Глыбоцкі раён Віцебскай вобл.). Вучыўся ў польскай гімназіі ў Глыбокім, пры «першых саветах» з восені 1940-га вучыўся ў Глыбокім сельскагаспадарчым тэхнікуме. Падчас нямецкай акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Глыбокім, працаваў настаўнікам у беларускай школе в. Мярэцкі каля Глыбокага. Быў актывістам акруговай арганізацыі СБМ, БНС, «браў удзел у паседжаньнях мясцовай суполкі Беларускай незалежніцкай партыі». Лясныя бандыты ў чэрвені 1942 г. застрэлілі бацьку — Францука Рыжага. Паводле некаторых публікацый і сведчанняў, Уладыслаў помсціў — высочваў лясныя стаянкі савецкіх партызанаў і наводзіў на іх нямецкія аддзелы. З 1943 г. працаваў сакратаром аддзелу моладзі БЦР у Мінску, пазней у аддзеле прапаганды БКА. У БНП стаў асабістым кур'ерам

Ус. Родзькі. У 1944 г. быў паранены і вывезены ва Ўсх. Прусію. Уступіў у «Дальвіц», прайшоў «афіцэрскую падгатоўку, з прычыны параненьня быў ня дапушчаны на дэсант на Беларусь». Вясной 1945 г. адпраўлены Родзькам у Парыж да старшыні Рады БНР М. Абрамчыка з заданнем «скантактавацца з Захадам». Пасля вайны жыў у Бельгіі. Адзін з ініцыятараў стварэння і старшыня Саюза беларусаў у Бельгіі (з 1946 г.), адзін з заснавальнікаў і рэдактараў газеты «Беларуская праўда» (1946-47 гг.). Заснавальнік шматлікіх псеўдарэлігійных структураў «розных веравызнанняў» («Літоўская Яднота», «Беларуская Хрысьціянская Артадаксальна-Каталіцкая Субожня» (альбо «Беларуская Стара-Каталіцкая Артадаксальная Субожня»), «Сусветны Амерыканскі Патрыярхат» ды інш.), называў сябе «доктарам тэалогіі», «мітрапалітам», «патрыярхам», за што здабыў імідж авантурніка. У ЗША, дзе ён жыў з 1949 г., Рыжаму спатрэбіліся ягоныя навыкі, здабытыя ў «Дальвіцы». Паводле некаторых сведчанняў, трапіўшы ў Амэрыку, ён зарабляў грошы, нелегальна пераводзячы праз мяжу ў ЗША мексіканцаў. Аднак варта адзначыць, што з беларускіх эміграцыйных рэлігійных структураў толькі суполка, заснаваная Ўл. Рыжым перанесла сваю дзейнасць на Бацькаўшчыну. З 1990-х у Беларусі паўлегальна дзейнічаюць прыходы «Беларускай Аўтакефальнай (Народнай) Праваслаўнай Царквы», якой кіруе брат Ул. Рыжага «архіяпіскап» Юры (Эмігідыюш), грамадзянін ЗША. Быў паэтам. У беларускім эміграцыйным друку выступаў пад псеўданімам «У. Сноп», аўтар паэтычнага зборніка «Маці мая». За дзейнасць Ул. Рыжага ў красавіку 1945 г. была арыштаваная яго маці, сядзела ў Глыбоцкай турме, атрымала 10 гадоў зняволення. Пазней Ул. Рыжы арганізаваў яе і брата выезд з Польшчы ў ЗША. Памёр у Нью-Ёрку.

*Кр.: Квяткоўскі С. «Расейскай царквы тут не павінна быць». Гутарка карэспандэнта «НН» зь Пятром Гушчам // Наша ніва, 1997, № 31, 20 кастрычніка; Н. К. Паважаны спадар рэдактар! // Наша ніва, 1997, № 34, 1 снежня; Гарбінскі Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. — Мінск — Мюнхен: «Беларускі кнігазбор», 1999. С. 167; Архіяпіскап Юры (Рыжы). Мой крыж: успаміны і разважаньні. — Асінінг, 2003. С. 8-17; Зайка В. Жнівеньскі сход аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку // Беларус, 2008, № 548, верасень.*

***САВІЦКІ*** (СІВІЦКІ) ***Юрый***

Баец «Дальвіца». Паходзіў з Пастаўскага павету Глыбоцкай акругі.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня, 1944, 1 кастрычніка, 15 лістапада.*

***САЖЫЧ Язэп*** (5.09.1917 — 19.11.2007)



Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Гарадэчна Навагрудскага пав. (цяпер Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). Скончыў польскую дзяржаўную гімназію імя А. Міцкевіча ў Навагрудку (у 1938 г.). Быў мабілізаваны ў польскае войска. У верасні 1939 г. удзельнічаў у абарончых баях супраць нямецкіх агрэсараў. Трапіў у нямецкі палон, уцёк. У 1940-1941 гг. — студэнт Львоўскага ўніверсітэта. Летам 1941-га вярнуўся ў Беларусь. 19 жніўня 1942 г. скончыў першы афіцэрскі курс Беларускай Самааховы ў Мінску. Быў прызначаны камандзірам падафіцэрскай школы ў Навагрудку. Пазней — афіцэр аддзелаў па ахове чыгункі. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі, спецыяльны сувязны ЦК БНП ад верасня 1944 г. З восені 1944 г. — у Нямеччыне. У кастрычніку 1944 г. быў накіраваны з Берліна ў «Дальвіц», але адмовіўся ачоліць дэсантную групу, спаслаўшыся на адсутнасць спецыяльнай падрыхтоўкі. У 1946 г. паступіў у Марбурскі Філіпс універсітэт на медычны факультэт. Пасля атрымання дыплома лекара ў 1950 г. перабіраецца ў ЗША. Актыўна ўдзельнічае ў жыцці беларускай эміграцыі, уваходзіць у кіраўніцтва Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, Саюзу беларускіх ветэранаў. У 1953 г. кааптаваны ў склад Рады БНР. У 1968 г., з нагоды 50-х угодкаў абвешчання незалежнасці БНР, на юбілейнай сесіі Рады БНР «палкоўніку» Сажычу надаецца ранга «генэрала». У 1982 г. абраны прэзідэнтам Рады БНР. У 1994 г. пераабраны зноў на гэтую пасаду. У 1993 г. наведваў Беларусь, «сустракаўся зь дзяржаўнымі дзеячамі, узважваў прапанову перадаць ураду РБ паўнамоцтвы Старшыні Рады БНР, але прыняў разумную пастанову чакаць да поўнай незалежнасці Беларусі». У 1993 годзе быў прыняты ў сябры Беларускага згуртавання вайскоўцаў. У 1997 г. перадаў выкананне абавязкаў старшыні Рады БНР свайму намесніку Барысу Рагулю. Пахаваны на беларускім магільніку ў Іст-Брансўіку (штат Нью-Джэрзі) побач з жонкай Варварай. Сажыч — аўтар песні «Падняты родны сьцяг дзяржавы».

Кр.: Загад Галоўнага камандаваньня Беларускае Самааховы № 10 ад 19 жніўня 1942 г. // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10).

С. 72; Прэзыдэнты Рады Беларускае Народнае Рэспублікі // Спадчына, 1997, № 4, с. 13-14. Грыцук В. Мы стваралі сваю Беларусь: жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука. — Мінск: Медисонт, 2007. С. 46; Я[нка] З[апруднік]. Сьв. Пам. Язэп Сажыч // Беларус, 2007, № 539. Сьнежань.

*Тв.: Юзік С[ажыч]. Яшчэ, і больш пра Ўсевалада Родзьку і некаторых ягоных школьных сяброў // Беларускі дайджэст, 1998, № 8 (56), верасень; Сажыч Я. Мілітарызацыя Наваградчыны ў часе нямецкае акупацыі 1941-1944 // Юрэвіч Л. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. — Менск: Спэцвыпуск часопіса ARCHE, 1999. С. 233-250, ды інш.*

***САКОВІЧ Аляксандр***

Баец «Дальвіца». Праходзіў падрыхтоўку ў канцы 1944 г. — у пачатку 1945 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1945, 7 студзеня.*

***САЛЬНІКАЎ Макар***, сын Івана

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1925 г. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Дэсантаваны 21 снежня 1944 г. каля в. Стрыева Бярэзінскага раёна ў складзе групы Шпакава. Меў дакументы чырвонаармейца Макара Іванавіча Жукава. Арыштаваны 28 снежня 1944 г., знаходзіўся пад следствам у Маскве. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Стечкин В. Павел Судоплатов — терминатор Сталина. — Москва, 2005. С. 253-254.*

***САРОКА Алег***

Баец «Дальвіца». Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі ў Паставах. Удзельнік баявой групы Віктара Сікоры, створанай вясной 1944 г. з санкцыі абвера. Праходзіў навучанне ў «Дальвіцы». Вязень бальшавіцкіх канцлагераў. Пасля вяртання ў Беларусь скончыў жыццё самагубствам.

*Кр.: Паведамленне Віктара Сікоры аўтару ад лютага 2001 г.*

***СЕРБІН В.***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. Арыштаваны ў Беластоку летам 1945 года. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 34.*

***СМОЛІЧ Анатоль***

Баец «Дальвіца». Праходзіў навучанне восенню 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, 26 лістапада.*

***СТАНЮШ*** (СТАНЮСЬ) ***Кастусь***

Дэсантнік «Дальвіца». Паходзіў з Глыбоцкай акругі. Са жніўня 1944 г. праходзіў падрыхтоўку ў «Дальвіцы», быў звязным (старшым сяржантам). Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі, спецкур'ер. У пачатку 1945 г. разам з групай байцоў быў перададзены нямецкай франтавой разведцы. Ці быў закінуты з заданнем у заходнюю Польшчу, дакладна невядома. Паводле некаторых звестак, браў удзел у антыбальшавіцкай партызанскай барацьбе ў Беларусі. У канцы 1940-х жыў у заходняй Нямеччыне, быў ад'ютантам кіраўніка Замежнага сектара БНП Дз. Касмовіча. У 1949 г. выехаў у Канаду, жыў у Таронта. Кіраўнік Краёвага прадстаўніцтва БНП у Канадзе. Прыхільнік БЦР. Сябра Згуртаваньня беларусаў у Канадзе. У лютым 1950 увайшоў у склад «Часовай управы беларускай праваслаўнай парафіі» у Таронта. У 1952 г. браў удзел у нарадзе беларускага актыву, які збіраў С. Хмара. У другой палове 1950-х ад беларускага грамадска-палітычнага і рэлігійнага жыцця адыйшоў. Памёр у 1998 годзе.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня; Хмара С. Беларуская праваслаўная царква ў Канадзе // Беларускі голас, 1970, № 180, люты; Беларускі голас, 1972, № 204, жнівень; Паведамленне Надзеі Міцкевіч-Касмовіч ад 26 лютага 2004 г.; Ліст Ю. Брэчкі (Найдзюк) ад 14 жніўня 2004 г.; Паведамленне Аляксандра Адзінца ад 2005 г.; Касмовіч Дз. За вольную і сувэрэнную Беларусь. — Вільня: Gudas, 2006. С. 209; Ёрш С. Замежны сэктар Беларускай Незалежніцкай Партыі. 1945-1955 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1 (8). С. 36.*

***СТАХОЎСКІ Алег***

Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1922 годзе ў сям'і праваслаўнага святара. Вучыўся ў польскай гімназіі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў касірам у адной з вясковых управаў на Глыбоччыне, пазней — сакратаром санітарнага аддзела раённай управы ў Дзісне, загадчыкам сталоўкі БНС у Глыбокім. Скончыў падаф-



іцэрскую школу БКА ў Мінску. З жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Выпускнік камандзірскага курсу батальёна «Дальвіц», лейтэнант. Быў намеснікам камандзіра «Паўночнай групы» батальёна. У студзені 1945 г. у складзе групы Рудака перайшоў у падпарадкаванне нямецкай франтавой разведкі, быў закінуты ў заходнюю Польшчу. Паводле пазнейшай версіі самога Стахоўскага, ён яшчэ да вайны быў завербаваны НКВД, пасля дэсанту сам здаўся «Смершу» і неўзабаве атрымаў заданне вярнуцца назад праз лінію фронту. Па вяртанні атрымаў нямецкую ўзнагароду. У паваенны час, верагодна, выкарыстоўваўся для пошуку і апазнання былых навучэнцаў «Дальвіца». У 1946 г. МГБ БССР заслаў Стахоўскага ў канспірацыйную маладзёжную арганізацыю «Саюз Беларускіх Патрыётаў» (Глыбокае — Паставы). Паводле легенды, ён прадстаўляўся сябрам «патрыятычнай арганізацыі», засланым на службу ў МГБ (на сустрэчы прыходзіў у форме афіцэра МГБ, лейтэнанта ці старшага лейтэнанта), прапаноўваў дапамогу зброяй, заклікаў актывізаваць дзейнасць, праводзіць акцыі, арганізаваць агульны з’езд падполля. У 1947 годзе арганізацыя была разгромленая, яе сябры арыштаваныя і асуджаныя. Па адной версіі, у канцы 1960-х працаваў загадчыкам крамы на Гродзеншчыне, па іншай — стаў праваслаўным святаром. Памёр.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, 27 жніўня, 3 верасня; Лукашенко В. Лицом к лицу с врагом // Гродненская правда, 1967, 21 траўня, № 99; 27 мая, № 103; 2 июня, № 107; Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.). — Менск: Наша ніва, 1997. С. 160-162.*

***СЯМАШКА Аляксандр***, сын Мікалая

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1921 г. у в. Сямашкі Жалудкоўскага раёна Баранавіцкай вобл. Адукацыя 7 класаў. Шэраговы БКА. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Альфонс». Арыштаваны 18-21 лістапада 1944 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 178; Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность / / Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя*

*забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113.*

***СЯНЬКОЎСКІ Юрка***, сын Пятра (06.05.1926 — 13.02.1995)



Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў в. Залессе на Смаргоншчыне. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Віленскай беларускай настаўніцкай семінарыі. Сябра Саюзу беларускай моладзі. Магчыма, быў і сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі. Летам 1944 г. выехаў ва Ўсходнюю Прусію, патрапіў у «Дальвіц». З чэрвеня 1945 г. знаходзіўся на нелегальным становішчы ў Польшчы, здолеў пазбегнуць арышту ў Беластоку. У 1946 г. перабраўся ў ангійскую зону акупацыі Нямеччыны. Жыў у беларускім лагеры ДП у Ватэнштэце, скончыў беларускую гімназію. На III з'ездзе Згуртавання беларускіх скаўтаў на Чужыне 9-10 сакавіка 1949 г. у Шляйсгайме быў абраны Галоўным кіраўніком арганізацыі. Быў сябрам рэдкалегіі скаўцкага часопіса «Напагатове!». У 1956 г. скончыў эканамічны факультэт Лювенскага ўніверсітэта ў Бельгіі. Адзін з заснавальнікаў Саюзу беларусаў Бельгіі і Беларускага студэнцкага згуртавання, саліст беларускага студэнцкага хору пад кіраўніцтвам М. Равенскага. Жыў у Заходняй Нямеччыне. У 1955-1991 быў супрацоўнікам Беларускай секцыі радыёстанцыі «Вызваленьне» (пазней — Радыё Свабода) ў Мюнхэне (меў псеўданімы «Залескі» і «Дубовік»), пісаў у газету «Бацькаўшчына». З сярэдзіны 1980-х гг. — кіраўнік беларускай службы Радыё Свабода. Летам 1993 г. прыязджаў у Беларусь на 1-ы з'езд беларусаў свету. Фінансава падтрымліваў кафедру беларусістыкі Віленскага педагагічнага ўніверсітэта. Пахаваны на могільніку мюнхенскага прыгараду Фэльдмохінг.

*Кр.: [Кроніка] // Беларускае слова, 1949, 15 красавіка, № 5 (6); Вітушка С. Дзякуючы беларусам з Нямеччыны // Пагоня, 1993, № 15, 4-10 чэрвеня; Сябры. Сьв. пам. Юры Сянькоўскі // Беларус, 1995, № 421, люты; Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. — Лёндан (Канада) − Нью-Ёрк, 1996. С. 191; Валянец Я. Голас беларускай душы // Куфэрак Віленшчыны (Маладэчна), 2002, № 2 (7). С. 59-67; Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002. С. 34.*

***СЯРГЕЙЧЫК Іван***

Дэсантнік «Дальвіца». Падафіцэр БКА. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Слаўны». 27 лістапада 1944 г. разам з С. Мацюкевічам з'явіўся і здаўся ў Дзятлаўскі раённы аддзел НКВД. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, 3 верасня; NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 166; Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 114.*

***ТАЛАКО Ўладзімір***, сын Дзям'яна

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1906 г. у м. Мір Баранавіцкай вобл. (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобл.). Беларус, адукацыя 5 класаў. У 1943-1944 гг. працаваў у Навагрудскай лясной управе. З лета 1944-га — у «Дальвіцы», кухар разведшколы. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Кухар». Затрыманы 18-21 лістапада 1944 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 178; Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113.*

***ТРУБАЧ Уладзімір***

Баец «Дальвіца». Сябра Саюза Беларускай Моладзі і Беларускай Незалежніцкай Партыі ў Паставах. Удзельнік «баявой групы» В. Сікоры. Са жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Быў сябрам дэсантніка Яўгена Жыхара. У 1945 годзе яны ўдвох уладкаваліся на працу настаўнікамі Верацееўскай пачатковай школы ў былым Дунілавіцкім раёне (цяпер — Пастаўскі раён Віцебскай вобл.). У 1946 г. арыштаваны, Жыхар тады здолеў уцячы. Пасля адбыцця пакарання вярнуўся ў Беларусь, стварыў сям'ю. Памёр.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня; Паведамленне Віктара Сікоры аўтару ад лютага 2001 г.*

***УМПІРОВІЧ Павел***

Баец «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1924 (?) г. у ЗША, дзе быў на заробках яго бацька. З 1930-х жыў у в. Азерава Браслаўскага раёна. «Паўла прывезлі ў Беларусь ва ўзросце 6-8 гадоў. Ён доўга не гаварыў, бо не ведаў роднай мовы», — успамінае Віктар Сікора. Быў грамадовым СБМ у Паставах, навучаўся ў Альберціне. Уваходзіў у баявую групу В. Сікоры, створаную з санкцыі абвера вясной 1944 г. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. З лета 1944 г. праходзіў навучанне ў «Дальвіцы». Вязень бальшавіцкіх канцлагераў.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня; Паведамленне Віктара Сікоры аўтару ад лютага 2001 г.*

***ФАРБОТКА***

Дэсантнік «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі перабраўся ў Польшчу. У канцы 1940-х быў арыштаваны. Пасля вызвалення з савецкіх лагероў трагічна загінуў — утапіўся ў Нёмане каля Любчы.

*Кр.: Вяртаньне БНП..., С. 48-49.*

***ФЕДАРОВІЧ Эдуард***, сын Міхаіла

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1910 г. у м. Косава Слонімскага павету (цяпер Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобл.). Паводле дакументаў, паляк. Адукацыя 2 класы. У 1942-1944 гг. служыў у «беларускім нацыянальным батальёне», праўдападобна, у Косаўскай самаахове. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. Арыштаваны. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: НАРБ, ф. 4, в. 29, спр. 814, арк. 178; Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113.*

***ФІЛІПОВІЧ Авенір***, сын Канстанціна

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1926 г. у Вілейскай вобл. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Дэсантаваны 21 снеж-

ня 1944 г. каля в. Стрыева Бярэзінскага раёна ў складзе групы Шпакава. Меў дакументы чырвонаармейца Авеніра Канстанцінавіча Іванова. Арыштаваны 28 снежня 1944 г., знаходзіўся пад следствам у Маскве. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Стечкин В. Павел Судоплатов — терминатор Сталина. — Москва, 2005. С. 253-254.*

***ФІЛІПОВІЧ Іван***

Баец «Дальвіца». Праходзіў падрыхтоўку ў канцы 1944 г. — у пачатку 1945 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1945, 7 студзеня.*

***Франц***, прозвішча невядомае

Баец «Дальвіца». Праўдападобна, ураджэнец цяперашняй Віцебскай вобл. У «Дальвіцы» быў да траўня 1945 г., калі з Чэхіі здолеў перабрацца на Захад. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ліст Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.*

***ХАДЧОНАК Парфён***

Баец «Дальвіца». Паходзіў з Шаркоўшчынскага павету. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі. Восенню 1944 г. праходзіў падрыхтоўку ў «Дальвіцы». Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, 10 верасня.*

***ХАТКЕВІЧ*** (ХАДКЕВІЧ) ***Пятро***

Баец «Дальвіца». Паходзіў з Глыбоцкай акругі. Восенню 1944 г. праходзіў падрыхтоўку ў батальёне «Дальвіц». Быў арыштаваны, адбываў пакаранне ў нарыльскім лагеры. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня; Казак К.: «Тады мы верылі, што будзем самастойныя» // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1 (4). С.95.*



***ЧЭРАМШАГІНА Тамара***, дачка Сяргея

Радыстка «Дальвіца». Нарадзілася ў пачатку 1920-х у Любчы (цяпер — Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.) у сям'і мясцовай жыхаркі і эмігранта з Расіі. Скончыла школу ў Любчы. Падчас нямецкай акупацыі вучылася ў настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку. У ліпені 1944 года адступіла ў Польшчу разам з рагулёўцам А. Вайтовічам. З жніўня 1944 г.

— у «Дальвіцы», прайшла падрыхтоўку на курсах радыстак. Удзельніца дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Асмалак». Патрапіла ў групу Мікалая Вітушкі, якая ў снежні 1944 г. была затрыманая атрадам польскай АК. У студзені 1945 г. была залічаная ў склад атрада АК «Комара», атрымала мянушку «Ванда». Прыблізна ў лютым 1945 г. захварэла і была адпушчаная з атрада. Паводле адной з версій, мела заданне ад нямецкай разведкі праз нейкі час пасля дэсанту імітаваць хваробу і сыйсці з лесу, каб легалізавацца. Верагодна, ведала адпаведныя яўкі. Паводле ўспамінаў аднаго з удзельнікаў беларускага Супраціву, калі ў канцы 1940-х Тамару адшукалі, ад выкарыстання ў якасці радысткі адмовіліся — у яе была сям'я і малое дзіця. У 1956 годзе прозвішча Чэрамшагінай было ў спісах былых камандасаў «Дальвіца», якіх расшуквалі на тэрыторыі Польшчы і СССР. Паводле сведчання былога палітвязня П. Рашэтніка, пра Тамару Чэрамшагіну ў яго распытвалі ў 1960 годзе ва ўпраўленні КГБ па Гродзенскай вобласці. Апошняя вестка пра яе адносіцца да канца 1960-х, калі сяброўка Тамары перадала прывітанне Андрэю Вайтовічу.

*Кр.: Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня; Ёрш С. Дэсант у няпэўнасьць // Наша ніва, 1997, № 11-12 (82), 24 сакавіка; Паведамленне Андрэя Вайтовіча аўтару ад 2 красавіка 2001 г.; Ёрш С. Парашутысткі // Беларус (Нью-Ёрк), 2002, № 473, чэрвень; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 112-113; Рашэтнік П. Сустрэчы на жыцьцёвым шляху // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1 (3). С. 146; Грыбоўскі Ю. Службы бяспекі ПНР і «беларускія нацыяналісты ў Польшчы і іх палітычныя цэнтры на Захадзе» (1945-1974) // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2007, № 28. С. 171; Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 114-116.*



***ШАНТЫР Антон***, сын Фабіяна (1919 — 27.01.1976)

Афіцэр «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1919 г. у Гродне. Сын Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай) і чальца ўраду БССР Фабіяна Шантыра, расстралянага бальшавікамі ў 1920 годзе. З 1923

г. жыў у Вільні. Скончыў Віленскую беларускую гімназію (вучыўся там з 1928 г. у адным класе разам з Юрыем Луцкевічам). Верагодна, меў вышэйшую адукацыю, валодаў шматлікімі замежнымі мовамі. З 1942 г. працаваў настаўнікам геаграфіі ў няпоўнай сярэдняй школе ў Радашковічах, дзе дырэктарам быў Ю. Луцкевіч. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. З лета 1944 г. — афіцэр «Дальвіца», лейтэнант, быў вярбоўшчыкам і выкладчыкам, праводзіў культурна-асветную працу сярод навучэнцаў школы. Восенню 1944 г. на загад кіраўніка БНП Ус. Родзькі рыхтаваўся да нелегальнага пераходу разам з Дз. Касмовічам і Я. Сажычам ў Швейцарыю з мэтай устанаўлення сувязі з амерыканцамі і англічанамі, з беларускімі эмігрантамі. Аднак акцыя правалілася яшчэ на самым пачатку. Афіцэр 1-га Кадравага батальёну БКА ў Берліне ў пачатку студзеня 1945 г. Паводле стану здароўя быў прызнаны нягодным да вайсковай службы. Паводле ўспамінаў палітвязня П. Рашэтніка, пасля арышту некалькі гадоў маскіраваўся пад нямецкага вайскоўца. Быў выкрыты ў 1948-49 гг. у лагеры ваеннапалонных у Баку, дзе яго, напярэдадні выезду ў Нямеччыну, апазнаў нямецкі афіцэр абверу. Быў асуджаны на 25 гадоў зняволення. Пасля вяртання з савецкіх лагераў, ад 1957 г. жыў у Вільні. Спачатку працаваў на лесапілцы, пасля захварэў, даглядаў маці. Памёр у Вільні ад інфаркту, пахаваны на могілках на Панарах.

Кр.: Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня; Паведамленьне аўтару Пятра Рашэтніка з Баранавіч ад 20 красавіка 1997 г.; Юзік С. [Сажыч Я.]. Яшчэ, і больш пра ЎСЕВАЛАДА РОДЗЬКУ і некаторых ягоных школьных сяброў // Беларускі дайджэст (ЗША), 1998, № 8 (56), верасень. Перадрук — Наша ніва, 1999, № 1, 11 студзеня; Войцік Г. Там, дзе мяне няма... // Рунь (Вільня), 2000, № 36, 13 снежня, 2001, № 41, 13 жніўня, 2002, 25 сакавіка, № 46, 2003, № 50, 4 красавіка; Ліс А. Колькі згадак пра віленчукоў // Кантакты і дыялогі, 2001, № 12(71). С. 47; Содаль Ул. Фабіян! Фабіян!.. // Наша ніва, 2005, № 18, 13 траўня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. Менск, 2005. С. 108.

***ШАРАБАЙКА Хведар***

Баец «Дальвіца». Паходзіў з Шаркоўшчынскага павету Глыбоцкай акругі. У «Дальвіцы» быў са жніўня 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, № 38 (200), 17 верасня.*

***ШАЎЦОЎ Анатоль***, сын Рыгора

Баец «Дальвіца». Летам 1944 г. выехаў са Слуцкай акругі. У «Дальвіцы» быў са жніўня-верасня 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, 1 кастрычніка.*

***ШЛЯХТУН Павел***, сын Паўла

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1925 г. у в. Лагоды Шчучынскага раёна Гродзенскай вобл. Настаўнік. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г. Арыштаваны 24 лістапада 1944 г. у в. Агароднікі Лідскага раёна. Пакаранне адбываў у Інце (поўнач Расіі), быў у зняволенні яшчэ ў верасні 1954 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 165; Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 211.*

***ШПАКАЎ Мікіта***, сын Рыгора

Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1907 г. у Калінінскай вобл. Расіі. Рускі, пры паступленні ў Дальвіц запісаўся беларусам. Сябра БНП. Да вайны працаваў брыгадзірам участка на чыгунцы. Дэсантаваны 21 снежня 1944 г. каля в. Стрыева Бярэзінскага раёна як камандзір групы. Меў дакументы сяржанта Чырвонай Арміі Мікіты Рыгоравіча Салаўёва. Арыштаваны 28 снежня 1944 г., знаходзіўся пад следствам у Маскве. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Стечкин В. Павел Судоплатов — терминатор Сталина. — Москва, 2005. С. 253-254; Сенюков Г. Гейне против Абвера // Семь дней, 2006, № 17.*

***ШУМСКІ Мікалай***

Баец «Дальвіца». Праходзіў навучанне ўвосень 1944 г. Іншых звестак не выяўлена.

*Кр.: Абвестка ў рубрыцы «Шукаюць» // Раніца, 1944, 15 кастрычніка.*

***ШУНЬКО Міхаіл***



Дэсантнік «Дальвіца». Нарадзіўся ў 1923 г.(?) у в. Далятычы (паводле іншых звестак — в. Дальчыцкі Загор) каля Любчы (Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). Вучыўся ў школе ў Любчы. Навучаўся на матуральным курсе Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. З канца 1943 г. — у эскадроне Б. Рагулі, падафіцэр. Паводле сведчання Ўл. Сіўка, савецкія партызаны забілі яго бацьку, які быў солтысам. З жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы». Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Качан». Апынуўся ў групе Мікалая Вітушкі, якая перайшла ў Рудніцкую пушчу. З 3 снежня 1944 г. знаходзіўся ў складзе атрада АК «Комара». З другой паловы лютага 1945 г. — у атрадзе АК «Мысьлівага». Арыштаваны МГБ да 1949 г. Далейшы лёс невядомы.

*Кр.: Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 112-113; Вайтовіч А. Застаюся сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі! // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5). С. 123; Вецер паразносіў нас па ўсіх краінах і кантынентах... Успаміны Ўладзімера Сіўка, запісаныя ў Любчы Сяргеем Яршом у чэрвені 1996 году / / Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9). С. 14.*

***ШЫШЭЯ Канстанцін***, сын Івана (1922 — 11.12.2004)



Дэсантнік «Дальвіца». Ураджэнец в. Красcкоўскія Горы былога Любчанскага раёна Баранавіцкай вобл. (цяпер — Навагрудскі раён Гродзенскай вобл.). Вучыўся ў Шчорсах, працаваў рабочым у Навагрудку, навучаўся ў рамеснай вучэльні. У верасні 1939 года савецкія актывісты арыштавалі Канстанціна, яго брата і бацьку. Бацьку расстралялі, брата адправілі ў Сібір, а самому Канстанціну ўдалося выйсці на волю. На пачатку нямецкай акупацыі скончыў трохмесячныя бухгалтарскія

курсы ў Любчы, працаваў бухгалтарам у Нягневічах. Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі з 1942-1943 гг., партыйны псеўданім «Верас». У канцы 1943 г. уступіў у эскадрон/батальён Б. Рагулі. З жніўня 1944 г. — у «Дальвіцы», старшына курса. Удзельнік дэсанту 17/18 лістапада 1944 г., мянушка «Хмара». Арыштаваны 9 снежні 1944 года. Быў асуджаны на 10 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў на Інце, сябраваў з паэткай Ларысай Геніюш. З пачатку 1960-х жыў у Вільні, працаваў у тралейбусным дэпо, узяў шлюб з Леакадзіяй Кавальчук, былой сяброўкай канспірацыйнай арганізацыі «Чайка» ў Слоніме. У ліпені 1997 г. быў ганаровым госцем сесіі Еўрапейскага сектара Рады БНР у Вільні. Пахаваны на віленскіх Спаса-Ефрасіннеўскіх могілках. Паводле С. Дубаўца, засталася не выдадзенай кніга яго ўспамінаў.

*Кр.: NKWD o polskim podziemiu. 1944 − 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz'nie i Grodzien'szczyz'nie. — Warszawa, 1997. S. 166; Семашко Е. Коршуны из Дальвитца // 7 дней (Минск), 1994, № 28, 9 ліпеня (Я. Сямашка ў гэтай публікацыі чамусьці падае яго прозвішча як «Шмеля» — СЁ); «Мы — беларускія салдаты...» // Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998. С. 63-69; Арол і Чайка // Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001. С. 81-285; Кулікоўскі В. Ад'ютант Барыса Рагулі // Наша свабода (Мінск), 2002, 21 чэрвеня; Валаханович И. Специальный батальон «Дальвитц»: история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005. С. 113.*

*Дубавец С. У Вільні пахавалі камандзіра беларускай Краёвай абароны Кастуся Шышэю // Радыё Свабода, 2004, 13 снежня; http://www.svaboda.org/content/article/789886.html*

*Дубавец С. Аверс і рэверс − Іван Шамякін і Кастусь Шышэя // Радыё Свабода, 2004, 23 снежня; http://www.svaboda.org/content/transcript/790360.html*

*Тв.: Шышэя К. [Маршы беларускіх вайскоўцаў] // Рунь (Вільня), 1997, № 7, кастрычнік; Шышэя К. Простая праўда // Наша ніва, 1998, 23 лістапада, № 22; Шышэя К. Галасы стагодзьдзя // Радыё Свабода, http://archive.svaboda.org/halasy/syseja.html*

***ЯКАВЕНКА А.***

Баец «Дальвіца». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі разам з Ус. Родзькам перабраўся ў Польшчу. Арыштаваны ў Беластоку

